# Вольга Іпатава

# Дваццаць хвілін з Немезідай



Вольга Іпатава

# Дваццаць хвілін з Немезідай

АПОВЕСЦЬ І АПАВЯДАННІ



МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1981

Неба было нізкае і рабрыстае, як быццам нечая гіганцкая далонь наляпіла на ім шэрыя кавалкі пластыліну — то густыя, то вадкія, з падцёкамі. Дробная імжа ліпла да акон, і ў класе адно раўнамерна, як калаўрот, гудзеў голас Анфісы Паўлаўны, выкладчыцы геаграфіі. Віня Рыжык задумліва глядзела праз акно на голую вяршаліну магутнага дуба; вострыя яе локці звешваліся з парты, доўгая постаць стомлена выгнулася за парэзаную літарамі спінку парты.

— Піка, перадай! — пачула яна.

Няўцямна азірнуўшыся, Віня пяўважліва заціснула пісульку худымі пальцамі, выгнулася назад, да суседняй парты.

— Рыжык!

Віня здрыганулася, імгненна ачуняўшы: геаграфічка ішла да яе, і сівыя пушыстыя яе валасы, здавалася, віліся вакол чырвонага твару, нібыта змеі над галавой Гаргоны.

— Што вы там трымаеце? Зараз жа давайце сюды!

Вочы злоўленай разгублена пашырыліся: збоку прашалясцеў зласлівы шэпт:

— Хавай, дурніца!

Віня ад разгубленасці ўкінула паперку ў рот.

У класе ўсталявалася цішыня. Толькі было чутно, як чмякае размоклай паперай Віня.

— Хто перадаў? Няма віноўнага? Я ўсё роўна даведаюся! — упэўнена паварочвае назад геаграфіч-

ка.— А вы, Рыжык, выйдзіце з класа. Вам трэба адпачыць пасля подзвігу.

Праз хіханькі, што шалясцяць з задняй парты, прарываецца рогат самага высокага хлопца ў класе — Валеркі Антоніка.

— Партызанка, ха-ха! — смяецца Валерка, і Вініна сэрца торгаецца: злашчасную пісульку перадаў ёй Герман Кавальскі, сусед і валадар Валеркі — менавіта валадар, так кажуць усе інтэрнатаўскія, і, значыць, на ім таксама ляжыць тая віна, якую чамусьці ўсклалі на яе адну... Але яна маўчыць, ідзе да выхада, сутулячыся і сціскаючыся, саромеючыся свайго росту, а ліпкая, жорсткая, агідная маса ў роце выклікае спазмы ў страўніку, так што яна прыспешвае і прыспешвае крокі. Апынуўшыся за дзвярыма, яна кідаецца да бляшанкі, што стаіць у куце калідора — а пасля, адплёўваючыся і выціраючы далоні замусоленай хусцінкай, панура пляцецца да выхада. Але раптоўна рэзка вяртаецца назад і садзіцца на падаконец.

Адсюль, з другога паверха, відаць цёмная паласа дарогі і светла-жоўтыя плямы выпаўшага ўначы снегу, якія плавяцца на дахах нізкарослых дамкоў, паволі сцякаючы ўніз вострымі струменьчыкамі вады. Адліга. У такія дні не хочацца хадзіць па вуліцах: яны па-старажытнаму вузкія, і кожная машына нясе з сабой пагрозу — брудныя халодныя пырскі, якія так цяжка чысціць на паліто. Можна было б цяпер ціха і адзінока ісці ў інтэрнат, геаграфія сёння апошні ўрок, але трывога точыцца ў душы: чым скончыцца гісторыя з пісулькай? Анфіса Паўлаўна не з тых, хто адступае. Віня ж не з тых, хто ўступае сіле: яна добра ведае, што сама нізашто не адкрые імя таго, хто перадаў запіску. Болей за ўсё Віню турбуе Валеркаў смех, і ёй хочацца тут жа, адразу, не чакаючы, пакуль група прыйдзе дадому, пра нешта спы-

тацца ў Германа, нешта высветліць для сябе — і яна цярпліва чакае, плечуком уткнуўшыся ў бруднае непрыветнае шкло.

Чуваць, як па латаку трубы, штурхаючыся і агрызаючыся адно на адно, нясуцца кавалкі лёду, пасля з грукатам уразаюцца ў брук. Хвіліны паўзуць, лянівыя і шэрыя, але Віня, аднаўляючы ў памяці хвілі свайго не надта трыумфальнага адыходу, зноў і зноў бачыць перад сабой спакойны, нейкі нават задуменны твар Германа Кавальскага — і ні ўсмешкі ад яго, ні падтрымкі. А ёй давялося жаваць брудную паперу. Добрая і Стася Забалоцкая: пісулька прызначалася ёй, а не Віні, але і яна таксама не ўзняла голасу, сядзела, як жабка ў балоце, ані разу не квакнула!

Аглушальнае трымценне званка б'е па нервах, ад чаго дзяўчынка ўздрыгвае, саскоквае з падаконніка і, напружыўшыся, чакае. Вось, натапырліва гледзячы сабе пад ногі, бяжыць Анфіса Паўлаўна. Апёкшы Віню паглядам, спяшаецца далей, і худыя ногі яе ў цёмных панчохах мільгаюць у вачах, як стрыжы. Паважна праходзіць Стася, слухаючы Кацю Лагун і не звяртаючы ніякай увагі на Віню, і вось нарэшце яны, сябрукі. Валерка нешта даводзіць высокаму, цыбатаму Герману, а той слухае, і пагадліва цьмяна бліскаюць ягоныя вочы з-пад вялікіх, «салідных» акуляраў. Віня перагароджвае ім дарогу.

— Герман! Ты...— яна не ведае, як перадаць тое, што мучыць яе, і ліхаманкава шукае словы: — Ты ведаеш, што ў мяне... апошняе папярэджанне? Мне Антоля гаварыла, што за тройкі... за няўважлівасць... не возьмуць у Ленінград!

— Ну, што рабіць, што рабіць? — паблажліва разводзіць рукамі Герман.— Ты і так не была асаблівай кандыдаткай. Ну, цяпер не пабудзеш — з'ездзіш туды пасля! Яшчэ лепей — будзеш свабодная...

ніхто цябе не кране ніякім папрокам, у страі хадзіць не давядзецца...

У голасе яго — тонкая іронія: Віня Рыжык — адна з самых «слабенькіх», яна ледзь цягне на тройкі. Адзінае, чым вызначаецца Рыжык — неспатольнай прагай да малявання. Яна малюе ўсюды і на ўсім, на чым давядзецца. Герман нават косіць вокам на падаконец — але там няма ніякай крэмзаніны, таму ён сумнавата глядзіць на Віню і спагадліва схіляе галаву, чакаючы, што яна адкажа. А яна спачатку і не можа адказаць: крыўда сціскае горла.

— Ну як жа там? — Віня намагаецца набраць «вышыню», голас яе праразаецца: — Дык вы... нічога не скажаце Анфісе?

— Мы? — дзівіцца Герман.— А навошта? Калі б я ўстаў і прызнаўся, пагарэла б Стася. Ты ведаеш, як Анфіса яе не любіць. Тады б Стасю ў Ленінград не ўзялі. А табе ўсё Анфіса даруе. Паглядзіш, яна нікому нічога не скажа.

— Чаму гэта... пра мяне яна нікому не скажа?

— Ой, не магу! — зарагатаў Герман.— Валерка, ну я не магу з ёю гаварыць. Ты не ведаеш?

— Не ведаю,— цвёрда кажа Віня.

— Скажы ёй, Валерка... Я рыцар, у мяне ёсць дама...

— Таму,— яхідна ўсміхаючыся вачыма, але захоўваючы поўную сур'ёзнасць, гаворыць Валерка,— што ты — не Брыжыт Бардо, таму цябе і любіць геаграфічка. Яна ж, гледзячы на цябе, душой адпачывае, Піка, што не адна яна такая на свеце. Ну што, усё яшчэ не разумееш?

Віня разумее. Але абраза такая нечаканая і несправядлівая, што яна ўнутрана перасмыкаецца, ледзянее і толькі маўкліва глядзіць на пульхныя чырвоныя вусны высокага, мажнага хлопца, які гаворыць свае пякучыя словы так раўнадушна і спакойна,

быццам тлумачыць аднакласніцы незразумелы ўрок. Хлопцы паварочваюцца, каб ісці.

— Не, ты пачакай! — Віня ўпіваецца ў крысо Германавага пінжака.— Ты ведаеш... ведаеш...

Ёй хочацца сказаць — усе ведаюць, як хочацца ёй у Ленінград, у Эрмітаж, пра які яна столькі чытала і які, здаецца, ведае на памяць. Чаму ён не хоча таго зразумець, чаму гаворыць пра самае дарагое для яе з такім ледзяным спакоем?! Але слёзы падступаюць да вачэй, яна міргае, адварочваецца. Герман спакойна вызваляе сваё крысо.

— Ну і кіпцюры! Як у Гарпіі! — жартаўліва заўважае ён, і вось ужо, перасмейваючыся, хлопцы ідуць сабе па калідоры, як быццам не было аніякай размовы, быццам яна ўжо і растлумачыла ім усё, што хацела! Але ізноў кідацца, ізноў нешта даказваць яна не можа — усе словы будуць выслуханы, а можа, нават і не выслуханы, і нічога яны не зменяць. Словы — яны так мала значаць, у іх усё роўна не ўкласці таго, што кіпіць на душы, і плач, які прыходзіць да яе,— ён таксама не можа выказаць паўнаты адчаю, але ён, як і словы, усё-ткі дае міжвольную палёгку, і таму, не выціраючы вачэй, Віня ціха плача — так ціха і бязгучна, што Яня, якая падышла да яе, нейкі час не заўважае слёз і весела выпальвае:

— Ну ты, Вінька, і праўда як партызанка! Трэба ж — паперу зжавала! — Тут яна заўважае Вініны слёзы, спахопваецца: — Ой, дурніца! Ну, дальбог! Анфіса цябе любіць — яна не скажа, паглядзіш! Дый мне здаецца — яна ведае, чыя была пісулька, таму што так на Германа зірнула...

— Кажаш, любіць мяне Анфіса? — горка пытаецца Віня, мутна гледзячы на ружовы, роўнага пяшчотнага колеру твар Яні Сапегі — лепшай сваёй сяброўкі.— А за што?

Яня бесклапотна торгае плячуком, лёгка адкід-

ваючы назад рыжаватую, колеру пацямнелых асенніх лістоў, пасму.

— Ну, так, проста! Мяне яна не любіць, усё прыдзіраецца. А чаго?

— І Стасю таксама не шкадуе на ўроках?

— І Стасю! — паказвае ў нявіннай усмешцы белыя моцныя зубкі Яніна, відаць, не надта цямячы, для чаго задае сяброўка такія пытанні. Тварык яе — наіўны, прыгожанькі.— Пайшлі дадому, Вінька! Так есці хочацца! «І табе, як заўсёды, павstaрыха Аляксандра нальe крыху болей, чым астатнім, і можа, як заўсёды, уздыхне: «Дае ж бог такую прыгажосць!» — думае пра сябе Віня.— А мне ніхто нічога не нальe, мяне калі шкадуюць, то за тое, што і я таксама — не Брыжыт Бардо».

— Яня! — яна глядзіць у жалудовыя круглыя вачаняты сяброўкі.— Скажы праўду! Я — страшная?

Яня разгублена глядзіць на бледны даўгаваты твар Віні, на рэдкія палосы валасоў, што вісяць над няроўнымі брывамі, над цёмнымі ліхаманкавымі вачамі, імгненне ўзіраецца ў велікаваты, напружана сціснуты рот і няўпэўнена пачынае:

— Ты, Вінька, хаця і не Брыжыт Бардо...

— І ты! — слёзы на Вініным твары яшчэ не высахлі, але злоснае, помслівае пачуццё запальвае яе позірк.— Кацiся, Янька...

— Ты... што? — Яня спалохана глядзіць на сяброўку, але пільным, абвостраным позіркам заўважае Віня, што ружовы, як кветка, тварык не змяніў сваёй звыклай афарбоўкі.— Чаго ты? Што я сказала?

— У тым і справа, што ты нічога не сказала!

— А што ты хацела?

— Нічога!

— Дык чаго ты злуешся?

— Я проста хачу ісці дадому адна. Магу я рабіць што хачу?

Яніна апускае растрапаную галоўку, па-дзіцячы заглядае ў Віціны вочы, але тая адварочваецца, горбіцца, каб не сустракацца вачыма. Аскабалкі лёду са звонам выскокваюць з трубы, Яня ўздрыгвае, пасля закідвае партфелік на плячо і, павагаўшыся, адыходзіць — павольна, пасля хутчэй, пасля, пераскочыўшы парог, бегам... Віня панура глядзіць у акно, панура заходзіць у клас і бярэ свае падручнікі. Выпраставшыся, углядаецца ў цёмныя шыбіны дзвярэй.

Колькі б цяпер ні ўглядацца, будзе той жа твар, аказваецца, такі брыдкі твар, што нават Анфіса можа радавацца жыццю, гледзячы на яго. Але чаму брыдкі? Чаму яна ніколі не заўважала, што яна непрыгожая, не думала пра гэта, не цікавілася, чаму пісулькі трапляюць на другіх дзяўчат, а яна толькі перадае іх?

Запознены сорам пячэ Віню, яна апускае вочы, але пасля ўскідвае іх і з нейкай ненасытнай прагнасцю разглядае: нос, здаецца, сапраўды нейкі вялікі... вочы затое не надта; ад таго, што даўгая, празвалі «Пікай». Чаму раней не крыўдавала на мянушку, адгукалася, як ні ў чым не бывала?

У клас заглядае прыбіральшчыца, і Віня таропка ўздымаецца, спяшаецца да выхада. Ногі звыкла нясуць яе па натаптанай па размяклым снезе дарожцы, але каля самай рачулкі, праз якую перакінуты часовы драўляны масток, дзяўчынка спыняецца, паварочвае назад.

Чаго несціся ў інтэрнат? Хто там яе чакае? Антоля Іванаўна, выхавацельніца? Віня ўявіла кругленькі немалады твар выхавацелькі, рабочы пакой з яго дзесяццю сталамі, дзе пасля абеду трэба рыхтаваць урокі. Герман і Валерка сядзяць за суседнім сталом — значыць, давядзецца ўвесь вечар іх бачыць, можа, нават сустракацца паглядамі. Значыць, Герман увесь час ведаў, што яна непрыгожая, што яна брыд-

кая, што з ёю можна асабліва не цырымоніцца — не тое што са Стасяй! Стася высокая, сінявокая, у яе над верхняй губой бялее шрамік, але гэта ёй не шкодзіць, яна, значыць, усё роўна прыгожая, ёй можна праходзіць міма з такім выглядам, быццам да запіскі, якую падсунулі Віні, яна не мае ніякага дачынення!

Але назад таксама няма дарогі. Куды ісці, апроч інтэрната? Віня стаіць перад мастком і пераводзіць позірк то на яго, то на агромністыя бетонныя палі, якія бязладна тоўпяцца побач. Палі прывезлі для новага моста, які маюцца вось-вось будаваць праз рачулку; яны досыць блізка ляжаць адна ля адной. Можна і перайсці.

Бетонная паверхня вільготная, коўзкая. Ранец націрае плячо, гузік, што трымае куртку пад горлам, трашчыць ад кожнага скачка, але Віня не зважае на гэта.

— Глядзіце, заб'ецца! — спалохана чуецца збоку.

— Гэта інтэрнатаўская! — крычыць малады таўставаты мужчына.

— Бабы ўсё падкідваюць! — падтрымлівае яго малады хлопец у чорнай скуранцы.

— Во такія, як ты, і кідаюць! Авой, падае! — вішчыць адна на ўсю вуліцу.

Але Віня не падае. Яна лоўка скача ўніз і, аддыхаўшыся, праслізвае ў пралом агароджы, адкуль бліжэй за ўсё да інтэрнатаўскай сталоўкі.

— Вой, як не будзе ў цябе мамкі, то й ты во такім беспрытульнікам будзеш! — палохае адна з кабет пяцігадовага хлапчука, які з зайздрасцю глядзіць услед Віні і з уздыхам пераводзіць позірк на недаступныя пакуль што палі. Жанчыны расчаравана адпраўляюцца назад, па сваіх справах, паднімаючы каўняры ад ліпкай халоднай вільгаці, што пачынае дробна сыпацца зверху.

Віня нерашуча стаіць перад сталоўкай, звыклыя

пахі варанай капусты і хлеба здаюцца цяпер зманлівымі, голад штурхае яе наперад і, як звычайна, перамагае — яна заходзіць у сталоўку, пазбягаючы вачэй аднакласнікаў. Потым кіруе да аконца, у якім бялее галава паварыхі, і працягвае ёй талерку, пакідаючы на пасля трывогі і пытанні, якія разам асадзілі душу. Але незаўважанай ёй не даводзіцца пабыць і пяці хвілін: у сталоўку заходзіць Антоля Іванаўна і перакрыквае скрыгатанне лыжак і пошум галасоў:

— Рыжык!

Віня давіцца капустай і спадылба глядзіць на Антолю Іванаўну, на тлусты, шчакасты твар з бляклымі блакітнымі вачамі і бязвольным ротам. Тоўстая, нізенькая выхавацельніца старэйшай групы — зусім не дэман злагады, хутчэй наадварот: яна часта бывае і слязліва-сентыментальнай, і ласкавай — але два бажкі ёсць у Антолі Іванаўны — парадак і дысцыпліна, і групу сваю яна прымушае служыць сваім бажкам з усёй страснасцю фанатыка.

— Дзе ты затрымалася? Што здарылася на апошнім уроку?

Віня глытае бульбіну амаль непражаванай. Смак варыва робіцца чамусьці падобным да папяровага месіва, якое ёй давялося жаваць на ўроку.

— А хто Вам сказаў пра апошні ўрок?

Антоля Іванаўна густа чырванее. Так бывае заўсёды, калі яна сутыкаецца з непаслушэнствам. Цяпер яна не адступіць: будзе дамагацца перавагі. Без перамогі няма аўтарытэту, ведае выхавацельніца. Аўтарытэт яна таксама зарабляе на працягу дваццаці гадоў.

— Ты мне пытаннем на пытанне не адказвай! Цябе гэта не тычыцца. Я пытаюся: што здарылася на апошнім уроку?

Бліжэйшыя сталы прыцішана слухаюць гаворку,

здзіўленыя незразумелым Вініным пярэчаннем, незразумелым і шкодным для яе. Адкуль ім ведаць, што пытанне тое: «Хто перадаў?», да якога б яна сама не даўмелася, можа, нават учора, сёння здаецца ёй найважнейшым.

— А вы скажыце — хто вам данёс? Я ж таксама чалавек, як і вы. Магу я пытацца?

Антоля Іванаўна азіраецца, аблізвае ярка нафарбаваную ніжнюю губу. Віня паспявае заўважыць на языку сляды фарбы і перасмыкаецца. Яна ведае: далейшае будзе праходзіць, як па нотах — натацыя ў пустым рабочым пакоі, пасля выклік да дырэктара, калі ж не дапаможа і тое — застаецца галоўнае: адмовяць у паездцы. У Ленінград паедуць нямногія — і Віні не будзе сярод іх. Адчай апаноўвае дзяўчынку, але вусны яе ўпарта замкнёныя.

Дзесяці хвілін не прайшло, а нехта расказваў пра тое, што здарылася на ўроку. Хто? Антоля Іванаўна не з тых, каму адчыняюць душу. Значыць, тым, хто расказваў, кіравала нешта іншае. А што? Нязвыклая абвостранасць зроку і слыху прыйшла да Віні літаральна за некалькі гадзін — і яна сама адчувае гэта і не хоча быць ранейшай: бесклапотнай і няўважлівай, якая аднолькава адносілася да ўсяго добрага і благога, што здаралася за нядоўгія гады жыцця.

Ці аднолькава? Ужо слухаючы натацыю дырэктаркі, яна думае пра сваё. Урэшце, падзей у яе жыцці было няшмат. Усё, што помніцца — гэта Дом дзіцяці, куды яе падкінулі нованароджанай, а пасля — інтэрнат. Падкінулі... Смешнае слова. Амаль ва ўсіх хлопцаў і дзяўчат нехта ёсць. У Стасі — нейкія цёткі, што бяруць яе на канікулы. У Веры — старэйшы брат. У Валеркі мачыха, затое бацька родны. У Каці — маці і цэлая плойма сястрычак. У Віні ж — нікога. Яны з Толікам — падкідышы. Таксама слоўца — нібыта грыбы ці дэталі машыны — укладышы,

напрыклад... Ды і за гэтымі невядомымі «ўкладышамі» вунь як бегаў заўхоз Міцяй: некуды званіў, пісаў... А іх з Толікам проста кінулі: яго ў парку, яе — ля дзвярэй Дома дзіцяці — і пайшлі сабе, не гаруючы. А калі б мароз быў крапчэйшы і Толіка не знайшлі ў кустах? А калі б яна ноч тую, пакуль ляжала на холадзе, не перажыла? Ды з ёй хаця абышліся лепей, чым з Толікам: і падкінулі куды трэба, і на паперцы напісалі імя і прозвішча: Віня Рыжык. Што гэта за імя, што за прозвішча?! Чыя фантазія працавала? Ах, каб даведацца, каб хаця адным вокам зірнуць на тую, якая выводзіла каравымі, дрыжачымі літарамі такое дзікае спалучэнне: «Віня Рыжык...»

— Вы мяне не слухаеце, Рыжык?

Савацея Віктараўна, дырэктарка, глядзіць на яе ўважлівымі і, нягледзячы на вонкавую строгасць, добрымі вачыма. Чорныя акуляры робяць яе худы твар яшчэ болей сумным, скура на скронках нацягнулася ад таго, што цяжкая каса на патыліцы хіліць галаву назад. Савацея Віктараўна была, канешне, некалі прыгожай. Цікава, ці ёсць у яе дзеці?

— Скажыце, у Вас ёсць дзеці?

— Што? — Савацея Віктараўна нібыта спатыкнулася, здзівілася: — Ну, канешне, ёсць. А якое дачыненне да размовы...

— І хто ж у вас ёсць — сын, дачка?

Антоля Іванаўна, якая сядзіць побач з дырэктарскім сталом, упіраючыся тоўстымі каленямі ў чорную гнуткую ножку стала, заклапочана ссоўвае броўкі, перабівае:

— Гэта не вы тут павінна пытацца, гэта мы пытаемся!

Дырэктарка робіць перасцярожлівы жэст і, як ні дзіўна, зноў адказвае Віні:

— Ёсць дачка, яна ўжо дарослая. І што ж?

«Вашу дачку, нябось, не дапытвалі вось так,

удзвюх з такой Антоляй... Вашу дачку не кідалі на парозе ноччу... І, канешне, яна прыгожая — у такой маці. Для яе вы не былі пудзілам, Савацея Віктараўна, вас яна магла абняць, з вамі магла капрызніць...»

Віня міжволі пераводзіць позірк на белы карункавы каўнерык, што аздабляе прыгожую тонкую шыю дырэктаркі. Які ён строгі, той каўнерык на чорнай глухой сукенцы! Немагчыма ўявіць, што да яго можна дакрануцца, абдымаючы!

— Што ж вы маўчыце, Рыжык?

Дзяўчынка не адказвае. Забыўшыся на пытанне, яна цьмяна глядзіць на жанчын, вочы яе туманяцца, як у чалавека, толькі што ачуняўшага.

— Ну, вы бачыце, што робіцца?! — Антоля Іванаўна нервова папраўляе рэдкую, сапсаваную заўсёднымі хімічнымі працэдурамі прычоску, вочы яе чырванеюць.— Нядаўна Толік дзве гадзіны сядзеў на даху, цяпер яна ў дурніцу гуляе! Я вас прашу: у Ленінград не пушчаць яе ніякім чынам!

— Пачакайце, мы зараз абмяркуем...

Дырэктарка адпускае Віню і застаецца з Антоляй Іванаўнай.

— Як Вы думаеце, што з Рыжык?

— Я думаю, што гэта — выбрыкі, не болей. Пачынаецца пераходны ўзрост. Яна не паслухалася Анфісу Паўлаўну, са мной трымаецца дзёрзка! Калі мы тут жа яе не абсячом — усё, пішы прапала!

— Але ж яна — здольная дзяўчынка. Малюнкі яе — не ардынарныя. Як вы мяркуеце? Ці не азлобім мы яе яшчэ больш тым, што не пусцім у Эрмітаж?

— Яе? Такую цюхцю? Я ручаюся: яна стане шаўковай! Троечніца, а яшчэ нос задзірае. Малюнкі... Ці мала хто што пэцкае? Не, я катэгарычна прашу! Мой аўтарытэт...

Віня, што падслухоўвае ля дзвярэй, кручком згінаючыся да адтуліны, ціха адыходзіць у калідор,

пасля асцярожна зачыняе за сабой дзверы будынка.

Значыць, навагоднія канікулы давядзецца праводзіць тут, у пустым інтэрнаце? Хто паедзе ў Ленінград, каго забяруць сваякі — а «цюхця» будзе сядзець у пустой спальні і шаўкавець!

Надвор'е ўсё тое: нескончоная імжа, шэрае пластылінавае неба і рэдкія цяжкія кроплі, што халодна казычуць шыю і спрабуюць прабрацца ніжэй да спіны... Віня скача на цагліну, якая ляжыць у лужыне, але цагліна пераварочваецца, брудныя пыркі ляцяць на сукенку, правая пантофля ўгразае ў крошыва.

— Што, Піка, і табе дастаецца? — чуецца збоку.

Герман выходзіць з-за клуба, накінуўшы на галаву вільготную куртку. Куртка замежная, з незразумелымі надпісамі, мутныя кроплі непагадзі блішчаць на жоўтай сінтэтыцы, як быццам іх толькі што прачысцілі. Цёмныя вочы Германа ўзбуджана ззяюць, тонкі твар яго з далікатнай смуглявай скурай ажыўлены і добры.

— Герман! — рашаецца Віня. Яна, забыўшыся на лужыну, перастукае нагамі, і другая пантофля цяжэе, холад прабіраецца да нагі.

— Ну?

— Я... пэўна ўжо не паеду. Разумееш!

— Слухай, тут не месца размаўляць...— ажыўленне на твары Германа праходзіць, ён ссоўвае роўныя, як намаляваныя бровы.— Але ўсё ж скажу: ты робіш трагедыю дарма.

— Як жа — дарма? Эрмітаж...

— І вінаваціш нас са Стасяй. Але Стася хацела сёння ісці да Савацеі.

— Праўда? — радасна ўскрыквае Віня.

— Хацела. Я не дазволіў.

— Чаму?

— Ды як ты не разумееш? — ужо злуецца Герман.— Гэта нічога б не змяніла. Нічога! У тую хві-

ліну, калі ты не падпарадкавалася Анфісе, ты стала парушальніцай дысцыпліны. Ты не аддала ёй запіску, а з'ела. Першае. Другое: ты не стала апраўдвацца перад Антоляй і, значыць, другі раз парушыла дысцыпліну. Якая розніца, адчай цябе грыз альбо ты зрабіла так незнарок,— усё роўна ты стала парушальніцай, такім чынам, твая дзёрзкасць — парушэнне Анфісінага аўтарытэту.

— Парушальніца... рушыць! Нічога не разумееш! Я ж не царства рушу!

— Ну, царства! Што там царства. Вось аўтарытэт, гэта — о!

Герман гаворыць ні то сур'ёзна, ні то злаcліва, і Віня не разумее — усур'ёз, ці жартам, ці проста дражніць яе.

— Трэба толькі не парушаць аўтарытэт, і ўсё будзе добра,— працягвае Герман.— І разумець, што на тым месцы, куды цэліць маланка, не абавязкова павінен знаходзіцца ты.

— Якая маланка?

— А калі яна ўдарыла ў цябе,— працягвае Герман, шчыльней нацягваючы куртку на галаву,— не трэба хныкаць і рабіць трагедыі. Зноў жа — суцяшай сябе тым, што маланка сляпая, яна не выбірае. Ну што, зноў не разумееш? І што ў наступны раз трэба вывернуцца — хаця ў апошні момант. А ўмець вывернуцца — о, гэта ўжо сапраўдная праблема. Ну, напрыклад, ты...

Ён адной рукой трымае куртку, а другою лезе ў кішэню. Віня не паспявае нічога зразумець — нешта жоўтае круглае мякка б'ецца аб яе лоб і залепляе вока. Яна з агідай хапаецца за вока — на руцэ застаецца мяккае, цёплае...

— Бульба, усяго толькі бульба! — Герман адыходзіць, горбячыся.— Вось, калі ласка, табе эксперымент: не здолела зрэагаваць, хаця я толькі што

пра гэта гаварыў. Ідзі на кухню: з-за цябе кралі без ежы застануцца. Ім нёс! — крычыць ён і хаваецца ў дзвярах. Праз імгненне жоўтая куртка з'яўляецца ў акне другога паверха і нанова знікае: Герман пайшоў у майстэрню, дзе хлопцы старэйшай групы праводзяць пяць гадзін у тыдзень.

— Эксперымент? — шэпча сама сабе Віня, абіраючы бульбу з твара.— Ах ты... воўк! Герастрат няшчасны! — Ужо крычыць яна ў акно, дзе мільганула жоўтая куртка. Бульбяная мякаць сутаргава сціснутая ў руцэ.

— Каго гэта ты, Піка? — насмешлівы голас Валеркі, які, відавочна, услед за Германам нясецца ў майстэрню, зусім выводзіць яе з раўнавагі.

— Я — піка? А ты... затыкач! Лізаблюд! Душонку за Германаву жвачку аддасі! — Віня адным скачком выбіраецца з лужыны і, па-хлапечы размахнуўшыся, уляпляе ў мокры Валеркаў твар камяк. Ашалеўшы ад нечаканасці, Валерка застывае на месцы, а пасля, апамятаўшыся, скача за Віняй агромністымі крокамі, як кенгуру. Але Віня аказваецца спрытнейшай: яна на адным дыханні пералятае агароджу, якая аддзяляе двор інтэрната ад новага мікрараёна, што ўшчыльную падступае да старых драўляных будынкаў інтэрната (ён стаў інтэрнатам толькі два гады таму назад, а да гэтага быў дзіцячым домам нумар адзін). Нумар два адносіўся да Дома дзіцяці, да тых немаўлят, якія не дасягнулі яшчэ школьнага ўзросту і чакалі, пакуль не перавядуць іх у раён альбо сюды, у абласны інтэрнат.

Валерка глядзіць на агароджу, успамінае, што Герман чакае яго ў майстэрні, і, пагразіўшы кулаком, адпраўляецца назад, выціраючы мокрае, слізкае месіва.

Віня заходзіць у пад'езд. Новы яшчэ дом ужо прапах капустай, пялёнкамі. На новай батарэі — жоўтыя

плямы вады, якая паціху точыцца з радыятара. Віня ўдзячна кладзе рукі на батарэі, азяблым целам прыціскаецца да рабрыстай паверхні.

Здаецца ёй, што за апошнія дні яна неяк паменшала, скурчылася. Нейкія трывожныя здані пачалі апаноўваць па начах — раней спалася моцна і бяздумна. Германаў «эксперымент» укалоў, як балючая, тоўстая стрэмка,— раней бы проста выцерла твар, глядзела б на Германа адданымі вачыма, з задавальненнем, хаця і з патаемнай зайздрасцю, перадаючы яму запіскі ад Стасі альбо, наадварот, ягоныя пісулькі... Што ж, Герман і раней мог гаварыць нешта вось такое ж, разумнае, але недаступнае, што ўспрымалася як блазнаванне. Чаму ж цяпер кожнае слова так урэзалася ў памяць, нібы зацэментавалася ў ёй? Цьмянае адчуванне нараджалася: што часта чамусьці будуць успамінацца словы, сказаныя ім ні то назнарок, ні то ўсур'ёз... Сагрэтая казённым, роўным цяплом, яна чамусьці ўспаміпала дзень, калі прыехаў да іх Герман — два гады назад.

Яна тады пачала крыху сябраваць з Валеркам, дапамагала яму то прышыць гузік, то зашыць падраную кашулю. Недзе ў глыбіні душы Валеркава не сяброўства, не, проста ягоная гатоўнасць дапамагчы, апекаваць яе былі надта прыемнымі для Віні, хаця толькі цяпер яна магла б даўмецца: не на Яню з яе ружовым тварыкам, не на Стасю Забалоцкую — строгую, дасціпную, не на Веру, нарэшце, звернута ўвага Валеркі... Увага была мізэрная: некалькі разоў яны разам дзяжурылі на кухні і Валерка адзін цягаў стосы талерак і раздаваў хлеб... Неяк ён у рабочай стаў расказваць ёй пра Майн Рыда — і тут жа ўцёк, варта было зайсці ў рабочую Антолі Іванаўны... Пасля аднойчы ўначы яна бачыла, як Валерка, зашыўшыся ў аксамітавы абрус, стагнаў ад таго, што моцна балела ў яго вуха, а выклікаць «хуткую дапамо-

гу» ён не хацеў... Тады яна сама збегала да дзяжурнай выхавацельніцы, узяла са стала грэлку і, ускіпяціўшы ў ізалятары ваду, наліла гарачай вады ў грэлку. Валерку праз некалькі хвілін стала лягчэй, ён падняў галаву і ўсміхнуўся: «Ты — свой хлопец, Піка!» — і тады яна не пакрыўдзілася на мянушку... А цяпер Валерка стаў чужым, і нейкай чужой здаецца Яня, з якой столькі гадоў яны сядзелі на адной парце і сябравалі. Яня — слаўная дзяўчынка, але ніяк ёй не зразумець таго, што каламуціць зараз Віціну душу, яна і суцяшае неяк проста, і тварык яе хмурнее толькі на імгненне, а пасля ўсё такі ж ружовы, прыгожы і бяздумны... І ў Валеркі цяпер таксама адчужаны, бяздумны пагляд, ён глядзіць толькі на Германа — Герман разумны, не тое што нейкая там Віня Рыжык, троечніца...

А ўсё ж той дзень добра запомніўся ёй. Быў адзін з тых летніх дзён, калі шматгадзінны дождж як бы стамляецца паліваць прымоўклую зямлю і, перад тым як набраць новага дыхання, саступае месца законнаму ўладару летніх дзён — сонцу, якое, на кароткі час прабіваючы шэрую занавесу хмар, хапаецца асушваць навакольнае: бярозы, паніклыя пад цяжарам вады; луг, які адразу ж пачынае дыміцца; чырвоны чарапічны дах старой школы, дзе на лета заўсёды размяшчаўся дзіцячы дом.

Яны толькі што паабедалі, калі перад летняй сталоўкай, дзе ў натаптаных ямках блішчалі люстэрачкі вады, спынілася машына, што прыехала з горада. Яе адразу ж абкружылі цікаўныя: з машынай мог прыехаць у лагер які родзіч, машына прывозіла газеты і навіны. Віня пабегла да сталоўкі разам з усімі, хоць да яе ніхто не мог прыехаць, лістоў таксама ніхто не мог прысласць ні ёй, ні Толіку... Герман у гэты момант, адкінуўшы намоклы брызент, шукаў, дзе б паставіць нагу, каб саскочыць з машыны, і Віня ра-

зам з іншымі бачыла, як азіраўся па баках высокі танклявы падлетак у карычневай замшавай куртачцы і сініх патрапаных, з нейкімі нават латкамі, джынсах. Нехта з дзяўчынак хіхікнуў, паказваючы суседцы на чорныя скураныя тыя латкі. Хлапечы голас — Віня адразу ж пазнала Валеркаў — азваўся з натоўпу:

— Ён што, сюды жабраваць прыехаў?

Хлопец дружалюбна, але з лёгкім адценнем переваґі заўважыў зверху:

— Дзівак ты, стары! Сутнасць з'яў трэба бачыць знутры, і калі б ты ведаў, што Элвіс Прэслі апошні раз выйшаў на сцэну менавіта ў такім выглядзе...

— Пляваць я хацеў... на твайго Трэслі! — ізноў крыкнуў Валерка, але Герман, пругка скочыўшы на зямлю, падышоў да нечаканага свайго праціўніка:

— А што табе не падабаецца ў маіх джынсах? Давай разбяромся: сутнасць альбо форма?

— Што? — здзекліва перапытаў Валерка. Рослы, шыракаплечы, ён амаль на галаву быў вышэйшы за прыезджага і гаварыў з ім гучна, з перавагай сваёй моцы і звыклага асяроддзя. Але прыезджы не паддаваўся на задзірысты тон, а, наадварот, адказваў спакойна, з годнасцю:

— Я пытаюся,— паўтарыў ён,— мае джынсы табе не падабаюцца па прычыне паношанасці альбо таму, што гэта менавіта джынсы, а не больш прыстойныя па форме штаны — такія, напрыклад, як у цябе?

Слова «прыстойныя» ў той момант ніяк не падыходзіла да брудных, зашмальцаваных Валеркавых штаноў, з калашынай, груба схопленай белымі ніткамі. Валерка адчуў удар. Яго загарэлы твар перасмыкнуўся, але ён яшчэ больш нахабным, чым раней, галасам агрызнуўся:

— Дапусцім, у нас захварэла кастэлянша і мне

няма каму выдаць штаны. (Ён ілгаў. Усе ведалі, што ён не любіць новае, і ўсе спробы прымусіць яго надзець чыстае не мелі поспеху.) А табе што, родзічы не маглі сабраць на штаны, калі сюды ад'язджаў?

Удар быў забароненым: невядома, што прывяло сюды танклявага. Відаць жа, нешта здарылася з ім, так проста сюды не прыязджаюць. Але незнаёмы хлопец усміхнуўся і стаў, не зважаючы на колкасць, тлумачыць Валерку, як малому:

— Ведаеш, стары, моладзь многіх краін цяпер адмаўляецца ад даброт. Яна лічыць, напрыклад, што дарагія, прыгожыя рэчы толькі разбэшчваюць. Таму і я ў знак салідарнасці... А ты што, супраць інтэрнацыяналізму?

— Во чэша! — выкрыкнуў нехта з групы хлопцаў. Да незнаёмца тым часам падышла Антоля Іванаўна, і ў Віні радасна тарганулася сэрца: «Значыць, ён будзе займацца ў нашым класе!» Яна праводзіла паглядам Валерку, які паныла пайшоў да сталоўкі, апусціўшы шырокія плечы, не гледзячы на сяброў.

І адразу ж Віня заўважыла, што навакол сцямнела, і дождж з новай сілай пачынае каламуціць крыху падсохлыя лужыны, так што ўсе сыпанулі хто куды, і толькі адна яна стаіць перад пустой ужо машынай, пад самай вялікай і чорнай хмарай, якая завіваецца на краях злавеснымі кутасамі і, як агромністая казачная птушка, здаецца, вось-вось рынецца ўніз на здабычу. Дзяўчынка завішчала і таксама рванулася пад дах, і хаця, прыбегшы ў калідор, цяжка дыхала і выціскала пасмы валасоў, міжволі ўсміхалася нейкім сваім думкам.

Назаўтра яна прачнулася да пад'ёму і некалькі хвілін ляжала, няўцямна разгадваючы, што за прычына разбудзіла яе так рана. Было сапраўды рана: распагаднелае за ноч неба было таго густога светласіняга адцення, якое бывае на самым усходзе сонца

і крыху пасля ўсходу, пакуль яркае святло не абясколерыць сінявы да блакіту. Праменні, што светлымі палосамі мільгацелі на шторах, прабіваючыся праз сосны, былі наўздзіў падобныя да вялізнага веера з пяшчотнай лімонна-ружовай сярэдзінай. Абмытыя ўчарашнім дажджом дрэвы каля ганка зіхцелі, з цёмна-зялёнай гушчы сасонніку неслася радаснае шчабятанне малінавак і патыхала магутнай свежасцю зяляніны, што прывольна расце на прасторы, не сцесненая ні гарадской цеснатой, ні неадольным наступам хіміі.

Яна выпрастала ногі з прасціны, у якую захуталася вечарам, як захутвалася заўсёды — ажно да вушэй, каб абавязкова быў закрыты падбародак, і націху выбралася са спальні, захапіўшы зялёную пластмасавую мыльніцу і кінуўшы на плячо свежы, толькі ўчора выдадзены, ручнік.

Усё спала, толькі паварыха спрытна секла нажом нейкую гародніну, шчыльна абвязаўшы неабдымную талію пярэстым хвартухом. Час ад часу яна паднімала нагу і часала ёю аб другую, ні на хвіліну не перастаючы гатаваць сваё крошыва: відаць, мучылася ад камароў. Віня хуценька выбралася за агароджу і, праміНуўшы першыя дзве елачкі, што схавалі яе ад цікаўных вачэй, памчалася па натаптанай пясчанай сцяжынцы да рачулкі, якая спакойна драмала ў чароцістых сваіх берагах, тонкімі струменьчыкамі абцякаючы чараціны, што забіраліся на сярэдзіну рачулкі, перагароджанай дамбай, ад чаго ля драўлянага памоста ўтварылася азярцо, дзе купаліся інтэрнатаўцы. Усёй глыбіні было па горла самаму высокаму хлопцу — Валерку, але пад час купання ўсе выхавацелькі стаялі напагатове, па некалькі разоў пералічваючы шэптам мокрыя шустрыя галовы. Цяпер жа на беразе было пустэльна, і салодка было думаць пра тое, што можна плёскацца, не адчуваючы

на макаўцы чужога вока, уцягваючы халаднаватае, сакавітае паветра ранішняга лесу. Хуценька скінуўшы апранаху, яна рашуча сіганула ў ваду, і цела яе наскрозь прашыла пратоку, так што вада ў берагах абурана калыхнулася, і некалькі дзікіх качак з працяглым гагатаннем узвіліся над рачулкай, ды кроплі з карчакаватай алешыны буйна пасыпаліся проста на галаву.

Трыма пругкімі ўзмахамі пераадолеўшы азярцо, Віня ўскараскалася на халодны драўляны памост і схапіла мыльніцу. Застыглымі пальцамі выцягнула ружовы абмылак і, выгінаючыся, стала націрацца мылам, пасля ізноў упала ў ваду, уздымаючы пырскі. Толькі пасля трэцяга заходу яна, не шкадуючы намаганняў, пачала расцірацца жорсткім кафляным рушнікам, ад чаго цела загарэлася чырванню і гарачыня падступіла да грудзей. Такім вострым было спалучэнне гарачыні, свежасці і нястрымнай радасці — ад вады, ад волі і нечага неўсвядомленага, але адчувальнага,— што яна заплюшчыла вочы і стаяла, выцягнуўшыся ва ўвесь рост, на жоўтым вільготным памосце.

...Цяпер, стоячы ў пад'ездзе, Віня зайздросціла сабе — той, далёкай, бесклапотнай, якая прымала ўсё як належнае. Цяпер яна пасталела — і няўжо пасталенне нясе з сабой толькі горыч?

А дні пайшлі сваёй чарадой, і група паехала ў Ленінград без Віні, так што агромністы Зімовы палац з яго анфіладай пакояў, дзе бляск цёмнай, навошчанай паркетнай падлогі раствараўся ў ззянні фарфору, золата і эмалі, а скрозь пацямнелы лак старадаўніх карцін прабіваліся жывыя, гучныя і трапяткія фарбы славутых майстроў — Зімовы палац з яго вялізнай крыштальнай люстрай пры ўваходзе і

натоўпамі бесцырымонных, шумлівых іншаземцаў, якія перакрыкваліся праз галаву гіда, застаўся па-за яе свядомасцю, як засталося многае з таго, што так хацелася ўбачыць і адчуць. Страта ўвайшла стрэмкай, што неўпрыкмет запоўніла незразумелай тугой, якую яна не ўмела растлумачыць сама сабе, якую яна нават і не ведала.

Гэтак жа не ведала Віня, чаму ёй ніколі не хацелася каго-небудзь з дарослых абняць або прылашчыцца да яго — нават у самым раннім узросце, як рабілі тое іншыя дзяўчынкі, якія часта рваліся сесці каля выхавацельніцы альбо нянечкі і хаця дакрануцца да яе адзежыны ці, у выпадку ўдачы, трымаць іх за руку. Дзяўчаткамі кіравала неадольная патрэба быць патрэбнымі і жаданымі, ім хацелася хаця часцінкі цеплыні — але ж і ёй, Віні, хацелася таго ж. Чаму ж яна заўсёды трымалася наводдаль? Яна не задавала сабе такіх пытанняў, але надта здзівілася б, калі б ёй расказалі, што адзінаццаці месяцаў ад роду закахалася ў маладую шэравокую медыцынскую сястрычку. Яна рвалася да дзяўчыны, калі тая заходзіла ў групу, яна чамусьці ўпарта называла тую «мамай». Можа, жартачкі навакольных абудзілі ў медсястрычкі непрыязь да замурзанай, нясткладнай істоты, якая ўпарта спрабавала ўчапіцца за белы халацік і вымазаць яго ліпкімі далонькамі,— толькі аднойчы, калі Віня, падаючы і спатыкаючыся, дабралася да медсястры, занятай размовамі, і па сваёй звычцы абхапіла яе за ногі, тая не вытрымала: штурханула малую. Віня адляцела ўбок і балюча выцялася лбом аб ножку стала. Убачыўшы кроў, дзяўчына пабялела, кінулася да малой, спрабавала падхапіць яе на рукі. Дарма. Віня адчайна вырывалася, крычала як рэзаная, калі медсястра спрабавала падысці да яе.

Паступова ўсё забылася, і ў памяці нічога не за-

хавалася ад таго выпадку — але ніколі болей не спрабавала яна падлашчыцца, а, наадварот, выслізвала з-пад рукі, якая выпадкова цягнулася прыгладзіць сукенку, патрапаць па галаве — як быццам сам чужы дотык мог абярнуцца варожым, неспадзяваным...

У рабочым пакоі — тлум і задавальненне: скончылася падрыхтоўка ўрокаў, кожны ладкуецца як зручней: хто бяжыць за шахматамі, хто выцягвае з партфеля запаветную кніжку. Антоля Іванаўна, лагодная і добрая, перакрыквае шум:

— Да вячэры — яшчэ паўгадзіны. Мы можам пагаварыць па душы.

— Душа! — фыркае Валерка.

— Дайце пачытаць! — енчыць Кацярыны.

— А што ж, гэта цікава — па душы! — уступае ў спрэчку Герман.— Давайце, Антоля Іванаўна.

Германава слова — апошняе. Вырываючы кніжку з Кацярыніных рук, да Антолі Іванаўны кіруецца Стася, высока ўзняўшы, як звычайна, сваю светларусую галаву з тоўстай касой. І Віня, уздыхнуўшы, адрываецца ад малюнка, які толькі што распачала алоўкам, хаваючы яго пад абрус, на каленкі.

— Ну што, хлопчыкі і дзяўчаткі,— пачынае Антоля Іванаўна, шматзначна ўсміхаючыся, як быццам адкрываючы нейкую навіну,— вы ўжо заканчваеце школу. Паўтара года — гэта вельмі нямнога, у кароткі час будзеце дарослымі. Давайце пагаворым, памарым! — яна ўзвышае голас.— Пра тое, кім вы будзеце... ну, скажам, праз дзесяць гадоў. Ну што, уявілі? З каго пачнём? Можа, са Стасі?

— І душу ў пакоі не пакіне, будзе трэсці, як грушу! — шэпча Каця, дакранаючыся да Вініната вуха цёплымі вуснамі. Яна трымае пад пахай кнігу і са

спачуваннем глядзіць на кавалак паперкі, на якім Віня пачала малявваць пейзаж.

— Ну, кім будзе наша Стася?

Стася цярпліва чакае, прама трымаючы сваю галоўку з пушыстымі завіткамі пад крутым ілбом. На верхняй губе яе — белаваты шрам, несціральны след катастрофы, пад час якой загінулі бацькі і маленькі брат.

— Доктарам! — выпальвае Валерка.— Хірургам!

— Ну што ж, добра! — згаджаецца Антоля Іванаўна.— Стасі гэта падыдзе. Уявіце — яна ў белым халаце ідзе да хворага і, канешне, адразу ратуе яго. Праўда?

Герман згодна ківае галавой, стараючыся, каб ківок заўважыла выхавацелька. Па строгім Стасіным твары прабягае хмурынка, яна зацiскае вусны, абыякава-ветліва гледзячы на Антолю Іванаўну, але Віня нейкім імгненнем, незразумелым намаганнем як бы пранікае ў хмурынку — і тут жа адчувае боль, у вачах яе ўспыхвае разгубленасць: хіба можна гаварыць са Стасяй пра белыя халаты, пра дактароў? Вось жа — не ўратавалі бацьку, і маці, і брата, і няхай не іх віна, але ж відавочна, што яны, белыя халаты, ашукалі Стасю ў самыя горкія хвіліны! Віні хочацца крыкнуць — але гульня перакідваецца на самога Валерку, на Стасю забываюцца.

— Вінька, а ты кім сябе ўяўляеш? — шэпча Каця. З другога боку да іх прабіраецца Яня, папраўляючы каўнерык адпрасаванай сукенкі.

— Кікімарай! — сур'ёзна адказвае Віня, і Каця з Яняй хіхікаюць.— Я не жартую. Проста вы такія салодкія, што вам патрэбна горкага. Вы такія прыгожыя і дасціпныя, што вам патрэбна пудзіла. Некаму ж трэба ім быць.

— Ціха вы! — штурхае Віню Толік.— Дайце паслухаць!

— А што тут слухаць? — зняважліва гаворыць Віня.— Тое, што Герман стане вынаходнікам?

Герман сапраўды знаходзіцца ў цэнтры ўвагі, і Антоля Іванаўна замілавана слухае яго, склаўшы перад сабой пульхныя ручкі. На Вінін голас яна ўзняла галаву, вочы яе пагрозліва бліснулі:

— Рыжык, ты зноў... бунтарыш?

— Не, я не бунтару. Я проста размаўляю.

— Выйдзіце, калі ласка, і там размаўляйце. Не перашкаджайце другім.

Віня адчувае, як гарачая, гнеўная хваля зноў расце ў ёй. Яна разумее — трэба пакорліва выйсці, за дзвярыма даць сабе волю, але хваля аказваецца мацнейшай, яна просіць выйсці... І дзяўчынка дае ёй выплеснуцца:

— Правільна вы тут кажаце, што Герман будзе вынаходнікам. Толькі ён не машыны будзе вынаходзіць. Ён будзе шукаць, як лягчэй і прасцей жыць. Каб не кранаць... аўтарытэт.

Тонкі смуглявы твар Германа цямнее, робіцца жорсткім і насмешлівым.

— А па-твойму, трэба абавязкова замахвацца на аўтарытэт? — кінуў ён Віні.

Віня адчувае: ёй не справіцца з Германам, ён затопіць яе словамі, давядзецца адступаць. Але адступаць ёй нельга: група слухае іх, стаіўшы дыханне, нават Валерка па-гусінаму выцягнуў шыю, а ў Яні на шчаках дзве чырвоныя плямкі — нябачнае відовішча!

— Аўтарытэты трэба правяраць. Вывяраць.

— Значыць, ты давяраеш толькі сабе, толькі свайму розуму і адвяргаеш усё, што знайшлі раней?

Герман зусім правільна выводзіць размову пра сябе на прасторы гаворкі пра з'явы акаляючага жыцця, і Віня спрабуе вярнуцца назад. Антоля Іванаўна пераводзіць вочы то на аднаго то на другога, не зусім

разумеючы, пра што спрэчка, але на твары яе — супакаенне: калі за справу ўзяўся Герман, Рыжык вось-вось будзе высмеяна. Тым больш што гаворыць яна нейк блытана, у гарачцы, быццам бы вось-вось заплача:

— Я давяраю сабе, і я табе скажу... табе і Валерку. Калі чалавек... калі ён разумее, што побач з ім людзі... такія ж, як і ён... калі ён разумее гэта, тады ён сам... чалавек!

— Нічога не разумею! — усміхаецца Герман.— Чалавек — не чалавек, людзі... Што ты нешта такое гаворыш, чаго не цяміш?

Віня глядзіць на яго і адчувае: ён лоўка прыкідваецца прасцяком, каб заблытаць усё і ўсіх. Ён даўмеўся, аб чым яна гаворыць, толькі навошта яму тлумачыць гэта другім? Лягчэй і прасцей кінуць яе на лапаткі такім чынам — паказаць, якая яна дурніца, як пачынае яна спрэчкі, не разабраўшыся сама, што хоча сказаць. Валерка, здаецца, таксама зразумеў, што хацела сказаць Віня, але ж ён не заступіцца, яму нецікава заступацца, ён — сябар Германа.

— Сапраўды, што вы развялі тут...— незадаволена ўстае з месца Антоля Іванаўна.— Я думала, вы будзеце нешта цікавае даказваць, адкрываць душу як паложана. Як мы рашылі. Дый час вячэраць.

— Не, вы пачакайце! — у Віні дрыжыць голас.— Вы сама... падобная да Германа! Вы нас пазаўчора з кіно падняли, хаця да канца заставалася ўсяго шэсць хвілін! Так і не далі дагледзець сеанс!

— Таму што вячэра пачынаецца ў восем,— Герман таксама адрасуе свае словы выхавацельніцы, і яна ўдзячна ківае галавой.

— Без дысцыпліны хіба можна? Вас трыццаць, а я адна.

— Вы — адна. А я не хачу быць адной трыццатай! Адной трыццатай!

— Яна хоча быць адзінкай! — скептычна кідае Герман, і вакол смяюцца, і адразу ж пачынаюць разыходзіцца, а самыя нецярплівыя бягуць да дзвярэй.

— Вы! — адчайна ўскрыквае Віня, звяртаючыся адразу і да Германа, і да Антолі Іванаўны. Але Антоля Іванаўна тут жа бязлітасна перабірае яе:

— Ну, хопіць! Я ўжо цябе паслухала. У цябе ўвогуле нейкі бунт у галаве... Чаго ты бунтуеш, не разумею. Але на кожную хваробу ёсць лякарства. І на цябе мы знойдзем лякарства.

Хваля, у якой з галавой купаецца Віня, робіцца чорнай і гарачай, яна магутна ўскідваецца высока-высока, ажно вухкае сэрца, але трэба не паказаць, што страшна і нязвыкла гайдацца вось так: уверх — уніз, уверх — уніз!

— Вы лепей Германа лячыце! Вы нездарма яго любіце: ён здорава беражэ ваш аўтарытэт! І павагай! І — падарункамі!

Вось калі ўздрыганула Антоля Іванаўна: сапраўды, шапталіся ў групе ды і Віня неяк бачыла ў руках Германа таямнічыя пакункі, якія пасля зніклі ў сумачцы выхавацельніцы. Шапталіся ж аб тым, што бацькі Германа, якія паехалі на два гады за мяжу, часта прысылаюць адтуль падарункі для сына і для самой Антолі Іванаўны. І курткі, і незвычайныя ручкі, і скураны партфель Германа — адтуль, з цёплых краёў, ні то Гвінеі, ні то Ганы...

Герман, які пайшоў быў да дзвярэй, азіраецца. Вочы яго гараць нянавісцю, ён імгненна аглядае рабочы пакой і, не саромеючыся Антолі Іванаўны, а можа, нават і спадзеючыся, што яна ацэніць яго парыў, ціха і гадліва гаворыць Віні:

— Ты... падкідыш! Сціхні, а то...

— Герман! — абрывае Антоля Іванаўна.— Нельга так!

— Я падкідыш... Падкідыш...— Віня дрыжыць ад злосці.— А ты... Ты!

Ніхто не бачыць Толіка, які, сагнуўшыся, даставаў пад час спрэчкі паперы са свайго стала. Цяпер ён, адным скачком апынуўшыся перад Германам, хапае яго загрудкі:

— Хто тут падкідыш? Хто! Гад, я...

Валерка імгненна кідаецца на выручку. Счапіўшыся, хлопцы качаюцца па падлозе, дзяўчаты ўздымаюць крык і кідаюцца іх раздымаць. Са стойкі ў калідоры ляцяць ранцы, партфелі, з грукатам вывальваецца чарніліца і, стукнуўшыся аб падлогу, развальваецца; з хрумстам качаюцца па аскабалках, пэцкаючы спіны, Валерка і Толік, бахае мяккім кулачком аб падаконец Антоля Іванаўна, крычучы спалохана і гнеўна... Герман устае з падлогі з акрываўленым тварам, Стася ўскрыквае, хапаецца за яго і, убачыўшы Віню, выцягвае чырвоны палец:

— Ты... ты завяла гэты галас! Паглядзі, што з ім!

Віня скурчылася, яе калоціць. Вачыма яна шукае Яню — Яня, відавочна, уцякла. Але нечакана ў яе знаходзіцца абаронца. Гэта — Вера Крываль. Вера цягне Віню далей ад пабоішча, на хаду апраўдваючы яе:

— Не гавары няпраўду, Станіслава. Твой Герман сам добрая цаца. Прывык усім затыкаць раты. Падумаеш, навучыўся блудзіць словамі!

— Ты, манашка! — крычыць Стася, адной рукой трымаючы Германа за галаву, другой — выціраючы яму скроню.— Што ты лезеш? Табе да ўсяго ніколі справы не было, а цяпер ты лезеш?

Віня, абарочваючыся на хаду, бачыць, што Стася трымаецца харобра толькі для Германа: яна пабялела, вочы ў яе спалохана-дзікія, амаль непрытомныя. Вера ж, якая заўсёды трымалася за чужымі спінамі,

цяпер як бы расправілася, яна цягне Віню ўладна, як дарослая.

— Ну-ну, ты Стасю не шкадуй, ты сябе шкадуй! — лёгка штурхаючы Віню ў плечы, яна вядзе яе ўніз па лесвіцы.— Табе Антоля задасць перцу! І варта: што з табой дзеецца ў апошні час?

— А што яны ўсе? Што яны? То Піка, то падкідыш! Што, у мяне няма імені? Прозвішча?

— Ёсць, канешне... Хадзем вячэраць, чаго ты нараўішся, як бык! — хутка-хутка, не даючы Віні выказвацца, суцяшае Вера. Але тая раптам спыняецца, як бы ўшчыкнутая.

— А... а прозвішча ў мяне няма! І імені таксама! Праўда, няма!

— Усё глупства. І імя ёсць у цябе, і прозвішча.— Вера хіліць убок галаву, як быццам разглядаючы падлогу. Малая, худзенькая, з агромністымі блакітнымі вачыма і рэзкімі, амаль непрыемнымі рысамі, яна тым не менш здаецца старэйшай. Нейкай спакойнай, крыху сумнай сілай павявае ад яе, і Віня даверліва паддаецца спакусе адкрыць сваю душу:

— Хіба ж гэта імя? Ві-ня. Ты чула калі-небудзь такое слова? Не!

— Чаму ж, чула. Наша суседка, пані Аглая, некалі ў гімназіі вучылася. Вось яна на майго брата, старэйшага, так і гаварыла: ён як Цэзар — прыйшоў, убачыў, перамог. Па-латыні так: «віні — відзі...». А там, здаецца, «віцы», далей не помню, а першае слова добра памятаю.

— Што ж у мяне імя — лацінскае, ці што? Дый і то гэта не імя — прыйшоў. Можа, прыйшоўшая?

— Я думаю, што гэтак,— згодна ківае Вера, і дзяўчынкі ідуць далей. Каля выхада Віня спыняецца.

— Верачка, ты мне ўсё навыдумляла. Наўрад ці ведалі латынь... ну, тыя, хто... Ну, ты сама ведаеш.

Можа, нават прыдумала наконт самога слова. Няма яго ў прыродзе, такога слова!

— Віњька, клянуся! Спытай каго хочаш. Таго, хто ведае,— папраўляецца Вера.— «Віні» — прыйшоў. Значыць, Віня — тая, што прыйшла.

— Ты проста мяне суцяшаеш,— з сумненнем кажа Віня.— Ну, але і за гэта дзякуй. Буду цяпер думаць, што ў мяне не звычайнае імя, а лацінскае. Хаця, ведаеш, можа і такое быць, што тыя... ну, хто падкінуў... проста п'яныя былі і напісалі абы-што.

— Ты дарма сябе так мучыш! — Верын твар — спачувальны і добры.— Ты нешта ў апошні час зусім звіхнулася на тым, хто ты і што ты. Навошта думаць? Усе мы — дзеці чалавечыя...

— Вера, якая ты... халодная! Разважлівая такая, як бабулька! Адкуль у цябе такое? Як быццам ты ўсё ведаеш, усё прымаеш... так не можа быць, не павінна! Ты, можа, і бацькам сваім усё даравала!

Веру забралі ў інтэрнат ад бацькоў — рэлігійных фанатыкаў,— напаўмёртвую ад голаду і знясілення. Віні, як і ўсім, яны ўяўляліся нейкімі нелюдзямі, пачварамі, і, задаючы пытанне, яна хоча канчаткова прыперці, як кажуць, Веру да сценкі. Але Вера адказвае зусім лагодна:

— Ну, канешне, даравала. Яны ж пра маю душу клапаціліся. Асабліва бацька. Ён гаварыў, што я магу стаць абранніцай.

— Чыёй абранніцай? — ашаломлена пытаецца Віня.

— Яго,— Вера паказвае на нябёсы. Яны ідуць па вуліцы, кіруючыся да сталоўкі, якая знаходзіцца праз дарогу, і неба зараз цёмнае, хмурнае, і вецер свішча па перавулку ў голых, непрыветных галінах, так што Віні робіцца страшна і холадна.

— Не, я туды не хачу! Знаеш, Верка, я думала, ты гэта з галавы выкінула... а ты...

Віні і прыемна, што Вера, якая заўсёды трымаецца так замкнёна, прыадчыняе перад ёй нешта сваё, патаемнае, і дзіўна. Здавалася ж, так зацята выхоўвалі Верачку пасля прыезду ў дзетдом: раз у тыдзень прыязджаў лектар з абласнога таварыства «Веды», праводзіў гутаркі; дзеля яе ў піянерскім пакоі павесілі стэнд «Рэлігія несумясцімая з навукай» (праўда, Вера ў піянерскую не заглядала). Аднойчы нават Антолі Іванаўне давялося правесці ў групе некалькі гаворак на атэістычную тэму. І хаця яна блыталася ва ўсіх тых Ісаях, Пятрах і, заглядаючы ў сшытак, аблівалася потам ад напружання, галоўнае было дасягнута: Вера ўступіла ў камсамол, адрокшыся ад рэлігіі. Тады перастаў прыязджаць лектар, весялей уздыхнула Антоля Іванаўна, а стэнд застаўся ў піянерскай і пажаўцеў ад часу.

— А што мне, таксама не хочацца пагаварыць з кім-небудзь? — уздыхае Вера.— Ведаеш, цяжка мне.

Яны ўдзвюх стаяць у апусцелым завулку і не зважаюць на халодны вецер, які шчыпле аголеныя рукі, забіраецца за шыю.

— Бацькі мае праз год выходзяць... адтуль. (Віня ведае, што яны былі асуджаныя на тры гады за ізуверствы, і згодна ківае.) А як я пагляджу ім у вочы?

— Усе правы на тваім баку! — горача ўступаецца Віня.

— Правы...— агромністыя Верыны вочы туманяцца.— Не магу я ад іх адрачыся. Не магу, і ўсё! Люблю бацьку. Ён мне так добра пра душу расказваў. І пра чысціню, якой толькі нямногія дасягаюць...

— Няўжо ты верыш ва ўсё... такое?

Віні і зразумець хацелася б, пра якую такую чысціню і душу гаворыць Вера, і не хочацца разумець, таму што так далёка ад яе ўсё, пра што Вера гаворыць — далей за якую-небудзь Галактыку...

— Такое! — і ласкава, і крыху зняважліва гаво-

рыць Вера.— Эх, Вінька! Перш чым адракацца, трэба ж хаця знаць, ад чаго адракацца. А ты і ведаць не хочаш. Але, знаеш што...

Яна, прытрымліваючы на грудзях паліто, нахіляецца да самага вуха Віні, як быццам расказваючы нейкі сакрэт, пра які могуць дазнацца іншыя:

— Знаеш, пра што я думаю: у «Бібліі» напісана, што, стварыўшы свет, бог толькі пасля ўбачыў, што гэта добра. Значыць, і сам ён не ведаў, ствараючы свет, якім ён атрымаецца?! Як жа яму верыць пасля гэтага?

Вечарам, пасля адбою, Віня не знаходзіць сабе месца: нервовая весялосць апаноўвае яе, ёй хочацца ні то плакаць, ні то смяяцца... Дачакаўшыся, пакуль, прайшоўшы па спальнях, зачыніць дзверы дзяжурная выхавацелька, яна ўстае і, захутаўшыся ў коўдру, ціха брыдзе паміж ложкамі.

Вера адкрыла вочы і нейкі час узіраецца ў Віню — непрыгожы твар яе, зменены цемрай, здаецца пяшчотным і прыгожым. Стася, каратка зірнуўшы, адварочваецца да сценкі — злуецца за свайго Германа. Астатнія спяць.

Светла. Блакітна-лімонны дыск месяца вісіць насупраць спальні, і празрыстыя цені імкліва бягуць па ложках, струменяцца па сценах. Ударыў мароз, на шкле выраслі слабенькія ледзяныя ўзоры, і здаецца, што яны варушацца: калі прыглядацца да іх, то там то тут успыхваюць іскрынкі.

— Вінька, ты што там стала, як лунацік? — сонна кліча з кутка Яня.

— У нас гавораць — «памесяўнік»,— нібы толькі чакала, каб уступіць у гаворку, шэпча Вера.

— Перастаньце перашкаджаць, толькі засынала — зноў гаворкі! — паварочваецца Стася.

— А ты нешта стала суровая, Стасечка,— крыш-

ку ўзвышае голас Вера.— Затое і Антоля цябе больш любіць пачала.

— Антоля нікога не любіць,— спакойна адказвае Стася.

— Але ж столькі працуе, і ніхто яе не вытурыць! — ускоквае на ложку Яня.

— Як могуць яе вытурыць? У яе стаж вялікі і дысцыпліна ў групе самая высокая.

Віня прысаджваецца на крайні ложак, каб паслухаць, і сама ўступае ў гаворку:

— Савацея неяк гаварыла, што адзіны сродак выбавіцца ад Антолі — адправіць яе на пенсію.

— Адкуль ты ведаеш?

— Паведамілі!

— А, ты падслухоўвала!

— Падслухоўвала, Стасечка! Можа, ты мне забароніш? Альбо данясеш?

— Віня, ты ашалела ў апошні час. Усе гэта заўважаюць.

— Не сварыцеся, дзяўчаткі! — ласкава гаворыць Вера.— І што далей, Вінечка?

— Яна з завучам пра мяне гаварыла: «Усіх канфліктаў з Рыжык не было б, калі б Антоля Іванаўна болей любіла дзяцей». А пасля пра тое, што Антолю немагчыма звольніць. Кажа: «Добра было б, калі ў педагогіцы нашай увялі графу: «любоў да дзяцей».

— Значыць, яе няма за што звальняць? — злуецца Яня.— Калі мама прыязджала, яна назад яе адправіла, а да мяне ў ізалятар не пусціла!

— Ты хворая была? — успамінае Вера.

— Яна нарабіла гвалту, што я інфекцыйная, а ў мяне проста была тэмпература. Мама тры дні тут жыла, а яна ж у мяне інвалід...

— А помніце, як Толік ёй кнопачак у стул насадзіў? — смяецца Віня.

— Нічога яе не бярэ! Зад у яе жалезны. За столькі гадоў скамянеў! — фыркае Яня.

— Ад вас скамянее, мае мілыя! — ад гэтага голасу ўсе з жахам глядзяць на дзверы. Там сапраўды стаіць Антоля Іванаўна, якая прыйшла на начное дзяжурства па інтэрнаце. Чорная сукенка ледзь не трашчыць ад яе магутнага бюста, пульхны твар палымнее ў святле, што падае з калідора. Дзяўчаты хаваюцца пад коўдры. Віня таксама. Але, калі ўжо і пайшла Антоля Іванаўна і дзяўчаты паснулі — ёй усё роўна не спіцца.

«Ну добра, я ЁЙ не патрэбная,— думае яна пра тую, якая падкінула яе да дзвярэй дзетдома.— Але ж апроч маці ў мяне павінна быць бабуля. Можа, цётка і дзядзька. Яны, магчыма, адзінокія, ім я падышла б як прыёмная дачка. Увогуле, недзе ж жывуць мае родныя. А ЯНА ім нічога пра мяне не сказала. Проста ўзяла, загарнула ў пялёнку і прынесла — выкінула. І цяпер ніхто, ніхто не ведае пра мяне. Можа, мая цётка ўзяла сабачку? Можа, маёй бабулі няможацца — я магла б мыць у яе падлогу, гатаваць. І яшчэ недзе жыве мой бацька, а ў яго таксама цэлая плойма радні. І ніколі, нічога я не даведаюся пра іх — пра іхнія твары, звычкі, нават сваркі... А ЯНА? Няўжо ЯНА ніколі пра мяне не ўспамінае? Яна ж — злачынца. Хай бы сама кінула мяне — але ж яна адабрала ў мяне ўсіх родных... Цікава, ці падобная я да яе? Да каго я падобная — да дзеда, прабабкі?»

Ёй млосна і горача; здаецца, у спальні не хапае паветра. Ногі млеюць, рукі таксама робяцца гарачымі і плаўкімі. Тады яна зноў устае і паволі выходзіць са спальні, кіруючыся наверх, у рабочы пакой, натужна ўглядаючыся, ці не пакажацца дзе ўсюдысная Антоля Іванаўна. Але той няма — відаць, так-

сама стомлена спіць дзе-небудзь у кутку, на канапе.

Месяца цяпер не відно — ён схаваўся за старым касцёлам, які стаіць у канцы вуліцы. А цяпер здаецца, што касцёл стаў вялізнай выразанкай, з чорнымі завіткамі па баках, з чорным трохкутнікам даху. Неба пачало святлець, і над адным з завіткоў пераліваецца зазыўная калючая зорка, так што на шкле ад яе разыходзяцца блакітныя праменьчыкі. У рабочым пакоі цёмна і таямніча, Віня не асмельваецца запаліць святло, а навобмацак ідзе да свайго месца, шукае аловак і, заціснуўшы ў руцэ чысты ліст школьнага сшытка, узбіраецца на падаконнік, дзе святлей і дзе можна, крыху напружваючы зрок, разбіраць на паперы самыя дробныя рысачкі. Віня ліхаманкава крэмзае паперу, а рукі яе яшчэ болей наліваюцца цяжарам, і ў вачах пачынаюць плаваць светлыя колцы. Шоргат у кутку прымушае яе ўзняць вочы — і ліхаманкава глынуць сліну: адтуль нячутна набліжаецца невысокі чалавечак, увесь у чорным, з чырвонымі трахомнымі вачамі, што гарэць нядобрым, д'ябальскім бляскам. Задаволена ўсміхнуўшыся жаху, з якім Віня адхіснулася назад і ўліпла ў сцяну, ён спыняецца непадалёк.

— А ты ведаеш, што, каб нарадзіцца, трэба спачатку памерці? Чалавек нараджаецца двойчы... А ты замахваешся... Ты ведаеш, на што ты замахваешся?

— Я ні на што не замахваюся... Я толькі хачу, каб я была некаму патрэбная! — Віні хочацца вымавіць адказ, але вусны яе бязгучна варушацца.

— Толькі? Усяго толькі? Гэта так нямнога, ты думаеш? — здзекуецца чалавечак, насмешліва ківаючы вялікай галавой.

— Ва ўсіх жа нехта ёсць... Нехта ёсць... Чаму няма ў мяне?

Віні толькі здаецца, што яна гаворыць. Але тра-

хомны чалавечак разумее яе і так. Ён хіхікае, і доўгі ягоны нос неяк крывіцца набок.

— Ах, яна нічога не ведае! Яна не ведае: каб нарадзіцца, трэба памерці? Памерці!

— Я не разумею, пра што вы гаворыце.

— Але паводзіш сябе ў адпаведнасці з маімі словамі. Ты прыйшоўшая... ты прыйшла... Для чаго? Прыйшла, убачыла, перамагла? Так проста? Хочаш, каб усё так проста?

— Я не разумею, я нічога не хачу — ні бачыць...

— Ні перамагаць? Памыляешся! Ты хочаш перамагаць. Перамагчы! Пакуль што ты толькі — прыйшлая... Пакуль што... Але — памерці! Паглядзім, паглядзім!

Антоля Іванаўна праз сон пачула нязвыклы грукат і, сонна пазяхаючы, паднялася ў рабочы пакой. Пасля, вохнуўшы, яна патупала ўніз, пальцамі зрываючыся з дыска, набірала нумар «Хуткай дапамогі». Урач, выкліканы ў інтэрнат, паслухаў трызненні Віні Рыжык, памацаў яе гарачы лоб.

— У машыну! — загадаў ён коратка. Ужо садзячыся побач з шафёрам, прыадчыніў дзверцы і сурова сказаў выхавацельніцы: — Дзяцей голымі не пускайце на двор. Мароз, а яны,— ён павёў вачыма на ўстрывожаную купку Віініных аднакласніц, не дагаварыўшы, махнуў рукой і моцна грукнуў дзверкай «рафіка».

— Венька ад страху захварэла! Заўтра яе Антоля да дырэктара хацела валачы! — пачулася з купкі, і Антоля Іванаўна сурова закрычала на дзяўчынак:

— Зараз жа ў спальню! Зараз жа, п'яўкі вы ненаедныя!!

— Ого! Як яе разабрала! — рагоча Яня, першай кідаючыся да памяшкання.— Баіцца за свой аўтарытэт!

— Думаеш, я не пазнала твой голас, Сапега? —

пагрозліва крычыць услед выхавацельніца.— Мы яшчэ заўтра пагаворым! Паглядзім, хто з нас можа распускаць язык!

Але абвостраны здарэннем слых яе разбірае, як Стася ціха гаворыць, ідучы перад ёй:

— Пашанцавала шасцікласнікам! Вунь як Лідзія беражэ...

— Лідзію Паўлаўну нам бы! — адказвае Вера і, азірнуўшыся, шэпча: — Ціха вы!

Антоля Іванаўна да раніцы сядзіць у рабочым пакоі. Здаўшы дзяжурства, яна, як ратуючыся, бяжыць на прыпынак і доўга чакае аўтобуса, каб пасля, натужна дыхаючы, уваліцца ў сваю кватэру, дзе муж, збіраючыся на работу, уважліва завязвае гальштук перад люстрай і вітаецца з жонкай невыразным: «М-м-м». Антоля Іванаўна распранаецца, мышкай лезе на ложак, але, ледзь дакрануўшыся галавой духмянага, прахалоднага палатна падушкі, пачынае ўсхліпваць.

— Я іх баюся... баюся! — паўтарае яна праз усхліпы.— Ад іх вечна чакай нейкай каверзы. Яна назло мне захварэла! А я ж стараюся. Я так стараюся...

— Я табе заўсёды гаварыў: нашто пайшла ў педагічны!

Муж узвысіў голас. Ён не цярпеў падобных «выкрутасаў», яму трэба спяшацца.

— А што мне, на завод ісці? У твой хімічны паступаць?!

— У бібліятэчны пайшла б!

— А надбаўка за стаж?! Хіба я мучылася б столькі гадоў! А я мучылася!

Муж запальвае канфорку, ходзіць па кухні, нешта мармычучы, і гэта пакутліва, таму што і тупат, і голас яго, і раздражненне — адчужанае, як бы здалёку. Гмах, які столькі гадоў узводзіла Антоля Іванаўна, ствараючы сваю дамашнюю крэпасць, тра-

шчыць, пагрозліва асядае, яна адчувае тое ўсёй скурай; работа ж нагадвае ёй таксама механізм, які гады і гады працаваў нястомна і наладжана, а цяпер, за два гады да пенсіі, пачынае рыпець і запінацца. Яна прагнула пенсіі, як іншыя прагнуць павышэння, але бясконцыя размовы пра пенсію бязмерна раздражнялі мужа, таму што ён уваходзіў ва ўзрост, калі ў мужчын нараджаецца пратэст супраць роўнай жыццёвай плыні, і яны прагнуць узнавіць маладосць, нанова даказаць сабе, што жыццё яшчэ не канчаецца... Чалавек, што жыў побач з Антоляй Іванаўнай, быў яшчэ маладжавым, гладкім і поўным сіл, і раман з маладзенькай афіцыянткай узвышаў яго ва ўласных вачах... таму цяпер ён, пільна прычасаўшы шавялюру і апырскаўшы яе «Трайным» адэкалонам, задаволена панюхаў паветра і задаволена выйшаў з кватэры, напружваючы для спартыўнай паходкі караткаватыя, тлустыя ногі.

А жонка доўга плакала на духмянай падушцы, драпаючы мярэжку і пачуваючы сябе старой, непатрэбнай, і ў каторы раз шкадавала, што некалі не захацела дзіця...

* * *

Віня ляжала на вузкім, рыпучым бальнічным ложку, і бледная бяскроўная шчака яе, торгаючыся па накрухмаленай падушцы, драпалася аб высахлыя шматкі крухмалу, а малая дапытлівая душа блукала каля берагоў Стыкса, не прымінаючы кветак асфадэлу,— суровы замацярэлы Харон маўчаў, прадчуваючы хуткую мыту за праезд. Грукатала навальніца, сілы Цемры і Дня дужаліся зацята і непрымірыма, таму што хто ведае, чым можа абярнуцца ў будучым малая чалавечая пясчынка, кінутая на вагі? Раз за разам прарок Ілля, выціраючы мокрую бараду і

ўспатнелы лоб ільняной хусцінкай, кідаў маланкамі ў глухое лясное возера, і кожны раз з цёмнай кіпячай глыбіні несліся енкі і пагрозы, ажно пакуль самая разгалінiстая, самая асляпляльная, у колькі тысяч вольт, не разадрала неба ад краю да краю і вухнула так, што стогадовы дуб на беразе аглух, а ў возеры стала ціха і неяк самотна, як у хаце, пакінутай гаспадарамі. Вось тады, завіваючыся клубамі, таропка папоўз у лясныя нетры туман, пабеглі прэч напоеныя бурай аблокі, на ўсходзе засвятлела, а тонкая, гнуткая душа пасляшалася прэч, закрываючыся ад Харонавых праклёнаў, і паслухмяна нырнула ў худое, гнуткае Вініна цела, ад чаго тое, як глытнуўшы паветра, затрапятала і ажыло.

Дзяжурная медсястра задаволена хмыкнула і пайшла за шпрыцам, каб увесці ў паколатую, крыху распухлую руку чарговую порцыю глюкозы. Яна шкадавала дзяўчынку і дзеля яе пайшла на службовае злачынства, дадаўшы ў шпрыц дадатковую ампулу; гэтую ампулу яна адабрала ў Сірэны з трэцяй палаты, якая, толькі што прачнуўшыся і не паспяваючы да прыходу ўрача начасаць блакітныя патлы, не ўпільнавала таго...

О ранішняе святло — ружовае, нясмелае напачатку, што павольна плыве ўверх па вільготным празрыстым шкле, а пасля, узрываючыся пратуберанцам, урываецца ў жытло, прасвечвае вочы, пранізвае цела, ад чаго ў крыві ліхаманкава пачынаюць набіраць моц жыватворныя чырвоныя цельцы! О ранішняе святло, што размыкае капканы кветак і здымае пячатку маўчання з вуснаў! Словы, што гаворацца ў начы, нараджаюцца не выпадкова; трывожнае ці таямнічае, цёмнае або вешчае — усё роўна слова служыць Дню. Гіпнос абыходзіцца без слоў. Геката таксама.

Слова кідае ў бітву і выкідвае з агульнага кола,

успыхвае ў свядомасці ўспамінам і ўгрызаецца ў сэрца неспакоем пра будучае. Не абмытае ў купелі мовы з першых жа дзён зямнога свайго існавання, ніколі не спасцігне дзіця, а пасля і дарослы, яе цуда, застанецца па-за чалавецтвам.

...У Віні ёсць Святло і Слова. Яно сыходзіць з вуснаў медсястры, якая ўжо сабрала тэрмометры і замкнула на ключ шафу з медыкаментамі, паколькі да запаветных дзевяці гадзін з кожнай хвілінай робіцца ўсё меней. І Слова таксама робіць сваю справу: яно, зачапіўшыся за нейкі пробліск у свядомасці хворай, паціху выцягвае з хаосу саму свядомасць.

— Ажыла, мая галубка, бедненькая ты мая!

Пробліск — інтанацыя, з якой гаворыць медсястра. Менавіта так, з той жа пяшчотай, гаварыла некалі, у даўнія незапамятныя часы дыктарка радыё. Віня была тады немаўляткам, яна паслухмяна ляжала сярод такіх жа, як і яна, гаротнікаў — падкідышаў, крапіўнікаў, якіх адцураліся маткі — і сірот, якіх прывозілі ў Дом дзіцяці ледзь не штодзённа. Трыццаць паўзункоў вольна гарлапанілі на розныя лады, хто маўчаў — а над усімі гаманіла радыё, якое ўключала маладая нянечка, адпачываючы ад турбот службы. Вечарамі ў Доме іх заставалася трое і яшчэ вартаўнік. Буйна цвіў пад вокнамі бэз, распараныя нянечкі какетліва перакідваліся жартамі з сэрцаедамі суседняй вайсковай часці, а ў пакоі шчабятала дыктарка, і ласкавы, нізкі яе голас слухала няўцямна і салодка ўсміхаючыся, трохмесячная Віня. Голас дыктаркі быў для яе голасам самога чалавецтва, якое любіла яе, чакала і ласкава заклікала да нечага. І гэтую лагоднасць свету з гадамі не перабіў рэзкі, дужы голас нянечкі. Калі тая ўлятала ў пакой і, кідаючыся пялёнкамі, парадкавала малых, Віня ўпадала ў спячку, і малюсенькую, кволенькую яе свядомасць абміналі нянавісць і раздражненне. Цяпер

жа свет зноў лагодна клікаў яе, і яна паволі ўсплывала на паверхнасць, паддаючыся звыкламу счапленню гукаў, фарбаў і прадметаў.

— Ажыла, дзякуй богу.. Сірацінaчка...

Голас, што спачатку быў маленькім і вострым кручком, ператварыўся ў гіганцкае покрыва, якое, апусціўшыся на Віню, мякка загушкала яе, а пасля, узляцеўшы, звужэла да памераў серпанціну — і вось серпанцін рассыпаецца — Віня ўзышла ў рэальны свет, дзе голас адразу ж стаў звычайным, не надта дужым намаганнем раскалыхаць яе.

Медсястра, якая дзяжурыла праз кожныя суткі, паспела да драбніц вывучыць і дыягназ, і анамнез Віні (і сапраўднае і мінулае, якое давала ўрачу надзею на будучае), знаёмым было ёй і цела дзяўчынкі — худое, касцістае, і твар яе, які не раз сінеў ад удушша. Таму і радавалася яна прастадушна, пабабску, бо не думалася нікому ў бальніцы, што выжыве дзетдомаўская. Віня ж, смутны пагляд якой святлеў з кожным імгненнем, намагалася спасцігнуць прычыну нечаканай ласкавасці незнаёмай кабеты, як і прычыну свайго з'яўлення ў бальнічнай палаце. Ружовы першатворны прамень — вястун будучага дня — адчуваецца яе плоццю як цяжар. Салатавы колер сцяны здаецца моцным і раздражняльным для вока, што доўга блукала ў падзямеллі. Віня са здзіўленнем углядаецца ў навакольнае. Памяць падказвае зведанае, называе паняцці — белая тумбачка, зялёная сцяна, ранішняе святло,— а пагляд і разбуджаная нядаўняй блізкасцю нечага інтуіцыя адчуваюць, як задыхаецца дрэва пад белай фарбай, як раўнадушна глядзіць на пакуты халаднаватая, надменная сцяна і як закіпае ў жылах далёкае, цьмянае марыва чырвані. Нясцярожлівы слых яе прымае, абмацвае голас медсястры, расцірае яго, нібыта шукаючы прымес горычы,— і не знаходзіць яго. Тады яна ўсмі-

хаецца, і гэтая ўсмешка — канчатковае яе вяртанне, хаця тайнае веданне не пакідае яе ўвесь дзень, і яшчэ дзень, і ноч, і наступную ноч.

...Здзіўленне перад светам, якое было ўжо пакінула яе, як пакідае большасць з нас,— яно ўсё ўзмацнялася, так што часам ёй хацелася стагнаць ад вялізнага наплыву, што тварыў з ёю кожны дзень, а яшчэ болей — ноч.

Ночы яна цяпер чакала з нецярпеннем. Ішло на восень, і захад разгараўся ўсё больш злавесна, малінавыя палосы разразалі цёмна-сінія аблокі, у якіх, здаецца, хавалася цемра, якая паступова глытала, глытала чырвонае, і калі ад яго заставалася вузенькая стужка, цёмна-сіняе пачынала напаўзаць — непрыкметна, неадступна. Бледнае дзённае неба гусцела, стужка чырвані нібы выгарала на вачах, жаўцела, затым зелянела — і раптам першая вячэрняя зорка праклёўвалася на гарызонце — калматая, непадступная... Віня клалася на спіну, вочы яе прагна льнулі да сінявы, з якое вострымі тонкімі праменьчыкамі пырскала зорка, ажно пакуль зялёнае, сіняе, жоўтае, а болей за ўсё чырвонае кругаверцю не абрушвалася на яе, і яна ўся аддавалася феерверку фарбаў. А пасля, спустошаная, зноў глядзела ў акно, і густыя гронкі сузор'яў паволі перамяшчаліся ў прасторы, ад чаго вялікае супакаенне авалодвала ёю, і яна моцна, як пасля работы, засынала, падклаўшы пад галаву накрухмаленую падушку.

Паступова яна пачала пазнаваць сузор'і, прыдумваючы ім свае назвы і разглядаючы самыя маленькія зорачкі. Вось гэтая, Палярная зорка (яе адзіную Віня ведала дакладна),— блакітнаватая, невялічкая, а прымушае круціцца вакол сябе і тую вялікую белую (Вега) — што замыкае плоскі калчан, і тоўстую жоўтую ў пяцікутніку (пасля па карце яна пазнае Капэлу ў сузор'і Возніка) і ўсе іншыя — аранжавыя,

чырвоныя, бледна-жоўтыя, назвы якіх на ўсё жыццё пасля будзе вымаўляць з асалодай, нібы на смак спрабуючы,— Мі-цар, Ан-та-рэс, Аль-дэ-ба-ран...

Акно стала для дзяўчынкі светам, які забіраў усе дрыготкія яе сілы. Не толькі відовішча бяскрайнасці над галавой — яно давала Віні найтанчэйшыя адценні кожнай пары, ды што там пары — гадзіны, хвіліны нават! Перад яе вачыма праходзілі павольныя поры года, разгортваючы, дзень за днём, свае фарбы і настроі; жнівень, калі жоўкла лісце бярозы і па начах бухаліся ў траву яблыкі, а раніца крамянай прахалодай дыхала ў фортку; кастрычнік, калі на бальнічных сотках палілі бульбоўнік і сіняватая смуга праглядвалася паміж дамамі — далёка, няўлоўна і самотна; студзень, калі абледзянелыя галіны клёнаў хістаў свістун-вецер і карычнева-чырвонымі водбліскамі заходу адсвечвалі ствалы. Процьма адценняў была ў кожным дні, і яна збірала іх у памяці: тады, калі яна ачуняла ад трохдзённай блакады прамедолам, быў марозны, скрыпучы дзень і ружова-шэрае марыва апусцілася да самай зямлі, ад чаго сінія і белыя дымы заводаў ледзь праглядаліся...

Калі ёй рабілі першы ўкол новага лякарства, ліў дождж і жоўтая гліна каля ганка была яркай, сакавітай і хапала за ногі прахожых, так што яны моршчыліся і відавочна лаяліся...

Самым дзіўным і прыцягальным быў чорны колер — можа, таму яго ў бальніцы старанна выганялі адусюль. Ён быў Нічым і Нечым, ён быў першатворным Хаосам, Ценем, Таямніцай, і ён быў самым прасамоўным і магутным; упаўзаючы ў палату, ён надаваў усім іншым колерам і прадметам сваё адценне і форму; белая тумбачка плавілася, круглела, светлыя металічныя пруты ў ложку чарнелі і выцягваліся ў струнку, зеленаватыя сцены зыбаліся, дрыжалі

пералівамі аконнага шкла... А самае галоўнае — толькі чорны колер валодаў здольнасцю перадаваць унутраную структуру прадмета. Віня не магла зразумець магутную сілу рысы, якой абводзіцца прадмет, выдзяляючы ў ім самае важнае, самае патаемнае, але адчувала гэтае патаемнае ўсёй істотай... Адчуванне было салодкім і балючым, таму што напружанне нібы вычэрпвала ўвесь маленькі запас яе сіл і доктар гняўліва крывіў маршчыністы твар, чытаючы тэмпературныя крывыя, якія пагрозліва выгіналіся ўніз.

І ўсё ж ёй лягчэла, так што набліжаўся дзень, калі яе павінны былі перавесці ў агульную палату. Віня баялася зруху, ёй не хацелася губляць адзінокія вечары, калі яна адчувала сябе часцінкай мудрага Сусвету, калі люляла яе бязмежная гармонія быцця. Дзікавата, спадылба глядзела яна на будучых сваіх суседак па палаце — Сірэну, што, павільваючы магутнымі клубамі, бухала на Вініну тумбачку вялізныя кавалкі бісквітаў, Любімаўну — жвавую прыветную бабулю, што сыпала словы, як мерзлыя журавіны з кошыка — буйна і хрумстка. Яна баялася спачування — даўкага, як смак чаромхавых ягад, надаеднага, як звон камара. Не праходзіла дня, каб нехта не зайшоў у палату. Любімаўна прыносіла вясковай каўбасы, прысеўшы на тумбачку, старалася разгаварыць маўчальніцу:

— Ці помніш, я пра Югу табе ўчора казала? Дык пытаюцца ў дзяўчыны браты: «Дзеўка, чаго гэта ты такая худая, ці табе хлеба мала, ці чаго?» (Во, якраз як пра цябе.) А тая ім у адказ:

— Ай, дзядзенькі, не ведаеце вы...

— А што?

— Ды як вы пойдзеце толькі, а ка мне баба прыедзець, нейкая Юга, ды йшчэ ў яе зялезна нага, на зялезнай ступе едзець, зялезнымі таўкачамі пага-

няець, і нукаець, і панукаець. Прыйдзець да кроў маю цягнець, ссець!

— Любімаўна, зноў вы дзяўчыне гемаглабін паніжаеце! — дакарала медсястра Ганна Іванаўна, заглядаючы ў палату.— Што вы ёй пра Ягу? Вясёлае б што-небудзь...

— Саўсім іссохла дзеўка адна — сычас мы яе на ногі паставім! Без тваіх гамалабінаў. Давай да нас яе скарэй, Іванаўна! Гля, ужо пасмейваецца...

— Здаецца вам, Любімаўна.

— Можа, і здаецца. Ну, дачка знаходная, спі сабе, покі што...

Уздыхнуўшы, Любімаўна кульгікала да дзвярэй, на хаду перавязваючы белую хустку, з-пад якой выбіваліся рэдкія сівыя космы.

Сірэна (клікалі яе Рэняй, але прозвішча Сірэны прыліпла да яе адразу ж, як толькі яна з'явілася ў палаце) старалася надаць сваёй магутнай хадзе жаночую плаўнасць, ад чаго мела грацыю бегемота, закаванага ў нажныя кандалы. Блакітныя яе валасы былі ўкладзены ў стог, ззаду стог падпіраў паласаты бант. Новы бальнічны халат мужна вытрымліваў напор трапяткіх грудзей, кожная з якіх напамінала Віне крыху паменшаны планетарый.

Сірэна была прадаўшчыцай у магазіне, але ніхто з яе кліентаў, нават тыя, каго яе апошнія, у спіну, блаславенні прымушалі глытаць трайныя дозы карвалолу, не пазналі б яе цяперашнюю. Зычлівасць, што не вымагалася службай, рабіла яе ласкавай да свету, святлом бескарыслівага служэння дабрыні запальвала яе круглыя шэрыя вочы.

— Хочаш, уключу радыё? Муслімчык спявае...— працягла гаварыла яна.— Спакуса, а не мужчына, ц-ц! Толькі ногі худыя!

Усе размовы Рэня зводзіла да мужчын. Яе перыядычная класіфікацыйная табліца другой паловы ча-

лавечага роду прымусіла б паселянець ад зайздрасці Дарвіна або Мендзялеева. Эканамічныя, этычныя і хімічныя якасці любога мужчыны яна вызначала імгненна, па ледзь улоўных прыкметах, і тут жа ставіла яго на належнае месца ў сваёй табліцы.

— Хопіць дурыць ёй галаву гэтымі нагамі і галасамі! — заглядаючы ў палату, уступалася за Віню Ганна Іванаўна.— Яна ж дзіця яшчэ... І не трэба ёй радыё — цяжкавата ёй, беднай, музыку слухаць.

— Музыку? — недаверліва перапытвала Сірэна.— Ну, вы скажаце! Мой муж прыпадачны, і той як паслухае песню — цішэе. Такая ёсць пласцінка — «Балера», дык ён слухае, слухае гэтую балеру, а тады галаву на рукі — і плача. Што хочаш тады яму кажы — змоўчыць. Я неяк пад настрой пытаю: «Што табе, Пеця, у гэтай балеры? Адно і тое ж — паўгадзіны». А ён мне кажа: «Думаю пра пустыню і радуюся, што ёсць яна на свеце». Ну, не дурні гэтыя мужыкі?!

Віня стомлена апускала вейкі. Дрымота навальвалася на яе адразу, як толькі Рэня пачынала гаварыць, але яна яшчэ дужалася з санлівасцю, каб не падацца зусім ужо няветлівай. І ўсё ж здранцвенне паступова адольвала яе, налівала цяжарам галаву і вейкі. Віня не здагадвалася, што гэта адтуль, з Дома дзіцяці, ішоў неўсвядомлены пратэст хваравіта чулай істоты супраць усяго, што пагражала яе раўнавазе ў вялізным, зыбкім свеце. А можа, перасцярожлівасць, учэпістасць да жыцця абудзіліся ў ёй яшчэ тады, калі ў цьмяным хаосе мацярынскага чэрава перадаваліся зародку нядобрыя да яго, варожыя імпульсы, і ён адчайна супраціўляўся ўсяму, што магло знішчыць яго. А можа, яшчэ глыбейшай, зусім ужо атавістычнай была гэтая дзіўная Віміна якасць — з тых часоў, калі земнаводныя яе продкі дранцвелі ў прадчуванні смяротнага зімовага холаду...

Як бы там ні было, Сірэна адступала. Праўда, поле бітвы заставалася за ёю: тэма «Муслімчык» не абсмактана, і, значыць, душа Рэні ані не супакоіцца, пакуль не выплесне з сябе ўсе пачуцці, што валодаюць цяпер яе бурнай натурай.

І калі Сірэна адыходзіць, застаюцца: тонкі, ледзьве чутны піск дзвярэй, падобны крыку лятучай мышы, калі яна ў паўзмроку праносіцца над галавой, кіруючыся найтанчэйшым павуціннем вібрацыі; празрысты пах лекаў, што намёртва ўціснуўся ў структуру дрэва і каменю, лінолеуму і пластмасы; адчайны танец залатых пылінак пад азоранымі сонцам павекамі — часцінка свету, які ярасна трымае яе, Віню Рыжык, у сваіх абдымках, які хоча, каб яна ўбачыла ўсе ягоныя дзівосы і таямніцы, каб паспытала мёд і горыч яго, ласку і няміласць, які нечага чакае ад яе. Чаго? «Недарэмна ж я прыйшла на зямлю,— думае Віня.— Не таму ж, што мільярды атамаў выпадкова выпалі ў самай спрыяльнай для мяне камбінацыі. Не выпадкова!»

Усім сваім чэпкім, абвостраным пастаянным роздумам, успрыманнем яна спрабавала разабрацца ў законнасці з'яўлення свайго тут, у старажытным горадзе з вузкімі сярэдневяковымі вуліцамі, з зелянінай карычневых таўшчэзных дрэў; законнасці і праве — нягледзячы на яўную непатрэбнасць — для той, хто выкінула яе са свайго жыцця, са сваёй памяці,— для таго, хто, магчыма, нічога не ведаў пра яе існаванне, а можа, і не хацеў ведаць...

Яны маглі быць толькі носьбітамі магутнай сілы тварэння яе, Віні, і як простыя носьбіты не несці ў сабе ведання пра яе. Але тая, вышэйшая, дзёрзкая і бясконцая, сіла, якая патрабавала да жыцця яе худое, касцістае цела і самае вялікае цуда — жывое пазнанне сябе самой,— т а я  в е д а л а...

А часам, калі яна ляжала, гледзячы ў агромністае

чорнае кола над сабой, што павольна перамяшчалася, раўнадушнае і свабоднае, яна задыхалася ад вострай здагадкі, што яна, Віня, усяго толькі непрыкметная, выпадковая (зноў гэтае страшнае слова — выпадковая) пясчынка, госць, які бесклапотна карыстаецца бясцэннымі гаспадарскімі рэчамі, пакуль... пакуль не паклічуць яго дадому, у чорнае бяздонне... Цемра паступова ахоплівала яе ўсё шчыльнейшым колам, і вялізны жаль да сябе, да людзей, чый век кароткі, як бліскавіца, апаноўваў яе; часта яна прымалася плакаць, а пасля нечакана засынала.

Паступова яна пачала думаць пра інтэрнат. Раней варта было ёй задумацца аб усім, што папярэднічала хваробе, як свядомасць ставіла паміж ёю і ўспамінамі цвёрды заслон; цяпер, калі так многа было спасцігнута, передумана, яна ўспаміналa пра Стасю, з ціхай радасцю — пра Яню, нават Антоля Іванаўна рабілася ў Віністых вачах ні то маладзейшай, ні то проста больш прывабнай.

З пяшчотай яна ўспаміналa стары дом. Драўляныя сцены яго, пафарбаваныя цёмнай малінавай фарбай, у самыя марозныя дні былі жывымі, пругкімі і пахлі смалой. І скрыпучыя лесвіцы, і вузенькія мансарды ўверсе, дзе жылі выхавацелькі, і высокія, у два чалавечыя росты, паўкруглыя вокны, дзе там-сям, побач з празрыстымі латкамі, чырванелі і сінелі сляды вітражоў, і пацямнелы стары паркет у піянерскай — усё гаварыла пра чужое, невядомае жыццё, пра людзей, што жылі, нараджаліся і паміралі ў гэтых сценах. На белых кафляных печах захаваліся польскія літары з невядомым словам «Магістрат», а два каштаны пад акном мелі гадоў па пяцьдзесят. Вясной іх пахучыя суквецці заглядалі ў рабочы пакой, а варта было падысці да акна, як ружова-белае воблака п’яніла неправўдападобнай радасцю чакання і дзікаватай прыгажосцю. А «церам», які стаяў насу-

праць галоўнага корпуса! Буйная фантазія архітэктара насяліла будынак макаўкамі, святліцамі і шырокіміараднымі лесвіцамі, якія прысталі б хіба палацу, але дзятва з радасцю коўзалася па патрэсканых мармуровых поручнях і з віскатам вылятала з каменных падзямелляў, калі замок заўхоза быў не зашчоўкнуты на закаваных у жалеза дзвярах. У «цераме» была сталовая і жылі малодшыя, якія прабіраліся ў сталовую па доўгім пахмурным калідоры, каменныя сцены якога не весялелі ад лімонна-жоўтай штукатуркі, старанна наляпанай на столь. Затое памяшканні тут таксама былі драўлянымі, з высокай столлю, і ў спальнях лёгка дыхалася нават прахалоднымі асеннімі вечарамі, калі малыя абтыкаліся коўдрамі і баяліся ступіць босай нагой на драўляную падлогу, якая, мабыць, адчуваючы аголенасць сваіх сябровак пад акном, ледзянела і кідала ў дрыжыкі самых бясстрашных.

Вокны «церама» выходзілі на Гараднічанку, на будучы мост, і таму ён быў шчыльна абгароджаны парканам, а дзецям строга-настрога было забаронена ісці ў школу напрамкі. Асвянцоны шлях віўся сцяжынкай уздоўж Гараднічанкі да скверыка, з-за неправўдападобна густой зяляніны якога не бачна было галоўнай вуліцы, выбягаючы на якую, трэба было ізноў паварочваць направа, каб апынуцца насупраць «церама», толькі па гэты бок Гараднічанкі. Таму, у абыход самых суровых правіл, кожны дзень хто-ніхто ды ляцеў на глiністым беразе ў рачулку, а пасля таропка сушыў змакрэлыя калашыніны, мазюкаючыя белы кафель шляхетнай печы...

Буйны тупат згаладнелай ватагі да спакусліва цёплай сталовай, да знямогі рэзкі і жаданы смак першага кавалка хлеба; адшліфаваная да гладкасці тэлескопа ледзяная горка на двары, імгненны рывок з якой абарочваецца галавакружнай спіраллю вакол

уласнага цела; белы іскрысты куст над рачулкай, што асыпаецца пад ударам лыжнай палкі; буйны вясенні дождж і бег па вязкай спяжынцы пад доўгімі прахалоднымі струменямі — усё ўспаміналася Віні рэзка і ясна, і яна дзівілася таму, што падзеі тыя нібыта і не знікаюць з часам, нібыта яны жывуць — толькі ў іншым вымярэнні, і кожнае імгненне звязана не толькі з тым, што было тады, але і з тым, што адбываецца зараз з ёю, нібы ўсё перажытае накладвае на імгненні былога свой няўлоўны адбітак.

Наступіў дзень, калі яе перавялі ў агульную палату. Пяць панылых ложкаў, з аголенымі пафарбаванымі ножкамі і панцырнымі сеткамі, стаялі ў адзін рад, пяты — паасобку, наводшыбе, ля акна. Халодны зімавей прабіраўся праз закітаваныя і заклееныя рамы, і ложак стаяў вольны. Ганна Іванаўна, што прывяла Віню ў палату, паспрабавала адваяваць для яе цяплейшае месца каля батарэі, але сама Віня ўзгарэлася:

— Не, не, я тут! Толькі тут!

— Нават — «толькі»? — здзівілася Ганна Іванаўна і падштурхнула Віню да ложка: — Эх ты! Усё хаваешся ад людзей? Вы тут хаця не крыўдзіце яе, бедную...— звярнулася яна да жанчын.— Глядзіце за ёй, Любімаўна, як за ўнучкай сваёй глядзелі б...

— Ды замірымся! — лагодна заспявала Любімаўна, якая, з нагамі седзячы на ложку, заплятала рэдзенькую сівую коску.— Мы яе тут не аслязім. Што пажалаець у тумбачках — хай возьмець, не баіцца. А то худая, бытта апантаная! Ці праўду я, бабанькі, кажу, а?

«Бабанькі» — даўгатварая, вастраносая Нэля Амбросімаўна, навуковы супрацоўнік нейкай загадкавай лабараторыі на хімічным камбінаце, і высокая, з шырока расстаўленымі карычневымі вачыма студэнтка Ліда — глядзяць на Віню: першая — нявін-

ным поглядам цнатлівай старой дзевы, другая — з лянівай зычлівасцю дзяўчыны да падлетка. Сірэна, што грудзьмі ўперад уплывае ў пакой, ставіць рэзюме:

— Яна нам усім за дачку будзе. Вот! Яна — нічыя, значыць, мы павінны пра яе клапаціцца. Чалавечае дзіця!

Віня таропка рассцілала ложак, як быццам не слухаючы размоў. Пажаўцелая прасціна ў сіняватых, празрыстых яе руках злёгку трымцела, і Сірэна сама схапіла прасціну:

— Ох, дзіця маё горкае!

Яна імгненна разаслала ложак, падторкнула коўдру, узбіла падушку. Рэчы льнулі да яе рук, відавочна, адчуваючы магутную напорыстасць гаспадыні.

— Кладзіся!

Дзяўчынка таропка нырнула пад прахалоднае, ледзь вільготнае палатно; яно чамусьці пахла — ледзь чутна — рыбінай, якую толькі што выцягнулі з вады. Пераход у палату і намаганне, з якім яна рванулася пад коўдру, знясілілі яе, і яна амаль адразу ж задрамала.

Прачнулася яна ноччу, з яснай галавой, як быццам і не спала. І першае, што загучала ў вушах чотка і нясцерпна,— словы Сірэны: «Нічыя...»

У першы раз яна зразумела іх па-сапраўднаму, усім сэрцам, гэтыя неверагодна жорсткія — і справядлівыя — словы, сказаныя проста, быццам гаворка ішла пра самае звычайнае.

Яна ўстала на каленцы і прыпала да акна. Сетка матраца зверавата пружыніла, ад чаго яе хіліла ў бакі, але яна ўчапілася за падаконнік і глядзела.

Тонкі, журботны серп маладога месяца стаяў высока над горадам, і празрыстае жаўтаватае святло яго абцякала цьмяныя сілуэты дамоў — не дасягаючы зямлі. На вуліцы панавала цішыня; адзінока свяцілася акно ў далёкім доме; цемра няроўнымі пляма-

мі, квадратамі і кругамі выгіналася ў прасторы, злавесная і няўлоўная. (Варта было самаму слабому воблачку засланіць маладзік, як яна ажывала, узмывала ўверх — а пасля неахвотна апускалася ўніз.) Глыбокая, бязмерная туга абрынулася на Віню. Людзі спалі і нічога не ведалі пра яе, пра кацяня, якое жалобна крычыць у пад'ездзе... «Ні-чы-я!» — рэхам коціцца па зямлі; коціцца па вузкіх, пругкіх сцяжынках, засланых хвояй; па дарогах, дзе ссохлыя каляіны трымаюць жмуты жоўтай саломы, што паволі раствараецца пад коламі, зліваючыся з карычневай глебай... Раней Віня не задумвалася над акаляючым. А яно было загадкавым, яно клікала на роздум, толькі не многія разумелі гэты кліч.

Вось, напрыклад, узяць чалавечы твар. Ён — самае няўлоўнае, таямнічае, тое, што больш чуйнае, чым, скажам, кветка, таму што самыя пяшчотныя пялёсткі трывала зафіксаваны ў прасторы хаця на гадзіну-дзве, а чалавечы твар, пры ўсёй закончанасці яго формы, пастаянна пераменлівы: вось павольна, як сонца над гарызонтам, узнікае на ім усмешка — і вочы ажываюць, святлеюць; вось ружовая фарба сарамлівасці ці ўсхваляванасці прабілася на шчокі — і імгненна цені каля вуснаў, на лбе перамяшчаюцца, як аблачынкі на небе — і зноў іншы выраз, другі як быццам твар. Не бачныя вокам хмурынкі — цені залягаюць пад вачыма,— і стомленасць праступае на твары гэтак жа неабвержна, як надыходзіць вечар... Шэрыя, ліловыя, жаўтаватыя, ружовыя — усе гэтыя фарбы спалучаюцца на твары, пераходзячы адно ў другое, мы мяркуем, што праз хвіліну бачым тое ж, што і раней...

Жменя сухога залацістага пяску, які няўхільна прасочваецца між пальцаў, імкнучыся зліцца з мільярдамі гэткіх жа — і зусім іншых пясчынак пад нагамі; абрыс густа-сіняй азёрнай хвалі, што ўспенена

імчыцца да берага, каб, ударыўшыся ў яго, пазелянець і адкаціцца назад, у бязмежжа; павеў саспелага жытнёвага поля, прынесены ў акно вятрыскам, які тут жа гатовы змяніцца на востранькі, дражнячы пах аеру,— вось што такое чалавечы твар. І як злавіць імгненне ў гэтым пераменлівым, няўлоўным свеце, як злавіць імгненне, каб разгледзець яго, прамацаць, каб разгадаць хаця часцінку цэлага, каб пасля па гэтай часцінцы ўзнавіць у памяці разгадку цэлага?

Віню дзівіла, што ніхто з дарослых не толькі не спрабуе разгадаць таямніцу цэлага, але нават і не думае пра яе. Здзіўляліся людзі часта: Сірэна, напрыклад, здзіўлялася штодзень — у асноўным каварству мужчын. Дзяжурная медсястра здзіўлялася цэнам на рынку, якія, паводле яе слоў, раслі да неверагоднасці, так што, як Віня ўрэшце падлічыла, жменя ягад павінна была адбіраць усю зарплату за месяц... Але, нягледзячы на гэта, медсястра часта хвалілася то новай кофтачкай, то японскім парасонам, якія яна купляла, хоць мела маленькую зарплату, а Сірэна ўсё з тым жа імпэтам імчалася да мужа, калі ён прыходзіў у наведкі, і персанал бальніцы расступаўся, калі яна кацілася па калідоры выставіўшы ўперад грудзі. Але задумвацца? Задумваліся мала, прынамсі, Віня амаль не бачыла, каб нехта сядзеў і думаў, толькі аднойчы малады ўрач доўга сядзеў каля яе, наморшчыўшы лоб над дзяжурнай картай, і вочы яго былі далёка-далёка адсюль. Можа, ён і праўда думаў над яе хваробай і ўспамінаў старонкі падручніка, а можа, думаў проста над запіскай, якую атрымаў ад былой сваёй аднакурсніцы...

Неяк позна ноччу Віня прачнулася ад няяснай трывогі. Яна сонна, яшчэ крыху няўцямна агледзелася. Усё, здавалася, было як звычайна: храпла Сі-

рэна, нешта мармычучы ў сне, раскідаўшы магутныя рукі, ціха, як мышка, дыхала студэнтка. Нэлі Амбросімаўны ў пакоі не было, але ложак яе быў раскалмачаны — значыць, яна адлучылася ненадоўга. Віня зноў паклала на падушку ацяжэлую галаву, але сон усё не ішоў, і яна, захутаўшыся ў коўдру, выйшла ў калідор.

Цьмяна асветлены адзінай лямпачкай над дзяжурным сталом, за якім было пуста, калідор, больш чым калі, нагадваў часы сярэдневякоўя, у якія была пабудавана бальніца: па выгінастай, рабрыстай столі, якая на працягу калідора ўтварала чатыры роўных чатырохкутнікі, блукалі трапяткія цені, і здавалася, што ад тоўстых каменных сцен і заштукатуранай столі павявае нечым пагражальным — як быццам муры гэтыя маглі раптоўна самкнуцца і назаўсёды затачыць у сябе ўсё жывое... Раней тут быў каталіцкі манастыр, і цяпер яшчэ з-пад аблупленай штукатуркі каля туалета можна было разгледзець пукаты каменны крыж, а ўнізе, проста ад склада, ішоў падземны ход, загароджаны жалезнай рашоткай і далей — масіўнымі дзвярамі, абабітымі жалезнымі палосамі.

Віня павольна пакрочыла па калідоры, і слых яе раптам выразна ўлавіў тое, што, відаць, неўсвядомлена і павяло яе з палаты: тоненькі жаночы плач, амаль віскат, які заціскаюць рукой і які міжволі вырываецца пад час істэрык. Яна паскорыла крокі і з усяе сілы рванула дзверы ўмывальніка. Блакітныя картонныя дзверцы сарвалі кручок, якім былі зачынены з сярэдзіны. Яркае святло разанула Віні па вачах, а ў наступнае імгненне яна ўбачыла, як імкліва ўскочыла з падлогі растрапаная жаночая постаць.

Нэлю Амбросімаўну было не пазнаць: халат на ёй вісеў доўгімі бруднымі палосамі, з-пад скамечанай

сарочкі былі бачны пачырванелыя лыткі, валасы звісалі пэтлахамі, нібы іх шкуматала нечая бязлітасная рука.

— Ну, чаго табе? — хрыпла спыталася жанчына, і вочы яе былі дзікаватыя, нібы яна ледзь пазнавала Віню і глядзела на яе з далечыні, недаступнай нікому. Цёмныя кругі пад вачыма рабілі твар яе падобным да старой, падслепаватай савы, якую знянацку асляпілі пражэктарам.

— Прабачце,— адступаючы пад ненавісным, дзікаватым гэтым поглядам, як ад вар'яткі, прамармытала дзяўчынка. Але пагляд Нэлі Амбросімаўны пасвятлеў, яна глыбока ўздыхнула.

— Ты мяне не палохайся. Няма чаго мяне палохацца. Гэта я палохаюся. Дый хто яе не спалохаецца!

— Каго? — наіўна запыталася Віня.

— Смерці! — і ўбачыўшы, што Віня здрыганулася, зларадна пацвердзіла: — Страшна, праўда? І дзіўна — пра што загаварыла! А яна ёсць — гаворым мы пра яе ці не гаворым! Ёсць! І зараз глядзіць на нас, пасміхаецца: вы сабе — жывіце, пладзіцеся, грызіце адзін аднаго — а ўрэшце, я згрызу вас, я буду апошняй інстанцыяй, якую вы будзеце прасіць аб літасці! Праклятая! — сказала яна ціха.— Я ніколі не думала пра яе, а яна вось прыйшла і забірае мяне, паціху забівае, і самае страшнае — што я пра гэта ведаю. Што ты так глядзіш на мяне? Ты, канешне, не ведаеш, што мне засталося жыць — месяцы, па крайняй меры, месяцы, тыдні, не гады! І вось я стаю на парозе і гляджу назад. І нічога не бачу там — нічога, апроч пакут, расчараванняў і надзей. Надзей на тое будучае, якога ў мяне ўжо не будзе! Навошта ж тады? Усё, што было,— навошта?

Яна падышла да ўмывальніка і, нахіліўшыся над белай бліскучай ракавінай, намачыла твар халоднай

вадой. Паношаныя, велікаватыя на яе нагах тапачкі шлёпалі па лінолеуме.

— Ты чула, малая, такі выраз: «мыслячшы трысняг»? Канешне, не — адкуль табе ведаць Паскаля? І дай бог не ведаць. Таму што калі трысняг пачынае разважаць... Уяві, што цябе звязалі так, што ты не можаш варухнуцца і нехта падыходзіць да цябе і пачынае казытаць нажом тваё горла, прычым ты не ведаеш, у які момант лязо ўсё ж паласне цябе па горле... Ты ведаеш дакладна толькі адно — што яно такі паласне... І ты ведаеш дакладна і другое — ніхто, ніхто ў цэлым свеце табе не зможа дапамагчы. Ніхто не развяжа цябе, не вызваліць. Тады — дзеля чаго было спазнаваць гэты свет, ірвацца, інтрыгаваць? Дзеля чаго!! — яна ўсхліпнула, але зноў працягвала: — Я была занадта саманадзейнай — можа, за гэта мне не дадзена лёгкай смерці? Я не памру ад цэглы, што зваліцца на галаву з дзесятага паверха. Ад дарожнай аварыі, калі не паспяваеш нічога зразумець — і ты ўжо на тым свеце. Не — я буду фіксаваць кожны зрух, кожны свой крок — і колькі месяцаў гэта будзе працягвацца? Я буду адчуваць, як пухліна, дзікае мяса, душыць мяне, адбірае ў мяне паветра, як яно сціскае мае грудзі!..

Яна гаварыла ўжо няўцямна і наступала на Віню, як быццам патрабавала ад яе адказу — зараз жа, як быццам Віня магла нешта адказаць ёй, параіць, і слёзы каціліся па яе змізарнелым твары...

У пачатку лістапада Віню павінны былі выпісваць. «Ну, тыдзень яшчэ патрымаем, каб упэўніцца канчаткова, што выздараўленне стабільнае»,— сказаў прафесар і дадаў нейкае незразумелае слова па-лацыні, а сэрца ў Віні нечакана пахаладзела, і яна моўчкі глядзела на прафесара, які звыкла бадзёра кіраваўся да выхада, на Вячаслава Сцяпанавіча,

«свайго» ўрача, які паслухмяна ішоў следам за прафесарам, па сваёй звычцы тулячыся ў каўнер белага накрухмаленага халата, на ўсю пачцівую ватагу маладых урачоў і студэнтаў, якія выходзілі з палаты, ажыўлена перагаворваючыся паміж сабой шэптам, каб не турбаваць прафесара.

З раніцы ішоў дождж, і парк перад бальніцай, увесь жоўта-чырвоны, быў маркотны і сцішаны: наступаў час, калі дрэвы ўпадалі ў сваю доўгую асенне-зімовую спячку, і там, у глыбіні, карэнні вялізных ліп і таполяў слабелі, дранцвелі, а зверху карычневыя вільготныя галіны яшчэ трымалі пругкія халодныя лісты і неахвотна адпускалі кожны, нібы не жадаючы развітвацца з вясенне-летнім плёнам сваіх намаганняў. Прыгажун ліст падаў таксама неахвотна, але тонкія настырныя струменьчыкі вады прыбівалі яго да астыглай зямлі, і ён моршчыўся, угінаўся, але, пераможаны, пакорліва нерухомеў...

Віня, ахінуўшыся калючай коўдрай, таропка прайшла па асфальтаванай дарожцы, скіравала ў гушчар, гразнучы тапачкамі ў гліне, і села пад маладым дужым клёнам, дзе з лета заставалася лава, ужо аблезлая ад дажджу, з выразанкамі, пачарнелымі ад вільгаці, з надпісамі і стрэламі, напаўзасыпаная шчодрым лісцем, якое вільготна заскрыпела пад тоўстым Віньіным покрывам. Дзяўчынка не ведала, чаму ёй захацелася ў парк, наперакор суровым загадам не выходзіць з бальніцы, але яна непрыкметна праслізнула паўз нянечку, што вартавала дзверы, разлічыўшы, што да абеду, можа, паспее незаўважна вярнуцца. Худыя яе ногі вытыркаліся з-пад коўдры, твар пашарэў, але ёй не хацелася ісці ў цяпло, і калі па парку разнёсся візгатлівы голас нянечкі, яна не пайшла на голас, а толькі яшчэ мацней скурчылася пад намоклай ужо коўдрай, нібы магла зрабіцца пад ёй невідзімкай. Але нянечка знайшла яе, бесцырымонна

патрэсла за каўнер, урачыста пагнала ўперадзе, як палонную, і Вячаслаў Сцяпанавіч, зазірнуўшы ёй у вочы, спагадліва спытаўся:

— Ты што ж, не хочаш вяртацца?

— З чаго вы ўзялі? — успыхнула Віня.— Наадварот! Думаеце, мне ваша бальніца так падабаецца? Нянечка сягоння лаялася, як...

Яна задыхнулася ад крыўды, але Вячаслаў Сцяпанавіч сцвярджальна паўтарыў:

— Ты не хочаш вяртацца, мая мілая. І гэта такі ж факт, як і тое, што калі ты захварэеш наноў, то...

Ён пашчоўкаў пальцамі, выразна і неяк злавесна, і Віня зразумела, чаго ён не дагаварыў, але ён не даў ёй пярэчыць і працягваў, стараючыся, каб голас яго гучаў павучальна, але гладка выбрыты малады твар яго быў заклапочаны і пахмурны:

— Не старайся прастудзіцца, мая мілая. Помні — ніхто пра цябе не будзе клапаціцца лепей за сябе самую. Жыццё — яно дарагая штука, а ты яшчэ не стала мастачкай...

Віня здрыганулася, але ўрач гаварыў гэта ўжо ўсмешліва, зычліва, і яна не ўцякла, а стаяла, павольна чырванеючы, толькі прамармытала неразборліва:

— Адкуль вы ўсё ведаеце?

Але Вячаслаў Сцяпанавіч зразумеў яе, і ўсмешка яго стала шырэйшай:

— Нянечка знайшла ў тумбачцы, і мы з ёй правялі творчы дыспут.

— І што? — Віня з жахам успомніла, што сярод малюнкаў, раскіданых уперамешку з агрызкамі пячэння і цукрам, быў і шарж на Вячаслава Сцяпанавіча — на сутуласць яго і звычку туліцца ў каўнер халата.

— Нянечка атрымала ўрок па этыцы, а я па эс-

тэтыцы,— незразумела адказаў урач і дадаў ужо зусім незразумелае: — Шкада, што ты такая вялікая. Ну, дарослая такая...

— Чаму? — Віня ізноў асмелілася глянуць на Вячаслава Сцяпанавіча.

— Я браў бы цябе на выхадныя дадому,— задумліва сказаў той і на гэты раз растлумачыў: — Пераняніць бы табе абстаноўку, мая мілая. Ну, хоць бы ў госці да каго са знаёмых прыходзіць... А да мяне...— Ён уздыхнуў.— Да мяне ты ўжо завялікая. Жонка не дазволіць. Вот так...

Віня, усё не адрываючыся, глядзела на Вячаслава Сцяпанавіча, з нечаканай пільнасцю заўважаючы застарэлую стомленасць у худым твары з дробнымі, невыразнымі рысамі і невялікімі шэрымі вачыма, вакол якіх ацёчна жаўцела скура, пасечаная раннімі маршчынкамі. З недзіцячай праніклівасцю яна імгненна спасцігла чуйную, хваравітую душу, што пакутавала ад таго, чаго навакольныя, бадай што, і не заўважалі, а болей усяго — не заўважалі блізкія, ды і не хацелі заўважаць, высмейваючы ягоную залішнюю, як яны казалі, чуллівасць. І ён, гэты Вячаслаў Сцяпанавіч, ужо даўно адасобіўся, жыве нейкім сваім, патаемным, жыццём, куды не надта дапускае іншых... І дзяўчынка засаромелася, зноў жа з недзіцячай чоткасцю адчуўшы, што яна ў нечым блізкая Вячаславу Сцяпанавічу, і ён разумее гэта, а разам з тым добра ведае, што ніколі, ніколі не наблізіць яму да сябе Віню — не наблізіць ні ў якасці прыёмнай дачкі, ні госці нават, і яму горка ад таго разумення. І такая ж горыч на імгненне дакранулася да яе сэрца, горыч здагадкі, што вось і яшчэ страта, а колькі іх будзе ў яе жыцці! — але тут жа і знікла, таму што здагадка, не падмацаваная вопытам, застаецца нечым няўлоўным, невядомым. І ўсё ж слёзы падступілі ў яе да вачэй. Усё гэта цягнулася не-

калькі імгненняў, і сам Вячаслаў Сцяпанавіч, схамянуўшыся, разбурыў таемную сімпатыю, што імгненна звязала была худую, наравістую дзяўчынку ў доўгім бальнічным халаце, на якім не хапала верхняга гузіка, і яго, урача Хвесько, разбурыў, можа, і не груба, але настойліва, як бы абараняючыся:

— Ну, ідзі, ідзі мілая мая! Паляжы, адпачні пасля ваяжаў!

Віня, нахіліўшы галаву, імкліва выскачыла з пакоя, а Вячаслаў Сцяпанавіч, няёмка патаптаўшыся на месцы, як надумаўся: набраў нумар тэлефона і доўга гаварыў са сваёй красуняй жонкай, якая ў гэты момант збіралася ісці ў цырульню і таму гаварыла раздражнёна, не разумеючы слоў і перапытваючы. Пасля ён паклаў трубку, глыбока ўздыхнуўшы, і бязмэтна перабіраў папкі з гісторыямі хвароб, перажываючы, сурова асуджаючы сябе за непасціжнае, як ён думаў, легкадумства.

...Буйны, жоўты, вільготны лістапад бушаваў на двары. Віня сядзела ў холе, уціснуўшыся ў мяккае крэсла з цёмна-чырвонымі падлакотнікамі, сухая, паблажэлая пальма глядзела на яе, абвесіўшы мечападобнае лісце. Высокая, худая старая зайшла ў хол, села ў суседняе крэсла і моўчкі стала глядзець у акно. Нага яе, у простай цёмнай панчосе, дробна дрыжала, з-пад белай хусцінкі густа цяклі ўніз белыя валасы — па скроні, пасечанай зморшчынамі, па шчацэ, бяскроўнай і ўпалай, і далей па шыі, на якой чорнымі кубікамі матляўся ружанец. Віня раней некалькі разоў сустракала старую ў калідоры — прамая, непрыветная, тая ніколі не гаварыла ні з кім, адно глядзела, адвярнуўшыся, у акно. Яня, якая нядаўна забягала ў бальніцу, сцепанулася, калі пабачыла кабету ў садзе, дзе яны з Віняй сядзелі.

— Нешта ведзьмінае ў ёй! — сказала яна.— Якраз такіх ведзьмаў малююць!

Яня вучылася ў тэхнікуме, першыя пантофлікі зграбна сядзелі на назе, абцягнутай капронам, і заўсёды нехта чакаў яе за агароджай — то высокія, цыбатыя падлеткі ў джынсах, то салідны хлапец у акулярах. Дыстанцыя ў паўтара года хутка аддзяляла іх адна ад адной: Яня выглядала дарослай, а Віня, з цыбатай постаццю падлетка, з маленькімі, як яйкі, грудкамі, была яшчэ ўсё той жа васьмікласніцай, як і паўтара года назад, і вяртацца ёй трэба было ў той жа восьмы клас, да той жа Антолі Іванаўны, якая дабівае апошні свой перадпенсійны год, узяўшы былых шасцікласнікаў...

Віня сядзела, і туга расла ў ёй тоненькім парасткам, які нячутна і лоўка пранікаў у сэрца, ад чаго было млосна і цяжка. Хацелася вырваць жывую, гнуткую іголачку, якая варушылася ўнутры, выкінуць нядобры, балючы страх. Страх быў перад тым, як прынесці ў старое, вядомае сваё існаванне ў інтэрнаце тое новае, што адкрылася ёй у бальніцы, як сумясціць новую Віню з той, якую ведаюць — там. Тая Віня мітусілася ў цеснай прасторы звыклага, тая не бачыла смерці Нэлі Амбросімаўны, для той Віні несправядлівасць жыцця была адзінкавай, выпадковай і залежнай ад абставін...

Віня заплюшчвае вочы і зноў бачыць, як, задыхаючыся і натужна хапаючы пачарнелым ротам прапахлае лекамі паветра, курчыцца на падушцы вастраносая Нэля Амбросімаўна, і на чорных, страшных яе вуснах выступае жаўтаватая пена, а вочы моляць, і ненавідзяць, і закатваюцца ў беспрытомнасці... А ўстрывожаныя нянечкі паспешліва перакатваюць яе на цялежку і коцяць прэч... прэч ад чалавечых вачэй. Віня матляе галавой, адганяе відовішча, але слёзы цякуць па твары, слёзы шкадавання...

Не Нэлі Амбросімаўны, не, яна шкадуе ўсіх, усіх, каму трэба будзе праходзіць праз тыя відавочныя ёй самой вароты, якія пакуль што аказаліся занадта вузкімі для яе малога цела...

— Ты што, дзіця? Што ты плачаш?

Старая стаіць перад Віняй, прыціскаючы вялікія рукі да выцвілага халата, твар яе такі ж суровы, як звычайна, толькі нейкі цень спагады ляжыць на ім.

— Я... нічога...— мармыча Віня, кулакамі выціраючы вільгаць на шчаках.

— Маці, відаць, успамінаеш? Нічога, хутка вернешся дамоў.

— Няма ў мяне маці! — Віня супакойваецца, трэ кулакі аб халат.— Я дзетдомаўская. Інтэрнатаўская,— тут жа папраўляецца яна.

Ведзьмаватыя вочы кабеты хутка абмацваюць яе шчуплую постаць. Халодная цвёрдая рука накрывае галаву Віні, схіляючы яе ўніз.

— Дай я цябе паслухаю... Ты не палохайся, чуеш?

Рука на Вінінай галаве здаецца камнем, але дзіўна — дзяўчынка паступова адчувае, як камень лягчэе, цяплее і ўсёй істоце яе нязвыкла лёгка і добра.

— Ну што, палягчэла? — кажа ёй старая і ўсміхаецца. Зубы ў яе па-маладому моцныя, дзіўна бачыць такія на худым, змарнелым твары; яшчэ больш — усмешку.

Віня спадылба разглядае старую — перашкаджае далонь, якая яшчэ ляжыць на галаве. Што ў ёй страшнага знайшла Янька, незразумела!

— Вы як доктарка...— разгублена паціскае яна плячыма.— Нават Вячаслаў Сцяпанавіч так не ўмее!

— Гэткая сіла, дачушка, не ад навукі — ад зямлі,— задумліва глядзіць на яе жанчына.— А як у мяне выходзіць, я і сама не ведаю. Я — баба цёмная, адкуль мне ведаць такое?

У холе даўно згушчаецца вечаровы цень, і Вячаслаў Сцяпанавіч, заходзячы, пстрыкае ўключальнікам.

— Хто тут у мяне ад працэдур хаваецца?

— Я ўжо не хаваюся! — весела адказвае Віня, а старая адразу ж камянее, замыкаецца ў сабе і нялоўка здымае руку з Вінінай галавы, стрыжанай казённай рукой маладой цырульніцы, так што стрыжка нагадвае поле, якое выстрыгла тупым сярпом няўмелая жняя. Вячаслаў Сцяпанавіч папраўляе акуляры, сумна глядзіць на абедзвюх:

— Куды ж вы... здаецца, Марыя? Па бацьку не ведаю...

— Можаце проста — баба Марыля,— на жоўтым твары кабеты трапеча адбітак лістападу, і карычневыя маршчыністыя вусны моцна сцятыя.

— Як добра, што вы прылашчылі дзяўчынку. Ёй трэба дапамагаць.

— Вы ўрачы, вы і дапамагайце!

— Я заўважыў ужо, што Віня надта падобная да вас. Вы таксама, відаць, заўважылі? Проста на дзіва. Калі б вы сталі дзяўчынкай, то, я думаю, былі б, як кажуць, волас у волас.

— Вы мне, доктар, казак не расказвайце! — баба Марыля пераводзіць позірк з доктара на Віню, і ў вачах яе — нядобрых, дзікаватых — мільгае спалох.

— Ну, глядзіце, мне ж усё роўна! — Вячаслаў Сцяпанавіч крыху разгубіўся. Ён, відаць, чакаў нечага іншага і цяпер гаворыць афіцыйна і суха: — Я думаў — вы адна жывяце і Віня адна, можа, вы і падружыцеся. Вы ж адна жывяце? Дзеці ці былі ў вас?

— Не было ў мяне нікога, і вас тое не тычыць! — баба Марыля раз'ятрана топчацца на месцы, як быццам словы доктара ўзялі яе за жывое.— Мне чужых клопатаў не трэба, мне сваіх клопатаў хапае!

Віні сорамна і горка: нічога не патрэбна ёй ад бабы Марылі, навошта той з такой гарачкай адмаўляцца ад яе? І не трэба адмаўляцца, усё роўна не сёння-заўтра яе выпішуць. І нічога не хацела яна ад бабы Марылі, гэта Вячаслаў Сцяпанавіч нешта нагаварыў і ўсё сапсаваў! Віня зрываецца з месца і, не гледзячы ні на бабу Марылю, ні на Вячаслава Сцяпанавіча, выбягае з хола. Але непрыемнасці не ходзяць па адной: тут жа налятае яна на медыцынскую сястрычку. Звон шкла, дробныя асколкі, спалоханы ўскрык медсястры...

— Шалёная! Вар'ятка! — крычыць медсястра.— Ты ведаеш, як я гэта лякарства баялася хоць кропельку ўпусціць! Яго выпісвалі спецыяльна!

— Чаму ж для яго, Вашага Івана Іванавіча, выпісвалі спецыяльна? — Віня пытаецца нахабнавата, таму што перапалох і сорам ужо ўкусілі яе. Ёй хацелася б прасіць прабачэння, але гнеў медсястры не дае пярэдыху.

— Цябе, смаркачку, не спыталі! — гневаецца медсястра, але Вячаслаў Сцяпанавіч хутка ідзе да іх, і пабялелы Вінін твар цягнецца да яго, як сланечнік да сонца: ёсць на свеце добрыя людзі, як добра, што ёсць яны, гэтыя добрыя людзі!

А ноччу Віні сніцца, што яна плыве па цёплай спакойнай рацэ і праз зеленаватую тоўшчу вады час ад часу пазірае на пясчанае дно. Там, не палохаючыся ценю, мітусяцца маленькія сярэбраныя рыбкі, а зверху падаюць на голыя карычневыя Віціны плечы рубінавыя кроплі сонца і не апякаюць скуру, а, наадварот, халодзяць яе. І дзівіць Віню адно: як ні спрабуе яна ўспомніць што благое, якое здаралася з ёю, успамінае толькі добрае: вось Яніна маці працягвае ім па вялікай шакаладнай цукерцы, і абгортка цукеркі светлая, сярэбраная, і калі Віня разгортвае

цукерку, абгортка выслізвае з рук жывой, трапяткой рыбінай...

Тады Віня прачынаецца — і не адразу пазнае бабу Марылю, якая ў цемнаце сядзіць перад ёй, прамая і нерухомая, як здань.

— Не палохайся, дзіця,— гаворыць яна, а Віня адчувае, што рукі яе мокрыя, і здагадваецца, чаму бачыліся ў сне сярэбраныя рыбіны.— Не палохайся, дзіця, і даруй мне. Я нядобрая бываю. Але добрай мне няма з чаго быць... Няма з чаго! Адна я, быццам палец на руцэ. А што за рука з адным пальцам!

У палаце магутны жаночы храп, тэлевышка глядзіцца ў акно чырвонымі вуголлямі, якія раздзьмувае адзінокі вецер; зялёная забытая рэклама мігціць удалечыні ярка і непатрэбна... чорная асенняя ноч б'ецца аб сцены бальніцы.

— Што я хацела запытаць: хто ж цябе ў сіроцкі дом здаў, дзе твае бацька і маці?

Віня прывыкае да цемнаты і глядзіць у цёмны бабчын твар. Сапраўды, калі добра ўгледзецца, то заўважна, што твары іх у нечым падобныя: аднолькава пасаджаныя вочы, тыя ж абрысы. А можа, гэта ўсё напрыдумляў добры доктар, летуценнік і няўдачнік? Можа, ён так і разлічваў, што калі людзі ў нешта паверыць, яны самі будуць падаграваць у сабе тую веру?

— Нікога ў мяне няма...— неахвотна кажа Віня.— Мяне падкінулі, а хто — невядома. Толькі імя напісалі і прозвішча. А што за імя, што за прозвішча — чорт яго ведае!

— Чорт — ён ведае! — нечакана ўсміхнулася баба Марыля.— Ён усё ведае, але ж не скажа! І ў яго не запытаеш, мае дзеткі, ён сам пад бок штурхае дый пытаецца. Ды што я цябе палохаю! Так ніц і няведаеш?

— Не ведаю... А чаму вы пытаецеся?

— Як не пытацца... Колісь, як сказаў доктар, што мы «волас у волас», дык я з гарачкі яго адпрэчвала, а пасля ачомалася, думаю сама сабе: нядобра сірату крыўдзіць, нядобра злосць на ёй спаганяць!

— Якую злосць?

— Не перабівай мяне, дзіця! Я ж кажу табе: як падумаю, што ты адна... нешта грызе і грызе за сэрца... нешта так і смыліць. Я думала, што сэрца ў мяне закамянела, а яно, бач, жывое яшчэ, пра сябе напамінае! Васіля майго калі на вачах жалезам пасеклі, то так яно і зайшлося, думала — не выжыву.

— Хто... пасек?

— Яны, гады паганыя, хто ж! Немцы. Развязалі рукі яму, палоннаму, дый кажуць: «Бяжы!» А як пабег... Кулі, што ў яго ляцелі, мяне кожная напапчатку... Але ж ён памёр, а не я. Яго кулі працялі, а ўва мне заселі — на векі вечныя, каб кожнаму наказала, чаго жыццё чалавечае каштуе! А яно нічога не каштуе, маё дзіця. Ды што ж табе пра гэта гаварыць, я вот і думаю, думка такая ў мяне ўвайшла: ці не саграшыў мой Васіль з якой дзеўкай? Колькі гадкоў табе? Надта ты малая для сорак чацвёртага...

— Не, я з пяцідзесятага. Кажуць, што з пяцідзесятага,— паправілася Віня.

— Ну, так я і думала. Проста, дай папытаюся, кажу сабе. За спрос ня б'юць у нос...

Віня адчула, як зацякла ў яе нага, і заварушылася, зручней укладваючыся на ложку. Старая, аднак, не адыходзіла, яна ўсё гэтак жа сумна сядзела на ложку, так што, не жадаючы выцягваць з-пад яе коўдру, Віня асцярожна прыкрыла нагу рогам прасціны. Жанчына насупраць нецярпліва заторгалася — ёй, відаць, бачылася ў сне нядобрае. Баба Марыля сачыла за ёй пустым позіркам.

— Ну, а маці твая — хто? Ці жывая яна?

— Я ж вам казала — нічога не ведаю.

— А, ну так. Я забылася... Добра, пайду я сабе. А ты спі, спі, дзіця. А калі ж цябе выпісваюць?

— Відаць, заўтра.

— Заўтра... Я пайду тады. Табе выспацца трэба. Ты ўжо і пазяхаеш... Во як яно бывае: маўчыш, маўчыш, а пасля дзіцёнку пачнеш спавядацца. А яму яно ня трэба... Ну, бывай, дзетка!

Яе прамая, суровая постаць захіляе дзверы. Віня глядзіць услед, і шчымлівае, нязвыклае пачуццё дабрыні і шкадавання ахоплівае яе.

— Баба Марыля! — ціхенька гукае яна.— А ў Вас... Няўжо ў Вас таксама нікога няма?

Баба Марыля, як быццам чакаючы яшчэ пытанняў, вяртаецца назад. Словы цяжка варочаюцца ў ёй, цяжка выходзяць з глыбіні, і напачатку Віні цяжка разабраць іх:

— Дзеўка мая... недзе... жыве, можа.

— Якая дзеўка? — Віня прыўзнімаецца на падушцы; локаць балюча выцялі пружыны матраца.

— Ды дзеўка ж мая... Аксіння. Двое іх было ў мяне. Васіль увесь у мяне быў, затое ж і любіла яго. А Аксеня — уся ў бацьку свайго, Аркадзя. Той такі ж... лятун. Як агонь, быстрая была... Затое ж і скруцілася... з імі, нелюдзямі.

— З немцамі?!

— Ну, але ж.

— Дык а дзе яна... падзелася?! — з жахам гаворыць Віня.

— Чаго ты спалохалася? — баба Марыля ўздыхае, і чутно, як нешта клякоча ў яе грудзях.— Сама ж кажаш — з пяцідзесятага...

— Ды не, я так. Проста так! Мне яшчэ ад немца не хапала нарадзіцца!

— Немцы, дачушка, яны таксама розныя былі. Аднаго немца я неяк шматком сала па мордзе пляснула, калі лез да мяне ў кубел,— і нічога, жывая

асталася. А той жа Ганс быў нелюдак, божа мой! Людзей, як курэй, страляў, як што не тое. Ён бы і мяне застрэліў, адзін раз як кляла яго, дый гэтая... сучка... на руцэ павісла, і куля ў дзверы гахнула. Дзе яна пасля падзелася, куды збегла — ведаць я тады не хацела. Я ўсё думала — за якія грахі так мяне пакаралі — добрае маё семя назад у зямлю пайшло пры мне ж, а благое — узышло, ды і як узышло! Ну, з табой Аксеню ці ж параўнаеш! — зняважліва махнула яна рукой і абсеклася.— Ты ж ні крыўдзіся, я не злое што кажу, а тое, што ёсць, напраўдзе! Той жа Ганс як угледзеў дзеўку, дык як заслуголіў нешта над ёй, завыў... як воўк над падлам! Надта пекная была Аксеня! І зноў жа як падумаеш, што ж такая за сіла ў гэтай прыгажосці, што ажно да смерці за ёй прыпадаюць, і што за слабасць такая ў нас, у людзей, шалапута якога, валацугу прымаюць, як роднага, калі ёсць у ім хаця іскрынка тая! Можа, надта сумна мы жывём, людзі, а ён хаця і валацуга, але як бы ад нейкай сілы, што стаіць над людцамі, і смяецца з іх, і насылае такое вось насланнё!

Яна як бы на нейкі час перамагла знямогласць, і гаворка яе лілася плаўна, і вочы гарэлі ў цемры, і рукі ўзляталі, як маладыя. Віня слухала стаіўшыся; у спіну яе, адкуль спаўзла коўдра, дзьмула з акна, але яна не заўважала ні таго, што жалезныя пруты ложка ўпіліся ў плячо, ні таго, што знямела рука.

— Другія бабы, у каторых дзяцей пастралялі, неяк змірыліся, як быццам так і прайшло ўсё. Мая сяброўка, Анэля, так і кажа: «Чаго грашыць, чаго дзяцей адтуль клікаць! Хай ужо ляжаць і спачываюць, хай зямля ім будзе добраю». А я, калі спаць кладуся, усё пра Васіля думаю і ніяк пагадзіцца не магу са светам, што ён паганы такі свет, што ён у тваё дзіця жалеза ўсаджвае, а пасля і сонца све-

ціць, як свяціла, і неба такое ж...— Яна памаўчала, глытнула паветра, паглядзела на Вініных суседак, якія перасталі храпці і ляжалі ціха, як бы і нячутна, а можа, абедзве прачнуліся і слухалі жанчыну.— Я і Анэлю зненавідзела, што яна, сына пахаваўшы, жыве, як астатнія жывуць, і нават яшчэ плявузгаць любіць, а то і гарэліцы не цураецца... Шкадую, што бога няма і дабрацца няма куды, а каб быў, плюнула я проста б яму ў твар! Ты сваё дзіця кінуў і ні словам не азваўся, як яно цябе клікала, дык хочаш, каб і мы тое ж рабілі! Але тваё дзіця ўваскрэсла, а маё — ніколі! Ніколі!!

Яна раптам змянілася тварам, усхліпнула і ціха, як прыслухоўваючыся, спаўзла на падлогу. Віня зляцела з ложка і ўхапіла жанчыну за плечы, з жахам адчуваючы, як цяжэе і камянее худое цела. Яна роспачна закрычала, і амаль адразу ў палату ўбегла заспаная медсястра, замітусіліся жанчыны, і дзяжурны ўрач разам з медсястрой пацягнулі да выхада нерухомае цела. Там, у калідоры, на тапчане, бабе Марылі ўсадзілі ў руку вялікі шпрыц з лекамі, улілі ў яе вялы рот ажно тры мензуркі вадкасці, і яна павольна расплюшчыла здзічэлыя вочы. Раўнадушна агледзела ўсіх, хто стоўпіўся навокал, гэткім жа абыякавым паглядам слізганула па Віні, і тая адышлася, адчуваючы новы прыступ крыўды і шкадавання, а разам з тым і новае пачуццё. Цікаўнасці? Ці нейкай блізкасці да старой?

Нечаканая тая блізкасць мучыла Віню і на другі дзень, калі ў сталоўцы яна ўбачыла бабу Марылю. Тая зноў была замкнёная і непрыветная, толькі твар яе яшчэ болей зблажэў, цёмныя цені шчыльней абвялі вочы, а вялікі нос завастрыўся, як у нябожчыцы. Віня нясмела паздароўкалася з ёю, баба Марыля спішана адказала і адразу адвярнулася, пайшла са сваёй талеркай далей, да акна, нібыта саромеючы-

ся начной сваей адкрытасці. Але ўпотай яна, відаць, сачыла за Віняй, таму што калі за той прыехала выхавальніца з інтэрната, яна паклікала іх пальцам і ўціснула ў Віціну руку кавалачак паперы з накрэмзаным адрасам:

— Можа, калі надумаешся напісаць старой... у нас пошта побач, ліст ніводзін не прападзе...

З восені заладзілі дажджы, і здавалася, што бясконцая шэрая нуда ахутала зямлю, а вокны так і застануцца ў рабаціннi дажджу, як быццам кроплі выгрызлі шкло, пашчэрбілі яго, так што з самай раніцы нічога не было відаць, што робіцца на дварэ. Віня на дзіва спакойна ўвайшла ў новае кола свайго жыцця, у новую якасць сваю самай старэйшай у групе. Само сабой сталася, што Антоля Іванаўна ўсё часцей пачала звяртацца да яе, ні то просячы дапамогі, ні то, па звычцы, патрабуючы яе. Віня бачыла, што Антоля Іванаўна чэзне з кожным днём, нязвыкла задумваецца, як бы ўзважваючы нешта на сваіх, адной ёй бачных вагах, і ўсё радзей умешваецца ў ход падзей, якімі яна раней так прагла ўпраўляць. У інтэрнат час ад часу заглядалі былыя выпускнікі, якія засталіся ў горадзе, і Віня сустракала іх спакойна і крыху адчужана, цураючыся іх бесклапотнай, здаровай весялосці. Ёй пакутліва хацелася займець нейкі асобны зрок, якім можна было б злавіць самую глыбінную сутнасць характару альбо падзеі. Малявала яна цяпер употай, па вечарах, і старанна хавала малюнкі, але аднойчы Савацея Віктараўна злавіла яе, праходзячы па інтэрнаце апоўначы, пад час дзяжурства, і забрала стос, мякка і настойліва перамогшы Віціна супраціўленне. Савацея Віктараўна не паленавалася: абзваніла мясцовы Саюз мастакоў, выклікала адтуль некага і перадала папку з Віннымі малюнкамі.

Пакуль Віня паслухмяна стаяла ў хоры і выцягвала залівістыя ноты, з ціхай насмешкай назіраючы за ўспатнелым кіраўніком, што апантана махаў рукамі; пакуль яна задуменна гартала старонкі з мудрымі формуламі, у якія мясціліся адкрыцці вякоў; пакуль раздумліва дакарала Яню за прэсныя і сумныя флірты — папка блукала па руках, ахвотна дазваляючы патрашыць сваё чэрава, і ганарыста глядзела на сваіх суседак, якія ў канцы канцоў сабраліся разам на выстаўку дзіцячага малюнка з усіх канцоў вобласці. Папка мела права ганарыцца: яна не раз чула адабральнае «Г-м!» на тых зборышчах, дзе ёй пашчасціла пабываць, і раўніва сачыла за водгукамі на другія папкі. Дабраўшыся да абласной выстаўкі і ператварыўшыся ў зашмальцаваную, неахайную старую асобу, яна суцяшала сябе тым, што нездарма пражыла свой век: не парылася пад цяжарам цыркуляраў, не вытрымлівала разбухлую фантазію графаманаў, якая звычайна не месціцца ў адной папцы, дый яшчэ і папяровай, а прагне велічы і скураной аздобы, не чэзла на архіўных паліцах...

Нейкае напружанне навісала над Віняй, над ціхім яе, паслухмяным жыццём, як быццам выклікаючы, нарэшце, яе ў свет, і яна насцярожліва слухала цьмянае прадчуванне, якое блукала ў яе крыві. Нешта выспявала ў свеце, як выспявае зерне ў цёплым вільготным коласе,— і павевамі ўскалыхвала яе існаванне.

Пад Новы год на канікулы прыехаў Валерка — прыехаў позна, нечакана, калі ішло пад дванаццаць ночы. Віня ў той дзень якраз дзяжурыла — яна позна памыла рабочы пакой і лесвіцу і не надта спяшалася ў спальню. Яна бязмэтна стаяла перад

шафай з карнавальным адзеннем, якое рыхтавалі «маляўкі» да навагодняга вечара, і разглядала пярэстыя ўборы. Белая накрухмаленая сукенка ціха калыхалася ад яе дыхання. «Царэўна-Лебедзь — гэта будзе, здаецца, Таня?» — падумалася ёй дрымотна, і раптам, як быццам нешта штурханула яе ў руку, Віня выхапіла з шафы празрысты ўбор і, хутка скінуўшы футболку і шаравары, праслізнула ў халодную навошчаную марлю, абцягнула на клубах жорсткія складкі, нясмела правяла рукой па белай шыі, нязвыкла аголенай.

Магія жаноцкасці, заключаная ва ўборы, была яшчэ незнаёмая для яе, і таму позірк у люстэрка быў як удар. Перадыхнуўшы, яна ўжо спакойна і нетаропка агледзела сябе, пасля, больш упэўнена, прымерала да галавы абцягнутую фальгой карону, спыняючы нецярплівасць рук. Пасля, пазіраючы ў люстраныя дзверцы шафы, засмяялася з палёгкай і насмешкай, нібыта скінуўшы з сябе нейкі цяжар.

— Дурні, дур-ні, дур-ні! — яна кружылася па рабочым пакоі, ап'янелая і лёгкая, адрасуючы невядома каму крыўдныя, але з мяккім дакорам словы, і не заўважыла ні прыадчыненых дзвярэй, ні бліскучага вока, якое сачыла за ёй — спачатку недаўменна, пасля ўсмешліва, а пасля — зачаравана. Але недавер да яе, новай, апаноўваў Валерку, таму ён зайшоў у рабочы пакой з усмешкай, якая прызначана для дзяцей, і з сарамлівай развязнасцю, якая выдавала ў ім самім падлетка.

— Піка, цябе проста не пазнаць! — сказаў ён, злёгку бянтэжачыся.

— А цябе пазнаеш адразу — ты такі ж хамула! — адпарыравала Віня спакойна, імгненна сцяўшыся ў пружыну, гатовую развярнуцца і ўдарыць.

— Ужо адразу — і хамула! — ягоны твар быў гладкім і светлым, але над губой пушылася, і голас

стаў ломкі і хрыплаваты, як у маладога гарластага пеўня, які без ладу выскоквае раніцай на паркан, каб абвясціць свету пра сваё існаванне.

— Ужо адразу — і Піка?

Яна нечакана адчула сябе дарослай. Валерка быў яшчэ тым, ранейшым, і разам з тым ужо іншым, як бы дзюбкай праклёўваючы звыклае шалупінне. Нахабнаваты голас не спалучаўся з позіркам, у якім прабівалася наіўнае, дзіцячае захапленне. Яна ўспомніла, як некалі на ўроку працы ён зрабіў за яе малаток, які патрабаваўся для адзнакі за чвэрць (тады, перапэцканы ў жалезе, ён тыцнуў ёй малаток і адразу ж адбегся да хлопцаў, але не вытрымаў, азірнуўся і ўсміхнуўся — добра, адкрыта). Цяпер такая ж адкрытая, добрая ўсмешка хавалася недзе ў ягонай глыбіні, і Віня дазволіла сабе расслабіцца, уздыхнуць:

— З'явіўся — не запыліўся. Што, воля надакучыла?

— Знаеш — надакучыла. Тут, у інтэрнаце, ніякіх клопатаў: ні паесці, ні адзецца праблемай не было. Яшчэ, помніш, злаваліся на кастэлянку, што яна на новае не заўсёды раскашуецца! А цяпер...

Ён заўсміхаўся, не адрываючы ад Віні позірку, і яна міжволі апусціла свой, толькі цяпер адчуўшы, што шыя і плечы яе агаленыя, а стан шчыльна ахоплівае сукенка.

— Вінька, ты праўда зусім дарослая стала! — Валерка хацеў быў па звычцы цыкнуць слінай праз зубы, але таксама засаромеўся,— і тады яна сапраўды адчула сябе дарослай, і ўжо адкрыта зазірнула яму ў вочы, і дала сабе спатолю — цырымонна прысела перад ім і какетліва прапанавала:

— Сядай на канапу, пагаворым... пра жыццё!

Валерка заміргаў, але паслухмяна прысеў. Хвіліну маўчання Віня вытрымлівала бясстрашна і злёг-

ку зларадна, пасля паднялася з крэсла і ўсмешліва сказала:

— Які ж ты яшчэ... малы, Валерка!

...Свет адгукаўся, ён заўважаў Віню, і можна было нават чакаць лісты.

Лісты пачалі прыходзіць ад Валеркі, які паехаў з інтэрната сцішаны і крыху разгублены; ад Яні, якую перавялі ў раён, і ад бабы Марылі.

Дні, якія праходзілі пасля бальніцы, зацярушвалі ўспаміны пра яе, але баба Марыля, наадварот, паўставала ў памяці Віні ўсё больш выразна і шчымліва. Таму, першы раз атрымаўшы ліст, дзе літары дабіраліся да канца радка няроўна і карава, Віня ўзрадавалася — болей, чым магла сабе ўявіць. Яна выбегла з рабочага пакоя, уляцела ў пустую спальню і там, спраўляючыся з біццём сэрца, прачытала некалькі доўгіх сказаў — пра суседку Паліну, у якой здохла карова, пра тое, што на магіле Васіля цяпер стаіць новы каменны помнік, які зрабіў прамкамбінат, і — ці любіць Віня сала, таму што нядаўна калолі парсюка. Хаця палову ўсяго давялося аддаць Васілевічавым, якія і хадзілі за парсюком пад час яе хваробы, і рэзалі яго — але нешта ж зачапілася ў кубле...

Віня пісала адказ доўга і старанна, але наступны ліст прыйшоў толькі праз два месяцы. Так і прыходзіў кожны раз — адзін у два месяцы, нібыта менавіта такі тэрмін выспявала ў бабы Марылі новая мізэрная купка не вядомых Віні навін. Але яна пачала ўнікаць у бабіны клопаты, і ёй часта ўяўлялася незнаёмая вёска — з возерам, паўз якое мясціліся хаты і цёмныя, акуратныя лазенькі, з новай зашклёнай поштай, што стаяла побач з хатай бабы Марылі. І не бачаная ніколі вёска рабілася на дзіва прывабнай і блізкай, і пра незнаёмую жанчыну яна

пачала думаць з трывогай і неспакоем. Калі стомлены даждажамі брук раўнадушна прымаў новыя порцыі халоднай, ужо ледзяной перадзімовай вільгаці, Віня думала пра тое, ці хопіць у бабы Марылі сіл паліць печ, і невядомая справа — паліць печ — здавалася такой жа прывабнай, як штотыднёвы суботні фільм у клубе, як адпачынак пасля ўрокаў. Сам па сабе ліст быў веснікам новых, чаканых перамен, якія наспявалі, можа, у крыві, можа, у навакольным паветры. Начамі ўлятаў у фортку малады калючы вецер, ноч была перарэзаная блакітным ззяннем маладых калючых зорак — усё было юнае, не перацёртае стомленымі позіркамі людзей, а павевы далёкай вясны Віня прымала цяпер з прагным нецярпеннем маладога ганчака, які ўнюхваецца ў пах паляўнічага кастра і шукае ў ім прыкметы гаспадара. Стары каштан, што рос перад акном спальні, паволі нарошчваў на сваіх вузлаватых, скурчаных галінах маленькія гузлачкі — почкі, каб пасля разгарнуць іх у магутную, шурпатую лістоту. І Віня як бы адчувала гэта.

Савацея Віктараўна чакала яе ў кабінеце. З-пад прыпухлых павекаў добра свяціліся стомленыя вочы. Маленькі сіні лісток ляжаў перад ёй, і яна радавалася, гледзячы на яго, як на справу рук сваіх, сваёй прадбачлівасці.

— Ну што ж, Віня Рыжык, цябе залічылі ў мастацкае вучылішча. Без экзаменаў. А праз тыдзень пачнуцца падрыхтоўчыя заняткі. Ты — хочаш паехаць?

Яна стаяла, ашаломленая, не могучы згадзіцца з тым, што ўсе яе здагадкі наконт перамен збываюцца так хутка і нечакана. Пасля слаба кіўнула галавой.

— Ты нешта хочаш мне сказаць?

— Дазвольце мне з'ездзіць на тыдзень... Так, да адной жанчыны ў вёску...

— А-а! Тая, што піша табе лісты? А дзе ты возьмеш грошы на білет?

— Я... я папрашу ў Яні, яна мне вышле. Пасля аддам.

Савацея Віктараўна пацягнулася да чорнай скураной сумачкі, звыкла драпнула па замку чырвоным адпаліраваным пазногцем.

— Тут табе хопіць на дарогу,— сказала яна, і ў куточках прыгожага некалі рота ляглі дзве глыбокія зморшчыны.

...Шэсць гадзін дарогі стамілі Віню, аўтобус на яе рэйс трапіўся яшчэ стары, дрогкі, і яна непрыкметна для сябе задрамала на сваім жорсткім сядзенні. Прачнулася, калі ледзь бачна засвятлела палоска на ўсходзе, і, азірнуўшыся, убачыла, як вялізная чырвоная поўня шалёна неслася ўслед за аўтобусам. І вось — уздрыгнула, ускалыхалася неба, бледным золатам пырснула святло на дарогу, на сонныя вербы — і поўня адстала, закалыхалася, як кругі на вадзе, і толькі чырванаватыя яе абрысы ледзь праглядаліся на небе. Тады аўтобус спыніўся на маленькай аўтастанцыі — чатырохкутнік цэменту, пасярэдзіне якога стаіць куб з бетону і шкла,— і Віня неасцярожна ступіла ў вымоіну, якую дажджы паспелі зрабіць у цэменце.

Да вёскі, дзе жыла баба Марыля, было чатыры кіламетры, а першы аўтобус ішоў туды толькі праз тры гадзіны, і таму, павагаўшыся, дзяўчынка рашуча пакрочыла па дарозе, якую паказала ёй сонная жанчына з-за плота, абвітага ўжо зазелянелым малиннікам. Гарадок быў маленькі, варта было прайсці паўз апошні домік, як адразу ж пачаліся палі, мяккая вільготная дарога карычневай стужкай вілася

між зялёнай, падрослай ужо руні. Сіняватая смуга вісела на акаёме, на недалёкіх лясах. Крочыць было лёгка і весела. Маленькая сумка, якая вісела на плячы — старая Яніна сумка,— хавала колькі там прысмакаў, што ўзяла Віня ў інтэрнатаўскай кладоўцы з дазволу Савацеі Віктараўны: круг падсохлай кілбасы, банка сайры і тры жмені бліскучых, у пярэстых абгортках, цукерак, якія выдаваліся да святаў.

У ранішняй цішыні чутно было далёкае рыканне кароў, пахла гноем і зямлёй, і маладая трава перла з абочын — пах яе нясмела ўплятаўся ў пахі вясковай раніцы, дужыя і нязвыклыя для гараджаніна: праз нейкі час Віня адчула, што ў яе закружылася галава, і прысела на паваленую старасцю алешыну, але не ад слабасці, а, наадварот, ад хмельнага, дзікага буйства, якое ўваходзіла ў яе так нястрымна, як вясновы дождж у настаялую за доўгі адпачынак зямлю, як ручай, што нясе ў застаялае возера ўскаламучаную першым грозным ліўнем ваду, усю ў белых грабеньчыках пены і леташнім смецці... Ёй захацелася закрычаць, забіць рукамі і нагамі, каб ускаламуціць празрыстае паветра, каб гэтак жа шалёна, як у галаве, гудзела наваколле, каб вецер здзіраў з дахаў перастаялую салому! Але яна глыбока ўздыхнула і, пасмакаваўшы, выдыхнула паветра, а пасля ўстала і пайшла далей, усміхаючыся таму цьмянаму і буйнаму, што білася ў ёй, як птушка, якая імкнецца вырвацца з сеткі птушкалова.

Сонца лашчыла зямлю. Спявалі правады над дарогай, асыпаўся пад нагамі вільготны пясок. Расцярушаная прагнымі пальцамі почка ўдарыла ў нос пахам зеляніны, першай і кволай... Вось і вёска. Вось і людзі: пазяхаючы, немаладая жанчына ў чорнай спадніцы і сіняй шарсцяной кофце скрыгацела ключом у дзвярах пошты. За поштай стаяла хаціна з

акном, заледзянелым у нерухомасці і цішыні. Гэта была хата бабы Марылі. Віня скончыла сваё падарожжа...

Дзікаватыя, насцярожаныя вочы, якія адразу ж робяцца іншымі; ачахлая печ, якая праз хвіліны пасля Вінінага з'яўлення ажывае і ўспыхвае зыркім, прыветным полымем; чысты абрус, што махае белымі крыллямі, узлятаючы з жалезнага куфра,— чаму маленькія гэтыя прыкметы радасці шчыпліва падступаюць да вачэй? Як быццам Віня была ў далёкім падарожжы і вярнулася да забытага, але роднага і блізкага і цяпер дакарае сябе за тое, што магла, пасмела забыцца.

— Я ж пазаўчора і ўчора не паліла,— кідаючы ў печ хварасціны, апавядае баба Марыля, паружавелая ад цяпла і радасці.— Я ж і сёння шчэ раздумвала — здаецца, ужо не халадно, а есці варыць не хочацца. Думала — цыбуліну з хлебам з'ем, яшчэ і вяндліны кавалак застаўся.

— А я таксама вам нешта прывезла! — Віня вывальвае на стол прывезенае.

— Нашто, дзіця? Ты сабе пакінь, а нашто мне цукеркі, старой? — радуецца, адрываючыся ад печы, баба Марыля, хвартухом выціраючы пачырванелыя вочы.— Ты лепей у падпол злезь, там грыбочкі і бульба, і гуркоў крыху ёсць. А за гарэліцай я сама ў сенцы схаджу.

— Што вы, якой гарэліцай?! — палохаецца Віня.— Я... я не п'ю!

— Ты мне, дзеўка, свае парадкі не ўстанаўлівай. Вып'ем па каліву, нішто цябе не возьме. Са мной нішто хай цябе не палохае. Мяне ж бабы ведзьмай, часам, абзываюць.

— А чаму?

— Характар, кажуць, цяжкаваты ў мяне. Дый ты сама помніш. Калі быў бы бог альбо чорт, я і праў-

да ні хвіліны б не думала. Чорт, ён вясёлы, з ім не прападзеш. Ат, што я табе гавару, якое глупства! Давай, дачушка, лезь у падпол, а то ў мяне ногі не трымаюць, яшчэ бабахнуся з драбінак!

Дух адзіноты і запушчанасці — сыраваты, з прысмакам падпола і халоднай печы — паволі аддясняецца. Кіпіць у чыгунку бульба, смажанае сала пырскае з патэльні, і бутэлька, мутна-ружовая, ужо стаіць адкаркаваная — і тут у хату заходзіць Цікаўнасць: у яе маленькія жвавыя вочкі і дабрадушны, гатовы да любых слоўных баталій язык.

— Нешта ж ты хварэла, ці што? — хутка-хутка пачынае яна сыпаць словамі.— Ні дыму не было, ні святла вечарам. Думаю, ці ня з'ехала куды, а ты тут як тут, жывая і вясёлая. Хто гэта да цябе прыкаціў, думаю, ці не Хвеськава Гэлька зайшла, дай, думаю, пра сваю Зоську што спытаюся...

Вочы яе косяць на бутэльку, якая нявінна стаіць на стале, азораная ранішнім святлом, на патэльню, якая фыркае на прыпечку.

— Ладна ўжо, сядай з намі. Унучка мая гэта прыехала.

— Якая ўнучка? Чыя ж яна? Ці ня...

— Табе што за справа! Кажу — мая, дык яно і значыць — мая,— злуецца баба Марыля.

— Во! Толькі на мяне і брэшаш! — але шклянка вадкасці, а за ёй і скварка спрытна знікаюць у роце суседкі.— І печ затапіла, во цяпер будзеш штодня яе паліць: унучку ж ня будзеш марозіць?

— Не буду. Думаеш, калі б патрэбна было, я два разы ў дзень яе не паліла б?!

— Даўно я цябе такой вясёлай не бачыла, Марыля. Ужо і не помню калі. Хіба што як твая дзеўка школу закончыла. Малодшая твая, царства ёй нябеснае!

— А ты не хрысціся, Ліза. Не грашы.

— Сама ж казала, што памерла яна. Што табе ліст адпісалі!

— Ніякага ліста мне не было. А толькі ведаеш... Святагору не падняць было кайстрачкі, што ж пра нас, слабых, казаць!

— Нешта ты зноў мудрыш, Марыля! — жвавыя вочкі прагна ўпітваюць кожнае слова. Віня, глытнуўшы «каліва», сядзіць асавелая і думае пра нешта іншае, разглядаючы цёмны з разьбой куфар, шэрыя масніцы і цьмяны абраз у куце.

— А ты і не помніш, Ліза, як нас дзед Апанас некалі збіраў ды казкі баяў? Я таксама было забылася на іх, а неяк ноччу вазьмі ды ўспомні. Святагору-багатыру, што пахваляўся сілай сваёй, кайстрачку далі: ты, кажуць, паднімі адну гэту торбачку. Той, на кані седзячы, спрабаваў яе нагой штурхнуць. Пасля сышоў з каня і рукой хацеў зачапіць. А калі ўжо ўзяўся за сумачку тую дзвюма рукамі, то адразу ж у зямлю ўгрузнуў па калені і кончыўся: надарваўся. Бо ў сумачцы той уся цяга зямная была.

— Нешта я не ўцямлю, што тут да чаго.

— Не можаш? Ну то сядзі сабе і думай, а я вам лепей яшчэ па каліву наллю, а пасля ты ўжо нас, Ліза, пакінь. Я ўнучцы лазню яшчэ напалю, вымыю яе з дарогі.

— Дзіравая яна, відаць, лазня твая! Колькі гадоў не паліла?

— Шмат... шмат гадкоў не паліла я сваю лазню, усё ці ў хаце, ці па суседзях мылася. А сёння ўжо — мой дзень. Вы мне не пярэчце.

...Пакуль Віня салодка спіць з дарогі, раскінуўшыся на прахалоднай, як навошчанай, прасціне, якая, відаць, таксама доўгія гады спачывала ў куфры, баба Марыля носіць да лазенькі ваду, молада

ўзнімаючы галаву і не горбячыся пад каромыслам. Сівыя валасы яе акуратна прычасаны, белы святочны хвартух відаць здалёку. Нанасіўшы вады ў чыста вышараваны бярозавым гальнём медны кацёл, намёртва ўмазаны ў печ яшчэ пакойным мужам, яна акуратна здымае хвартух і паволі ідзе ў хату па сярнічкі.

Віня, расплюшчыўшы вочы, туманна і светла глядзіць на яе з ложка.

— Калі лазню будзеце паліць?

— А зараз і пачнём. На надвячорак пайшло. Як спалася, што снілася?

— Нічога, баба Марыля. Нічога мне не снілася! Мне так добра!

— І мне добра, дачушка. Хадзем, пакажу, як печ паліць. Ты, можа, і ня ўмееш, дзе там у горадзе гэтаму навучышся! А печ паліць — гэта, можа, самая галоўная справа. Га?

Духмяна і моцна пахне бярозавым лістом і чадным дрэвам. Павук караскаецца ўверх да павуціння, якое баба Марыля змятае лоўка і злосна. Ад падлогі, ужо чыста памытай, пахне вільготнай зямлёй. Усюды зямля — так многа, нязвыкла многа яе навокал! У горадзе зямля незаўважная, у парку яна цесна заселена травой і кустамі, уціснута ў квадраты між асфальтаванымі дарожкамі, забрукавана каменнымі пліткамі, заліта бетонам. Тут жа, у вёсцы, хаты патанаюць у ёй — яны ўсяго толькі часовыя пастаяльцы, яны прыслухоўваюцца да зямлі, прынароўліваюцца да яе.

— Ну, складзі цяпер хварасціны, як хатку! — баба Марыля дапамагае няўмелым Вініным пальцам, сухія лучыны ўкладваюцца ў яе паслухмяна і звыкла.— А цяпер сярнічку. У сярэдзіну яе, у сярэдзіну! Ну, бачыш, загарэлася лучынне, цяпер толькі не лянуйся, падкладай дровы!

Сухі, даўкі дым спачатку паўзе з пячуркі, Віня кашляе і адварочвае твар.

— Дыму не бойся! Ён салодкі, дым, асабліва калі свой агонь распальваеш! — цёмныя вочы бабы Марылі зноў набракаюць слязьмі, яна лоўка папраўляе дровы. Дым як супакойваецца і мякка сцелецца ўверх, у комін. Яны садзяцца на падлогу перад пячуркай — падлогу сагрэла цеплыня цяпельца, якое з кожнай хвілінай набірае сілу і ўжо апякае ногі... Мяккі вясенні вечар густа калышацца за акном цёплым туманам, голая рабіна спакойна стаіць перад лазняй, чырвоны адбітак агню вырываецца з адчыненых дзвярэй і падае на яе мяккую скуру, і бачны пажоўклы пырнік, што нахабна вылез на прысохлы грудок зямлі, распраўляючы недзе ўнізе сваё ўчэпістае карэнне.

— Як добра! — уздыхае Віня.— Я хацела б перадаць усё, што зараз адчуваю, але для таго няма патрэбных слоў альбо я іх не ведаю, і таму кажу так звычайна і нецікава: «Як добра!»

— Ну вось і аставайся тут, калі табе добра, аставайся, будзем жыць.

Баба Марыля кладзе на калені белы вышыты хвартух і цёмным худым пальцам разгладжвае чырвонага пеўніка, вышытага па краі.

— Я не магу,— уздыхнула зноў Віня.— Я ж і прыехала з вамі развітацца, бо мне ліст прыйшоў, я паеду ў сталіцу вучыцца.

— Паедзеш... А каму ж я буду лазню паліць? — хоча пажартаваць баба Марыля; яна спрабуе падкласці паленца, але неасцярожна: полымя лізнула пальцы. Таргануўшыся, баба Марыля ўпусціла паленца, яно, загарэўшыся, упала.— Ат, не кідай яго назад — апячэшся! — махае яна Віні.— Гэта ты проста пад руку сказала... А прызнайся, прыедзеш жа хаця калі?

— Прыеду, канешне, прыеду! Я і сама не ведаю, чаму мне тут так... спакойна. Ведаеце, я быццам бы вярнулася здалёку. А я ж ніколі тут не была!

— Цяга зямная, дзіця маё. Цяга, цяга! Я сама думала, што дужэйшая за цэлы свет, што ўсё ў сабе самой адужала. А як ты з'явілася ў мяне — я па-новаму на свет глянула! Я кажу табе: «будзеш?» — а колькі гадоў я не казала так, а гаварыла: «было!». І што мне ўсё гэты Святагор успамінаецца? Вузельчык ягоны, які ён так і не падняў! Можа, і не варта было паднімаць? Бач, як яго ў зямлю ўбіла! І я — ледзь з каленяў паднялася...

— Не, баба Марыля. Як жа іначай даведацца, якая ў зямлі цяга? Я спачатку слухала няўважліва, а пасля таксама задумалася і цяпер думаю: не мог ён, разумееце, не мог ён той вузельчык не падняць! Прынамсі, паспрабаваць падняць. Прыйшоў, убачыў — і не перамог. Ну і што ж! Затое — спрабаваў, ірваўся, іграў са смерцю! Я думаю, што ён паміраў іншым, не такім, якім быў да таго, як дакрануўся да торбачкі. Не падняў, не развязаў вузел — дык што з таго?!

— Сама хочаш з усяго пачынаць, дзіця? Думаеш, спазнаеш нешта іншае? Цяга зямная — яна на ўсіх адна. І для кожнага — усё тая ж... Маўчыш... Не згаджаешся... Сама хочаш даўмецца... Ну, ну, падумай харашэнька...

Яна памаўчала, зноў падклала ў пячурку паленца. Цёмныя вочы яе былі журботныя і няшчасныя, і дзікаватыя іскрынкі зніклі са зрэнак, у якіх цяпер зыркалі адбіткі полымя. Светлыя, лёгкія, скакалі па чорных бярвеннях цені, салодка пахнула дымам — і Віні ўспомнілася адчуванне, якое яна перажыла вясной, адчуванне ганчака, які па паху, па лёгкаму яго павеву знаходзіць паляўнічы касцёр, раскладзены ў лесе.

— Не магу я ні з кім пра гэта гаварыць,— працягвала баба Марыля, нерухома гледзячы ў агонь.— Ні з кім. А ты ўсё разумееш. Быць не можа, каб не было ў цябе маёй крыві. Быць не можа... Дзеўка мая... Калі і не адгукаецца, калі яна жывая яшчэ і не думае прыходзіць... То хаця за цябе дзякуй ёй. Можа, і не так усё, як мне думаецца, але ж ёсць ува што верыць, на нешта спадзявацца... Ну што, пойдзем? Хай дух збіраецца. Не дзіравая зусім лазня, не струхлелая. Во стаіць як стаяла. Дарма Ліза брахала...

І снілася Віні, ці то ў гэтую ноч, ці то ў наступную: ідзе яна па зямлі, ідзе там, дзе стаяць цёмназялёныя суровыя сосны над сінімі-сінімі азёрамі, дзе жоўтыя пясчаныя берагі імкліва падмывае магутная азёрная хваля. Бачацца ёй прасторныя, зацененыя стогадовымі бярозамі шляхі, на якія ў маі асыпаюцца паважныя карычневыя хрушчы, бачацца лясныя гушчары, дзе над імшыстымі шэрымі купінамі ўздымаюцца кусты з буйнымі шызымі ягадамі, з серабрыстым налётам знізу — бабы збіраюць тыя ягады хуценька, баючыся ведзьмінага дурману, і ягады называюць дурніцамі. Стаяць у ціхіх мястэчках, у вёсках затуленыя густымі купінамі таполяў, з чорнымі грачынымі гнёздамі старадаўнія храмы, пашчэрбленыя снарадамі і кулямі, карычневыя плямы падпалін распаўзаюцца па сценах... Забытая сіметрыя вадаёмаў і ландшафту праступае пад рукамі новых умельцаў, і былыя дваранскія палацы аддаюць раўніва схаваныя таямніцы мудрых старажытных майстроў...

«Гэта мая зямля! — захапленне ўскіпае ў ёй.— Гэта мая зямля, пра якую раней я нічога не ведала — ні пра поўнач яе, ні пра поўдзень, ні пра ўсход яе, ні пра заход! Пра ўсё хачу даведацца, пра ўсё,

што было з ёй, маёй зямлёй, што будзе! Хачу ўзважыць вузельчык з сілай зямлі маёй, хачу да яго дакрануцца!»

А баба Марыля ляжыць без сну — і тую ноч, і наступную — і слухае, як, адагрэты і прываблены духам жытла, ціха забіраецца на прыпечак дамавік, як задаволена мурлыча, каштуючы крупнік, як, забываючы крыўду занядбання, ладзіць у хаце ранейшае, пакінутае ім селішча. Баба Марыля слухае Віціна дыханне, і грудзям яе дыхаецца лёгка і свабодна...

# ЦАНА

— Давайце, Амяльянавіч, яшчэ па чарцы. Колькі п'ю, а такой, як ваша зуброўка, нідзе не сустракаў. Далібог!

— Не, сынок, не магу. Мне яшчэ дахаты дабірацца. А ты сабе пі. Зуброўка, яна, брат, чалавека з дамавіны падыме, усе хваробы вылечыць. Толькі ад старасці не ратуе.

— Чаго вам скардзіцца, Амяльянавіч? Вы, не раўнуючы, як той дуб пры дарозе: ні маланка не спаліць, ні вецер не зломіць... Дарма, што за семдзесят.

— Не-е, Міхась. Гэта вам з Валянцінай шчэ жыць ды жыць. А мне ўжо той свет знакі дае: рыхтуйся, стары...

— Першы раз чую, дзядзька, як вы жаліцеся! — адазвалася ад печы Валянціна — моцная, дзябёлая маладзіца.— Гэта што ж за знакі такія вам падаюць?

— А ты ці чула пра Белую Панначку? Га? Чула. Дык во яна да мяне і прыходзіла. Два разы.

У хаце стала ціха. Валянціна і яе муж, Міхась Бабінок, пaглядзелі адзін на аднаго, пасля Міхась, як бы не дачуўшы апошніх слоў падвесялелага ўжо госця, перавёў размову на іншае:

— Во яшчэ хачу спытаць: як вы тую зуброўку ў лесе знаходзіце? Колькі разоў шукаў яе, ды так ні халеры і не знайшоў. Аднаго разу на нешта падобнае натрапіў, але ніякага паху ад яе не было.

— Гэта ты, хлопец, не зуброўку, а трын-траву знайшоў.

Госць пашукаў вачыма палку, што ляжала на канапе, узяў яе худымі вузлаватымі пальцамі, паклаў на калені. Сівая доўгая барада закрывала палову яго-нага твару, пакідаючы адкрытым вялікі гузаваты лоб, што навісаў над нерухомымі чорнымі вачыма. Жоўтыя і рэдкія валасы на галаве былі ледзь прыкметныя.

— Яна на зубрыную траву падобная,— працягваў ён гаворку,— толькі корань у яе другога колеру і пальцы ад яе чыстыя. А ў зубрынай травы карэньчык вішнёвы, на травінках беленькае такое, як мука. Дый шукаць зуброўку не абы-дзе трэба, а ў гушчэчы, дзе нерушы начуюць. Уцяміў?

— А праўда,— Міхась падміргнуў жонцы,— што яе толькі чысты на сумленне чалавек можа знайсці?

— Усяляк бывае,— павольна прагаварыў Амяльянавіч.— Свайму чалавеку лес усе дзівы адкрые, а сляпы і пад нагамі нічога не ўбачыць.

— Што ж, вы лясны чалавек, вам і праўда ўсё адкрыта,— усміхнуўся Міхась.— А не страшна аднаму на хутары, Амяльянавіч? А ты, жонка, чаго стаіш? Налівай госцю.

— Які ён госць? — адгукнулася Валянціна.— Ён амаль што родны нам. Столькі гадоў не забывае.

Яна падышла да стала, пацягнулася да пустой шклянкі.

— Не, дзеці, хопіць. Ты сама лепей выпі, не бойся.

Валянціна, павагаўшыся, наліла ў шклянку жоўтай вадкасці, глытнула. Амяльнавіч глядзеў на яе нерухомым цёмным паглядам, ласкава падбадзёрыў:

— Ну, дапівай! — Пасля памаўчаў, папрасіў: — Ты, дачушка, можа, на дарогу што праспявала б мне? Га?

— Давай, Валянціна! — падтрымаў яго Міхась.— Я, дзядзька, і сам люблю паслухаць яе.

Валянціна, злёгку ўсміхаючыся карымі вачыма, пачакала, пакуль яны сціхнуць, пасля ўздыхнула, набрала ў грудзі паветра і пачала:

Тры рэчанькі сцякаліся,
Тры сястрыцы збіраліся,
Адна адну пыталіся...

Нізкі, грудны голас яе пастулова набіраў вышыню, запаўняў хату, акуратна абклееную залацістымі шпалерамі, з чыстай пафарбаванай падлогай і белай як снег печчу. Кошка, што ўтульна разлеглася на ложку — высокім, з магутнымі сінімі падушкамі,— натапырыла вушы і, заплюшчыўшы вочы, стала лапай драпаць вывязаныя гаспадыняй узоры покрыва. Міхась цыкнуў на яе і зноў, ашчаперыўшы галаву рукамі, стаў слухаць песню. Амяльянавіч усё не зводзіў пагляду з Валянціны, і злавіўшы той пагляд, жанчына заружавелася і, паківаўшы галавой, закончыла:

Ой, не добра, сястрыца,
Са злым мужам жыць...

— Во халера! — у захапленні выдыхнуў Міхась.— А ці праўду кажуць, Амяльянавіч, што яна дужа на маці сваю падобная, калі спявае?

Цень нездаволенасці лёг на твар госця. Ён неахвотна адвёў позірк ад жанчыны, прамармытаў у бараду:

— Кажуць людзі. Не памятаю я... Колькі гадоў прайшло...

Ён устаў, кульгаючы і абапіраючыся на палку, пайшоў да печы, дзе на цвіку вісеў чорны калматы кажух. Валянціна дакорліва зірнула на мужа, кінулася дапамагчы, але Амяльянавіч уладна махнуў ёй рукой і, затрымаўшы за плячо, нягучна прагаварыў:

— Ты, Валька... Вы ж з Міхасём... не забываліся б на мяне. Ну самі ведаеце: нікога ў мяне няма...

— Дык жа дзеці ў мяне малыя, клопаты... У шко-

лу выправіць, пакарміць. А ў хаце што працы, а ў калгасе! Дый жудка мне ў вас на хутары, дзядзька, во — сама не знаю чаму, а толькі страшна так!

Ён адпусціў яе плячук, застыў на хвіліну, дапытліва гледзячы ў твар, пасля загадаў:

— Ну вот што: ты прыйдзі ў нядзелю. Хоць адна. Чаго табе з Міхасём баяцца? Дзела ў мяне да цябе ёсць. Чуеш?

— Вы гэтак просіця...— пачала было Валянціна, але Амяльянавіч перапыніў:

— Не прашу, а наказваю: так і так. А вы даўно ў мяне не былі.

— Ды чаго ты ёй талкуеш, Амяльянавіч! — загаварыў Міхась. Ён сядзеў ля стала, назіраючы за жонкаю, і цяпер, ікнуўшы, пацягнуўся да бутэлькі, адкуль на ўсю хату ішоў моцны, духмяны пах.— Сказана — прыйдзем у нядзелю дык прыйдзем!

Стары нерухома паглядзеў на яго, хацеў нешта дадаць, але раздумаў, матлянуў галавой і ступіў за парог, ускінуўшы на плечы цяжкую торбу, у якой прывёз на раённы кірмаш некалькі слоікаў мёду і яблыкі антоны, а цяпер нёс на свой хутар розныя кансервы, боханы хлеба і новае, загорнутае ў паперу тапарышча.

— Ну, Міхаська, ты ж і сундук у мяне! — правёўшы старога, Валянціна падсела да стала, забіраючы напалову распітую бутэльку.— Нашто ты яму то пра сумленне, то пра маці маю? Аўдоцця ж, помніш, казала, як ён каля мамы самлеў. Калі яе павесілі...

— А што я такога казаў? — працягваючы руку да бутэлькі, якую жонка тут жа схавала пад хвартух, здзівіўся Міхась.— Я ж... гэта... проста ўспомніў, што бабы брэшуць.

— Бабы! — перадражніла Валянціна, ідучы да кухоннага стала і хаваючы там бутэльку, якую Міхась праводзіў разгубленым, сумным позіркам.—

Бабы і плялі, што маю маці ён кахаў. А я да яе не падобная. Яна, кажуць, невысокая была і чарнявая, а я... дай бог вымахала...

Валянціна адчувала апошнім часам, што Амяльянавіч неяк цягнецца да яе, нібы да дачкі, і ёй было адначасна шкада адзінокага чалавека. Разам з тым было неяк страшнавата, таму што падсвядомым інстынктам жанчыны адчувала дзіўную, невядомую глыбіню чужой душы і баялася яе.

Зусім не падобная была яна на маці, але правільна казалі вясковыя бабы, і цяпер угледзеў Амяльянавіч, што пад час спеваў праступаў на яе заўсёды спакойным, непарушным твары водбліск жывога, тонкага і неперамажнага хараства яе маці, Ксені.

Ніхто ў вёсцы не называў Ксеню Яскевічавых прыгожай: худая, шчуплая, вёрткая, чарнявая — словам, цыганка. Выцягнулася Ксеня ў дзеўку — дзівіліся маці, чаго іх сыны за Ксеняй гужуюць. Дзівіліся, а пасля перасталі пасміхацца — гэта пасля таго, як пабіліся паміж сабою родныя браты, Іван і Антон Драчы, за Ксеню, на нажах біліся, а пасля Іван у турму пайшоў, а Антон аслепнуў на адно вока. Яскевічы праз тры месяцы паспешліва выдалі Ксеню замуж у Паўлавічы, за дзесяць кіламетраў ад іх вёскі, і ад спакойнага, медзведзяватага Анатоля нарадзіла яна перад самай вайной белабрысую, нетаропкую, як сам Анатоль, дзяўчынку.

Нічога не ведала пра маці Валянціна, апроч таго, што павесілі яе ў сорак трэцім за сувязь з партызанамі, не памятала ні твару яе, ні голасу — нічога. Амяльянавіч жа помніў многае, і ведаў ён шмат таго, аб чым не маглі нават здагадвацца ўсюдыісныя бабы.

Ніхто не ведаў пра тое, як убачыў ён упершыню Ксеню — на двары школы, куды на трактары пры-

вёз дровы. А тады быў шэры марозны дзень, бярозы густа запарэлі, і ціха-ціха, няўлоўна для вока, ляцеў серабрысты іней на дарогу, засцілаючы яе як бы лёгкім пухам. Ён, тады яшчэ малады хлопец, прыехаў да школы адначасна са званком, і тут жа, першай з гурбы школьнікаў, вылецела з дзвярэй Ксеня — ружовая, вясёлая,— і навечна засела ў ягонай памяці імгненне, асветленае бляскам чорных вачэй, беллю мяккага зімовага дня. Засела, стаілася ўглыбіні: другі месяц быў ён жанаты на Маркевічавай Зіне, і не след было даросламу чалавеку думаць пра нейкую малечу, саплівую сямікласніцу.

Нічыё вока не бачыла і тую Ксеню, удаву загінуўшага пры адступленні Анатоля, якая, выціраючы ад слёз твар, непрытомна секла тупой сякерай тоўстую алешыну, а занудлівы асенні дождж упіваўся ў яе ватоўку, як крывасмок, і чорныя космы валасоў падалі на яе лоб, ужо пасечаны маршчынкамі. Ён якраз вяртаўся да сябе на хутар, вытаргаваўшы на малалюдным пад час акупацыі рынку дзесятак сярнічак, што былі беражна захутаны ў кавалак палатна і схаваны на грудзях. Пераняўшы ў Ксені сякеру, ён лёгка ссек алешыну, некалькі бярэзін і моўчкі дапамог перавязаць іх размоклай вяроўчынай. Пасля — зноў жа маўкліва — пацягнуў тое бярэмя да ваколіцы, кульгаючы, бо нагу яго ў першы год вайны пашкодзіў асколак ад бомбы, ажно пакуль жанчына не перахапіла тую вяроўку, баючыся, каб хто не ўгледзеў іх удваіх. Амаль не пазіраў ён на Ксеню — але запомніў удзячную яе ўсмешку, і той востры касаваты зуб, што вытыркаўся збоку, і ўзмах мокрых веек, ад якога павеяла на яго дурманам.

Шмат чаго жыве ў ягонай памяці — і вялікае, і дробнае. Дзе тая сарочка з тонкага беленага льну, з чырвонымі вышытымі кветкамі, у якой Ксеня ўпершыню грэлася на печы ў хаце на хутары? Сатлеў

у зямлі пунсовы васілёк. Як ён палымнеў у хаце! Як папараць-цвет на Купалу — быстрым, буйным полымем, апякаючы прагныя, дрыготкія рукі!

Пасля Ксеня не раз прыбягала ў хату на хутары грэцца, тайком ад людзей, ад дачкі сваёй, і ён ужо прывык да яе дробнага стуку ў аканіцы, да марознага паху яе кажушка, да калінавай горычы яе чырвоных трапяткіх вуснаў. Спачатку, ашалелы ад шчасця, не пытаўся, чаму сляды яе прыводзяць не ад Паўлавіч, а з лесу і што ёй трэба ў лесе. Калі ж запытаўся — яна ўзмахнула вейкамі, усміхнулася — і прамаўчала. Але ён хутка здагадаўся, куды водзяць Ксеню лясныя дарожкі. Маўчаў, і толькі калі яна папрасіла неяк дапамагчы ёй данесці ў атрад два кулямёты — адмовіўся:

— Няхай самі цягнуць. Я галаву ў пятлю не хачу соваць.

— Ты ж мужык, а зараз і бабы ваююць! — ускіпела яна.

— А чаго мне ваяваць? Сюды, на хутар, не лезуць. Дый сама бачыш, які я ваяка,— ён паказаў на нагу.

— Не лезуць! Гэта пакуль што. Прыбяжыш за дапамогай — а позна будзе,— перасцерагла Ксеня.

— Сам упраўлюся.

— Дуб крэпкі, але і яго маланка крушыць.

— Ну вось што... Ты сабе што хочаш рабі, а мяне не цягні ў сваю кашу. Сябе і дачку не шкадуеш — тваё дзела, Ксеня. А пра нас не думаеш — гэта я таксама бачу. А болей нічога ведаць не хачу...

З таго дня і праслізнуў паміж імі — холад не холад, а так, маўчанне, якое, нібыта туман, што з'ядае снег, паволі забірала ў ім ранейшую радасць ад кожнай сустрэчы.

...Над бяскрайнім заснежаным полем па-гаспадарску плыў сярпок-веташок; далёка ўперадзе, у суровым старым лесе, што цёмнай цяснінай уставаў насустрач, было, відаць, утульна. У лесе кожны гук быў яму знаёмы. Тут жа, у полі, тонка і праціўна віскатаў пад нагамі снег, і віскат ляцеў наперад, выдаючы адзінокага падарожнага за вярсту. Не любіў Амяльянавіч поле за тое, што кожны мог цябе ўгледзець тут і пачуць, а ў лесе, нават зімнім, заўсёды можна схавацца за тоўстымі камлямі, за хмызняком. І хаця ніхто не сачыў за Амяльянавічам і ён ведаў тое — усё роўна спяшаўся ён да хутара, абапіраючыся на сваю кульбаку, бо заўсёды быў па натуры сваёй лесавіком, скрытным, хаця знешне як бы і гаваркім, і свойскім. Дзівіліся, праўда, людзі, чаму гэта так хутка пасля вяселля ад нейкай невядомай хваробы памерла ягоная жонка, дзівіліся яго заўсёднай прыязні да Валянціны. Праўда, да сябе запрашаў ён рэдка, так што і сама Валянціна здзівілася запрашэнню, але на тое былі свае, важкія прычыны.

Двойчы ўжо паказвалася ў яго на хутары Белая Паннaчка, а ён ад старых людзей чуў, што Паннaчка тая паказваецца чалавеку толькі перад смерцю як напамінак пра далёкую дарогу і як папярэджанне, каб спавядаўся перад сабой той чалавек, перад сабой і людзьмі ў справах і помыслах сваіх. Першым разам здзівіўся Амяльянавіч: не думаў ён дасюль пра смерць, жыў, як скалечанае, але магутнае дрэва, што глыбока ўплялося карэннямі ў матухну-зямлю, і ніякая хвароба яго не брала. А калі другі раз праплыла перад ім, як згустак туману, белая постаць — выпусціў з рук драўляную рыдлёўку, якою адграбаў ад ёўні снег, доўга стаяў, не адчуваючы холаду, а потым прайшоў у хату і проста з бутэлькі хлебтануў моцнай, духмянай зуброўкі, пасля яшчэ і яшчэ... Вы-

жлукціў усю бутэльку, але не захмялеў, а толькі сеў на лаве, падпёршы бараду рукамі, і доўгую, цяжкую думу, як камень, паспрабаваў прыўзняць, дый не адолеў. Ад таго і паехаў у нядзелю на рынак, а адтуль пайшоў да Валянціны і Міхася. Цяпер, вяртаючыся ад іх, пачаў вагацца: ці недарэмна клікаў іх да сябе на хутар?

...Хата, ледзь прыкметная пры слабым святле ветаха, паўстала перад ім неяк нечакана. Няпрошаная слязіна набегла на шчаку ад марозу. Упершыню такое з ім адбылося, каб прыйшоў дадому зацемна.

Запальваючы лямпу ў прахалоднай, моцна настоенай на зёлках цемры, завагаўся было, ці не пачакаць да заўтрага, не адкласці задуманае, але падумаў — і вырашыў, што чакаць не варта. Нельга чакаць, час падштурхоўвае, трэба перахітрыць яго, як некалі абхітрыў ён і суд чалавечы, і памяць сваю, і заўсёды выйграваў. Таму, разганяючы лямпай доўгія, хісткія цені, насцярожана прыслухоўваючыся да сваіх крокаў, ён падняў маснічыну, за якой пачыналася падмосце. Па моцных драбінках паволі, але ўпэўнена спусціўся ўніз і, абыходзячы бочкі з засолам і бутэлькі з самагонам, прайшоў у самы кут, узяў рыдлёўку і, паставіўшы лямпу на адну з бочак, пачаў зграбаць зямлю, утаптаную тут, як і ва ўсім склепе, так, што нічыё, самае пільнае вока не ўгледзела б, што гэты кут нешта хавае. Пасля, адшукаўшы цяжкі лом, Амяльянавіч некалькі разоў моцна гахнуў ім у чатырохкутнік цэменту, што паказаўся з-пад зямлі. Пасля чаго, дастаўшы праломленыя кавалкі цэменту, ён гэтак жа нетаропка і ўпэўнена падсунуў руку ў тайнік. Дапамагаючы другой рукой, ён выцягнуў з тайніка цяжкі збан з насечкамі-ўзорамі, накрыты гумавым кругам.

З лямпай у адной руцэ і збанам у другой ён цяж-

ка паднімаўся па драбінках, намацваючы наступную перакладзіну і ледзь трымаючыся на адной назе. Паставіўшы збан і лямпу на маснічыны, ён адпачыў некалькі хвілін, і зноў ягоныя пергаментныя вусны скрывіліся: цягне ўжо, цягне да сябе зямелька, во як не хоча выпускаць наверх!

Пасля ён старанна паклаў на месца маснічыны, апусціў лямпу на стол, пакрыты белым ручніком, і высыпаў на той ручнік усё, што хавалася ў збане.

У няяркім святле зальсніліся, як луска, залатыя і сярэбраныя манеты, задрыжалі рознакаляровымі агеньчыкамі рубіны ды ізумруды, устаўленыя ў старадаўнія наручы і пярсцёнкі, мякка зажаўцелі невялікія залатыя злiткі, адзін з якіх быў напалову абрублены.

Стары стаяў, упіўшыся вачыма ў свой скарб. Той бляск нібыта запаліў у самой яго душы нейкае полымя, якое, усё болей і болей разгараючыся, ажыўляла вочы, рабіла іх ліхаманкава-вялізнымі і бліскучымі. Ён працёр нягнуткім пальцам крывавы рубін на наручы.

— Што, і цябе аддаваць? — прамармытаў сіпавата.— І цябе?!

Ён выцягнуў з груды пацямнелы бранзалет, паднёс да твару маленькую, з прыкляпаным вушкам манету, памацаў яе няроўныя бакі і беражліва тое і другое паклаў убок. Пасля, падумаўшы, дадаў туды пярсцёнак, залатую грыўну і раптам, нібы ачуняўшы, правёў рукой па бугрыстым сваім ілбе, зноў сутаргава згроб усё ў адно. Твар яго перакасіўся. Некалькі хвілін ён стаяў знямелы, пасля пайшоў да паліцы ля пачарнелай печы, і схапіўшы бутэльку, глытнуў з яе вялікімі глыткамі.

— Хіба Валянціна сцерпіць? — мармытаў ён усё гучней, не заўважаючы, што голас яго дзіка і глуха гучыць у пустой хаце.— Хіба стрымае... гэта? Ад-

дацъ! Іш ты! Усё жыццё бярог, а цяпер аддавай чорту лысаму! Га!

Ён ізноў закульгаў да стала, пакутліва і доўга трымаў далоні на скарбе. Ліхаманкавыя ягоныя вочы шукалі выйсця: а што далей?

Калісьці, даўно, гэтак жа, у той жа самай хаце, стаяў ён над торбай, у якой яны разам з Ксеняй прынеслі скарб, але тады было прасцей: тады не ведаў ён ні таго залатога, з адламаным канцом, наруча, ні вунь той манеты з пагардлівым жаночым тварам...

— І цябе таксама? — шнырыў ён зараз паглядам па знаёмых да драбніц манетах.— Вунь тую, на якой зарубка? І цябе? — ён выцягнуў пярсцёнак, на якім тонка і светла смяялася біруза.— Ого! А трасцу вам!

Скурчанымі пальцамі рук, падобных да вялікіх чорна-шэрых павукоў, ён пачаў запіхваць золата і серабро назад, у збан. Ад постаці яго, што бязладна мітусілася па хаце, мігцела лямпа, пачварныя чорныя цені скакалі па сценах, па брудных, даўно не мытых масніцах. Неўзабаве на ручніку не засталося нічога ад багацця, якое толькі што было на ім, толькі нейкі паламаны сучок па-сіроцку ляжаў збоку, і Амяльянавіч, дрыжучы, падазрона разглядаў яго над лямпай, а пасля, вымацерыўшыся, расцёр у пальцах і чэпка падхапіў збан.

Павярнуўшыся, ён падняў затуманеныя вочы і перасмыкнуўся: ля самага парога, на маснічыне, якую нядаўна паднімаў, здалося, нібы мільгануўся белы цень.

— А-а-а, прыйшла! — ненавісна прашаптаў стары і каўтануў даўкі камяк.— Ізноў з'явілася? Ну ладна. Твая бярэ. Во толькі ўсё на месца ўстанаўлю. Адыдзі!

Ён зрабіў крок наперад, але белы цень не рухаўся, і ад нерухомасці яго, адрачонасці дыхнула на Рыгора нетутэйшым холадам.

— Хаця і Смерць ты, але баба ўсё роўна,— пагардліва прашаптаў ён, спрабуючы прагнаць лядзень, што падступіў пад сэрца.— На хвіліну адыдзі, чуеш?!

Ён цвёрда глянуў на кволую, туманную постаць — і на гэты раз утрупянеў, у вочы ўдарыла агнём. У чым гэта Панначка сёння апранута — ці не Ксеніна льняная сарочка на ёй? Твару Панначкі не разгледзець, змяняецца яно, як рачная роўнядзь, што бесперастанку пераліваецца струменямі, а вось сарочку бачыць ён так выразна, нібыта яна тут, перад вачыма, а не ля дзвярэй. Знямеў Рыгор, а Панначка нячутна набліжаецца, набліжаецца...

Ксеня стаіць насупраць. Толькі ж хіба сарочка на ёй? Няма сарочкі, толькі цёмна-зялёная сукенка, шарсцяная, з напаўадарваным рукавом. Сквозь падранае відаць на белым целе барвова-сінія апёкі — ад абцугоў, якімі яе ў гестапа палілі. А вочы Ксеніны, пад сівой пасмай, здзіўленыя, як у дзяўчынкі, і ўсмешка на белых вуснах застыгла.

— Чаго ты здзіўляешся? — хоча запытацца стары Рыгор.— Хіба ты раней не ведала? Сколькі гадоў ведала, а дзівішся!

А Ксеня нібыта не чуе. Глядзіць сабе і глядзіць, як бы хочучы нешта зразумець у ім, і ўсё тая ж белая ўсмешка на яе твары, і вочы такія ж зняможаныя і наіўныя. Адчувае ён, як рэдкія валасіны на яго галаве тырчма становяцца, як ад Ксенінага дзіцячага позірку не лядзень ужо пад сэрцам, а вогнішча, і паліць яно ўсё ўнутры, з кожнай хвілінай усё бязлітасней. І вось — нечалавечым болем раскалола цела, скруціла яго. Некалькі секунд глядзеў чалавек на тое, як паволі ўдарыўся аб падлогу гліняны жбан, як, падскокваючы, каціліся па масніцах манеты, пярсцёнкі, злiткі — а пасля зверху на іх паваліўся і ён сам.

...Вогнішча паліла яго нават у непрытомнасці, таму што, калі ён ужо ачуняў на халоднай падлозе і ўбачыў скрозь шчыліну аканіцы ружовае перад захадам неба, ён спачатку адчуў, як колкая вогненная мука рве сярэдзіну, а потым, усё ўспомніўшы і спрабуючы ўстаць, з жахам адчуў, як нерухома-мёртвай была галава, чужымі, не падуладнымі яму калодамі ляжалі ногі і рукі. З хрыпеннем выкатваючы вочы, ён усё не верыў... усё спрабаваў устаць... пасля ўжо не ўстаць, толькі павярнуцца, пасля — толькі вызваліцца з-пад каменнага цяжару... І толькі ўбачыўшы, як згасла за акном ружовае святло, зразумеў дарэмнасць сваіх спробаў, зразумеў, што прыйшло да яго — параліч, удар, які страшней за смерць: павольнае, адзінокае кананне.

Ён ляжаў спіной да стала, але па змрочнасці сцен, па загусцелых плямах на жоўтай столі, па чадзе зразумеў, што лямпа яшчэ канае, капціць, але газы ў ёй засталося мала, і цяпер давядзецца ляжаць тут у цемры, слухаючы, як сноўдаюць унізе пацукі. А колькі ляжаць? Пакуль не прыйдзе нядзеля і не прыедзе Валянціна з мужам? І ці прыедзе яшчэ?

Ад лютага бяссілля ён зноў застагнаў. Ну, так, сам жа папрасіў іх прыехаць, і цяпер скарб дастанецца ёй, хаця ён рашыў было, што не, нікому не ўбачыць багацця, за якое ён гатовы быў некалі ў пятлю лезці, за якое ён і прадаў некалі адзіную душу, якая цягнулася да яго і шкадавала — Ксеніну душу. А можа, і не прыйдзе Валянціна, згаджалася яна неахвотна, і тады валяцца яму тут да таго часу, пакуль згуба не завершыць сваю справу. І нічым, нічым нельга перашкодзіць зараз Смерці. Колькі захоча, зможа пацяшацца — не адагнаць яе ні рухам, ні нават шэптам, бо і на шэпт няма ў яго сілы. І — не наблізіць яе. А можа, наблізіць яе было б яшчэ лепей, чым адагнаць? Вунь як нясцерпна пячэ

ўсярэдзіне. Няўжо з такой пакутай адыходзіць з жыцця? І колькі прыйдзецца адыходзіць — дзень, два, тыдзень?

Цьмяныя залатыя лускавінкі ляжалі ля самай галавы. Колькі гадоў валодаў ён імі, а зноў жа зараз, відаць, у апошнія гадзіны, не ўладар. А хто тады? Успомніўся старадаўні запавет: «Не хавайце сабе скарбаў на зямлі, і дзеж бо скарбы вашы, ту і сэрца ваша будзе». Праўда гэта, праўда — колькі дзесяцігоддзяў сэрца яго было ў іх, тых лускавінках ды каменьчыках. Чаму ж цяпер яны не дапамогуць яму, не паднімуць з бруднай падлогі? А калі так, якая ім цана? Каб проста ўтрымаць багацце, павінен быць драпежнікам — а калі выйшла сіла? А яна прайшла, і сіла, і моц, і не воўк-адзіночка ён цяпер, а проста бездапаможны, струхлелы ўжо корч...

Ён захроп, закалаціўся, адганяючы ад сябе тую думку. Ізноў упартая сіла жыцця прымусіла яго напружыцца, сабрацца, каб хаця якім цудам, зубамі хаця падняць і схаваць скарб ад чужых вачэй. А інакш — нашто было само ягонае жыццё? Не змог ён карыстацца скарбам, не ў сілах быў разлучыцца з ім, адзін толькі раз аддаў, калоцячыся ад страху, маленькую залатую манетку ўрачу, каб той паставіў яму залаты зуб, дый то пасля не раз шкадаваў аб тым. А цяпер? Напружыўся Амяльянавіч — але бяссільна заскрыпела перасохлае горла ды вываліўся, бы здубянелы, язык.

Глупства тое, што нібыта збіраўся ён аддаць багацце Валянціне! Цешыў сябе, хітрыў перад сумленнем, сам думаючы, што перад смерцю адважыцца на такое, і нават запрасіў гасцей у нядзелю. Не-е, нічым не заслужыла Валянціна. Адкуль ёй ведаць яму цану? Адна цана ёсць у скарба, але ёсць і другая, патаемная. І пра яе нікому не раскажаш, таму што і зразумець яе можна, напэўна, толькі самому. Ды

і то тады, калі жыццё на сходзе і чорныя цені рухаюцца ў чорнай, як магіла, хаце.

Аднекуль з кута зашалясцела, пасля завіскатала — віскат быў высокі і жудасны. Няўжо то пацукі? Вось мяккае, лянівае зачмякала па падлозе... бліжэй, бліжэй... Вось яно — жывое, паганае, касматае — ускочыла на старога, вось нешта балюча хлестанула па воку — напэўна, матлянула хвастом,— ад чаго халодная слязіна паволі пакацілася па шчацэ. Новая пачвара ўскочыла на яго, чуваць было, як драпаюць пінжак кіпцюры. «Божа, хаця б не вымаць свой скарб з яміны, тады, можа, і памёр бы спакойна!»

— Свой скарб?

Голас прагучаў аднекуль збоку, але Рыгор тут жа пазнаў яго! Ён быў падобны на Ксенін.

Голас яе прабіраўся ў безабароннае цяпер сэрца, у галаву, прабіраўся вольна, як бы дачакаўшыся свайго часу, і ў памяці, таксама саслабелай цяпер, безабароннай, успыхвалі малюнкі, якія ён некалі імкнуўся забыць, забываў доўга і ўпарта. І хаця ўсё навалілася на яго цяпер — і голас Ксенін, і памяць, і боль,— але адагнаў ён ад сябе самае-самае патаемнае, тыя гадзіны, калі ноччу дабіраўся да знаёмага паліцэйскага, калі даносіў, што сёння да Ксені зайдуць сувязныя.

...У той дзень Ксеня прыбегла да яго рана, на світанні. Ружовая, мокрая ад дажджу, яна ўся гарэла, і ў расшпіленай ватоўцы сінела паркалёвая кофта, расхінутая на два гузікі, так што з-за яе выглядала смуглявая Ксеніна шыя і сарочка.

— Айё, Рыгорка, каб ты ведаў! — захлыналася яна словамі.— Хадзем скарэй, хадзем! Там... ля дарогі... у Захаркавым лагу... скарб!

— Ты самагонкі перапіла, баба? — здзівіўся тады

Рыгор, а ў самога нешта вухнула ў грудзях.— Які скарб, што ты мелеш?

— Скарб! Кажу табе! — хуценька сыпала словамі Ксеня, як быццам баючыся, што ён не паверыць.— Нейкія манеты, каменьчыкі! Дальбог!

— Дождж лле, што ты там бачыць магла! — як бы насміхаўся гаспадар, але сам не заўважыў, што тым часам нацягвае ватоўку, шукае вачыма торбу.

— Не верыш? Во паглядзі! Іду, а там нешта блішчыць! Сама спачатку не паверыла, паспрабавала пакапаць, ды пазногці садрала!

Яна выцягнула з кішэні і асцярожна высыпала на стол жменю манет. Рыгор паднёс адну да акна, паціснуў зубамі. «Ды няўжо сапраўды золата?!»

— Скарб... Дзіва знайшла, падумаеш. Іх у нас колькі знаходзілі.

Ён хацеў гаварыць спакойна, саромеючыся радасці, якая, як кіпнем, абдала грудзі, але рукі яго ліхаманкава перабіралі манеты, як бы баючыся, што тыя раптоўна знікнуць, што ўсё расказанае Ксеняй — туман, падман...

Яна бегла ўперадзе, адводзячы вільготныя галіны ад яго твару, блытаючыся ў высокай траве. Хутка яны былі на месцы, запэцканымі ў гліне рукамі ссыпалі ў мяшок залатыя наручы, пярсцёнкі, а пасля Рыгор яшчэ раз перакапаў зямлю наўкола і асцярожна пасек рыдлёўкай кавалкі глінянага збанка, як бы баючыся, што нехта здагадаецца. Дождж заліваў лог, дарогу, і дробна блішчалі на кучаравых Ксеніных валасах кроплі-брыльянты, а рука яе была гарачая і ліхаманкавая, і Рыгор, як ніколі, адчуваў сваю блізкасць з Ксеняй. Ён быў удзячны за тое, што яна не схавала ад яго кладу, што прыбегла да яго. Было ўсё яшчэ рана, але яны ішлі, насцярожліва азіраючыся па баках, а падышоўшы да хутара, Рыгор асабліва пільна агледзеў ваколіцу, спусціў з

ланцуга Лыску, каб чуць, калі падыдзе да хаты ліхі чалавек, і старанна зачыніў дзверы.

Высыпаўшы на стол торбу, у першы раз тады ён здранцвеў перад скарбам, у першы раз адчуў да сябе — уладара гэткага багацця — асаблівую, пяшчотную, шчымлівую павагу. Ксеня стаяла побач, павольна сцягвала з сябе ватоўку. Ён перавёў позірк на яе, няўцямна заўважыў, што кофтачка яшчэ болей расшпілілася, а пасля зноў зачаравана ўтаропіўся ў стол.

— Колькі ж самалётаў можна купіць за ўсё гэта? — нечакана запыталася Ксеня.

— Ну-у, хто яго ведае...— зноў жа няўцямна прамармытаў ён, а пасля, схамянуўшыся, уважліва глянуў на яе.— Чаго гэта цябе самалёты цікавяць?

— Ну, дак як жа? — яна зірнула на яго, як на дзіця.— Хочацца ж ведаць, што ж з усяго гэтага выйдзе, калі пераправім да нашых!

— Што?! — ён ускінуўся, як дзікі звер.— Куды?!

— Да нашых, кажу! А ты што думаў?

Ён нічога не думаў, ён проста не мог даўмецца, што магчымы такі паварот, і таму некаторы час глядзеў на яе, павольна ўнікаючы ў сэнс сказанага. А Ксеня, сурова ссунуўшы бровы, казала:

— Ты думаеш, прапаў мой Анатоль, дык і не помню пра яго? Не, мой мілы, помню! І не таму, што любіла,— ты знаеш, як мяне замуж выдавалі. А таму, што чалавек ён, і як падумаю, што гэныя гансы яго сякуць кулямётамі, як падумаю, дык душа пераварочваецца!

— Ты... дурніца, што гаворыш? — ён адчуваў, што ніводнае слова цяпер не дойдзе да яе.— Ты бачыш, якое гэта велізарнае багацце? І куды ты яго пацягнеш?!

— А сёння ноччу сувязная да мяне прыйдзе, я ёй скажу. А пакуль што... хай паляжыць у цябе.

Ты ж не звер, ты ж сам бачыш, што яны, гады, у нас творацць. Мы прыйдзем да цябе, ты не спі сёння. Добра?

— ...Ты сама была вінаватая, Ксеня! — хочацца крыкнуць Рыгору.— Ты сама мяне прымусіла...

Але шэпт яго не дасягае Ксені. Колькі трэба ёй, каб правесці Рыгора па ўсіх кругах памяці, па ўсіх шляхах — столькі часу і будзе ў яе. А яму не належыць нічога — нават смерць.

Хочацца крыкнуць Рыгору ў неба, папрасіць некага, хто мацней за ўсё, каб перапынілася размова, каб не мучыла яго голасам Ксені ні то памяць, ні то сумленне, якое, кажуць, даганяе ў рэшце рэшт чалавека, спяшаючыся за ім гады і дзесяцігоддзі,— але пустыя нябёсы маўчаць, і добра ведае Рыгор, што ніхто не адгукнецца, не дапаможа яму, што ніхто не можа зрабіць так, каб перастаў ён, нават скрозь заплюшчаныя павекі, бачыць Ксеніны вочы пад сівой пасмай, чуць голас яе — то вясёлы, смяшлівы, то змучаны і слабы, але не сціхальны!

...Расплаўленым золатам займаецца на другі дзень, на трэці — і то цёмна ў прамёрзлай наскрозь хаце, то прабіваецца скрозь аканіцы кароткае зімовае святло. І ўжо, здавалася, падышла смерць да Рыгора, ужо губляў ён прытомнасць і карчанеў у салодкім сне — але прыйшла Валянціна, а з ёю і Міхась, і — вось яно, самае страшнае! Выламаўшы дзверы і прывыкшы да цемнаты ў хаце, муж і жонка што яна не схавала ад яго кладу, што прабегла да яго прытомнасць, і з горкай мукай чуе ён галасы:

— Бяжы за доктарам, Міхаська, міліцыянера прыхапі. Хутка!

«Навошта міліцыянера?! — каб мог, на ўвесь хутар зароў бы стары.— Самі! Самі забярыце! Няхай ужо... хаця вам... дастаецца!!»

Але толькі бязглуздна крывяцца зледзянелыя яго вусны.

— Няхай золата гэта апрыходуюць,— задыхаецца ад натугі Валянціна, разам з Міхасём паднімаючы Амяльянавіча за ногі і рукі на тапчан.— Бачыш, дзядзька недзе скарб знайшоў, во яго і разбіла ад радасці. Ты не бойся, дзядзька Рыгор! Аддамо твой скарб куды трэба. Сабе не возьмем, не бойся! Нам чужога не трэба! Праўда, Міхась?

— Нягож! Не хвалюйцеся, Амяльянавіч! Зараз міліцыянера прыцягну, усё чын чынам!

Стары Рыгор усё варушыў вуснамі, не зводзячы з Валянціны страшнага, умольнага і ненавіснага адначасна позірку...

# АПОЎНАЧЫ, КАЛІ Б'ЮЦЬ КУРАНТЫ...

Так густа і бессаромна рос палын на даўнім гарадзішчы, узнесеным на галавакружную вышыню над далінай, што ў самай няўцямнай галаве цьмяна варушыўся жах перад усемагутным часам, і такой грознай сілай павявала ад шчарбатых сцен — астаткаў некалі магутнага замка, што толькі самы апошні гуляка мог заначаваць у абдымку з бутэлькай на гэтай пустэльнай гары, што нагадвала выкрашаны зуб, які можна было ўбачыць за многа кіламетраў ад раённага гарадка.

Гарадзішча, у нагах якога стагадовыя паркавыя дрэвы здаюцца карлікавымі кустамі, а велічэзны шпіль Фарнага касцёла — штыхам звычайнай вінтоўкі, здаецца, плыве ў залацiста-блакітнай прасторы гарачага ліпеньскага дня, і дзяўчынай, што адзінока сядзіць у праломе таўшчэзнай — у тры метры сцяны — авалодвае дрымота.

Толькі сёння раніцай прыехала яна ў гэты раённы гарадок, пра які марыла цэлы месяц — трыццаць доўгіх, упартых дзён,— заехала, каб пабыць тут усяго палову сутак; рашэнне ехаць было для яе самой такім жа нечаканым, як і для таго, да каго яна рвалася, аб кім тужыла. Чакаючы прыстойнага для візіту часу, яна спачатку трапіла на могілкі, утульныя і чыстыя, біткам набітыя мармуровымі анёламі, капліцамі і гранітнымі помнікамі, над якімі, у доўгіх галінах вяза, на розныя галасы шчабяталі птушкі, пасля выйшла да глухой агароджы закінутага манастыра, за якім, у светлай жаўцізне жыта, буйна цвілі

валошкі. З букетам, што пахнуў смолкай і свежасцю, яна вярнулася на плошчу, адкуль лёгка знайшла знаёмы па лістах адрас. У чырвоным драўляным доме з жоўтымі дарычнымі калонамі ёй шматслоўна растлумачылі, што Максім паехаў на цэлы дзень пад Белае возера, дзе на матацыклах гойсаюць за смерцю, а маці ягоная ўжо пайшла на працу. Пакінуўшы цыдулку, у якой прызначала сустрэчу, яна ў другі раз пайшла на плошчу і, блытаючыся ў вузкіх брукаваных вулачках, дабралася да гарадзішча, пра якое шмат расказваў Максім. Гарадок, у якім ён жыў, даўно стаў для яе як бы родным, яна часта ўяўляла ўсё, пра што чытала, і перад ад'ездам ёй нанова прысніліся і гара, і касцёл унізе, і далёкае возера на гарызонце, а цяпер сон здзейсніўся, яна звярала яго і яву, і ў яве было тое ж радаснае, светлае чаканне сустрэчы, што і ў сне, а сон да драбніц супадаў з рэчаіснасцю.

І цяпер яна сядзела, узнесеная над усім светам, і дрымота ўсё мацней падала на яе. Непадалёк пачуліся нейкія крокі, яна імкліва расплюшчыла вочы. Але то была ўсяго толькі старая стомленая каза, яна павольна ішла па цвёрдай сцяжынцы, цягнучы разбухлае вымя, і дзяўчына, пашукаўшы ў сумцы, працягнула ёй цукерку. Каза заклапочана зашапацела фальгой, пасля, пастаяўшы яшчэ і нічога болей не дачакаўшыся, раўнадушна пайшла далей, пастукваючы капыткамі па старажытнай цаглянай муроўцы. Адышоўшыся, яна гэтак жа дзелавіта пачала шчыпаць траву, трасучы злямчанай барадой, і дзяўчына расчаравана адкінулася назад, закрываючы вочы і нібы патанаючы ў цёплым магутным целе зямлі. Ёй хацелася паляжаць паўгадзінкі, а пасля ізноў блукаць па гарадку, але, стомленая хваляваннем і дарогай, яна нечакана для сябе заснула, пакуль яе не разбудзіла сонца, уварваўшыся ў вочы гарачымі

чырвонымі кругамі. Абтрасаючыся ад пяску і далanёй прычэсваючы кароткія русыя валасы, яна пачула крыклівыя хлапечыя галасы і, выглянуўшы з-за сцяны, з цяжкасцю разгледзела ў асляпляльным марыве дня ўжо знаёмую казу і чатырох хлапчукоў. Трое, наступаючы на чацвёртага, нечага патрабавалі ад яго, а той, ухіляючыся ад тычкоў, з плачам у голасе паўтараў:

— Не! Не дам! Сказана вам! Не дам на Казьцы ездзіць!

— А мы самі! Без цябе абыдземся! — хапаючы казу за рогі, закрычаў старэйшы. Тая спалохана брыкнула, вырвалася, адбегла, але тут жа зноў падбегла да ўладара, які зноў кінуўся на яе абарону.

— Мамцы скажу, паглядзіце!

Голас яго быў няўпэўненым, слабым, і калі ён загукаў уніз, дзе мясцілася вуліца, сваё «мамка!», трое засмяяліся.

— Ведаем, чаго там! Мамка твая ў бальніцы, так што давай сюды сваю Казьку!

— Мамка! — яшчэ грамчэй азваўся Казьчын абаронца, і дзяўчына не вытрымала, выйшла з-за сцяны:

— А ну, пайшлі адсюль! Утраіх на аднаго! І не сорамна?

Хлапчукі, што з трох бакоў ужо абкружылі казу, разам застыглі, на тварах іх, расчырванелых ад пагоні, адначасова адбіліся прыкрасць і страх. Але самы старэйшы, чарнавокі, з дзёрзкім позіркам — з тых, хто звычайна верхаводзіць у хлапечых гуртах,— разгледзеўшы дзяўчыну, пажвавеў.

— А што мы такога робім? Падумаеш, Казька! Глядзець моташна, як ён яе лашчыць! — смела сказаў ён, сплюнуўшы скрозь зубы.

— Ён баязлівец, гэты Антак! Толькі з казой і дружыць! Вы яго не шкадуйце,— падтрымаў верхавода другі, што стаяў бліжэй да Антака.

Хлапчукі былі прыкладна роўныя, Антак жа — значна меншы, драбнейшы. Паліняла кашуля на ім была акуратна зашпілена на ўсе гузікі, з каўняра тырчала худая незагарэлая шыя, і ўвесь ён — ціхі, нейкі прыгладжаны — быў поўнай процілегласцю іншым: у аднаго на калене была глыбокая свежая драпіна, адкуль сачылася кроў; на другім калене штаны былі таксама парваныя. У другога на клятчастай кашулі чарнела тлустая мазутная пляма. Старэйшы, з крутой цыганскай шавялюрай, быў увогуле толькі ў абтрапаных школьных штанах, і загарэлы хлапечы торс яго быў спярэшчаны белаватымі блізнамі.

— Эх ты, знайшоў з кім ваяваць! — дзяўчына цяпер звярталася толькі да яго, таму што адчувала ў хлапчукоў упартую гатоўнасць на супраціўленне.— Давайце я вас лепей цукеркамі пачастую, а маленькага не чапайце,— сказала яна і шчоўкнула замком, але разлік яе аказаўся правільным: завадатар спрэчкі з пагардай глянуў на сумку і, махнуўшы рукой, згадзіўся:

— Ладна! Пайшлі адсюль, не будзем чапаць... маленькага!

Ён зарагатаў, пайшоў прэч, але абярнуўся і зморшчыўся, дражнячы Антака. Хлопцы пакорліва паўтарылі за ім грымасы, пасля ўсе яны пайшлі да струхлелага мастка, што злучаў гарадзішча з вулачкай, якая адна і вяла да гары.

Антак стаяў, не ўздымаючы галавы. Каза цяжка падышла да яго і асцярожна барнула ў бок. Вочы ў яе былі журботныя, нібы яна разумела ўсё, што адбылося, і цяпер вінавацілася перад гаспадаром за сваё бяссілле. Барнуўшы, яна пацерлася рагамі аб ягоныя сцёгны, але хлапчук толькі таргануў галавой і адвярнуўся. Тады, абышоўшы кола, яна ізноў ціха торкнулася ў ягоны жывот і зазірнула ў твар.

— Што ж ты яе крыўдзіш? — дзяўчына ўсміх-

пулася, і дастаўшы цукерку, зняла з яе абгортку і працягнула Казьцы, але тая не варухнулася; па-ранейшаму жалобна і нерухома яна глядзела на Антака, зваляная барада яе дробна трэслася.

— Яна ж невінаватая! — дзяўчына гаварыла ў ў спіну хлопчыка, гаварыла мякка і нецярпліва. Нешта перашкаджала ёй узяць і пайсці адсюль, і хацелася супакоіць сваё сумленне, а пасля бегчы на плошчу. Максім мог прыехаць раней, а кожная яе гадзіна была цяпер злічана, дый цэлы месяц яны не бачыліся, з таго часу як скончылася сесія ў інстытуце, Максім паехаў дадому, а яе паслалі ў піянерскі лагер, дзе ёй працаваць яшчэ два месяцы, да самай восені!

— Ты чуеш мяне? Памірыся з Казькай! Ну, глянь на яе!

— Заўтра яны зноў прыйдуць... А яе нікуды больш не зацягнеш. Толькі сюды!

Ён сеў, усё не гледзячы на казу, і дзяўчына прысела перад ім. Па твары хлапчука павалі цяклі дзве мутныя кропелькі.

— Чаму ж бацьку не паскардзішся? Або хто там у цябе ёсць?

— Няма ў мяне бацькі,— усхліпнуў Антак.— Толькі мама. Я Казьку баюся крыўдзіць: мама ейнае малако надта любіць. Я кожны дзень нашу ў бальніцу глячык...

Ён змоўк, рукавом выцер слёзы і, глянуўшы Наталі ў твар, дадаў нечакана:

— А вы, цёця, малако ад казы любіце?

— Я? — дзяўчына чамусьці збянтэжылася.— Я... ніколі яго не спрабавала, толькі чула, што яно нясмачнае. У магазінах жа яно не прадаецца,— нібы апраўдваючыся, дадала яна.

— Тады паспрабуйце,— проста сказаў Антак.— Тут пасудзіны няма, а то я проста тут падаіў бы

Казьку. Пайшлі да нас, а? Цёця?.. Там Віцька чакае,— пасля паўзы дадаў ён.— Я ведаю... Нябось думае — я адзін назад пайду...

— Ну... як гэта — да вас? Што ты... І чаго ты іх так баішся, не разумею! — паспрабавала яна перавесці гаворку на іншае.

— Я не іх баюся... Я — за Казьку... У яе ж малако, а яны... А мамцы трэба выздаравець! Пайшлі, я вас вельмі прашу! Тут недалёка, пад гарой!

— Ведаеш... у мяне часу малавата,— яна зноў спрабавала адмовіцца.— А ты што, адзін і жывеш?

— Адзін,— пацвердзіў Антак.— Бабуля нядаўна памерла, за мной суседзі глядзяць, па чарзе. Толькі зараз усе на працы. Пайшлі, га? Убачыце, малако ў Казькі смачнае. А як вас завуць, цёця?

— Якая ж я цёця? — засаромелася дзяўчына.— Я толькі першы курс закончыла, а завуць мяне Наталяй, так і называй, добра?

— Добра,— кіўнуў ён галавой.

— Ну што з табой рабіць? Пойдзем. Толькі я на хвілінку...

Ён засвяціўся тварам, коратка свіснуў, і каза, узрадавана мэкнуўшы, подбегам заспяшалася ўперад, як здагадаўшыся, аб чым ішла размова. Наталя ішла побач з Антакам, скоса пазіраючы на ягоны засяроджаны профіль. Цёплы вецер лёгка раздзьмуваў кароткую льняную сукеначку, і яна, абцягваючы яе, з цьмяным пачуццём нялоўкасці і шкадавання глядзела на хлапчука, на яго старэнькую кашулю з акуратна пакладзенай латкай, на залаціста-русы віхор на ягонай галаве.

— А хто есці табе гатуе?

— Я сам,— ён з гатоўнасцю адгукнуўся.

Вочы ў яго былі спакойна-ласкавыя, нібы згода Наталі пайсці да яго ў госці адразу прымусіла яго адчуць асаблівую годнасць і спакой.

— Я бульбу смажу,— тлумачыў ён,— макароны магу варыць, яечню гатаваць. Я шмат чаго ўмею...

Яны перайшлі мосцік і ўбачылі Віцькаву кампанію, што тулілася за крапасным валам і цяпер са шкадаваннем праводзіла іх позіркам. Антак таксама маўкліва паглядзеў на Наталю, і яна адчула няёмкасць і адначасна палёгку: сапраўды, нельга было пакідаць Антака.

Масток, што аддзяляў гарадзішча ад горада, служыў своеасаблівай мяжой, і гэта асабліва адчувалася, калі Наталя ступіла з драўляных маставін на брук. Паветра тут было іншым: пахла разагрэтай лебядой і смажанай цыбуляй, ад калонкі ўніз па бруку шыпеў гнуткі цурок вады. Каза панюхала ваду, крыху лізнула яе і пайшла далей, асцярожна цокаючы капыткамі па каменнях, між якімі настырна прабівалася трава.

Вуліца крута пайшла ўніз, агінаючы гару, і Антак узяў Наталю за руку:

— Тут можна зламаць абцас. Трымайцеся за мяне. Я ўжо не маленькі, у трэці клас перайшоў.

Далонь ягоная была жорсткаю і гарачай, і Наталі было няёмка ісці, трымаючыся за хлапечую руку, а ён, нібы і не адчуваючы яе збянтэжанасці, трымаўся разважліва і ветліва, як дарослы. Таму яе няпоўкасць праходзіла, а цёплае, шчымлівае пачуццё неўпрыкметку расло, і ёй хацелася пагладзіць Антака па галаве — пагладзіць асцярожна, каб ён адчуў яе шчырасць і не схаваўся ізноў у сваёй адзіноце.

Яны спусціліся ў самы канец вулачкі, да рова, з якога цягнула вільготнай прахалодай непрасохлай і ў такую гарачыню зямлі. Над самым ровам мясціўся каменны дом з патрэсканай жоўтай тынкоўкай і вастраверхім чарапічным дахам, што быў залатаны чорным толем, які рэзка кантраставаў з цёмна-чыр-

вонымі чарапіцамі, там-сям абвугленымі, пашчэрбленымі, па якіх з боку рова поўз шыза-зялёны мох. Каза радасна патрухкала да ганка, дзе стаяла пачарнелае вядро з вадой, і, падняўшы галаву, сачыла за Антакам, які, не спяшаючыся, адліў вады ў вялікую драўляную місу, пасля зняў з прабоя замок і, кіўнуўшы галавой у калідор, паклікаў Наталю ў пакой.

У пакоі было чыста і змрочна. Замкавая гара, над якой вісела блакітна-жоўтая смуга, здавалася праз акенца яркай нетутэйшай карцінай, што павесілі гаспадары на белую, як у бальніцы, сценку. Белай была і старадаўняя кафляная печ з ружовымі ўзорамі, і засціланне на вузкім жалезным ложку; масніцы, таксама вышараваныя дабяла, жалобна зарыпелі пад нагамі Наталі, калі яна ступіла ў пакой і, прывыкаючы да цемры, спынілася пасярэдзіне; пасля яна знайшла вачыма крэсла, прайшла да яго па паласатай дарожцы і з палёгкай прысела. Блізка каля яе, над сталом, накрытым адзіным у пакоі прадметам раскошы — пурпуровым аксамітавым абрусам,— вісела распяцце чорнага дрэва, крыху правей на тумбачцы ляжала тоўстая кніга ў драўляным пераплёце, упрыгожаным цьмяным сярэбраным узорам.

— Гэта бабуліна,— растлумачыў Антак, уваходзячы ў пакой з цяжкім гліняным кубкам, над якім калыхалася белая пена.— Піце на здароўе. Малако смачнае, толькі ізноў сёння крышку горкае, але ж гэта нічога, праўда?

— А ты? — спыталася Наталя, прымаючы кубак з ягоных вільготных, відаць, толькі што памытых рук.

— Я зараз. Вы піце, у мяне ёсць свой кубак,— супакоіў яе хлопчык і выйшаў з пакоя.

Вялая і гарачая цішыня, што стаілася за домам, данесла аднекуль здалёк, з нейкай вулачкі, нецярплівае рыканне матацыкла, які то застываў на месцы,

то спяшаўся наперад — раздражнена, настойліва. Можа, гэта вярнуўся Максім і цяпер шукаў яе, ганяючы матацыкл па сцёртым бруку, палохаючы прахожых. Хваляванне падступіла да горла, яна не магла зрабіць ніводнага глытка, як ні старалася. Антак вярнуўся з кружкай і вышытым ручніком, адзін канец якога ён паклаў на калені Наталі, а другі — на свае.

— Няўжо гэта ты трымаеш хату ў такім парадку? — спытала яна хлопчыка, хаця ведала адказ.— Паверыць цяжка, што хлопец такі акуратны можа быць. Адзін жа!

— Я не адзін,— засмяяўся Антак.— Мы ж з Казькай. І спім тут, на падлозе. Мама таго не ведае, яна думае, што я ў цёці Ніны начую. А мне шкада Казьку адну пакідаць. А раніцай усё прыбіраю. Яна, ведаеце, усё разумее, пасля яе ніякага бруду не застаецца. Толькі што гаварыць не можа.

— А хто ж твая мама?

— Яна на фабрыцы працуе.

Худы твар яго прарэзала ўсмешка, шэрыя вочы заззялі — адчувалася, што маці ён любіць, таму што з ахвотай пачаў расказваць, якія ўзоры вышывае яго-ная маці, як паважаюць яе на рабоце. Праўда, у апошні час яго неахвотна пушчаюць на фабрыку, кажуць, ён чужы, а ён зусім не чужы... Ён уздыхнуў.

— Скажы, Антак, чаму ў вас...— Наталя запнулася, ад чаго конаўка яе, пастаўленая на каленцы, выплеснула цёплую пену прама на край сукенкі.— Так пуста, ці што? — закончыла яна цвярдзей.— Цяжкавата вам з маці ўдваіх, так?

— Гэта ўсё бабуля,— сумна адказаў Антак.

Наталя запытальна глядзела на яго, а ён задумаўся, толькі час ад часу адпіваў малако з конаўкі, і вочы яго ізноў былі бясколернымі, сумнымі.

— Бабуля мая... яна нейкая дзіўная была, і не злосная, а проста... нікога не любіла. Толькі ў касцёл хадзіла. Цёця Ніна казала, што яна мамку ў труну заганяе, таму што, пакуль я не нарадзіўся, маме весялей жылося... А з-за мяне...

Ён замоўк, паглядзеў на яе рукі.

— Што ж вы малако не п'яце? Яго ў нас шмат, не бойцеся... Можа, горкае? Гэта з-за Віцькі...

— Не, Антак. Проста мне трэба ісці. Мяне шукаюць, і я сёння еду. Я ж не з гэтага горада.

— Едзеце? — вочы хлопчыка ўспыхнулі.— А куды?

— Далёка. На другі канец Беларусі. Там мяне ўжо чакаюць. Столькі спраў, каб ты ведаў!

Яна ўжо амаль скардзіцца гэтаму малому, ёй хочацца гаварыць з ім, расказаць пра Максіма, але яна стрымліваецца.

— Калі вы едзеце? Можна, я праводжу вас?

— Ну што ты! — засмяялася Наталя.— Мой цягнік адыходзіць роўна апоўначы. Гэта калі на вашай вежы, той, што на плошчы, будуць біць куранты. Яны ж б'юць апоўначы?

— Б'юць,— ківае Антак.— Так грозна: бум! бім! Я тады мацней да Казькі тулюся.

— Ну вось. А калі ты прачнешся, я ўжо буду далёка...

— Далёка...— рэхам паўтарае Антак, і Наталя зноў чуе, як носіцца па вуліцах адзінокі матацыкл, і таму, не сустракаючыся вачыма з Антакам, яна спрабуе паставіць на стол некрануты кубак з малаком.

— Што ж вы! — голас у Антака наліваецца крыўдай, і Наталя не вытрымлівае. Яна сядзіць і п'е казінае малако, ад якога патыхае гаркавым палыном — тым палыном, які расце на старым Замчышчы, прарастае са старажытных абпаленых камянёў, з

зямлі, што спакойна прыняла ў сваё ўлонне і грозныя сцены, і мячы, і дзіды — і растварыла іх у сваім лоне. Наталя п'е, а Антак сядзіць побач і ўважліва глядзіць на яе — смешны хлопчык у выцвілай кашулі і сандалетах на босых нагах, з чорнай радзімкай на скроні, пад бялёсай выцвілай пасмай,— глядзіць сур'ёзна, нібыта яны абое, Наталя і ён, выконваюць нейкі дзіўны абрад, зразумелы толькі ім адным.

— Ну што ж, Антак. Бывай. Не сумуй тут. Чакай маму.

Ён сціснуў вусны, вочы ў яго сумныя, аднак Наталя ставіць кубак і ідзе, ледзь не сутыкнуўшыся на ганку з Казькай, якая ляжыць на пацямнелых дошках, падвярнуўшы пад сябе нагу і паклаўшы на другую рагатую галаву са стомленымі старэчымі зрэнкамі.

...На вуліцы нібы нічога не змянілася, аднак сонца схілілася да гарызонта, ля дамоў ляглі цені, а пясок ля вадакачкі ўжо суха хрумсцеў і пыліўся пад яе крокамі. Мацней пахла кропам і маладой бульбай ад гародчыкаў, што падступалі да самога Замчышча, дзе-нідзе спрабуючы ўзабрацца на гару.

Максіма яна ўбачыла адразу, як толькі выбралася на плошчу. Ярка-жоўтая нейлонавая кашуля, расшпіленая ледзь не да пояса, маляўніча выдзялялася на фоне брудна-белай сцяны універмага. Адной рукой ён трымаўся за руль вішнёвай «Явы», другой боўтаў перад сабой навюткім шлемам, што ззяў у водбліску апошніх праменняў, нібыта залаты шлем Ахіла, вось-вось гатовы ўзляцець на круглую стрыжаную галаву. Кашуля прыгожа адцяняла яго загарэлы хлапечы твар з цёмным румянцам і цёмна-зялёнымі вачыма.

Ён таксама ўбачыў яе, пажвавеў, затанцаваў на месцы, нецярпліва перахопліваючы руль дзвюма ру-

камі, нібы спяшаючыся хутчэй пасадзіць яе на матацыкл і везці хоць на край свету.

— Дзве гадзіны цябе шукаю! — закрычаў ён здалёк.— Дзе ты знікла? Праз хвіліну фільм пачынаецца, «Парыжскія тайны», там усе сядзяць як на іголках. Сядай! Пасля паедзем у матэль, там такі бар адкрылі! Гэта табе не што, а Захад. А заўтра...

— А заўтра не будзе, Максімка. Я еду праз шэсць гадзін, у поўнач. У мяне таксама білет... на цягнік.

Яна з усмешкай паглядзела на Максіма, як заўсёды, дзівячыся пра сябе ягонай неўтаймаванасці і лёгкасці, з якой ён прымаў жыццё, бесшабашна трымаючыся на самых крутых яго хвалях.

— Так?! — твар у Максіма расчаравана выцягнуўся.— Ты што ж, збіраешся пакінуць мяне, як Папялушка на балю? Не! Так не пойдзе. Білет заменім, і...

— І я ўсё роўна паеду,— мякка запярэчыла Наталя.— Ты ж мяне ведаеш. Дысцыпліна... дзеці. Як яны без мяне? А ты... Чаму я цябе вучыла? Знайшоў мадэрновы фільм...

— Ну, прапала мая галава! — весела зморшчыўся Максім.— Ты ўсё тая ж,— дадаў ён, перакідваючы нагу цераз сядзенне і ўключаючы запальванне.— Прын-цы-повая! Жыццё — яно не любіць, каб скавыталі, а ты...

Наталя не пачула апошнія словы, таму што матацыкл ірвануўся наперад.

На пачатак сеанса яны ўсё ж не трапілі, прабіліся на месцы, торкаючыся ў чужыя калені, а пасля сядзелі, няўважліва гледзячы на экран, таму што Максім усё спрабаваў пацалаваць яе ў шыю, дзе пушыліся ўпартыя пасмачкі, а яна штурхала яго ў бок, раз'ятрана шыпела і разам з тым адчувала сябе такой шчаслівай, што яе не маглі збіць з панталыку нават злыя пагляды суседзяў справа і злева.

Пасля кіно іх чакалі. Чацвёра хлопцаў на матацыклах і дзяўчаткі — усе прыкладна аднаго ўзросту з Наталяй,— закрычалі, замахалі рукамі. Максім хуценька перазнаёміў яе з усімі, але Наталя нічога не запомніла ад збянтэжанасці, толькі першага, Валодзю, які падышоў да яе не спяшаючыся, упэўнена і дапытліва разглядаючы яе ўсю — ад ілба да кончыкаў не надта новых туфлікаў. Пасля ён ізноў наблізіўся да яе — калі абмяркоўвалі, якой дарогай ехаць,— і шматзначна ўзяў яе за руку:

— Мы Максіма без вас ледзь не ажанілі. Каб ратаваць. А то калі такая дзяўчына возьмецца за ратаванне душы — усё, прапаў чалавек!

Наталя імгненна ўспомніла інтанацыю, з якой Максім адмахнуўся ад яе там, ля універмага, і, вырваўшы сваю руку з чэпкіх Валодзевых пальцаў, моўчкі села на «Яву», стараючыся, каб Максім не заўважыў яе спахмурнелага твару. Пасля яны ўсім гуртам сядзелі ў бары, дзе на цяжкіх драўляных панелях бранзавелі чаканкі, на дубовых круглякaх вакол дубовых калодаў сядзелі завесялелыя мужчыны і дзе Валодзя настойліва хацеў нешта давесці ёй, Наталі, нібы яна была ягоным асабістым ворагам.

— Ты вось што,— ён курыў цыгарэту за цыгарэтай,— не крыўдуй, я чалавек просты, але слова сваё скажу. Не пазнаю Максіма. Паступіў у гэты ваш інстытут — другім стаў. Ад кампаніі адбіваецца. Разважаць пачынае. Нашто яму разважаць? Мужчына ледзь не так што — не разважаць, а адразу — у зубы! Каб баяліся! А ён далікатным робіцца. Не-е, мы яго так проста не аддадзім.

— Не слухай яго, ён Максіму сваю сястрычку сватае, каб баксёра ў родзічах мець. А то сам — як Кашчэй! — весела закрычала праз Максімава плячо адна з дзяўчат, боўтаючы белай саломінай у кактэйлі. Наталя ўбачыла, як зачырванеліся шчокі ў Мак-

сіма. Ён на некалькі імгненняў моцна прыціснуў сваю шклянку з сокам да яе шклянкі, нібы стараючыся нешта давесці без слоў, адгарадзіў яе ад Валодзі і ўзяў за плячо.

— Пайшлі адсюль,— ціха вымавіла Наталя. Ёй цяжка і нязручна было сядзець на высокім табурэце, яе раздражняў цыгарэтны дым, што густа калыхаўся над сталамі, пах вільготнай вяленай рыбы, лянівы шчэбет дзяўчатак. Збіраючыся ў дарогу, яна не думала пра заходні мадэрн, ёй чамусьці ўяўлялася, як яны ўдваіх будуць сядзець недзе ў зарослым парку альбо за горадам, ціха гаварыць пра нешта харошае і яна паспее расказаць Максіму хаця б крышачку з таго, што перадумалася ў адзінокія гадзіны, калі пасля адбою ў лагеры яна бегла на капрызную рэчку Беразанку і гадзінамі бяздумна сачыла, як уставаў ранні маладзік або паволі гусцела белая пелена туману.

Максім нечакана лёгка згадзіўся. Але кампанія не хацела іх адпускаць.

— Паехалі ў парк. Там танцы! — перакрыў галасы Валодзя.— А пасля мы цяпнем у мяне мацнейшага, а то што гэтая брыда!

І зноў Наталя сядзела па-за Максімам і, учапіўшыся за яго, слухала, як цёплы і пругкі вецер свішча ў вушах, б'ецца ў каленцы, кудлаціць валасы; ізноў ёй было хораша з Максімам, і не хацелася ні аб чым думаць, здагадвацца, таму што галоўнае было ў тым, што ён узрадаваўся ёй, чакае яе, можа, якраз дзеля яе прыдумаў гэты бар і кампанію. У рэшце рэшт, яны не бачыліся цэлы месяц, ён адвык ад яе, адвучыўся настройвацца на яе хвалю — хіба ж за дзень выправіш усё гэта? Будзе восень, і ён зноў стане ранейшым, такім, як павінен быць...

Было цёмна, і калі дарога нырала ў нізіны, фары выхоплівалі з начы то спалоханага зайца, то адзіно-

кі куст дзядоўніку — натапыраны і фантастычны,— а пасля высока ўперадзе, закрываючы палову зорнага неба, паказалася Замкавая гара. Матацыклы з трэскам узляцелі на ўзвышша, адкуль жоўтымі ліхтарамі заміргаў гарадок, пасля рэзка павярнулі ўлева — уперадзе вырасла агароджа парку. І вось ужо перад вачыма Наталі калыхалася, вухкаючы і смеючыся, запоўненая да краёў танцпляцоўка, музыка абрушвалася на галовы, паступова шалеючы і набіраючы моц, і дзіўным дысанансам нахабнаму грукату барабана была цудоўная, ціхая летняя ноч, высачэзныя маўклівыя таполі навокал і пругкае дыханне духмянай травы, што далятала з далёкіх цёмных палёў.

— Пайшлі адсюль,— ціхенька шапнула Наталя.— Хоць крышку пагуляем.

Яна асцярожна пагладзіла яго па спіне; пяшчота перапаўняла яе, а час ляцеў, і поўнач набліжалася да іх, як папярэджанне ўсіх будучых расстанняў, а ён, Максім, падумаў пра нешта сваё, іншае, таму што вусны яго склаліся ва ўсмешку ганарлівую і задаволеную, і ўсё ж крышачку разгубленую.

— Як жа... А, ладна! Мы хутка! — крыкнуў ён Валодзю, пачакаў, пакуль той, апошнім, пройдзе на танцпляцоўку, а пасля абярнуўся да Наталі і шчасліва засмяяўся:

— Ну вось! Вядзі цяпер куды хочаш!

— Калі б ты заўсёды быў такім паслухмяным! — уздыхнула Наталя, адчуваючы, як перадаецца яе руцэ гарачая ўпартая сіла хлопца.

— Заўсёды нельга,— ласкава запярэчыў Максім.— Ты ў мяне такая...

— Такая?..

— Ну, сентыментальная, ці што. Як гэта ты мне чытала нейкага японца... помніш? «Прычасны да прыгажосці кветкі...» Далей пра быка...

— «Не прыме прычасця буйвала»? Так?

— Точна! Але гэта не для мяне — прычасце да кветкі. Букашкі-таракашкі... яны для слабых. Дый будзь я хлюпікам — ты б мяне пакахала, скажы? Га? Так мы заўсёды: гаворым адно, а робім... Ну, дык куды мы пойдзем?

З цёмнай глыбіні парку даносіліся галасы, сцішаны віскат; прама, за паламанай агароджай, за невялікім азярцом, глуха і пагражальна цямнела гара. Контуры яе, абведзеныя лілова-ружаватым — ад заходу, дзе цьмяна чырванелі аблокі,— былі чоткімі і халоднымі, і нейкая незразумелая сіла пацягнула да яе Наталю. Сэрца яе павольна і моцна сціснула прадчуваннем вышыні.

— Пайшлі туды, га? — яна паказала наверх.

— Туды? Ноччу там не ходзяць. Ну, калі ты хочаш...— ён падхапіў яе пад руку, усміхнуўся.— Са мной туды ісці можна. Так што... твае кветачкі-казурачкі зноў прайграюць! — І, злавіўшы яе погляд, весела падміргнуў: — А «лодачкі» прыйдзецца зняць. Вунь якая вертыкаль!

...Паволі, чапляючыся за самы маленькі кусцік, яны ўздымаліся наверх, і дзіўна: з кожным крокам упартасці ў дзяўчыны прыбывала, яна спяшалася, і Максім, пасміхаючыся нязлосна, падпарадкоўваўся яе руцэ. Але перад самым верхам ім давялося памяняцца месцамі: Наталі не пад сілу было залезці ў праём, і Максім, падцягнуўшыся на руках, пасля асцярожна ўцягнуў яе ў пралом па гладкіх каменнях сцяны.

— У-ух! — выдыхнуў ён, азіраючыся па баках.— Не зайздрошчу татарам. Столькі лезці — а пасля цябе як шварrануць, і ляці ўніз, ламай галаву. Багата іх тут палегла некалі!

На гарадзішчы ў вячэрні гэты час было асабліва няўтульна і пустэльна, каменне ж не страціла яшчэ

цеплыні, і хлопец з дзяўчынай асцярожна ўселіся на валун, блізка адзін да аднаго. Наталя абцерла даланёй падэшвы, надзела «лодачкі», пасля знайшла хусцінку і выцерла ёю твар. Максім некаторы час назіраў за яе рухамі, пасля ўпэўнена пацягнуўся да яе вуснаў, а яна адхіляла яго разгарачаны твар, але адхіляла нерашуча, баючыся пакрыўдзіць яго.

— Не так... Не трэба... Мы ж не дзеля гэтага сюды прыйшлі!

Ён цяжка перавёў дыханне, спадылба пазіраючы на яе.

— Засумаваў я па табе, каб ты ведала! — ён дастаў цыгарэту, чыркнуў запалкай. Агеньчык слаба ўспыхнуў — іскрынка ў неагляднай цемрадзі, якая на імгненне асвятліла Максімавы вочы.— А ты...

— Гэта цябе шкадаваць? — яна насмешліва села побач.— Давай лепей проста пасядзім, паглядзім. Як тут добра!

— Юродзівая ты, Наталя, га? — нечакана сказаў Максім, нібыта пытаючыся ў яе.— Такая чысценькая, беленькая. Такая правільная. Да цябе прыйсці б не зараз, пасля. Патрапаным, расчараваным, абрыдлым самому сабе. Га?

Яна маўчала. Вецер, цяжкі і цёплы, хвалямі пляскаўся аб гару, скрозь праёмы сцен віднеліся зоркі. Звільгатнелы палын павеяў нечым адзічэлым, нібы ніколі па ім не ступала чалавечая нага. Але, закідваючы галаву, Наталя нейкім цьмяным пачуццём зразумела, што непадалёку нехта ёсць. Яна спалохана ўстала, сціснула Максімаву руку:

— Нехта дыхае. Паслухай!

— Ды ну цябе! Прыдумаеш! — Ён ізноў паспрабаваў прыцягнуць яе да сябе, хацеў пасадзіць на калені.— Хто сюды прыйдзе ў такі час?

— Пачакай! — яна вырвалася.— Вунь там, я чую. Нехта варушыцца.

Ён устаў, напружваючы зрок, пасля цвёрда пайшоў да гарбатай няроўнай аркі. Перш чым Наталя паспела нешта разгледзець, спалоханы хлапечы голас азваўся насустрач:

— Цёця Наталя!

— Антак! Няўжо гэта ты? — ускрыкнула дзяўчына, кідаючыся да хлопчыка, і адразу ж жорсткія рогі ўперліся ў яе жывот.— Ой! І Казька тут? Ты чаму гэта не ў хаце? Здарылася што?

— Цёця Ніна... яна пайшла ў госці... Аднаму ва ўсім доме... страшна! — ён, дрыжучы, прыціснуўся да яе, ашчаперыў рукамі.

— Наталя, хутка ты там?

Яшчэ не разгледзеўшы хлопчыка, Максім адразу ж і незваротна неўзлюбіў яго. Ён пацягнуў дзяўчыну за руку:

— Часу няма!

Але яна быццам бы не чула, толькі цясней прыціснула да сябе хлопчыка, патрапала ягоныя валасы, суцяшаючы. Нешта цёплае і добрае было ў ёй да Антака. Можа, таму і ён так шчыра пацягнуўся да яе?

— Доўга цябе чакаць?

Максімаў голас заледзянеў. Наталя адарвалася ад Антака.

— Ну што ты? Не злуйся. Тут жа недалёка. Крышку пасядзім з ім...

Яна зашаптала яму на вуха:

— Пасля ён засне, і ты якраз паспееш мяне падвезці да вакзала. Добра?

— Ты... думаеш, пра што кажаш? Там кампанія чакае, мы ж і так спазніліся, а ты! — ён рэзка адхінуўся ад яе.— І хто ён такі, Антак, кажаш? Ну?

— Проста...— голас Наталі задрыжаў, перасох як бы.— Я... чакала цябе. Тут, на гары... А пасля ў яго малако... піла.

— Малако?! І з-за гэтага мы тут валэндаемся? З-за гэтага я перавярнуў увесь гарадок, насіўся, хваляваўся? Малако! Можа, яшчэ скажаш, ад гэтай дыхляціны?

— Казька не здыхляціна,— заступіўся за казу Антак.— У яе малако смачнае. Праўда ж, цёця Наталя?

— Праўда,— усміхнулася ў адказ Наталя.— Яно смачнае.

— Слухай, ты!.. Як цябе там! — узбурыўся раптам Максім. Ён склаў пальцы для пстрычкі, але не паспеў ударыць: Антак схаваўся за спіну Наталі.— Кацiся адсюль, пакуль я сам цябе з гары не спусціў! Ну!

Дзяўчына схапіла яго за руку.

— Перастань! Перастань, не сарамаць сябе! — яна загароджвала спалоханага Антака.— Не бойся, ён жартуе. Ты жартуеш, так?

Максімава рука была занадта моцнай для маленькіх яе далоняў. Яна рванулася і вызвалілася з іх.

— Ты сама! Сама мяне сюды прыцягнула! Навошта ж? Для чаго трэба было цягнуць сюды, дзе нікога няма, а пасля... авечкай прыкідвацца?

— Ты ашалеў ад злосці, дальбог. Ці гара на цябе паўздзейнічала? Помніш, ты казаў, што яна чароўная?

Але ён не прыняў жарту, не прыняў рук, якімі яна хацела ахапіць яго за плечы. Наадварот — ірвануўся так, што Наталя, спатыкнуўшыся, ледзь не ўпала. Хлопчык ледзьве паспеў падтрымаць яе.

— Прэч адсюль, мураш! — зароў Максім.

— Нашто вы яе штурхаеце? — Антак выйшаў з-за спіны Наталі, голас яго зрываўся.— Я... я пайду. Я і так вам не перашкаджаў. Я... проста сядзеў.

— Ох ты! Ён цябе абараняе! — з такой ядавітай усмешкай прагаварыў хлопец, што ў Наталі балюча

заторгалася недзе над брывом нябачная жылка і галаве стала так цяжка, нібы яе скавала абручамі.

— Хопіць! — у яе не хапіла голасу.

— Між іншым, малады чалавек,— усё з той жа насмешкай цягнуў Максім,— яна да мяне прыехала, а не да цябе, так што давядзецца табе матаць адсюль. Шуруй! Разам са сваёй здыхляй! — раптоўна ізноў закрычаў ён.— Пакуль я цябе...

Дзяўчына перабарола сябе, паспрабавала пакласці руку на плячо Максіма, нешта растлумачыць яму, знайсці патрэбныя словы: ім нельга было сварыцца, таму што не заставалася часу, каб памірыцца пасля, яна не сумнявалася, што прымірэнне адбудзецца, бо сварка была дзікай, недарэчнай і незразумелай. Але нічога не было сказана — ён тарганууся ўбок і, на гэты раз не ўтрымаўшыся, Наталя адляцела, ударылася аб востры гранітны выступ і тоненька войкнула ад болю і нечаканасці. У той жа момант Антак рысянём кінуўся на крыўдзіцеля, але тонкі, слабы кулачок толькі слізгануў па скіўіцы.

— Э-э!

Забыўшыся на тое, што перад ім усяго толькі дзесяцігадовы хлапчук, Максім дакладным баксёрскім рухам адкінуў ад сябе тонкае хлапечае цела.

Антак падаў доўга — так здалося Наталі. Спачатку ў яго тарганулася галава, пасля падкасіліся ногі, і, адляцеўшы ўбок, ён нерухома застыў на зямлі.

Яна коратка войкнула, кінулася да хлапчука, пачала яго тармасіць, абмацваць.

— Антак! Анта-ачак! — клікала яна плачучы, і гэты плач яе доўгім, адчайным рэхам мітусіўся ў пустэчы сценаў, вяртаўся назад.

Жудасным, першабытным страхам павеяла раптам ад бязлюднага старадаўняга гарадзішча, ад буйных, блізкіх зорак, ад таямнічага рэха, зусім незаўважнага днём. Наталі ўявілася, што яны ўтраіх, не,

удваіх з Максімам, аддзелены безданню ад усяго свету, але ўсё, што адбываецца тут, на вяршыні гары, усё, што вырашаць яны зараз, нейкім таемным чынам паўздзейнічае на тых, хто зараз, унізе, творыць свае паўсядзённыя справы і ведаць не ведае пра іх — пакуль не ведае...

— Наталя! Ціха! Ціха! — шэпт Максіма чуйныя насцярожаныя сцены таксама вярталі ім дваім.— Цябе ніхто тут не ведае. Нас ніхто тут не бачыў. Ніхто?

Ён па-звярынаму асцярожна прыслухаўся, абгледзеўся.

— Пайшлі. Скажам, што былі ў парку. Ты тут нічога не згубіла? Я таксама. Толькі цішэй. Я адразу цябе на вакзал. Хуценька!

— Я нікуды адсюль не пайду.— Яна таксама гаварыла шэптам, але сцены ўпарта вярталі яе шэпт, і незаўважна яна адзначыла, як пабялеў Максім.

— Дурненькая. Наталя. Мілая! Табе ўсё роўна, што будзе са мной? Ты разумееш, чым гэта пахне? Са мной...

«Ой...» — злавесна вярнула ім рэха, і, гледзячы на такога незнаёмага, разгубленага і злавеснага адначасна Максіма, яна нечакана зарагатала. Яна смяялася, трымаючы на каленях нерухомае хлапечае цела, смяялася ўсё мацней і мацней, і слёзы цяклі па яе твары, а сцены вакол паўтаралі насмешліва і жудасна: «Ха-ха-ха! ах-ах-ах!»

— Да-дарэм-на! — ледзь выгаворвала яна паміж выбухамі рогату.— Да-а-рэмна! Нас бачаць, ха-ха-ха! Гэта ж дарэмна! Нас усе ба-чаць! У-се-е!

— Ты... ты звар'яцела? — ён узіраўся ў яе твар, і рукі ягоныя трымцелі дробна і нястрымна.— Пайшлі адсюль! Так будзе лепей для нас!

— Для нас? — калені яе, на якіх ляжаў Антак, працінала ледзяной сутаргай.— Нас? Нас?

— Ён жывы! — нечакана выкрыкнуў хлопец, кідаючыся да яе.— Ён стогне! Цішэй ты!

Наталя заціхла, і трымаючы Антака за плечы, прыўзняла яго, гледзячы на закінуты хлапечы твар з заплюшчанымі вачыма, дзе вейкі трапяталі, намагаючыся прыўзняцца. Твар быў мокры, дзяўчына не адразу здагадалася, што то былі яе слёзы.

— Кладзі яго на траву! На траву, ды зручней! — Максім згубіў увесь свой гонар, ён мітусіўся, як хлапчук, яго калаціла ад радасці, калі пасля некалькіх прыёмаў масажу Антак пачаў ротам хапаць паветра.— Накаўт, усяго толькі. Глыбокі накаўт, а я думаў чорт ведае што,— ён болей супакойваў сябе, чым Наталю.

Антак усхліпваў усё мацней, сутарга прайшла па ягоных нагах, яго вырвала, і Наталя ледзь паспела павярнуць на бок бяссільнае тулава.

— Вады б яму зараз, вады! — клапаціўся хлопец.— Вытры яму рот. Чорт, і хусцінкі мала. Нарві травы!

Густы, пранізлівы пах ішоў ад вільготнай упартай травы, і Наталі здавалася, што горыч насыціла яе цела да апошняй клетачкі, так што ніколі не ўдасца цяпер яе пазбавіцца. Яна выцірала Антаку рот, а горкая сліна набягала ў рот, яна глытала яе, каб прагнаць даўкі камяк...

— Цёця... Наталя, што са мной?

Антак глядзеў на яе жывымі, шырока расплюшчанымі вачыма, пасля павярнуў галаву і ўбачыў Максіма.

— Скажыце яму... хай ідзе прэч.

— Ты мне скажы дзякуй, што я цябе да анёлаў не адправіў.

Максім гаварыў упэўнена, ізноў на ягоных шчаках, напэўна, гарэла знутры здаровая, спакойная кроў, рухі яго сталі спакойнымі таксама.

— Ну што, Наталь... Пайшлі, данясём яго дадому. Спалохаў нас як, а, заморак такі! А ты... ну, не думаў!

— Кацібя ты адсюль! — нечакана для сябе прагаварыла Наталя, і гнеў перамяшаўся з пагардай у яе пазванчэлым голасе. Са здзіўленнем яна заўважыла, што рэха нібы знясілела або проста стала іншым: словы не вярталіся да яе, яны ляцелі ў Максіма і глухлі ў ім.— Бяжы! Да сваіх Валодзяў! Да сваіх дзевак! Топай!

З задавальненнем слухала яна словы, якія раней ніколі не гаварыла, толькі шкадавала, што не ўмее ўжываць мацюкі: відаць, толькі яны мелі ў сваёй бяссэнсіцы нейкі заўсёды зразумелы адрасату сэнс, таму што ўсе іншыя словы — хай нават жорсткія, грубыя — былі цяпер толькі абалонкай слоў, пачуццяў.

— Ну, ну! А яшчэ педагог,— паспрабаваў жартаваць Максім.— Цябе ж падлетак слухае. Глянь, ажыў зусім. Жывучы!

Антак і сапраўды спрабаваў устаць. Ногі дрэнна слухаліся яго, але ён учапіўся ў пакручастыя рогі Казькі і павольна, але настойліва ўздымаўся. Пасля падняў вузкі кулачок.

— Ідзіце адсюль,— паўтарыў ён, не зводзячы вачэй з высокага, дужага хлопца.— Я ж вас... усё роўна... паб'ю.

Максім сплюнуў у траву, некалькі разоў шчоўкнуў языком, перавёў позірк з Антака на Наталю і, павярнуўшыся, паволі рушыў да праёма. Было чутно, як зашапацеў, асыпаючыся, пясок, як затрашчалі кусты. Пасля ізноў стала ціха, толькі дзесьці ўнізе слаба пляскаўся аб гару вецер. Зорны купал марудна схіляўся направа, і адна зорка на імгненне дакранулася да вяршыні сцяны, бліснуўшы тонкім і кволым, як іголка, промнем.

— А ты, аказваецца, смяльчак,— сумна сказала Наталя.

— Чуеце, куранты б'юць? — прашаптаў Антак, дакрануўшыся да яе рукі.— Ужо дванаццаць. Значыць, вы сёння не паедзеце? — Ён шчасліва заўсміхаўся.— Як добра! Мне ўжо зусім не страшна. Зусім.

— Добра табе,— нерухома седзячы на валуне, азвалася Наталя.— Мне вось страшна затое.

— Вы жартуеце? Вы ж са мной. Я вас не дам у крыўду. Чуеце, поўнач?

Яна нахілілася над гадзіннічкам, але нічога не разгледзела і напружыла слых. Сапраўды, білі куранты, але пачуць іх можна было нават не слыхам — усёй напружанай і чуйнай істотай, быццам ад гары ішлі нейкія штуршкі, што дапамагалі адчуваць кожны стук старажытнага гадзінніка.

Унізе затрашчалі матацыклы, трэск той, агінаючы гару, імчаўся далей, у цэнтр горада, і ў пераможным тым, бесклапотным гуле дзяўчыне чулася адна жаласная нота. А можа, сапраўды толькі чулася, мроілася ёй усё? І ва ўсім, што адбылося, можа, вінаватай была гара — узнесеная на галавакружную вышыню над далінай, над часам, над падзеямі?

Антак стаяў над ёю, а Казька цярпліва чакала, пакуль гаспадар выпусціць з рук яе рог.

— Пайшлі, цёця Наталя,— сказаў ён нарэшце.— Дома яшчэ засталося малако. Добра, што вы яго пакаштавалі — бачыце, ізноў прыйдзеце ў наш дом.

Рыканне матацыклаў замоўкла: ноч па-ранейшаму тварыла свой няўхільны, таямнічы рух. Дзесьці за аркай, гарбатай і фантастычнай, шапацеў пясок. Наталя адувала, як палаюць, сохнуць яе вусны.

— Які ты стаў смяльчак, Антак,— паўтарыла яна.— А цягнік той не апошні. Яшчэ адзін ідзе ў чатыры раніцы.

# СПАСЦІЖЭННЕ

— ...Глянула Гапка — а гэта твой Сцяпан у жыце з ёю сядзіць!

Драўляную рыдлёўку ў руках Ульяны хіснула ўбок, вільготны бохан зляцеў на расплаўленыя цагліны і лёг на под друзлым шэрым камяком.

— А не брэшаш, цётка? — голас Ульяны асеў, як асядае ад штуршка рошчына. Яна дзіка глядзела на госцю, а тая, задаволеная і спалоханая адначасна, ускочыла, і адной рукой штурхаючы Ульяну ад пякучага жэрла печы, другой шукала засланку.

— Апячэшся, дзеўка, дальбог! Во, пад руку табе сказала, старая дурніца, хлеб толькі спаганіла. Ды хай ён спрахне, той Сцяпан! Мужыкі, яны... Ды ты паслухай: Цімох Аўдолін на тым тыдні...

Яна сыпала на Ульяну словамі, як сыплюць на маладых авёс, калі яны вяртаюцца з загса, і Ульяна адчувала, як шалупінне тых слоў скочваецца па твары яе і руках. Яна ўсё стаяла, спрабуючы адолець навакольны свет, які раптоўна стаў няўстойлівым і хісткім, як лодка-пласкадонка, што нырае ў раз'юшаныя хвалі. А калі намацала нагамі цвёрдае дно, уздыхнула глыбока і гучна вымавіла:

— Калі брэшаш, старая,— удушу, дальбог!

Калі цётка нарэшце выкацілася з хаты, яна перарастаўіла засланку, вымыла рукі і села за трафейны «Зінгер», што дастаўся ў пасаг ад цёткі. Кавалкі Сцяпанавай кашуліляталі пад спрытнымі яе рукамі, нібы лебядзіныя крылы. Кот Васька лавіў у паветры пярэстыя кавалкі паркалю і, гуляючы, ганяўся за

імі. Моцны дух печанага хлеба, перамешаны з пахам аеру і кляновага ліста, паступова поўз з печы, забіраўся ў самыя патаемныя куткі, уздымаўся да белых рушнікоў у куце, дзе вісела наклееная на дошку рэпрадукцыя «Блуднага сына», крадком прабіраўся праз добра адшараваны ганак. Суседка, баба Арына, што камякамі зямлі зганяла з Ульянінага гарода сваіх нясушак, услых здзівілася:

— Гля, зноў яна Сцяпану хлеб рашчыніла!

І з палёгкай уздыхнула, калі апошняя курыца перабегла зялёную мяжу, што падзяляла гароды.

Сцяпан уваліўся ў хату пад вечар, устаў на парозе, загарадзіўшы дзверы. Усміхнуўся жонцы, і адразу ж усмешка тая застыгла, як прыклееная: Ульянін твар быў незнаёмы і страшны, пашыраныя і нерухомыя вочы зялёна бліскалі ў паўзмроку.

— Ты чаго, чаго гэта, га? Як у гадзюкі, буркалы...— ён прайшоў да стала, цяжка плюхнуўся на бліскучы карычневы табурэт.— Частуй! Есці хачу.

— А што ж цябе палюбоўніца не накарміла? — лісліва, нават радасна загаварыла Ульяна, а голас яе здаваўся чужым і непадобным, як і твар, як і закамянеласць ва ўсіх рухах.

— Якая палюбоўніца! Лухту мелеш, баба! — узвысіў голас Сцяпан, прыстукнуў кулаком нават, але нялоўкасць, як цень, слізганула па ягоным твары, і Ульяна, як бы дачакаўшыся таго ценю, кінулася да стала так імкліва, што ён адхіснуўся.

— Якая палюбоўніца?! Якая?! — задыхаючыся, выкрыквала жанчына.— Можа, яшчэ імечка сказаць? Няма чаго хаваць — уся вёска ведае! У вочы поруць! Што, жонка законная прыелася, дык ты...

— Прыелася.

Ціхае слоўца Сцяпана ўпала ў крык, як сякера ў лазіну, і крык перарваўся, як перасечаны. Не верачы слыху свайму, перапытала Ульяна:

— Надакучыла?! — І задыхнулася: — Ах ты...

— Ды не вішчы ты! — з прыкрасцю сказаў Сцяпан, і ля вачэй яго — блакітных, ясных, што ў дзяўчыны,— сабраліся зморшчыны, чырвоная ад сонца скура яшчэ болей пачырванела, а рот сціснуўся ў рашучую, вузкую паласу.— Нялюдская ты нейкая, Ульяна. Нешта чорнае ў табе, а што — не разбяру. А сэрца не прыме.

— Раней жа — прымала? — з нейкай нясмеласцю, з болем запыталася жанчына.

— Раней! — ён замоўк, падумаў: — Ну што? Да старшыні пойдзеш? Альбо ў райком? Усё роўна з камбайна на здымуць — час гарачы. Дабро не падзеліш? Ды пляваць мне на тваё дабро. Гары яна гарам, хата гэтая...

— Ды ты што, Сцяпан? Што ты! — Ульяна разгублена глядзела ў зацвярдзелы твар мужа, нібы не разумеючы сказанага або не могучы яго зразумець, і пакутная, цьмяная ўсмешка блукала па яе твары. Так не падыходзіла да яе гордых рысаў такая ўсмешка, так не пасавала да ўсёй моцнай, высокай постаці, што памякчэлі ў Сцяпана вочы і, адразу ж адчуўшы гэта, яна кінулася да яго, ашчаперыла з усяе сілы: — Не пушчу! Што хочаш рабі — не пушчу! Нікуды! — І прастагнала на высокай, надрыўнай ноце: — Сцё-ё-о-па!

...Вечарам позна прыйшла на ферму Ульяна. Толькі дзівіліся жанчыны: усё валілася сёння з яе рук. Па тры-чатыры разы прымошчвала да ўпартых каровіных саскоў гумавыя прысосы электрадаілкі, ледзь не тыцнула віламі ў нагу сабе, а горай за ўсё была крыўда, якую нанесла яна сваёй улюбёнцы Зорцы. Рэкардсменка Зорка, пацягваючыся, незнарок тыцнула яе ў бок кароткімі тупымі рагамі, а Ульяна з гарачкі перацягнула карову што было сілы лазінай. Зорка спалохалася, кінулася ўбок, з разма-

ху ўдарылася аб алюмініевыя паілкі і, з дакорам гледзячы на даярку, працяжна і тужліва зарыкала. Ульяна адвярнулася, але нямая скарга Зоркі так і абарвала ў ёй сэрца: успомніўся свой, такі ж немы стогн ля Сцяпана. А дзябёлая, чырванашчокая Анютка яшчэ дадала солі ў рану, закрычала:

— Ну, трымайся! Заўтра дасць табе малака твая пані! Вухнуць надоі!

— Во дык радасць табе! — не паднімаючы галавы і паспешліва ссоўгаючы гной на лянівую стужку транспарцёра, азвалася Ульяна. Калі ж Анютка яшчэ загаварыла, яна толькі махнула рукой і прамармытала: «Адчуў воран мярцвячыну!» Анютка задзірыста зарагатала і пайшла да сваіх кароў, лёгка махаючы пустым вядром і цвёрда ставячы боты на слізкі ад вады і травы драўляны насціл. Неўзабаве даяркі ўправіліся з даілкамі, выкацілі ў прыбудову цёплыя ад сырадою, цяжкія, як артылерыйскія снарады, бідоны і заспяшаліся ў вёску, пакідаўшы халаты і падзівіўшыся на Ульяну:

— Во ўжо рве баба. Не шкадуе сябе!

Анютка, што паспела напудрыць рудыя шчокі і выліць на грудзі ледзь не флакон «Трайнога» адэкалону, не супакойвалася:

— Нябось, ордэн зарабляе...

Але касавокая танклявая Гапуля ўкалола яе:

— Ды ўжо ж, яна не праспіць, за ёй бегаць дахаты не трэба!

Анютка не змоўчала, і да самай вёскі звінела ў аціхлай прасторы нязлобная, звыклая лаянка моцных, задзірыстых жанок. Ульяна, яшчэ ўпраўляючыся з транспарцёрам, чула выбухі рогату, што паступова аддаляліся, а калі, нарэшце, усё змоўкла, выключыла стужку і знясілена села на пусты бідон, падкаціўшы яго да парога. Ззаду, у цёплай, духмянай цемры, чуўся грукат паілак, хрумсценне травы,

пастукванне рагоў, уперадзе, паміж чорнай ужо глушэчы лесу і цёмна-шызага лугу, блішчала алавянае кола возера, што злівалася з залаціста-бледнай паласой заходу. Выпала раса, і пах вільгаці ўліваўся ў цёплае яшчэ, сухое паветра адышоўшага дня. Ночы, як заўсёды ў жніўні, былі цёмныя і зорныя, і першыя зоркі час ад часу крэслілі свае нясмелыя росчыркі па тугой сіняве неба. У вёсцы загараліся вокны, і там, дзе канчалася станчэлая паласа барвы, можна было заўважыць далёкія хаты суседняй вёскі Падбярэзіхі, адкуль прыйшла Ульяна ў Касачы трынаццаць гадоў назад і дзе з таго часу не гасцявала ніводнага разу... Дзесьці там, за хатамі Падбярэзіхі, крышку правей, тырчыць купа высокіх таполяў. Гэта вясковыя могілкі. Жанчына напружана выцягнула шыю, углядаючыся. Хусцінка слізганула з галавы, мякка ўпала на шыю каса. «Як змяя»,— падумала Ульяна і тут жа ўспомніла, як гаварыў тое ж Сцяпан — без злосці, проста — параўноўваў. А маці, родная яе маці, вымаўляла тое слова іначай — са слязамі і кляцьбой:

— Дамоў не едзеш, а каб ты спарахнела, мая дачушка! Што ж ты да маці, як змяя падкалодная?!

У маці мяккія рукі, друзлыя, мяккія шчокі. А вось сэрца... сэрца ў яе, напэўна, глухое — не здагадалася за ўсе гады, чаму Ульяна не ходзіць у Падбярэзіху. А маці не дазналася — ніхто не ўведае. Ды і раскажы каму цяпер — засмяюць. Скажы дзе Ульяна, што нож, блакітная такая ў яго ручка была, эбанітавая,— той нож усадзіў у Паліну не п'яны Генька Іваноў, а яна, Ульяна,— што ёй адкажуць? Што яе і блізенька не было на тым Нінчыным вяселлі?

Ведалі дзеўкі і ў Касачах, і ў Падбярэзісе, што абедзве яны, Ульяна і Паліна, кахаюць Сцяпана, хаця сяброўкамі раней лічыліся. Не абгаворвалі Уль-

яну і пасля, не зайздросцілі яе шчасцю са Сцяпанам: ці ж яна была віннай, што Геньку пад руку трапілася Палінка, хаця не на яе ён замахнуўся? Кінулася сама дзяўчына ў бойку, разнімаць хлопцаў, і губляў быў нож сваю сілу, але на Паліну яго хапіла... Усе войкалі і дзівіліся — толькі адна Паліна ведала, чыя ў тым віна...

Трынаццаць гадоў ляжыць Паліна ў зямлі. Добрае ў яе месца: на ўскраіне могілак, пад ліпай, адкуль пачынаецца сцяжынка ўніз, у даліну, да рэчкі Белай. Калі зацвітае ліпа, духмяны водар яе даносіцца да Падбярэзіхі, а цень такі, што ў самы спякотны дзень не прабіцца вогненным стрэлам да Паліны, не патрывожыць яе спакою.

А вясёлая ж была дзеўка, язык, як шыла! Бывае, возьмецца за каго — уся вечарынка качаецца. Сцяпана вадзіла за сабой, як бычка маладога на вяроўцы. Паліна ўсе костачкі яго на людзях перабярэ, а пасля цмокне ў шчаку — ён і плавіцца, як свечка васковая, толькі вочы жмурыць ад задавальнення. Яна, Ульяна, пакутуе — а яму хаця б раз узбурыцца супраць той, што пасміхаецца над ім без усялякага сораму! Аднойчы заўважыла Паліна яе жаль да Сцяпана і гукнула на ўсю вечарынку:

— Ну, хочаш, Ульянка, я табе Сцёпку ўступлю? На вечнае ўладанне! Толькі загадаю яму — век ад цябе не адыдзе!

Тады і пахіснулася ўпершыню падлога пад нагамі Ульяны. А яна пачакала, пакуль сэрца ўціхаміруцца, і сказала скрозь зубы:

— Я сама яму буду загадваць...

Паліна паглядзела ёй у вочы — толькі бровы ссунула. Але ненадоўга: ізноў павесялела, падкалола некага, пасля пацягнула Сцяпана на кадрыль і завяла на ўсю хату прыпеўкі. А Ульяна пайшла з вечарынкі і да раніцы перад сваёй хатай сядзела, усю

чаромхавую галінку, што ў руцэ была, згрызла... А назаўтра пад вечар пайшла ў Чарнагосці — да Захарыхі.

Не раз, не два хадзіла яна да Захарыхі. Тая і слухаць спачатку яе не жадала, падарункі — масла, яечкі — назад кідала. А ўрэшце раздобрылася, пасадзіла разам боб у хаце лушчыць, выслухала дзяўчыну — і згадзілася. Пасля пасадзіла каля акна, доўга нешта сама расказвала. Нічога не запомніла Ульяна, толькі зайшоў у галаву нейкі Усяслаў-чарадзей, ад якога нібыта і пайшло па Полаччыне чараванне... А калі пачала Захарыха свае замовы — зусім страціла розум Ульяна: задрыжала, здзічэла. Цьмяна помніцца ёй: калышацца ў шклянцы сярэбраная роўнядзь вады, скрозь залаты пярсцёнак выплывае нечы твар, а Захарыха нож ёй у рукі ўсоўвае:

— На сваю душу не хачу грэх браць... Сама кідай!

І — уразаецца ў шклянку бліскучая сталь...

А праз месяц Палінка кінулася разнімаць бойку — напярэймы Генчынаму ўдару...

З самага вяселля не была Ульяна ў Падбярэзісе — а ўсё роўна ліпа пад Палініной магілай і з Касачоў бачная, пчолы касачоўскія лятаюць да яе ў цёплыя ліпеньскія раніцы. Ніводнай лыжкі мёду не з'ела Ульяна з самага вяселля. А любіла ж мёд Ульяна! Болей усяго — якраз густы, ліпеньскі, у якім быццам бы свяцілася сонца, так што калі ў самы сцюдзёны дзень паставіш місу з тым мёдам — быццам ззянне на стол клалася. Любіла Ульяна і колер мёду — жоўты, з рудым адлівам; такі колер у сасновай смалы — жывіцы, такі і на вільготным кольцы алешыны. Любіла — даўно, у дзеўках...

Моцна, духавіта пацягнула спелым жытам і адразу ж — мятай. Дзесьці далёка, у агромністай, неабдымнай прасторы зямлі нараджаўся вецер, і трывожна адчувалі яго вяршаліны соснаў за возерам, а ружаваты край неба заносіла цёмнымі гарбатымі хмарамі, ад чаго па возеры, нібы па агромністым люстры, заслізгацелі цені, а за кустамі, у нізіне, закалыхаліся белыя кудзеркі туману. Дрыготка сцепануўшы плячыма, жанчына ўзняла рукі, каб закалоць касу, і раптам быццам адзін з ценяў прамільгнуў над фермай — цёмным, забабонным жахам патыхнула ў душу жанчыны.

Ды няўжо не адчувала яна, не ведала, што, кінуўшы нож у светлае кола вады, перакрэсліла нешта ва ўласным жыцці, што яно набыло іншае вымярэнне, пайшло наперагонкі з часам — хто каго абгоніць? Але вяло адлік пакаранне, і вось — насцігла! Сцяпан сёння застаўся ў хаце, а заўтра, а праз месяц? Не ўтрымаеш яго, дый чым трымаць, чым? Крывёй бы ўласнай яго апаіла, душу д'яблу б уступіла...

А можа, зусім не было той шклянкі, прымроілася яна! А калі і была, то не прысудам Паліне, а выпадковасцю. Хіба забабонамі заб'еш чалавека? Паліне лёс наканаваў тое, а яна, Ульяна, прытым толькі, што лёсу такому дапамагаць магла б і душу за тое не пашкадавала б. Якая справа была тады ёй да душы, калі Сцяпан побач, калі для таго, каб завалодаць ім, толькі руку варта было працягнуць! І працягнула, і заракалася помніць пра былое, і над забабонамі наконт душы пасмяялася. А што ж цяпер баліць, як не яна, праклятая, баліць, як бы рэжуць яе, рэжуць, рэжуць...

— Гэй, дзеўка! Ты жывая там ці заснула?

Ульяна сутаргава глытнула сліну, апусціла рукі, апамяталася. Да фермы прыходзіў Трахім Бліцька,

учотчык. Сухая, нацягнутая постаць яго падскоквала на кожным кроку, і зблізку адчула жанчына, як патыхае ад яго запыленым пінжаком і моцным, як спірт, потам.

— Ты гэта чаго тут мічтаеш, як царыца Шымаханская? Сцёпка там карову за цыцкі цягне, а яна косы пляцець!

— А я як грамадскі кантралёр хачу праверыць, Трахімка, ці не схаваеш дзе бітончык, каб твая Ганна не надта сваю Рагулю за тыя ж цыцкі выцягвала...

— Нічога ёй не скажы, халера! — паклаўшы на лаву свой блакнот і спрытна перастаўляючы бітоны, бурчаў Трахім. Сумленне яго было добра заплямленым, і ён не асмеліўся адказаць што Ульяне, а цяпер было позна, і ён злаваўся на сябе за тое, што нібы пацвердзіў сваім маўчаннем яе кпіны. Палёгку душы ён прыдбаў толькі пасля таго, як Ульяна пайшла, а ён змог услых скардзіцца бітонам:

— То ж не баба — чакістка! І як Сцёпка з ёй жыве? Вока вырвець — і не моргне! І дзе яна той бітончык угледзела?

...Цяжка шоргаючы па расе захаладнелымі гумавымі ботамі, не ў вёску спяшалася Ульяна. Ішла яна, абышоўшы ферму, па полі, кіруючы да сцяжынкі, што вяла да возера. То бегла яна, як быццам гналіся за ёй, то замаруджвала крокі, нібы з некім спрачалася, а вецер мацнеў, і ўсё гразней шумелі дрэвы. Капронавая хустка даўно саслізнула з яе галавы і, не заўважаная, трапяталася намоклымі канцамі і чаплялася за купіну. Не пазналі б, напэўна, Ульяну аднавяскоўцы: прыгожы, цяжкі твар жанчыны сціснуўся ў кулачок, а зялёныя вочы гарэлі ў цемры фасфарычным холадам. Брыла, брыла Ульяна па полі, а ля самага возера трапіла нагой у зарослую траншэю і, нырнуўшы тварам у пякучую расу, зра-

зумела: нікуды не падзецца ёй з гэтага часу ад той пакуты вялікай, ад таго, што апрыкрала яна Сцяпану... Для чаго ад маці адрыкалася, душу нішчыла ў Захарыхі, для чаго жылы на працы рвала, гняздо ладзіла? Для чаго?!

Перамянілася з тае ночы Ульяна. Негаманкой была, а цяпер зусім маўчальніцай зрабілася. Не была санлівіцай — а цяпер першай на вёсцы да печы станавілася, з даёнкай спяшалася да каровы. Толькі Ульяніны каровы чамусьці малака сталі даваць меней, і давялося ёй уступіць першае месца па калгасу Анютцы Бялевічавай.

Сцяпан глядзеў вінаватым, прыціх, з Галінай-ільнаводкай болей яго не сустракалі — а ўсё роўна, апускаючы дапытлівы позірк, ненавісна і прагна лавіла ў ім жанчына раўнадушны холад да яе і гатовую ўзгарэцца нянавісць — нянавісць воўка, якога неадступна гоніць паляўнічы... Дзівілася б Ульяна, адкуль у ціхага, спакойнага раней Сцяпана раз'юшанасць, з якой ён часам сячэ дровы — не роўна, а шалёна вухкае сякерай, дзівілася б, а цяпер не можа: няма ў душы жывога месца, гарыць яна дзень і ноч. Можа, ад таго халодна Ульяне ў самы спякотны дзень, што не хапае самой яе для таго нязгаснага, неадступнага полымя?

А дні ляцелі; усё больш празрыстымі рабіліся ранішнія росы, усё халадней і гусцей туманы, і каровы цяпер не спяшаліся да выхада, штурхаючыся і колючы адна адну рагамі, а спакойна трухкалі да дзвярэй, травы і ціха рыкалі, нюхаючы золкае паветра, світальны холад, які ішоў ад возера. Цяпер пахла не мятаю, не спелым хлебам, а дымам бульбоўніку і заараной пожняй.

У другую нядзелю верасня раніца была нязвыклаціхая.

У Касачах, каля праўлення, стаялі ўпрыгожаныя

транспарантамі аўтобус і грузавік, з расчыненых дзвярэй клуба неслі сцягі і снапы, і нікому не было справы да дзесяцігадовага Пецькі, які, забраўшыся ў кузаў грузавіка, ашалела і зацята тыцкаў бруднай далонькай у руль, ад чаго пранізлівыя, няроўныя сігналы несліся па вёсцы, зганялі з седалаў нясушак. Адна Анюта Бялевічава, ганарліва трасучы доўгімі янтарнымі завушніцамі, выстаўляючы з-пад карычневай спадніцы вострыя хударлявыя, нягледзячы на яе дзябёласць, калені, падышла да кабіны і сагнала Пецьку, каб самой сесці побач з шафёрам. Пецька выскачыў і затанцаваў перад машынай, дражнячы Анютчыну хаду, няўклюдную яе кароценькую спадніцу, на што яе загарэлы, са смелымі брывамі і вясёлымі блакітнымі вачыма твар адказваў ганарлівай пагардай: сёння, на раённым свяце, няма роўні Анютцы. Недзе там, на зялёным райкомаўскім сукне, ляжыць яе Ганаровая грамата, а таксама прэмія, і, якія б вострыя каленцы ні былі ў Анюткі, будуць, будуць пляскаць у яе гонар, а фарсісты Эдуард Гіневіч будзе спяваць любімую яе песню.

— А што гэта Сцяпанава Ульяна позніцца? — заклапочана ўспомніў старшыня, і Пецьку давялося бегчы на той край вёскі і, не пераводзячы дыху, рапартаваць, што Ульяне няможацца, а гаспадар паехаў у раён яшчэ першым рэйсавым, так што няхай едуць без іх.

Анютка ўсміхнулася пераможна і гарэзна: не соладка, відаць, Ульяне прызнаваць сябе пераможанай! Яна адшукала позіркам ільнаводку Галіну, заклапочаную шэравокую дзяўчыну, і паклялася сабе не спушчаць з яе вачэй нават тады, калі на сцэне з'явіцца асляпляльны Эдуард Гіневіч, каб не надта мучыла яе сумленне, калі заўтра давядзецца на ферме сустрэцца з Ульянай. Анютка, нягледзячы на свае

дваццаць тры гады, выдатна ведала, што з уласным сумленнем трэба ладзіць, і таму, крышку павагаўшыся, яна ацерла свае пафарбаваныя вусны, каб ніхто не ўгледзеў яе такой, і Пецька задаволена заскакаў перад машынай, злавіўшы яе за гэтым заняткам...

Стаяла туманнае, парнае ранне, калі сонца, нябачнае за светла-шэрымі суцэльнымі аблокамі, нібы раствараецца ў іх, у тумане, і тады цяплом патыхае неба, і жоўтая пясчаная дарога, і замшэлы прыдарожны валун з ружовымі жылкамі граніту, а ссохлы мох на балоце, высмоктваючы маленькія кропелькі вільгаці, пачынае пружыніць і зелянець ледзь не на вачах. Машыны яшчэ марудзілі перад праўленнем, абкружаныя натоўпам пярэстых, папрыгажэлых жанчын, сярод якіх дзе-нідзе чарнелі касцюмы мужчын...

А Ульяна, у старэнькай рудой футболцы, да самых вачэй абвязаная белай паркалёвай хусткай, у шырокай чорнай спадніцы, што закрывала новыя гумавыя боты, уваходзіла ў лес.

Яна сама не магла б адказаць, навошта ёй спатрэбілася перціся ў лес якраз у той час, калі там, у раённым Доме культуры, будуць выклікаць яе на трыбуну, каб уручыць прэмію. І няхай самая галоўная, ляпейшая прэмія дастанецца Анютцы — справа не ў самой прэміі, а ў святочным, прыўзнятым настроі, у зайздрослівых паглядах жанчын, у пажадлівых позірках мужчын. Ды яна і сама ведае, да чаго яна бывае прывабнай у сваім цёмна-вішнёвым касцюме, з каронай косаў на галаве — але няхай зноў і зноў пераканаецца ў тым Сцяпан! Ды і зараз, нягледзячы на свае трыццаць — хіба не Папялушкай зробіць яна побач з сабой шэравокую Галіну-ільнаводку? Божа, якое глупства яна зрабіла; усе будуць там — Анютка, і Сцяпан, і старшыня, а новыя яе ла-

кавыя «лодачкі» ляжаць на самым донцы шафы, загорнутыя ў паперу!

І ўсё ж яна ішла далей і далей, па ўтаптанай тарфяной сцяжынцы да возера, адкуль дарожка паверне налева, праз Гарэлы Мох, да баравіны. Каля баравіны, унізе, павінны ўрадзіцца журавіны. У мінулым годзе на ўзвышшы было шмат баравікоў, сёлета ж добра ўрадзіла жыта, а маці любіла паўтараць: «Калі грыбна, то не хлебна» — і ніколі не памылялася. Журавіны ж маці збірала раней за ўсіх, калі ягады толькі пачыналі спялець, але так умела іх ссыпаць у кадку, што яны не сохлі да самага мая. Таму, па матчынай навуцы, прыпасенае вядро абвязвала марляй, каб не сыпаліся ў яго кара ды лісце, а футболка падпяразана Сцяпанавым рэменем, каб не чапляліся за яе берасклет і багульнік. Горача ў ёй целу, і таму змакрэла Ульяна, пакуль дайшла да возера, а там села на перавернутае вядро, пачала здымаць футболку — да баравіны добрых тры кіламетры, паспеецца! Ды толькі ўзняла рукі, як тут жа і апусціла: у вадзе, у двух кроках ад яе, уецца гадзюка — шэрая, з чорнымі кубікамі ўзору. Лянiва ўецца, па-гаспадарску: каму з людзей ахвота купацца ў Гарэлым Імху! Дый і пялёхкацца ў вадзе позна не толькі чалавеку, але і змеям, а гэтая, глядзі ты, палошчацца ўволю! Толькі падумала так Ульяна, а ў суседніх кустах нешта зашапацела, і, азірнуўшыся, яна ўбачыла яшчэ дзвюх гадзюк, што наперагонкі паўзлі ў лес. Не паспела падзівіцца на іх, успомніла: уздзвіжанне сёння, на ўздзвіжанне, казала маці, змеі збіраюцца разам, балююць; ладзяць баль перад тым, як развітацца, у свае зміяныя норы на зіму схавацца, і няма чаго ў той час чалавеку рабіць у лесе! Толькі пачала Ульяна футболку падпяразваць, а гадзюка мільганула ля самых ног і павярнула галаву назад. Зірнула жанчына ў нерухомыя во-

чы — адступіла: пасмешка нібыта ў вочках немігальных бліснула: «Ведаю, маўляў, сястрыца, чаго адна сёння ў лес з'явілася!» А «сястрыца» — таму што шмат разоў, жартам ці ўсур'ёз, называлі змяёй Ульяну... І — раз'юшылася жанчына, невядома ад чаго і на каго. Азірнулася навокал, схапіла сухую ламачыну і — за гадзюкай. Аб напружанае цёмна-шэрае цела паламала ламачыну, як запалку. Тады Ульяна з-пад ног выхапіла бярозавую хварасціну і кінула яе на ядавітую ашчэраную галоўку. Але прамахнулася, на дзве далоні да галавы не дастала. Жудасныя нерухомыя вочы і вострае джала тыцнуліся ў нагу, і шыпенне, як токам, пранізала жаночае цела. Але нізка дастала гадзюка гуму — нізка, ля самай шчыкалаткі. І тады, заледзянеўшы ад брыдкасці, з усяго размаху апусціла Ульяна нагу ў гумавым боце на злавесна аскалены рот... А пасля, не могучы падняць нагу і паглядзець на тое, што яшчэ слаба варушылася пад ботам — цішэй і цішэй — яна стаяла сярод зеленавата-рудога імшаніку з ягонымі дробнымі кустамі багульніку і адчувала, як павольнымі, густымі штуршкамі б'ецца ў скронях кроў. Аднак упершыню за апошнія месяцы лёгка дыхаецца грудзям, нібыта там лопнуў нейкі нябачны нарыў. І першае за апошнія месяцы прыходзіла жаданне не спадылба, а прама глянуць у вочы Сцяпану, разарваць на сабе павуцінне страху — а там што будзе, тое будзе! Не страшнай, а жаданай здавалася цяпер споведзь перад ім. Што ёй суд чалавечы! Перажыве яна размову з мужам — нічога не будзе яе страшыць: ні Палініны вочы, ні нож, што кожную ноч разразае празрыстую ваду. Падпарадкоўваючыся адзінай, неаслабнай гэтай думцы, яна не памятала, як выйшла назад па сцяжынцы, што курылася парам, як, пераапрануўшыся ў хаце, подбегам паспяшалася да дарогі. Да аўтобуса ў раён заставалася болей гадзіны,

а чакаць яна не магла, таму пашыбавала на шашу. Яе ўзяла першая ж машына. Шафёр, хлапчук-жаўтароцік, захоплена пазіраў на жанчыну, а яна нічога не заўважала.

«Скажу... усё скажу... паеду, усё кіну. Да цёткі ў Карэлію. Жыві адзін! А Паліны не ўваскрасіць. Хутчэй бы «адплата».

— Хутчэй бы! — вымавілі ўслых яе пачарнелыя вусны.

— Зараз! — ажывіўся хлапчук.— Дамчу да раёна мігам!

Ляцелі кіламетры, ляцела душа Ульяны насустрач Сцяпану — наперакор розуму. Як збавення, прагнучы кары...

Яна мела права на адплату, на пакаранне. Дзіўная ісціна даходзіла да яе сэрца: пакаранне здымае віну, але права тое здабыць не лёгка. Усе пакуты яе, усе бязмерныя пакуты хіба не аплацілі перад нечым, што вышэй за нас, тое права?

## АВАНТУРА

Цудоўны сенбернар ляжаў на стале, пакутна выскаліўшы мёртвыя клыкі; цьмяна льснілася ў жоўтым рэдкім святле залацістая поўсць, доўгі фіялетавы язык прыліп да пластыкавага стала.

Глуха зарыпеўшы, гахнуліся дзверы, у залу ўвайшла маладая светлавалосая жанчына. Позірк яе нядобрых васільковых вачэй хутка абабег мёртвага сабаку, спыніўся на нерухомых зрэнках.

— Цёця Кася! — паклікала яна, дастаючы цыгарэты з кішэні шырокіх цёмна-сініх штаноў.

— Тут я, тут, Зосечка... Зоя Янаўна! — паправілася лабарантка, ціха вынырнуўшы з другога пакоя.

— Гэта... Камінскіх сучка?

— Пазнала? Дзе ж яе не пазнаць, увесь горад ведае. З чаго падохла? Бог знае, цьфу, саграшыла языком! Галоўурач прыслаў, на экспертызу. Дужа гаспадар прасіў. Як жа, пакойнай маці памяць!

— А што... гаспадары кажуць?

— Жонка два разы прыбягала. Казала, ляжаў сабака, жывы, здаровы, а пасля работы прыйшлі — ужо акалеў. Яна адразу яго закапаць хацела, а мужык запярэчыў, пазваніў нашаму галоўнаму. Ну, рэзаць будзем ці як? Шэльму гэтую?

— Падрыхтуйце інструменты.

Цёця Кася загрымела ў шафе, не крыўдзячыся на маўчанне ўрача, працягвала размову:

— Ганна Іванаўна так ужо яе любіла! Мала ёй было аднаго сыночка, відаць. І грошай было, знаць,

болей, чым трэба. Яе ж карміць замучышся! Твая Шэльма ў цябе таксама паўзарплаты праядае, і на што яна табе?

— У вас усе сабакі шэльмы,— іранічна заўважыла Зося. Яна бесцырымонна атрэсла попел на падлогу. Цёця Кася пакасілася на лінолеум, але нічога не сказала. Зося перахапіла цыгарэту левай рукой, а правай упэўнена і хутка абмацала шыю і пахвіну сабакі, зазірнула ў ягоную пашчу.

— Без пальчатак! — жахнулася цёця Кася.— Заразу падхопіш! — Яна спачатку рынулася да Зосі, пасля спынілася і вярнулася да шафы.

— Вось зараз вы дакладна падумалі,— пасміхалася Зося.— Мяне ніякая зараза не возьме... Дый няма ў яе ніякай заразы. Дарма такую паніку ўзнялі. Мяне ўжо тры чалавекі спынялі: галоўурач падняў ледзь не ўвесь гарадок!

— Ты ж не сказала, што ў раён паехала. Дый у які калгас, хто ж ведаў? Стукнула да цябе — ты не адклікаешся. Думаю, калі чуе і не прыходзіць — значыць, тоіцца. А можа, у яе кавалер які. Дык што ў яе такое, у Шэльмы?

— Вы калі-небудзь у мяне кавалера бачылі?! — успыхнула Зося.— Што вы выдумляеце? У мяне ўвогуле бывае хто-небудзь?!

— Ды я проста... Без аніякага зла...— пачала апраўдвацца лабарантка.— Дзела тваё маладое, што ж тут такога? Дый начуеш тут адна — як толькі не баішся? Адна твая Шэльма згрызе калі-небудзь, дальбог. Такая яна ўжо непрымірымая... Як ты,— цішэй дадала яна, ставячы на крэсла белы эмаліраваны посуд з бліскучым інструментам.

— А вы мяне не шкадуйце, вас гэта не датычыць,— нацягваючы пальчаткі, ужо апранутая ў халат, буркнула ветурач.— Ідзіце лепей дадому, я без вас упраўлюся.

Лабарантка пакрыўджана ўсцягвала на сябе паліто, крэкчучы, зашпільвала за дзвярыма боты і грукала нечым, калі Зося ўбачыла на ганку фігурку ў карычневай футрачцы і чырвонай шапачцы.

— Казіміра Пятроўна! — голас яе гулка разнёсся па зале.

— А? — спалохана прасунула твар у дзверы лабарантка.

— Каб пастаронніія сюды не соўгаліся! Скажыце ёй — няхай чакае!

— Добра, добра, Янаўна! — паспешліва заківала галавой цёця Кася, і адразу ж пачулася прыглушаная гаворка, капрызлівы жаночы галасок, густы крыўдлівы шэпт цёці Касі і крыху грамчэйшыя, чым трэба, «язва» і «дзетдомаўская». Зося ўсміхнулася пагардліва, ірванула на акно штору, уключыла лямпу і ўзяла цёплы яшчэ скальпель. Гнуткія, бязлітасныя яе пальцы звыкла і моцна трымалі інструмент, агіналі кавалкі змярцвелай шкуры.

Забрахала, а пасля ціха заскуголіла за сцяной Альма — відаць, і яна адчула нешта нядобрае. А Зося, трымаючы ў руцэ пацямнелае мяккае лёгкае, адчувала, як ярасць гарачай хваляй шугае ў галаву: першапачатковы дыягназ яе пацвердзіўся, і зараз, разам з задавальненнем, яе апаноўвала глухая, недаўменная нянавісць — тая, з якой яна сустракала новыя праявы чалавечай подласці.

Зноў зашыўшы труп, яна выпрасталася, глыбока ўздыхнула і выспяткам нагі, падышоўшы, расчыніла дзверы, ледзь не ўдарыўшы маладую шатэнку ў чырвонай шапачцы. Цёці Касі ўжо не было, яна не дачакалася вынікаў, а можа, Камінская не хацела, каб нехта прысутнічаў пры размове.

— Ну? — груба запыталася яна шатэнку, ідучы да ўмывальніка і намыльваючы рукі.

— Што — ну? — тонкія броўкі Камінскай ссуну-

лісся, яна пачырванела. Ва універмагу, у аддзеле мужчынскага адзення, дзе яна працавала, гэтая маладая жанчына была іншай: прыязна, але загадкава ўсміхаючыся вялікімі карымі вачыма, яна з асаблівай грацыяй, з какетлівым даверам гаварыла з наведвальнікамі, і была ў ёй гнуткая, ліслівая грацыя нейкага прыгожага звярка. Тут жа, пакрыўджаная, яна згубіла сваю прыязнасць і гнеўна-капрызліва спрабавала перайсці ў наступленне: — Што вы так са мной гаворыце? Я прыйшла даведацца, ад чаго... памерла... Селга, а вы...

— А то вы не ведаеце, ад чаго яна здохла, га? — Зося цёрла рукі, пасля, паморшчыўшыся, адкінула рушнік.

— Н-не ведаю...— вусны Камінскай уздрыгвалі.

— Ведаеце! — насмешліва крыкнула Зося.— Добра ведаеце! Толькі мне незразумела: навошта была вам гэтая авантура. Сабакі паміраюць прасцей: ёй можна было даць курыных костачак. Яны востранькія. Разгрызе — і калі ласка. Або закаталі б ёй у катлетку дзіцячую соску. Гумка разбухне ў страўніку — і гаспадару спакойна, і мне незразумела, як трапіла соска.

— Навошта... Вы мяне мучыце? — спалохана спыталася наведвальніца.— Што вы так... гэта ж не чалавек, гэта толькі сабака!

— Толькі сабака...— паўтарыла Зося.— А вы выпадкам не ведаеце, што, калі ваш муж вучыўся ў інстытуце, сабака дапамагаў Ганне Іванаўне пераносіць адзіноту, насіў у «Хуткую дапамогу» выклікі, таму што ў вас няма тэлефона? Вы ведаеце, што такое... адзінота?

— Я вас не разумею! — горача ўсклікнула жанчына.— Вы нібыта болей за мяне любілі Ганну Іванаўну. Адкуль вы яе ведалі? Што вам да нашай Селгі?

— А! Ну, вы тут маеце рацыю: што мне да вашай Селгі! Я — толькі ўрач. Я напішу заключэнне — і ўсё. Заўтра атрымаеце яго ў галоўурача.

Яна пачала расшпільваць халат, але матузок не развязваўся. Зося пачырванела ад напружання. Яе злавала, што Камінская не ішла, а стаяла насупраць, і гладкі яе лоб перасекла зморшчынка роздуму.

— Дык вы... Вы, значыць, не мне аддасце гэтае... заключэнне? — асцярожна запыталася ўладальніца Селгі.— А... чаму? Аддайце мне — і ўсё.

— Такое правіла. Яго запатрабаваў галоўурач — ён яго і атрымае.

Камінская ўсё стаяла. Зморшчынка на яе лбе стала глыбейшая, ружовы дзіцячы тварык пасур'ёзнеў. Яна села, пасля асцярожна слізганула рукой у сумку і дастала адтуль блакітны поліэтыленавы пакет.

— Зося...— пачала яна, і Зося, акуратна складаючы халат, здзівілася, што яе называюць па імені.— Зосенька... а што, калі вы мне аддасце гэтае заключэнне? Або напішыце... што-небудзь іншае, не тое, што было на самой справе. Якая вам розніца? А я... я не застануся перад вамі... Вось... тут імпартная камбінацыя. Не думайце, гэта ў падарунак! — Яна не давала Зосі вымавіць ні слова.— Не сярдуйце на мяне — я ж ад чыстага сэрца!

— Вы што ж, хабар прыпаслі раней ці як? — Зося таксама прысела на крэсла.— Ці толькі цяпер... дадумаліся? І... як вы Селгу атруцілі? Сама ці дапамагаў хто? Нашто?

— Яна сама вінавата! Яна мяне не любіла. А чаму? Чаму Ганна Іванаўна мяне не любіла? Што я ім зрабіла?! Я ёй заўсёды... дэфіцыты прыносіла, а яна! Як мне цярпець у хаце было гэтую...— яна кіўнула на Селгу,— калі яна нават есці не брала з маіх рук? Не брала, чуеце! Чаму вы яе шкадуеце, а не мяне?!

Яна заплакала, але і слёзы не псавалі яе прыга-

жосці: наадварот, па-дзіцячы прыпухлі вусны, і вочы былі асабліва мяккімі, бархатнымі.

— Я не хачу, каб Сярожа пра гэта ведаў! Ды і не я прывязвала Селгу да выхлапной трубы, а брат! Адкуль мне было ведаць, што яе возьмуць на экспертызу?

— Ідзіце вы прэч! — стомлена сказала Зося.— Разам з трантамі. А заключэнне... Што яно значыць? Я абавязана напісаць праўду. Усяго толькі праўду. І я яе напішу.

— Праўду?! А навошта яна? І каму патрэбная? Думаеце, майму Сяргею?

— Што ж вы, зусім не баіцеся Сяргея... Паўлавіча?

— Баюся, чаму ж. Таму і прашу. Баюся за яго — ён у мяне далікатны, кволы. Яго мамачка прывучыла... да ўсякіх там... высокіх матэрый. Ну, дык што?

— Анічога,— усміхаючыся, нядобра і насмешліва, адказала Зося.— Усяго добрага!

— Ах ты...— працяжна сказала Камінская, і твар у яе ўспыхнуў.— Ты... падкідыш дзетдомаўскі! Сучка ветэрынарная!

За сцяной глуха забрахала Альма, і Камінская ўздрыгнула, ступіла назад.

— Пайшла прэч! — спакойна сказала Зося, і сінія вочы яе пацямнелі.— Пакуль Альму не выпусціла,— дадала яна, адчуваючы, як смешна, відаць, глядзець на іх збоку: маленькая, грацыёзная Камінская, што распушылася, як верабей, а насупраць — яна, Зося,— вялікая, крыху няскладная. І абедзве яны ўпарта глядзяць адна на адну, не апускаючы вачэй.

— Гадзюка! — прашыпела нарэшце госця і, дробна ступаючы нагамі, выбегла на вуліцу.

Пагардліва ўсміхаючыся, Зося цьмяна глядзела перад сабой. У голым прамавугольніку акна, над голымі вяршалінамі доўгіх выкручастых дубоў, тулі-

ся ў аблоках бледны маладзік. І дом, і дубовую алею — некалі маёмасць панскага аканома — перадалі раённай ветэрынарнай службе, але да прыезду Зосі сюды рэдка хто заходзіў, а лабарантка цёця Кася ашывалася ў асноўным будынку ветстанцыі.

Думкі Зосі былі невясёлымі. Яна думала пра сцяну, што цвёрда стаяла пад час размовы паміж ёю і Камінскай, і то шкадавала, што не змагла вытлумачыць маладой жанчыне нечага важнага, абавязковага, то з гнеўнай радасцю ўспаміна́ла, як апусціла тая свае такія прыцягальныя вочы. Прыцягальныя, канешне. Калі б не яны, гэтыя вялікія, спачатку нават наіўныя вочы, можа б, яна, Зося, насіла цяпер прозвішча Сяргея. Яна спрабавала разабрацца ў сабе — ці не таму была такой суроваю з наведвальніцай, што патаемна зайздросціла ёй? Не, так яна паставілася б да любога. Віна Камінскай выклікала ў ёй не болей гневу і прыкрасці, чым учынак кожнага, хто апынуўся б на яе месцы. Усё ж сумленне мучыла яе, неўтаймоўнае, цяжкае сумленне, якога яна баялася, як суддзі, слухалася і жыла па яго́ных законах, прынамсі, старалася жыць.

Яна, нарэшце, адарвалася ад акна, выйшла на ганак, зачыніўшы дзверы вялікім свірнавым замком.

Далёка, кіламетры з два адсюль, пачыналіся вуліцы гарадка. Тут жа, вакол хаты, глуха і працягла завываў сівер, цемра ўсё бліжэй падступала да парку, гусцела. За агароджай цяжка і жудасна рыпеў стары клён. Ён, відаць, саслабеў ад старасці і няздольны быў супраціўляцца непагадзі. Дзяўчына абышла дом, з намаганнем вымаючы ногі з друзлага ледзянога крошыва, і, адамкнуўшы дзверы свайго пакойчыка, нахілілася, каб скінуць боты. Але тут жа выпрасталася: чорная пружыністая аўчарка кінулася да яе, нецярпліва павіскваючы і спрабуючы лізнуць гаспадыню ў вусны.

— Ах ты, прыгажунька! Засумавала тут, прагаладалася! — ласкава адхіляючы Альму, яна зняла паліто, скінула хустку, таропка пайшла да паліцы, дзе ляжаў пачак «Геркулесу». Альма не адставала, лашчылася і ўсё падскоквала, каб дастаць да твару.

— Ну, хопіць, хопіць! На месца! — Зосі было прыемна, але яна ўзвысіла голас, бо ў бурнай радасці Альмы была сёння нейкая ўзвінчанасць. Альма ж, адчуваючы настрой гаспадыні, неахвотна падпарадкавалася і толькі сачыла разумнымі вачыма, як кіпіць на электраплітцы варыва, а пасля стыне ля адкрытай форткі. Ела яна не спяшаючыся, далікатна. Зося ж тым часам таксама паела, запіваючы кефірам учарашнюю булку, а пасля села на рыпучую зялёную канапу і задумалася, паклаўшы руку на цёплую бліскучую спіну аўчаркі.

У пакоі было цёпла. Ад дубовых бярвенняў, тут, у пакойчыку, незатынкаваных, ішло нейкае няўлоўнае адчуванне трываласці і спакою, хаця дом быў запушчаны, напаўжылы. Ды і тут, у пакоі, усё было наладжана наспех, няўмела. З пацямнелай, некалі какетлівай рамы венецыянскай люстры выглядаў аблуплены кавалак сярэбранай амальгамы, на дзвярах свежай жаўцізной свяцілася фанерная латка, а адзіны ўцалелы грыфон вісеў ля акна ўніз галавой. Зосі ўжо прапаноўвалі перасяліцца ў новы трохпавярховы дом для спецыялістаў, але за чатыры месяцы работы яна дзіўна ўпадабала старадаўні, з флігелем і мансардай, з пацямнелымі прыбудовамі дом у канцы парку. Палюбіліся ёй асеннія, а пасля і зімовыя вечары, калі яна сядзела з Альмай, нібы раствараючыся ў шэлесце, шоргаце, стогнах агромністых дрэў. Гэта былі ледзь не лепшыя хвіліны ў яе жыцці, бо ўпершыню яна не баялася чужога вока, не сціскалася ў зацятай сарамлівасці. Зосю ў дзетдоме лічылі «цяжкай», можа, таму, што ўпартую, нелюдзімую

дзяўчынку, якая не ўступала ні з кім у сяброўства, у сваю чаргу не любілі таксама. І ніхто не ведаў, што душа яе рвалася да цяпла. Вось толькі ўсе спробы ўступіць у бесклапотнае, вясёлае жыццё равеснікаў былі ў яе на дзіва няўклюднымі, ад чаго кожны раз аставаліся ў дзіцячай душы прыкрасць на сябе і злосць на іншых. Яна саромелася сваіх рук, свайго доўгага цела, ненатуральным здаваўся ёй уласны смех, нясмелы жарт, і яна моўчкі, нібы ў балота, угразала ў адзіноту і неймаверна пакутавала ад яе. Уратаваннем стаў для яе сляпы, брудны шчанюк, якога прыбіла дажджом да дзетдомаўскай агароджы: выходжваючы яго, яна выпадкова намацала нарэшце сваё: можа, таму і трапіла ўрэшце ў ветэрынарны інстытут, панура і ўпэўнена абышоўшы экзаменацыйныя перашкоды, каб затым здзіўляць выкладчыкаў утрапёнасцю ў вучобе, а таксама ўменню дакладна і глыбока адчуваць усё жывое і беззапаветна любіць яго. Альму яна ўбачыла рахітным, безнадзейна хворым шчанюком, якога з радасцю аддаў ёй гаспадар, каб не важдацца з ветслужбай. Але, убачыўшы Альму здаровай і гладкай аўчаркай, ён запатрабаваў за яе грошы і пагражаў забраць. Зося, тады студэнтка трэцяга курса, уладкавалася ў інстытут вартаўніком і за тры месяцы выплаціла ўсё, што патрабаваў ад яе былы гаспадар Альмы, затое набыла адданую істоту, якая адзіная на зямлі любіла яе, не патрабуючы ўзаемнасці і даруючы і замкнёнасць, і дрэнныя манеры...

...Зося ачуняла ад таго, што Альма тыцнулася ў яе калені. Будзільнік паказваў дзесяць.

— Пагуляй ты сёння адна, Аля,— папрасіла дзяўчына стомлена, ілбом прыціскаючыся да аўчаркі.— Я крышку паляжу, мне нешта няможацца. Добра?

Яна адчыніла дзверы і, выпусціўшы Альму, вяр-

нулася да канапы, заплюшчыла вочы. Але перад вачыма стаяла сцэна з Камінскай, і зноў Зося пашкадавала, што спрабавала нешта тлумачыць, што спадзявалася прабіцца ў душу гэтай жанчыны.

«Але ж Сяргей не такі! Хіба ён можа даравацъ гэтай... лялъцы? — падумала і засмяялася: — Не хлусь, Зойка, сама сабе! Яна не лялечка, яна... о, яна такая! І ўсё роўна... Сяргей жа, здаецца, любіў яе, тут ён не прыкідваўся! Ён мог не кахаць яе, Зосю. Канешне, ён ніколі яе не кахаў, проста прывязаўся, прывык. Але ж па маці ніколі не забываўся, сумаваў па ёй, ездзіў на канікулах, пазбаўляючы сябе розных цікавых паездак, што кожны год праводзіліся ў іхнім педагагічным інстытуце. Не, ён не можа даравацъ! Забіць сабаку... Усё роўна што чалавека!»

На двары коратка і злосна гаўкнула Альма.

— Ты што, Аля? Каго там убачыла? — выходзячы на ганак і завязваючы хустку, крыкнула яна ў цемру.

— Зося, забяры сабаку! — гучны мужчынскі голас нібы нешта абарваў у яе грудзях.

— Ты... Сяргей? — нясмела азвалася яна, напружана ўзіраючыся ў цемру.— Альма, фу! Сюды! — Схапіўшы сабаку за ашыйнік, прапусціла Сяргея ў дом.— Заходзь.

Ён маўчаў, пасля хіснуўся, загаварыў невыразна:

— Селга дзе ў цябе?

— Там, у зале. Ты што, выпіў?

— Можна туды? — ён адказаў пытаннем.

— Магу адчыніць. У парадку выключэння.

Яна вынесла ключы і пайшла ў памяшканне. Сяргей крочыў следам, маўчаў, некалькі разоў ледзь не ўпаў, так што Зося ледзь стрымалася, каб не сказаць што-небудзь з'едлівае.

...Мёртвае святло электрычнай лямпачкі зазіхаце-

ла на пышнай залацістай поўсці сенбернара, і сам гэты бляск быў нейкай горкай насмешкай над непатрэбнай цяпер прыгажосцю сабакі. Мужчына падышоў да стала, асцярожна дакрануўся да вуха Селгі.

— Гэта праўда, што Сюзана... Ці ты яе напалохала?

Пачатак быў не такім, як трэба. Сяргей не павінен быў гаварыць ваяўнічым тонам, быццам абвінавачваючы. Таму Зося адразу натапырылася, зледзянела:

— Яе не напалохаеш. Што, яна ўсё ж прызналася?

— Яна ўсё мне расказала. Як ты тут яе... шантажавала. Я не веру ў такое. Сюзана не магла забіць Селгу.

— Магла, мой мілы! — з выклікам засмяялася Зося. Яна адгарнула поўсць на шыі сенбернара: — Можа, я выдумала, што сабаку сілком трымалі на вяроўцы? Паглядзі, як ёнірваўся. А лёгкія? А кроў? Прывязалі каля выхлапной трубы — і гатова!

— Гэта не яна!

— А-а, ты ведаеш, хто што рабіў? Але ж кіравала твая мілая Сюзана, твая лялечка!

— Я... я ўдарыў яе. Сюзану! Уяўляеш? Я ўдарыў яе першы раз у жыцці!

Прыгожы Сяргееў твар з шырокімі брывамі і цёмна-русай бародкай быў цяпер разгублены і няшчасны, вочы пачырванелі, на светлым паліто чарнела няроўная палаcа бруду.

— Слухай... што ты напішаш у заключэнні?

— Далося вам гэтае заключэнне! Дарэчы, дарма твая Сюзя тут вылузвалася са скуры: экспертыза не тлумачыць, як было, што было. «Смерць у выніку асфіксіі» — гэта можа быць што хочаш. Ідзіце сабе з мірам, Сяргей Паўлавіч.

— І ўсё ж... Павел Мікалаевіч даведаецца. Я ж

званіў яму, прасіў дазнацца. Каб хаця яна раней прызналася! Ты ж — скажаш яму?

— Не будзе распытваць — не скажу. Якая мне справа да вас?!

— Не-е, ён спытае! Ён мужык цікаўны... Зося!

— Ну?

— Зосенька!

— Не трэба такіх... пяшчотаў. Кажы, што трэба.

— У імя нашай... ну, ранейшай... любові. Не ганьбуй нас. Нікому нічога не кажы. Мы растлумачым, што Селга зачапілася ашыйнікам. А то... уяві, як будуць перамываць нашы костачкі! Нас усе тут ведаюць... Мой аўтарытэт у школе...

— Вунь яно што!.. Ты з-за гэтага валокся сюды? Вось што хвалюе цябе — адзінае!

— Не! — Сяргей уклаў у свае словы ўсё сваё перакананне, але непаслухмяныя вусны заблыталі сказы: — Мне дрэнна. Каб ты толькі ведала. Я так люблю Сюзю! Не, ты ўсё разумееш! Ты такая шчырая, такая чыстая... я... па табе заўсёды сумаваў, успамінаў. Верыш — і цяпер так хацеў... убачыць!

Ён з намаганнем усміхаўся, і Зося, здрыгануўшыся, успомніла, што дакладна такая ўсмешка была ў яго ў той дзень, калі ён гаварыў, што павінен жаніцца на другой. Якраз такім рухам ён працягнуў рукі, рыхтуючыся абняць яе.

— Не падыходзь!

Яна кінулася да шафы, ірванула дзверцы, схапіла памяты бланк, што ляжаў зверху на дакументах, няпэўнай рукой напісала некалькі радкоў і амаль кінула Сяргею:

— Бяры!

Ён лоўка злавіў паперку, хутка прагледзеў напісанае.

— А пячатка?

— А!

Нервова выцягнуўшы шуфлядку, намацала пячатку, азірнулася на Сяргея, які працягнуў бланк. Пальцы ў яго былі ледзяныя і вільготныя, але вочы набылі ўпэўненасць і яснасць. Цвёрды цёмны круглячок лёг на прымятую паперку. Сяргей сачыў за кожным рухам, як паляўнічы, і калі Зося, як бы незнарок, адвяла руку — пальцы ягоныя зрабілі рывок. Яна завяла рукі за спіну, прыжмурылася:

— Ты рады, Сярожа? Праўда, рады?

Ён няўцямна паглядзеў на яе.

— Ну канешне. Усё добра, што добра канчаецца.

— Канчаецца? А мне здаецца — якраз пачынаецца.

— Не гавары загадкамі. Дый не час для шарад. Давай паперу, Зосечка.

Зласлівая зморшчынка ляжала ля ягоных вуснаў, але ў вачах загараўся хмельны, гарачы агеньчык, ад якога некалі ў яе перахоплівала дыханне.

— Так страшна, што скажуць людзі? А можа, самае страшнае ўжо адбылося, Сярожа?

— Мы толькі што разумелі адзін аднаго! Навошта ізноў выбрыкі? Зось! Ну? Ты ж разумніца.

— Не, Сярожа. Я дурніца. Не магу ўцяміць, чаму ты мармычаш пра аўтарытэт, пра паперу... а пра галоўнае не дбаеш. Ёсць жа душа ў чалавека? Душа — ёсць?

— Скажы яшчэ — бог. Сабачы! Ну, няхай ён нас за Селгу карае, а што табе? Да нас? Можа, ты чакаеш, што я кіну Сюзану? За гэтую няўдалую авантуру?

— Авантуру... Ну, канешне! Вось тое слова!

Яна адчувала, як мерзнуць ногі, мерзнуць нават у валёнках. А твар чамусьці гарэў, нібы ад доўгіх, цяжкіх аплявух. Паміж ёю і Сяргеем ляжала Селга. Павольныя буйныя слёзы тачыліся недзе ў самых глыбінях Зосінай істоты, замыкалі вусны, але вочы

яе набывалі свой нядобры васільковы бляск. Яна зноў глянула на бланк з пячаткай і задумліва, не спяшаючыся, разарвала яго перад самымі вачыма Сяргея.

— Не, не хачу дастаўляць вам такое задавальненне. Знаеш: я думала, што прадаюцца толькі жанчыны.

Да яго не адразу дайшло, што яна мела на ўвазе. Сцяўшы кулакі, тузануўся да яе. Спыніўся.

— Зося, ты здохнеш у дзеўках,— сказаў амаль ласкава.— З тутэйшымі трэба ладзіць. Зламаеш шыю, глядзі! — Падышоў да дзвярэй, загадаў: — Патрымай аўчарку.

...Яна трымала Альму за ашыйнік, маўчала. Пуста і глуха было на душы — бадай што так пуста, як на вымеценым сіверам полі, дзе адзінока тырчаў быльнёг. Альма дапытліва пазірала на гаспадыню, пераступаючы ў снезе. Зося пагладзіла яе па спіне.

— Аказваецца, самае простае і самае цяжкае — гэта праўда; ты ведала гэта, Аля? Не? Прыйдзецца даведацца. А як жа!

Яны разам пайшлі да ганка, зайшлі ў пакой, і, не запальваючы святла, Зося села на тапчане, а Альма, паклаўшы галаву ёй на калені, унізе, ля ног.

— Можа, нам паехаць адсюль, га? Як ты думаеш? А можа, будзем ламаць шыю?

Ясны, прыгожы маладзік то нырау у аблокі, то залівау лімонным святлом гурбы ля дома, тоўстыя дубовыя сцены і грыфона, што па-сіроцку вісеў над акном. Было так ціха, што чуваць, як працяжна звінелі ледзяшы, падаючы з дрэў на зацвярдзелы снегавы покрыў, як рыпелі дубы-веліканы. Цяклі гадзіны, а Зося ўсё не зводзіла вачэй з акна, і, час ад часу пазіраючы на гаспадыню, нешта нібы спрабавала зразумець Альма...

# ФАРФОРАВАЯ МАЛАДАЯ

Ліст са зваротным канадскім адрасам, густа праштэмпеляваны, з ружова-жоўтай маркай паштальёнка Яніна Макрыцкая панесла на Зялёную, дваццаць восем у самым канцы рабочага дня. Уласна кажучы, гэты рабочы дзень павінен быў закончыцца яшчэ да таго, як Яніна падыдзе да высокай каменнай аркі з зялёнымі пасмамі дзікага вінаграду, што густа паўзе па мудрагелістых выгібах аркі, адкуль да вуліцы Зялёнай яшчэ добрых дваццаць хвілін ходу, спачатку непадалёк ад касцёла шаснаццатага стагоддзя, работы славутага Яна Бернардзіна, пасля — паўз панурыя жоўтыя дамы, што спадылба глядзяць на свет вузкімі, як байніцы, вокнамі, далей — ля плошчы, дзе агромністы бетонна-шкляны «Універмаг», «Гастраном» і райвыканком, аб'яднаўшыся, спрабуюць выціснуць з плошчы цяжкі і вузкі гмах былой ратушы, усё яшчэ велічны, нягледзячы на залатаны новымі цаглінамі вугал. А пасля, у самым канцы падарожжа,— па цяністым, маўклівым завулку. Яніна спяшалася. Ліст быў адрасаваны старадаўняй яе знаёмай — пані Вандзе, самой пані Вандзе!

Пані Ванда з'яўлялася для старажылак гарадка тым, чым некалі была для Версаля мадам Ментэнон — некаранаванай каралевай, заканадаўцам правіл і ўчынкаў, але ў адрозненне ад фаварыткі аўтарытэт пані Ванды быў не падуладны ніякім нягодам: з таго незабыўнага года, калі дваццацішасцігадовую дзявотку вянчалі ў тым касцёле, паўз які ішла цяпер Яніна Макрыцкая, і да сённяшняга дня на

белым, як стула біскупа, сумленні пані Ванды не было ніводнай плямінкі, нягледзячы на тое, што муж яе, уроджаны Стульскі, у якім па мацярынскай лініі, як казалі, цякла кроў саміх Радзівілаў, знік некуды ў самым канцы вайны, як кажуць, спяшаўся на Захад.

Цьмяныя чуткі пра ягоную смерць і пра ўзнясенне на неба проста з камфартабельнага вагона перад самым Беластокам дайшлі да гарадка не хутка, але пані Ванда апранула чорную з бялюткім гафрыраваным каўнерам сукенку на другі дзень пасля ад'езду мужа і не здымала яе ўсе дваццаць гадоў, прыходзячы ў касцёл, дзе на працягу многіх гадоў яна была першай прыхажанкай. Высокая, худая, яна ў рэшце рэшт стала такой жа прыналежнасцю касцёла, як каменная скульптура святога Пятра, што стаяла ў нішы направа ад дзвярэй, так што калі аднойчы яе месца апусцела і заставалася пустым на працягу некалькіх тыдняў (пасля даведаліся, што яна захварэла), прыхажанам увесь гэты час быццам нечага не хапала. І толькі ўбачыўшы нарэшце, як яна сваімі тонкімі белымі пальцамі разгарнула сшытак з псалмамі, як усаджвалася на звыклае месца — толькі тады яны паверылі, што свет усё ж застаецца такім, як заўсёды.

Яніна Макрыцкая, якая даўнейшым часам была тоўсценькай удавіцай, а не цяперашняй развалюхай, у параўнанні з якой нават ратуша выглядае маладзіцай, у першыя гады пасля Перамогі не траціла часу дарма: праз месяц стараннага флірту ёй удалося ажаніць на сабе намесніка старшыні райвыканкома — высокага панурага хлопца, да такой ступені занятага самаадукацыяй, што ён толькі на другі дзень пасля вяселля заўважыў сямігадовага таўстуна, які аказаўся сынам Яніны і без цырымоній клікаў яго «татусем». Але Макрыцкага ў сорак сёмым

застрэлілі з абрэза недалёка ад пышнага замкавага парку, і ўдаве засталася маленькая пенсія і цвёрдая ўпэўненасць, што болей спадзявацца ёй няма на што. У тыя гады, калі Яніна ўбіралася ў кароткія спадніцы і павязвала на густыя рыжыя валасы яркачырвоную хусцінку, пані Ванда хадзіла ў нязменнай чорнай сукні і, здавалася, болей клапацілася пра бялізну санаторыя, чым пра сябе і дачку: ёй пашчасцілася ўладкавацца кастэлянкай у новы санаторый, што размясцілі ў былым радзівілаўскім замку, і ўжо праз некалькі гадоў яе фотакартка вісела на дошцы Гонару.

Хаця Стульскі быў усяго толькі ўрачом, але ён прагна дабіваўся пад час акупацыі валодання замкам і ягонымі землямі, і таму пані Вандзе першы час пасля Перамогі было нялёгка. Ёй нават давялося на кароткі час з'ехаць з гарадка. Калі ж яна вярнулася, то аказалася, што кватарантکі, якіх яна на нейкі час пусціла была ў дом, ніяк не маглі яе ўспомніць, так што першую ноч пасля прыезду ёй давялося начаваць у альтанцы парку. Праўда, назаўтра ў дзевяць яна была ў старшыні райвыканкома, а ў адзінаццаць кватарантکі, лаючыся на ўсю вуліцу, выносілі з яе хаты апошнія транты пад пільным наглядам міліцыянера. У пяць вечара была прывезена з дзіцячага дома, што мясціўся ў сарака кіламетрах ад гарадка, наследніца хаты і радавога гонару. Маёмасці ў выглядзе крышталю і бронзавага гадзінніка эпохі Пампадур пасля пражэрлівых кватарантак не засталося. Наследніца расчаравана стаяла ў пакоі: яе выцягнулі з дзіцячага дома ў той момант, калі яна рыхтавалася да рэваншу і настырны Генусь са старэйшай групы гатовы быў пакінуць поле змагання. Але пасля, поўзаючы пад прадзёртымі крэсламі, яна з трыумфальным лямантам выцягнула з памятай кардонкі статуэтку рэдкага мейсенскага фарфору.

Статуэтка, пяшчотнейшых ружовых і выразнейшых сініх колераў, была фігуркай сарамлівай маладой; мноства какетлівых залацістых плямак спярэшчвала яе вэлюм. Пані Ванда, панура перабіраючы пасярэдзіне пакоя варыянты далейшага жыцця, радасна вохнула, і на імгненне яе твар стаў такім жа ружовым, як і ў маладой: статуэтка была падарункам мужа, адзіным, што засталося ў яе ад нашчадка некалі велічнага роду, і менавіта страта статуэткі прымушала яе горка сумаваць у месяцы свайго ад'езду. Пакуль пані Ванда глядзела на статуэтку, дачка яе з усяе сілы аддзірала ад чорнай разьбовай спінкі крэсла выкручастую завітушку, ад чаго яе попельныя валасы ўскудлаціліся, як у нечасанага пудзеля, а жывыя карыя вачаняты блішчалі, як у дзікуна, што прымярае шкляныя пацеркі. Адарваўшыся ад маладой, пані Ванда ўздыхнула і вырашыла нанесці візіт да знаёмага мэбельшчыка, што працаваў цяпер вартаўніком санаторыя, і, дастаючы з кішэні шэрай жакеткі зялёны самашытавы грабянец, вымавіла першыя словы з тых бясконцых лекцый, якімі яна ў наступныя гады будзе частаваць наследніцу, што так і не акрыяла пасля выхавання ў дзіцячым доме і не раз жахала пані Ванду сваімі манерамі, жывасцю, гучным смехам, так што той не раз даводзілася задумвацца над праблемамі спадчыннасці і, у якасці суцяшэння, раіцца з фарфоравай статуэткай, нібы гэта і быў сам незабыўны Стульскі.

...Яніна Макрыцкая нарэшце падышла да акуратнага жоўтага доміка, уласнаручна пафарбаванага пані Вандай пяць месяцаў назад, пастукала ў дзверы, абабітыя жалезам, і, пачуўшы «пр́ошу», увайшла ў паўцёмную гасцінуючы.

За семнаццаць гадоў, што праляцелі пасля вытурвання нахабных кватарантак, два пакоі доміка зусім перайначыліся: пані Ванда сядзела перад рас-

чыненым томікам Сянкевіча на фоне старадаўняга трумо, чырвонага аксамітавага абруса, барвовых аксамітавых штораў і цёмнага разьбовага буфета, сядзела на адным з тых адрамантаваных семнаццаць гадоў назад крэслаў, з якога маленькая Барбара адрывала завітушку. У буфеце пабліскваў крышталь, усяго толькі мізэрныя кілішачкі, з якога пані Ванда частавала гасцей, у большасці касцёльных прыхажанак, уласным вішнёвым лікёрам.

У глыбіні стаяла фарфоравая статуэтка, якая ў гарадку стала такой жа славутай, як некалі легендарная чаша Грааля.

— Я да вас па справе,— павітаўшыся, загаварыла Яніна.— Вось... ліст прынесла.

Старая дама, чые паблеклыя блакітныя вочы, што цікаўна глядзелі на госцю, дзіўна кантраставалі з тонкімі рашучымі вуснамі і арліным носам (па прычыне якога яна ў свой час ледзь не засталася ўроджанай Шапятовіч), а пажаўцелая атласная скура была ў тон да крэмавых карункаў на нязменнай чорнай сукенцы, устала насустрач Макрыцкай, адлюстраваўшыся ў трумо ад сівой галавы, завітай па модзе трыццаць дзевятага года, да вышытых ёю пантофлікаў.

Яніна Макрыцкая, якая надзявала ў хаце што трапіцца пад руку, з глыбокай пашанай падала ліст і без запрашэння апусцілася на другое крэсла, справядліва мяркуючы, што заслужыла хаця б паўгадзіны гутаркі ў доме пані Ванды. Апроч таго, яна млела ад цікаўнасці — ліст з Канады! Ці не туды пераехаў у рэшце рэшт стрыечны брат пані Уладэк — той самы, з кім гімназістка Яніна ўпотай цалавалася на касцельных хорах, за спінамі харыстаў, што зладжана выводзілі «Тэ Дэум».

Ліст быў сапраўды ад Уладэка, таму што пані Ванда адразу паружавела — за апошнія гады такое

здаралася ўсё радзей — і, не ўтрымаўшыся, падняла вочы ўгору:

— Езус міласцівы, Уладэк нарэшце адшукаў жаніха для Барбары! Паверыш, у апошнія гады была сама не свая. Як жа? Кроў Радзівілаў — гэта не крапіва ў полі.

Яніна прыўзнялася на крэсле. Дзева Марыя, ды няўжо гэта ўсур'ёз радуецца пані Ванда?! Столькі часу прайшло, столькі людзей нарадзілася і памерла — а для яе быццам нічога і не адбылося...

Макрыцкая пачасала каля вуха, схавала пад хустку сівую пасму. Сама яна даўно звыклася з думкай, што і гімназія, і касцельныя шашні з Уладэкам — усё гэта засталося ў тым, далёкім, нібы ніколі і не існаваўшым, жыцці. Няма назад вяртання, як няма звароту маладосці, як не вернуцца ніколі ў гарадок страшныя сваёй бязмернай уладай былыя яго гаспадары. Нядаўна яна ажаніла ўжо свайго Антэка — не на радавітай, усяго толькі дачцэ школьнага настаўніка Сафійцы Бядулі, і шчасліва дзяліла з маладой нявесткай густа зарослы кменам і кропам гародчык і стары, але моцны драўляны дом. Нявестка, праўда, з усмешкай глядзела на гіпсавую дзеву Марыю ля ложка свякрухі і адразу ж рашуча адмовілася суправаджаць Яніну на службы ў касцёл, але, некалькі разоў праліўшы слязу і не дабіўшыся свайго, Яніна згадзілася і на гэта: «Не сілай жа цягаць у храм божы!»

У адрозненне ад Сафійкі Барбара Стульская час ад часу хадзіла з маці ў касцёл, але пані Ванда сама ў апошні час пакідала дачку ў хаце: надта ўжо выразна і грэшна паглядала Барбара на новага ксяндза! Жалудовыя, гарэзныя вочы наследніцы, густа абмаляваныя цёмным авалам веек, часамі рабіліся неадольна чароўнымі на бледным тонкім твары. Апошняй ахвярай Барбары стаў настаўнік фізікі,

які, вымольваючы руку сваёй былой вучаніцы, ледзь не паламаў у хваляванні адзін з двух пракаветных крэслаў. Тады і ўспомніла пані Ванда гімназічнае слоўца «парвеню»: здаравяка хлопец пайшоў, нават не развітаўшыся з ёю. У адносінах да ксяндза пані Ванда не жадала несці ніякіх маральных страт: малады ксёндз з фігурай баскетбаліста і прычоскай удачлівага кангрэсмена хаця і не звяртаў увагі па дзяўчыну, хаця і даў, па звычаю, абет бясшлюбнасці, але старая дама з асабістых жыццёвых назіранняў даўно вывела тэзіс, што мужчыны ва ўзросце духоўнага айца здольны ахвяраваць, у выпадку чаго, нават вечным ратаваннем. Менавіта таму, назіраючы тры апошнія гады за дачкой, яна трывожна бегала вачыма па шэрагу паклоннікаў: не, не было сярод іх нікога, каго павінна была б ашчасліваць яе Барбара! Кандыдаты былі альбо са здаровай пароды былых «хлопцаў», альбо такія худасочныя выпладкі былой шляхты, як Антэк Макрыцкі. І тады яна кінулася шукаць ні то ў Амерыку, ні то ў Канаду брата, які туды з'ехаў.

— Хто ж... жаніх? — асцярожна запыталася Яніна.

— О! Ён таксама не простай крыві! Не простай!

Твар пані Ванды ў гэты момант быў такі ружовы, што Яніна адчула зайздрасць да гэтай радасці — можна сказаць, пазайздросціла ў крэдыт, таму што нярадаснае існаванне пані Ванды не асабліва адрознівалася ад яе ўласнага.

— Дзе ж Барбара? — каб неяк схаваць свае пачуцці, успомніла яна.

— Відаць, затрымалася ва ўчылішчы,— падыходзячы да вокнаў і ўжо шкадуючы, што расказала лішняе, адказала ёй гаспадыня.

Барбара займалася ў раённым медыцынскім вучылішчы, таму што, падаўшы дакументы ў меды-

цынскі інстытут і знарок праваліўшыся на першым жа экзамене, яна не ўлічыла жалезны характар маці і таго, што прыём у вучылішча праводзіўся пазней. Як ні хацелася ёй праваліць экзамен і ў вучылішча, адзін з маладых экзаменатараў, зачараваны яе бледным тварыкам, сам адказаў на ўсе пытанні і сам паставіў адзнаку.

Але Барбары ў вучылішчы ў гэты час не было. Замест таго каб вывучаць костачкі шкілета, яна страсна і няўмела цалавалася з інжынерам «Сельгастэхнікі» — і не дзе-небудзь, а ў самым цёмным і глухім кутку таго парку, дзе некалі яе продкі вырашалі лёс краю. Нарэшце, спахапіўшыся, яна расплюшчыла вочы, а калі, адарваўшыся ад інжынера, пачала папраўляць туфлік, ён убачыў на блакітнай яе сукенцы рабрысты руды адбітак кары ціса.

— Шашлык здымі,— ён паспрабаваў атрэсці сляды ціса, але дарэмна.

Барбара глянула ўніз і засмяялася; на тонкім абцасе, як на ражне, віселі напаўраздзеленыя шампіньёны, якіх у парку была процьма.

Інжынер, даўганогі ачкарык з ашалелым ад шчасця тварам, падтрымаў яе за руку, пакуль яна здымала шампіньёны з абцаса, і тут жа пачаў дзелавую гаворку:

— Калі падаём заяву, Варка?

— Ах, я нічога не ведаю! — успомніўшы пра маці, прастагнала Барбара, хуценька прыкідваючы ўсе варункі.

— Калі? — не даваў ёй спакою інжынер.— Вырашай зараз, чаго нам цягнуць?

— Ах, не! Мне трэба падумаць. Ну хаця б тыдзень!

Яна грацыёзна выгнулася, як магла рабіць толькі яна (нездарма яшчэ ў школе яе празвалі Варкай-княгіняй), і кінула ў інжынера адзін з самых правера-

ных ёй паглядаў — скрозь апушчаныя вейкі, скоса,— ад чаго той уздрыгнуў, нібы праз яго прапусцілі элекрычнасць.

— Цэлы тыдзень чакаць?!

— А-а,— зморшчылася Барбара.— Ты не ведаеш маёй мамы...

Яна прыняла ранейшую позу і назірала за інжынерам, як вопытны доктар глядзіць на хворага, чакаючы першых адзнак выздараўлення.

Вочы яе іскрыліся. Жыццё кіпела ў ёй, як каштоўны эліксір у не меней каштоўным келіху. Таму, калі яна раптам сарвалася і, не развітаўшыся, подскакам панеслася міма старажытнага вала, што выходзіў да зарослага става, інжынер доўга не адводзіў ад таго месца, дзе яна знікла, сумных вачэй. Калі ж Барбара ўварвалася ў дворык, удыхнуўшы вільготнае, напоўненае пахамі дзядоўніку і палыну паветра, то зморшчылася, забыўшы на манеры, і чыхнула на ўвесь двор, на імгненне затрымаўшыся перад дзвярыма. А ў наступную секунду з шумам з'явілася ў аксамітавай гасцінай. Пані Ванда, як заўсёды, калі доўга не бачыла сваё «золатка», адчула гордасць. У наступную хвіліну яна жахнулася, убачыўшы паласатую спіну дачкі, і адразу ж, здагадаўшыся на прычыны, загадала ёй пераапрануцца. Яніну Макрыцкую, якая, разамлеўшы ад успамінаў, усё сядзела на разьбовым крэсле, давялося выставіць без асаблівых цырымоній: і так было сказана шмат лішняга. Дапусціць жа Яніну прысутнічаць пры размове з дачкой нельга: надта важнай была тая размова!

Пакуль Барбара пераапраналася, яна ўсё стаяла насупраць расчыненага акна і думала пра тое, як і з чаго пачынаць.

Цямнела. Цяжкі вецер час ад часу ўздымаў шторы. Палоска заходу, прабіўшыся скрозь лістоту панурай ліпы, нясмела ўпала на стол і асвятліла цём-

ную чырвань аксаміту. Пунсовы водсвет зайграў на шчакастым, нявінным тварыку фарфоравай маладой, якую пані Ванда дастала з буфета, і, пільна гледзячы на яе, асцярожна і задуменна прысела. З суседняга пакоя даносілася песенька Барбары. Дзяўчына не ведала, як нецярпліва чакае яе маці, прыкідваючы першыя словы і баючыся размовы ўсё болей і болей. Хто ведае, як прыме ўсё Барбара — нягледзячы на ўсе намаганні маці, яна, здаецца, не хоча нічога ведаць ні пра кроў, якая цячэ ў яе жылах, ні пра тое, чым жыве пані Ванда.

Думкі яе зноў залуналі ў тым далёкім, незваротным часе...

«Наследніца некалі багатага і старадаўняга роду, Ванда ў адрозненне ад дурненькіх гімназістак, што ахвотна забывалі славу продкаў дзеля маладых афіцэрыкаў, заўсёды помніла, што прадзед яе быў адзначаны на вайне са шведамі, што не адна ўзнагарода засталася ў скарбонках роду ад вайны з Напалеонам, а дзед некалі выратаваў саму княгіню ад раз'юшаных халопаў. Каметай, што ўварвалася ў яе жыццё, быў шлюб з сутулым хваравітым Стульскім, які, тым не меней, некалькімі кроплямі сваёй крыві належаў славутаму, старадаўняму роду, які многія стагоддзі валодаў навакольнымі землямі, касцёлам, замкам. Нарадзіўшыся ў гарадку, дзе замак заўсёды быў цэнтрам духоўных і свецкіх інтарэсаў, яна паступова праніклася да яго — спачатку пачцівым здзіўленнем, пасля, паступова, захапленнем і, нарэшце, каханнем больш глыбокім і трывалым, чым любоў да ўласнага дзіцяці. Барбару мог падкасіць няшчасны выпадак, хвароба — замак жа быў непадуладны часу,— наадварот, менавіта час узвышаў славу яго, надаваў яму непаўторнасць жамчужыны і шліфаваў, паліраваў яе — але не сціраў. Сцерці замак увогуле было немагчыма, гэтак жа, як спыніць

сонца. Час, праўда, крыху пашчэрбіў сцены, але ён жа надаў мяккую завершанасць мораному дубу, якім была высцелена сталовая, ледзь абясколерыліся фрэскі, але ад гэтага сталі больш таямнічымі, жывымі. Пані Ванда не ўсведамляла, што вочы яе, набліжаючыся да замка, лашчаць сцены, як людзей, як жывую істоту, што сам ансамбль — ад моста, перакінутага цераз роў, высокіх аднапавярховых збудаванняў, да галоўнага, вастраверхага гмаху, да якога падыходзяць паўкругам, усё ўзрастаючы, меншыя,— напамінае ёй касцёльны арган. Праходзячы па замку, яна нязменна адчувала ўсю гаму гукаў, ад нізкага «до» контрактавы да пранізлівага «сі» другой, нібыта сама душа яе, не падазраючы ні аб чым, вібрыравала ў такт крокам.

Сціплая кастэлянка, яна забывалася на стос бялізны ў руках і, хілячыся да нішы, падоўгу застывала на месцы. Цьмяна мільгалі перад ёю цені — напудраныя парыкі, лысіны, мундзіры...

Успаміналіся словы старога ксяндза, што з амбону казаў пра старажытную веліч роду, да якога яна далучылася праз шлюб са Стульскім... Да якога далучана і Барбара...

І ўсё забыць? Усё занядбаць?!

Барбара зайшла ў гасцінную з заплеценымі коскамі, запаліла святло, села насупраць і, выслухаўшы маці, коратка засмяялася:

— Ты што ж, мамуся, вырашыла прынесці мяне ў ахвяру, як Іфігенію?

Пажаўцелы твар пані Ванды пайшоў чырвонымі плямамі. Тым не меней яна стрымалася і працягвала — з адчаем, з глухой безнадзейнасцю адчуваючы, што словы яе падаюць у пустату. Тады яна паспрабавала наступ з другога боку:

— Зразумей, ты ж там будзеш сапраўднай паняй. Паняй!!

У кароткае слова быў укладзены максімум пераканання. Адчайныя спробы на маленькую зарплату падтрымліваюць патрэбны прэстыж... сцёртыя ад цяжкой работы на ўчастку рукі — усё гэта мільганула перад вачыма пані Ванды, і ў пабляклым блакітным іх колеры заіскрыўся агонь васіліска. Барбара не была баязліўкай, аднак голас яе задрыжаў, калі яна ўпарта пачала адмаўляцца.

— Я не хачу быць паняй,— яна імкнулася гаварыць спакойна.— І зразумей ты, мама, прайшло ўсё гэта! Даўно прайшло і ніколі не вернецца!

Яна ўявіла незнаёмага, далёкага ёй чалавека, якога яна павінна была б цярпець побач, пасля ўбачыла свайго інжынера... Позірк яе ўпаў на статуэтку, якую ўсё яшчэ бязмэтна круціла ў пальцах пані Ванда.

— Што ты ад мяне хочаш? — закрычала яна раптам.— Хочаш, каб я стала такой дурніцай, як гэта... Ды выкінь ты яе нарэшце! Не магу бачыць!

Тады і трэснула па ўсіх швах педагагічная вытрымка пані Ванды. Колькі было гаворана дачцэ пра сямейную рэліквію! Колькі цудоўных слоў затрачана дарэмна!

Яна выпрасталася, задыхнулася, а пасля, працягнуўшы наперад руку з фарфоравай маладой, гнеўна ўскрыкнула:

— Я лепей ц я б е выкіну, пся крэў!

Харошанькі тварык Барбары перакасіўся, нібы ад поўхі. Не памятаючы сябе, яна кінулася да маці, ірванула статуэтку з яе рукі і з сілай шпурнула яе на падлогу.

Гулкае храбусценне ашаламіла абедзвюх. Барбара разгублена глядзела на аскабалкі, пасля перавяла позірк на маці. Пані Ванда стаяла скамянелая. Гэтая хвіліна была самай рашучай: душа яе, з хуткасцю вылічальнай машыны, правяла неймаверны

хуткі адбор... параўнанне... і навекі зачынілася для Барбары, якая, апамятаўшыся, працягвала да яе рукі:

— Мамуся, даруй! Я незнарок! Даруй мне, я ўсё складу, га?

Але сустрэўшыся з мацярынскім паглядам, ускрыкнула, пабялела.

— Ідзі,— ледзяным голасам, амаль не расціскаючы тонкія вусны, прамовіла пані Ванда.— Гэты дом... твой... пасля маёй смерці. Толькі...

Барбара стаяла, няўцямна гледзячы на маці. Жалудовыя яе вочы страцілі бляск, валасы абвіслі ўздоўж твару. Яна яшчэ паспрабавала нешта прагаварыць, але пані Ванда махнула рукой: «Прэч!» Барбара павярнулася і аглушана пайшла да дзвярэй. Ля парога яна яшчэ раз азірнулася: люстра вярнула адбітак пані Ванды доўгаму стральчатаму акну, тое — ізноў люстру, і ў пакоі, здавалася, стаялі тры худыя постаці ў чорным — нібы тры прывіды...

На наступны дзень, чакаючы, пакуль скончыцца дождж, у сталовай санаторыя пані Ванда даведалася, што дачку яе забралі з інтэрната вучылішча ў раённую бальніцу. Яна ўзняла вочы да высокай пабеленай столі, дзе скляпенні сыходзіліся ўсярэдзіне, і нешта доўга шаптала перасохлымі вуснамі. Калі ж тры дні прайшлі, да яе прыйшла санітарка з бальніцы, каб паклікаць яе да Барбары (дзяўчына правяла ноч у парку пад ліўнем і кідалася ў жорсткай гарачцы, так што яе прызналі безнадзейнай), але пані Ванда не пусціла яе далей парога.

— То ест моя справа, не ваша,— адчаканіла яна, пасля старанна зачыніла дзверы старажытным жалезным ключом і вярнулася да стала, дзе на чыстай паперы былі акуратна раскладзены аскабалкі фарфоравай статуэткі.

— Яшчэ... крыху... і ўсё будзе ў парадку,— мармытала яна, асцярожна намазваючы малочны аскабалак смярдзючым жоўтым клеем.

...Прайшлі гады. Пані Ванда яшчэ болей пажаўцела, але постаць яе такая ж худая і цвёрдая. У адзінокім яе доміку па-ранейшаму стаіць фарфоравая маладая, і, вяртаючыся з замка, дзе яна, нягледзячы на пенсію, усё працуе кастэлянкай, яна часам дастае статуэтку і доўга глядзіць на яе, а пасля асцярожна ставіць на месца...

## ПЕРАКАТ

Дзевяцігадовага Васю Шкуцьку канчаткова прывезлі з вобласці ў раённую бальніцу — як безнадзейнага.

Замучаны бясконцымі ўколамі, працэдурамі і даследаваннямі, Вася абыякава сядзеў у прыёмным пакоі, паклаўшы бледныя караткапалыя рукі на шэрыя штаны і ўсёй спіной абапіраючыся на белую слізкую сцяну. Непрыкметны твар яго, з носам кірпатым і кароткім, як бульбіна, з шэрым, як кудзеля, чубам, быў спакойным і адрачоным. Толькі калі ля акон спынілася «хуткая» і адтуль, коратка і жвава скочыўшы на зямлю, прайшла ў кабінет галоўурача мажная, шыракатварая кабета, ён уздрыгнуў і прыўзняўся. Калі ж з-за тонкай фанернай сцяны данёсся да яго рэзкі, непрыветны голас — на твары яго слаба зачырваneліся плямкі. Жанчына наступала:

— А дзе ж мне за ім глядзець? Самі ведаеце — лён вязуць і вязуць, днямі сяджу на складзе. Не-е, хай ён у вас застаецца! Не маеце права хворага аддаваць! Што? Вы ўрачы, вы і лячыце!

Дзяжурная медсястра скоса зірнула на Васю і ўключыла радыё. Але голас з карычневага карабка быў занадта слабым у параўнанні з голасам кабеты:

— Ды я разуме-ею! Гэта... не тое што тавар непрыгодны, а чалавек... гэта праўда! Але ж вы спярва яго вылечыце! Як гэта — не можаце? А мне чаго з ім рабіць?!

— Трэба ж, якія маці бываюць! — паківала галавой медсястра, і выцягнуўшы з кішэні цукерку,

уціснула яе ў Васіну руку, і немаладыя блакітныя яе вочы пачырванелі і заслязіліся.— Ну што? Відаць, зноў табе быць у нас, хлопча.— Яна адчыніла дзверы і, не чакаючы загаду галоўурача, крыкнула ў расчыненыя дзверы:

— Іванаўна! Хлапчукоўскую бялізну сюды давайце! І ванну рыхтуйце!

Вася стаў жыць у трэцяй палаце — невялікім, на чатыры ложкі, пакоі, што размяшчаўся ў бакоўцы, насупраць перавязачнай і аперацыйнай. Раз у тыдзень, у чацвер, у аперацыйнай з раніцы рабілася тлумна: туды заклапочана заходзіў галоўурач — малады таўставаты бландзін,— за ім яшчэ кагорта ўрачоў, медсясцёр — і да самага вечара нешта рыпела, ляскатала, шыпела ў аперацыйнай, міма дзвярэй Васінай палаты праязджала белая цялежка — туды, пасля назад. Часам бывалі і няпланавыя аперацыі, і тады Вася прачынаўся ад шоргату і галасоў і да самай раніцы не спаў, слухаючы, як ціха перагаворваюцца, выходзячы, хірург і медсястра:

— Кетгута паболей выпішыце...

— Сасуд зафантаніраваў...

Пасля, прыбраўшы пакой, выходзілі нянечкі, Іванаўна, смачна пазяхаючы, скардзілася на дзяцей:

— Паглядзелі б яны, як кроў чалавечая льецца, можа, маці болей шкадавалі б!

А калі ізноў цішэла, Вася слухаў, як рыпіць за акном сасна.

Соснаў вакол бальніцы было шмат, але яны раслі гуртам, а гэтая, каржакаватая і няўклюдная, узабралася на пагорак, што горбіўся перад палатай, і стаяла там наверсе адна. Калі паднімаўся сівер і гайдаў сосны ўнізе, ёй даставалася найболей: кожную галіну яе выгінала і выкручвала, вяршаліну дробна калаціла, і здавалася, вось-вось пераломіцца жывучы, непакорны ствол. У такія дні буйны калю-

чы вецер, нібыта па даліне, ляцеў па рэчышчы Нёмана і, узвіваючыся ўверх з цясніны, крутымі лютаўскімі завірухамі віраваў па беразе. Пагорак захіляў бальніцу ад завеяў, і толькі ў самую непагадзь, калі неба дакраналася да вяршаліны адзінокай сасны, шаргаталі па шкле акна цяжкія змяістыя снежныя струмені. І заўсёды — ці паднімаўся над сасной ясны марозны маладзік, ці з віскатам неслася над ёй хмара — нешта ні то рыпела ў ёй, ні то надрыўна кашляла. Можа, гэта вінаватая была нейкая галіна — хворая, напаўссечаная, якая ніяк не хацела паміраць і ўсё чаплялася за мацярынскі ствол, а можа, сама сасна незмаўкальным сваім рыпеннем спрачалася з лёсам, як старая, буркатлівая цётка, праклінаючы яго і адначасна скардзячыся яму ж... У такія ночы Васю хацелася ўстаць, пайсці да сасны і суцяшаць яе, прыціснуўшыся галавой да шурпатага карычневага ствала. Ён часцяком чуў, як хворыя суцяшалі адзін аднаго, скардзячыся на куды цяжэйшыя, чым у субяседніка, хваробы. У думках гаворачы з сасной, ён расказваў ёй, што хутка памрэ, таму што ад яго адмовіліся ўсе дактары, не ведаючы, як лячыць ягоную хваробу, што галоўурач Тамаш Кузьміч трымае яго ў палаце проста па дабраце сваёй. Пасля такіх размоў з сасной Вася, падстаўляючы насустрач востраму бліскучаму джалу шпрыца сваю худую, вялую руку, перавязаную вышэй локця гумавым жгутам, разважліва гаварыў медсястры:

— Навошта дарма на мяне лякарствы траціце? Усё роўна яны не дапамогуць!

— Надта ты што ведаеш, смаркач! — крычала на яго медсястра Саша, напружана ловячы шпрыцам ледзь прыкметную блакітную жылачку на Васінай руцэ.— Рукой рухай, ну!

Вася звыкся з тым, што выклікала цікаўныя пагляды ў хворых з іншых палат, што незнаёмыя жан-

чыны часта заглядаюць у бакоўку і прыносяць яму ласункі, шкадуючы яго, супяшаюць і лашчаць. Па праўдзе кажучы, у бальніцы яму было лепей, чым дзе, таму што тут ён адчуваў сябе важнай персонай, а дома даводзілася хадзіць у школу, рыхтаваць урокі, спадзеючыся на спагаду настаўнікаў, таму што маці не толькі не спачувала яму, а наадварот: кляла сябе і жыццё, варта было прынесці двойку, часта пакідала Васю да позняй ночы на вуліцы.

Ён быў непатрэбным, непажаданым — бальніца ж дала яму адчуванне значнасці: хто б ні прыязджаў сюды, яго абавязкова вялі да Васінага ложка, і з прытоеным гонарам заўважаў хлапчук на тварах старых, сівых прафесараў напружаную, пільную ўвагу, нібы ён даваў ім такую загадку, якую кожны з іх прагнуў і не мог адгадаць.

...Мінулі лютаўскія мяцеліцы, пасля сакавіцкая цішыня, калі пад белым пульхным снегам пачынае выспяваць таемны цуд прыроды, недаступны чалавечаму воку: ажываюць у халоднай зямлі доўгія нерухомыя карані дрэў, хутчэй пачынае рухацца жыццё ў здранцвелых целах земнаводных. У канцы сакавіка, калі на шэры, ужо будзённы снег, на дрэвы, на каржакаватую сасну лёг густы, жывы, цёплы туман, які за некалькі гадзін растварае ў сабе апошнія сляды зімы, у палату прыйшоў новы чалавек. Суседзі Васі — жоўты, не стары яшчэ Сямёнавіч, хворы на страўнік, і малады хлопец Аляксандр, што пасля аперацыі апендыцыту ляжаў з дранажнай трубкай — з абыякавасцю агледзелі новага чалавека. Худы, маленькі стары ў сіняй паласатай піжаме багатырскага памеру і шэрых вельветавых галіфэ, з шырокімі сівымі брывамі і акуратнымі белымі вусамі паздароўкаўся з усімі, сеў на свабодны ложак, асцярожліва адагнуўшы байкавую коўдру. Дастаўшы аднекуль з-пад пахі тугую торбачку, пачаў выкладаць

з яе на тумбачку белае далікатнае сала, фіялетавыя цыбуліны і прамаслены кус хлеба.

— Прагаладаўся, пакуль ішоў да гэтай бальніцы,— тлумачыў ён, рэжучы сала.— Раней, бывала, пяць кіламетраў нясешся — не раўнуючы як той воўк. А зараз не тое...

— Не тое! — кусліва адгукнуўся Сямёнавіч, нервова падтыкаючы пад сябе коўдру.— Але ж трымаюць ногі! Чаго ў бальніцу пёрся?

— Ногі — яны, канешне, трымаюць... Але ў грудзях, халера на яго, аскабалак нямецкі застаўся. Як пачну кашляць — кроў свішча.

— Аперацыю, значыць, будуць рабіць,— уступіў у размову Аляксандр.

— Не-е, аперацыю не дам, а няхай падлечаць крыху, каб кроў не йшла. Куды — аперацыю! Сем дзесяткаў хутка, дацягну і без нажа. Ну, чаго вылупіўся, малец? — звярнуў ён позірк на Васю.— На табе сала, пакаштуй з лучынай. Га?

— Не-а,— адказаў Вася.— Я не хачу.

— Чаго там — не хачу! Есці трэба, а то быдта з крыжа зняты. Свіціцца ўвесь. Бяры, ну!

— Яму ўжо, кажуць, нішто не паможа, не старайся,— бліснуў з-пад коўдры мутнымі зрэнкамі Сямёнавіч.— Куды-ы!

— Маладзейшы ты за мяне, а ўсё роўна стары хрэн! Мальцу ў галаву абы-што ўбіваеш.

— Як гэта — абы-што? — пакрыўдзіўся Сямёнавіч, адкідаючы коўдру з галавы.— Ён і сам тое ведае. А ты тут не смярдзеў бы цыбуляй, а то і так дыхаць няма чым.

— Гэта чалавек смярдзіць, а цыбуля — яна лечыць. Ажно ад сямі хвароб. Чуў?

— Дома і лячыў бы свае хваробы! Бачыш яго — хрэнам называе!

— Хрэн ты і ёсць, а болей ніхто. А што тычыць

маёй хваробы, то цыбуля — яна сем лечыць, а ў мяне восьмая... Во як!

Уначы Вася плакаў. Не ад слоў Сямёнавіча — ён прывык да такіх размоў,— а проста за вокнамі тварылася нешта дзіўнае, што закранула яго слабую, даўно здранцвелую істоту. Густы белы туман шчыльна абляпіў сасну, і яна ўжо не скардзілася, не стагнала, а слаба і задаволена ўздыхала, а далёка ўнізе, дзе ляцела вада, гулка стукаюцца адна аб адну лянівыя льдзіны і час ад часу вухкае ўніз пясок з падмытага вадой берага. Нешта тварылася за акном, і хлопчык адчуваў сябе забытым усім светам, не патрэбным нікому: ні Аляксандру, які бесклапотна хроп побач, ні маці, якая за ўвесь час прыйшла ў бальніцу аднойчы і ненадоўга, ні, нарэшце, сасне, якая відавочна задаволеная нечым, незразумелым і недаступным для яго, Васі Шкуцькі, і ўжо не патрэбна ёй слабае яго суцяшэнне... Кулаком затыкаючы рот, каб ніхто не пачуў ягоныя ўсхліпванні, ён адчуваў, як слёзы раз'ядаюць вусны, што патрэскаліся раніцай, і аблізваў іх, але язык таксама быў шурпаты, цяжкі, сухі — і таму хацелася выпаўзці на двор і, стоячы, як шчанюк, на чацвярэньках, хлябтаць цяжкія буйныя кроплі, якія сыпаліся са знямоглага вільготнага куста, што рос пад акном... Але ён баяўся разбудзіць каго-небудзь у палаце, баяўся строгай медсястры Сашы, якая сёння дзяжурыла па бальніцы, і таму ўсё цягнуў і цягнуў на галаву прапахлае лекамі покрыва і падціскаў пад сябе сінюватыя ногі з худымі жоўтымі пяткамі. Роўная вадкая цемра стаяла ў палаце, ад батарэі ішла цеплыня, і Васю здавалася, што памерці — гэта і значыць вось так ляжаць, задыхаючыся ад духаты і цемры, баючыся паварушыцца і ўсхліпнуць, побач з чужымі, раўнадушнымі да цябе людзьмі... Стамляючыся ад плачу, ён высоўваў галаву з-пад покрыва і кожны

раз пераконваўся, што ранак яшчэ не наступіў: гэтак жа роўна хроп Аляксандр, гэтак жа курчыўся ў сне Сямёнавіч. Новы, дзед Цімох, і ў сне натужна кашляў, вохкаў і, прачынаючыся, доўга піў ваду, а пасля зноў засынаў. У грудзях яго ўвесь час нешта булькацела, ірвалася, ад гэтага жах яшчэ мацней апаноўваў Васю, і, перачакаўшы, пакуль дзед не засне, ён зноў выглядаў з-пад падушкі, як чуйны і напалоханы звярок, усё чакаючы дасвецця і слухаючы ноч.

Раніцай ён неяк адразу саслабеў. Ляжаў, чужымі вачыма гледзячы на Сашу, якая дзелавіта шукала свабоднага месца на ягоных руках, даўно сколатых шпрыцамі, на суседзяў, што бразгацелі шклянкамі, на Тамаша Кузьміча, які заклапочана ссунуў бровы ў час ранішняга абходу, калі медсястра падала яму графік тэмператур.

На двары быў усё той цвёрды белы туман, ад чаго ў палаце гарэла лямпачка, і па-ранейшаму цмокалі кроплі з гнуткага лазовага куста, але Вася адрачона заплюшчваў вочы, не жадаючы чуць што-небудзь у гэтым магутным, бязлітасна-цудоўным свеце, які выкінуў яго, як не патрэбную яму, хворую часцінку, як выкідала чэрствыя кавалкі хлеба Васіна маці. Дзед Цімох заклапочана тупаў каля хлопчыка, аб нечым пытаўся; з жаночай палаты нясмела заглядала цётка Васіліса — маладая яшчэ жанчына са светлым, ласкавым паглядам — ён не адгукаўся, не глядзеў на цукеркі, што ляжалі на тумбачцы. Сварыўся Сямёнавіч, патрабуючы асаблівае, імпартнае, лякарства, лашчыўся да Сашы вясёлы Аляксандр, хрумсцеў цыбулінай дзед Цімох — усё гэта здавалася Васю аддзеленым ад яго, несапраўдным і ад таго нецікавым.

Пад вечар дзед Цімох прыцягнуў аднекуль вільготную сукаватую палку. Слабы пах сасновай смалы паплыў па пакойчыку, дасягнуў белага як палат-

но Васінага твару — і хлопчык прыўзняў цяжкія павекі і пацямнелымі, нетутэйшымі вачыма некаторы час назіраў за тым, як дзед, паставіўшы палку паміж ног, асцярожна рэжа нешта сваім бліскучым ножыкам. Зайшла ў палату Саша, пачала сварыцца, пасля, разгледзеўшы дзедаву работу, падабрэла і толькі наказала не надта паказваць кіёк у час абходаў ды не сыпаць на падлогу стружкі.

— Глядзі, чаго я табе зрабіў,— працягнуў на наступную раніцу дзед Цімох свой кіёк.— А, Васіль? Глядзі, цэлы заапарк. Цацку табе. А то, гляджу, зусім ты з намі засумаваў, малец.

На карычнева-мядзянай кары былі ўмела выразаны звяры і птушкі, а збоку, ніжэй,— яхідны профіль Сямёнавіча ў выглядзе ворана. Сямёнавіч быў настолькі падобны, што Вася слаба ўсміхнуўся, і дзед Цімох узрадавана зарагатаў, паказваючы свае старыя, сточаныя зубы.

— Ты толькі не паказвай яму,— ён кіўнуў на пусты ложак Сямёнавіча.— А то згрызе чалавек тую палку, як сухую кілбасу. І шкада яго. Чалавек усё-ткі!

— А гэта што? — праз сілу паказаў Вася на доўгую, дзіўную касцістую рыбіну, што размясціў дзед уздоўж палкі.— Хто гэта?

— Ага, разгледзеў! Заўважыў, значыць, што не падобная яна да іншых. Гэта, Васюта, самая старая рыбіна на Зямлі — асётра. Асяцёр балтыйскі. Ён часам да трох метраў даганяе, а вагой — да дванаццаці пудоў. Во як!

— Дзе ж ты яго ўгледзеў, дзед, асятра? — з'едліва загаварыў Аляксандр.— Я не бачыў ніводнага...

— Адкуль табе бачыць? Яны толькі летам да нас заходзяць, і то ненадоўга, у Нёман альбо ў прытокі. А ў апошнія гады я таксама іх нешта не бачыў. Нішчаць іх людзі...

— Няўжо ў Нёман заходзяць? Чаго?

— Так ужо ім прырода загадала: нераставаць толькі ў прэснай вадзе. А ікра ў яго надта ж ужо смачная!

— Ніколі я не бачыў асятроў,— разважліва загаварыў Аляксандр.— А ну, дай паглядзець, дзед!

— Гэта мая палка! — бяскроўнымі пальцамі ўчапіўся за палку Вася.— Мая! Я сам... буду глядзець.

— Ну, раз гаворыць «мая» — значыць, не памрэ пакуль,— скурчыўшыся, калюча засмяяўся Аляксандр. Яго бойкія вочы зацьмянелі.— Эх, даў бы я табе зараз, ды ўстаць не магу!

— Што вы ўсе: «памрэ — не памрэ!» — дзед Цімох абцёр свае вусы, і Вася ўпершыню заўважыў, што яны не зусім белыя, а пракураныя і ад таго нібыта падзяленёныя.— Чаго яму паміраць? Ён яшчэ сваю пазыку не аддаў, не аддзячыў, значыцца, жыццю за тое, што яго на свет выправілі!

— Якая аддзяка, дзед? — пасмяяўся Аляксандр.— Смерць, яна ўсіх малоціць, не разбірае, аддае хто якія запазычанасці ці не. Скажам, мяне. Запраста магло кокнуць — а хіба мне на той свет так не церпіцца?

— Вось цябе жыццё і папярэдзіла, каб ведаў, што да чаго. Каб думаў — а як даўгі аддаваць будзеш? Як далей жыць?

— Скажаш... Што табе жыццё — гэта служба, ці што?

— Служба? Гэта ты добра сказаў, сынок. Калі ты ёсць на сваім месцы, карысць прыносіш — цябе на службе трымаюць. А не — дык ідзі на пенсію!

— А я... Што я павінен адрабляць? — ціха запытаўся Вася.— Чым, дзед Цімох?

— Адкуль я ведаю, малец? Я адно скажу: жыццё — яно кожнаму заданне дае. Як ні станавіся дубака — мусіш думаць: для чаго на свет прыйшоў?

— Ну, а Сямёнавіч нашто прыйшоў? — пасміхаўся Аляксандр.

— Сямёнавіч? Ну, пэўна, як воўк,— каб людзі не адвучыліся бегаць. Чуў, нябось; зайцы і тыя без воўка бегаць не хочуць. Лянуюцца, хай на іх немач!

— Гэта хто воўк? — высунуўся з-за дзвярэй Сямёнавіч.— Ізноў, стары, брэшаш?

— Чаго мне брахаць? Можа, скажаш, і праўда не воўк? Нашто жонку мучыш? Кожны раз як прыйдзе — раве ад цябе. А кумпяк нашто пад коўдраю ясі? Усё роўна ні я, ні Аляксандр во... ні Васюта... кавалка ў цябе не возьмуць. Хоць папросіш — не возьмем.

— Папрашу, чакай! Вас многа тут. А чалавек — ён не для іншых, а для сябе жыве. Для ся-бе, зразумела?

У палаце запанавала маўчанне.

— Дзед Цімох, а, дзед Цімох! — паклікаў Вася.

— Ну, чаго табе, хлопча?

— Ці праўду вы кажаце: пакуль не выканае чалавек свой абавязак — не памрэ?

Сямёнавіч адкрыў быў рот, але паглядзеў на дзеда — і змоўчаў.

— Нягож! — з перакананнем вымавіў дзед Цімох.— Ніколі не памрэ. Праўда, Аляксандра?

Аляксандр перавёў позірк з дзеда на Васю — і апусціў вочы.

— Само сабой.— І, з натугай паварушыўшыся, дадаў, заплюшчваючы вочы: — Каб жа ведаць, што там за абавязак!

...Упартая, злосная іскрынка жыцця ніяк не хацела згаснуць у худых, касцістых грудзях Васі Шкуцькі; нейкая таямнічая, не зразумелая для акаляючых сіла раздзьмувала яе.

З таго дня, як дзед Цімох падарыў хлопчыку

палку з выразаным на мядзянай кары асятром, прайшло нямала часу. Закусціліся, закучараваліся светлазялёным цёмныя лакіраваныя сасновыя яліны, з крутых бакоў пагорка вылезлі і распушыліся чабор і сон-трава, а вярба пад вокнамі раскудзелілася жоўтымі каташкамі, над якімі шчыравалі пчолы і чмялі. Аляксандр даўно выпісаўся з бальніцы, але часта зазіраў у акно да Сашы, калі яна дзяжурыла, і Вася не-не дый чуў ягоны бесклапотна-нахабнаваты рогат і шчабятлівы голас медсястры, якія несліся ў бакоўку. Сямёнавіч пасля аперацыі трапіў у іншую палату, і ў чацвёртай засталіся дзед Цімох і Вася. Дзед яшчэ болей схуднеў, піжамы віселі на ім, як на пудзіле, але заставаўся, як звычайна, гаваркім і цікаўным і ўсё выразаў на яловых і бярозавых круглях вясёлых звяркоў і дарыў іх кожнаму, хто пажадае.

Пасля сняданку ў бакоўцы бывала ціха і пустэльна; усё, хто мог рухацца, ішлі на двор бальніцы, пад сосны, дзе ў пясок былі ўкапаны шырокія драўляныя лавы, пафарбаваныя ў вясёлы чырвоны колер. Тыя, хто адчуваў сябе лепей, уцякалі і далей да самага абрыву, дзе загаралі амаль пад самай чыгуннай агароджай, падстаўляючы яркаму сонцу пабляжэлыя за зіму твары. У прэсны пах бальніцы ўрываўся цяпер жывы, капрызны водар першых вясновых кветак і вільготная вохнасць маладых рачных водарасцей. Саша цяпер прыходзіла на работу шчаслівая і няўважлівая, яе ўколы былі асабліва балючымі.

Палка цяпер была з ім пастаянна, яна ляжала пад коўдрай, і доўгі касцісты асяцёр, з дробнымі цвёрдымі шчыткамі на галаве і пад хрыбтом, пачарнеў, зальсніўся, і ад гэтага нібыта стаў бліжэйшым, раднейшым. Вася шкадаваў яго: як ні трэба было асцерагацца людзей, але прырода загадвала яму на тры месяцы адыходзіць са свайго бяскрайняга мора

ў вузкія, абмялелыя рэкі, дзе так лёгка было злавіць вялізную рыбіну. Была ў гэтым тая ж несправядлівасць, якую так востра адчуў хлопчык у белую туманную ноч, і таму магутная рыбіна, самая старажытная на Зямлі, здавалася яму яшчэ больш кволай і безабароннай, чым ён сам, а з гэтага вынікала, што ён, Вася, таксама можа нешта здзейсніць у жыцці — напрыклад... напрыклад, стаць абаронцам рыбіны. Можа, якраз у гэтым і быў той таямнічы абавязак перад жыццём, пра які гаварыў дзед Цімох і які толькі адзін і здольны ўратаваць на зямлі чалавека?

— Дзед Цімох, а дзе яны нераставаць любяць? — Вася цяпер сам саромеўся сваіх бясконцых пытанняў і таму не хацеў надта надакучаць старому.

— А тут жа, непадалёку ад нас. Ну, скажам, кіламетры тры ўніз. Там такі перакат каменны, валуны, а далей таплякі; калі асятры заходзяць да нас — часта там нерастуюць. Там жа плынь хуткая і вада чыстая.

— А як яны супраць цячэння плывуць столькі кіламетраў?

— А ты паглядзі, які ў іх плаўнік — з дзвюх лопасцей? У акулы якраз такі. А на грудзях і на пузе плаўнікі — акурат рулі. Куды хоча, туды і паверне ў момант. Во як!

...Кожны дзень да Васі заходзіла цётка Васіліса. Яна таксама была ў бальніцы пастаяннай жыхаркай. Калі ж выпісвалася, то праз два-тры тыдні яе прывозілі ізноў. Хвароба яе была зусім невядомая, няясная, якую сама яна, аднак, лёгка і проста называла «тугой».

— Смешныя дактары, Васілёк,— гаварыла яна ласкава.— Якія ж лекі могуць тугу адолець? Я за што ні вазьмуся, усё з рукваліцца. Пажыла — і хопіць.

Ціхім, цёплым святлом гарэлі яе цёмныя вочы, худыя шчокі моршчыліся ва ўсмешцы.

— Ад чаго ў вас туга, цётка Васіліса?

— А па мужу я свайму сумую, Васілёк. Ён трактарыстам рабіў, на старой міне падарваўся. А якое мне жыццё без яго? Нават дзіцяці ад яго не засталося...

— Дзед Цімох,— спытаў неяк Вася,— а Васіліса — яна свой абавязак выканала? Можа яна памерці?

— Відаць, можа, Васюта. Яна сама гэта ведае. Можа, ёй прырода назначыла любіць таго чалавека, а яго няма, вось і холадна ёй цяпер на свеце. Ну і не трэба яе трымаць. Людзі жывымі па свеце хадзіць павінны, а ў яе душа згасла...

Вясна ішла па зямлі, і ў маленькай раённай бальніцы да ачмурэння пахла чаромхай, з якою дарэмна змагаўся ўвесь персанал на чале з Тамашом Кузьмічом. Радасна блішчалі памытыя, насцеж расчыненыя вокны, па вечарах пад вокнамі жаночых палат шапацелі галасы і смех, у якія, нібыта нож у масла, часам падаў рэзкі голас дзяжурнай медсястры. Зачыняліся вокны — злосна, рашуча, медсястра доўга ўвінчвала засаўкі, рыпела шпінгалетамі — але хмельнае, паганскае дыханне вясны адчувалася ва ўсім: нават у аперацыйнай, у стэрыльнай шклянцы да самага чацвярга стаялі цёмна-зялёныя сцяблiны ландышаў з пругкімі бела-фарфоравымі кубачкамі кветак і, выгнаныя, назаўтра ж з'яўляліся наноў. А пад канец дня дзед Цімох прынёс неяк першыя смарчкі — цёмна-карычневыя, моцныя, у светла-жоўтых пясчынках — і ўрачыста паднёс іх Сашы. Яна, саромеючыся, спярша адмаўлялася, пасля беражна ссыпала іх у белы поліэтыленавы пакет:

— У мяне якраз вечарам госці будуць...

Яе вочы ззялі, вусны дзёрзка чырванелі на доўгім твары, і Вася разумеў, каго яна чакае: учора зноў прыходзіў Аляксандр і, ляніва зазірнуўшы ў палату, доўга стаяў пад вокнамі Сашынага паста. Ён быў у чорным пінжаку і чорным скураным картузе, з якога тырчаў ландыш, і на твары было тое невыноснае задавальненне сабою і жыццём, якога Вася не разумеў, але ўсёй істотай адчуваў, як нешта, што адкідае ўбок усё слабое і кволае накшталт яго, Васі, нават не задумваецца над тым, каго адкідае. Таму, пачуўшы пра гасцей, Вася зняважліва ўсміхнуўся, назіраючы, як дзед Цімох мітусіцца, дапамагаючы Сашы ўладкаваць грыбы.

— Ну што, дачушка, прыдаўся табе стары Цімох? — сіпавата, але з задаволеным смяшком гаварыў дзед, і Вася, сутаргава прыціснуўшы да сябе палку, перабіў яго:

— А калі нераст у асятроў пачынаецца?

Стары не адразу зразумеў пытанне, а пасля прамармытаў адрачона:

— Ды, можа, сёння-заўтра і пачнецца. Глянь, цяплынь якая, на дождж верне.— І, не адрываючыся ад дзвярэй, за якімі ўжо схавалася Саша, праскрыпеў задзірыста: — Паўсотні гадкоў скінуць бы, даў бы я перцу Аляксандру!

Задаволены, размяклы твар старога дзіўна ўзбурыў хлопчыка. Твар яго раптам перакасіўся, як ад прыступу болю.

— Што з табой, Васюта? — перапалохаўся дзед, устаў, закульгаў да хлопчыка, але Вася, нібыта абараняючыся, выставіў рукі наперад:

— Стары, а скачаш, як казёл! Ну, скачы, скачы перад ёй! А яна злосная. І Аляксандр яе такі ж. Ведаеш, якія ў яе ўколы балючыя?!

Дзед Цімох адышоў, прысеў на чысты ложак. Старэчая чырвань цяжка прабівалася на шчокі, і на

шэрым твары асабліва выразнымі глядзеліся шырокія сівыя бровы і белыя пракураныя вусы.

— Ты мяне не сарамаць, малец. Прыгожая дзеўка — гэта што падарунак. На яе зірнуць — і то радасць. Тамака,— ён паказаў уніз,— нічога не пакажуць. А тут, хаця ўжо на божую пасцель палез, глядзець можна. Во як.

Злосць адступіла ад Васевага сэрца: хлопчык успомніў, што сёння раніцай дзед Цімох кашляў асабліва доўга і натужна, пасля пайшоў з палаты. Падумалася і пра тое, што да дзеда, як і да яго, Васі, таксама мала хто прыходзіць: сыны ўсе ў далёкіх гарадах, сваякі занятыя сваімі справамі. Пакутліва адвярнуўшыся да сцяны, ён адразу ж адчуў, як муляе палка пад бокам, а калі папраўляў коўдру, заўважыў на назе дробныя чырвоныя рысачкі ад асятрыных бакоў.

Усю ноч парыла, і было цяжка дыхаць. У цемры грузна саштухваліся над бальніцай хмары і буркатліва разыходзіліся, нібыта ім не хапала нейкай дробязі, каб узарвацца гневам і абрушыцца на маўклівую, насцярожаную зямлю. Ні дзед, ні хлопчык не спалі. Ляжалі, слухалі, як жалобна, быццам просячы «піць-піць», рыпела прыціхлая сасна. Пасля да бальніцы пад'ехала «хуткая», заклапочана зашмыгалі па калідоры сёстры і нянечкі, цвёрда і рэзка ступаючы, прайшоў Тамаш Кузьміч, і ў аперацыйнай то лілася вада, то звякала жалеза, а потым, перакрыўшы гаману, загрымеў голас галоўурача: «Пінцэт, чорт бы вас узяў!» — і зноў усё сціхла, а пасля панура зарыпела цялежка, і Наташа, аперацыйная сястра, выходзячы, скардзілася некаму:

— Нясе іх пад машыны, а нас у раёне грызуць, што смяротнасць высокая! З-пад БелАЗа не ўваскрэсне, дарма мучымся!

«Нехта паміpae...» — ледзянеючы, здагадаўся Ва-

ся, а дзед Цімох закашляўся, і ў цемры жудасна і неяк безнадзейна гучала бясконцае: «Кха! Кха! Ху! Кгх!»

Упартая іскрынка ў Васіных грудзях усё разгаралася, і таму ён ляжаў, баючыся заснуць, як быццам ведаў, што час перад дасвеццем асабліва бязлітасны да тых, у кім ледзь тлее жыццё, хто, як Вася, заглядаў у бяздомную, страшэнную бездань і цяпер, растраціўшы рэшткі надзеі, бязвольна аддаецца ночы. Хлопчык не хацеў уступаць: ён спадзяваўся хаця і не на многае — усяго толькі ўбачыць, хаця б раз пабачыць балтыйскага асятра,— але гэта нямногае сагравала яго, давала нейкую надзею, як быццам бы само з'яўленне ў Васіным жыцці загадкавай рыбіны павінна было неяк паўплываць на яго, дапамагчы ці што іншае... І ён напружана чакаў раніцы. Даўно заснуў дзед Цімох, у акно пацягнула перадсвітальным ветрыкам, а хмары нізка і цвёрда леглі на гарызонт, нібыта імкнуліся спінамі прышчаміць сонца, што хутка мелася выйсці. Тады Вася ўстаў і, нацягнуўшы на ногі маршчыністыя бальнічныя тапачкі, хуценька ўлез у сінюю паласатую піжаму і чырвоныя лінялыя штаны.

На гэты раз ён нічога не баяўся, нібыта таемнае знаццё само выводзіла яго прэч ад панурых зялёных сцен бальніцы. Наперад ведаючы, што медсястра будзе спаць за сваім белым сталом, паклаўшы галаву на скрыжаваныя рукі і напаўадкрыўшы пульхны рот, ён смела прайшоў паўз пост, не асцерагаючыся, звякнуў засаўкай. Вартаўнік таксама спіць, размораны цяплом і разведзеным у мензурцы спіртам.

Цвёрдая пясчаная сцяжынка была вільготнай ад расы, мокра блішчалі чыгунныя пруты агароджы. Агароджа была высокай, Вася спыніўся быў перад ёй, але, прыкінуўшы, паспрабаваў уціснуцца паміж прутамі, і слабае, худое яго цела хутка апынулася

на волі. Воля — гэта быў Нёман, што ляніва і пахмурна нёс цёмна-зялёную масу вады, пясчаны абрыў з кусточкамі чабору і іван-чая, шэрая паласа галькі, што цягнулася ажно да чорна-шызых хмар, паміж якімі слаба паблісквала чырвань. Там, наперадзе, у якіх-небудзь трох кіламетрах, быў перакат, за якім любілі нераставаць асятры. Так расказваў дзед Цімох, і Вася з рыпеннем папоўз на сваіх ліняных штанах уніз па пяску — спачатку павольна, пасля ўсё хутчэй. Сіла цяжару ледзь не ўвагнала яго ў раку, але ён здолеў утрымацца, жыватом прапахаўшы вузкую паласу жвіру. Аддыхаўшыся, ён устаў і, перасмыкнуўшыся ад холаду, пайшоў уперад.

Вада, мутная, цяжкая, ціха білася аб бераг, калыхала прыбярэжныя кусты. Заляскатала сарока, пачуўшы чалавечыя крокі, нейкія птушкі адгукнуліся ёй чыстымі заклапочанымі галасамі. Ластаўка нізка пранеслася над стромай, услед за ёй чародка стрыжоў вывела імклівую пятлю, ледзь не зарываючыся ў ваду, і тут жа знікла за паваротам ракі. Лес на другім беразе быў густа падсінены смугой, і жоўты пясчаны абрыў наперадзе, за які паварочвала рака, здаваўся размытым шэрым густым паветрам, ад чаго абрысы яго дрыжалі і плылі перад Васінымі вачыма — а можа, гэта кружылася ў хлопчыка галава? Бераг паступова паніжаўся, і рака, здавалася, шырэла, святлела, свабодна выходзячы на прастор і запавольваючы бег. Чуваць было, што ўперадзе перакат: там шумела і пенілася вада, праходзячы скрозь вузкія шчыліны паміж валунамі. Некалькі разоў спыняючыся, каб перадыхнуць, Вася па слыху вызначыў, што перакат павінен быць за самым абрывам. Але, агінаючы лазоўе, што блізка падыходзіла да берага, ён насцярожыўся і напружыўся: каля самай вады, насупраць перакату, стаяў матацыкл. Дзве мужчынскія постаці, сагнуўшыся, варушылі брызен-

тавы скрутак. Галасы іх глушыла вада, але асобныя словы можна было разабраць:

— Не парві!.. Глыбей!

Раптоўна адзін з мужчын разагнуўся, угледзеўся ў хлопчыка і супакоена працягваў работу. З брызентавага скрутка ён дастаў чорную капронавую сетку і асцярожна раскатваў яе па траве. Другі мужчына пайшоў да перакату, палкай вымяраючы глыбіню. Пругкая, імклівая плынь ірвала багор з ягоных рук, і было відно, што ён раздумвае, куды ямчэй паставіць сетку. Некалькі разоў ён азірнуўся на траву, дзе ляжаў невад. Вася пазнаў таго, хто важдаўся з капронавым сілом: гэта быў іхны сусед Іванчук. Заўважыўшы, што яго разглядаюць, Іванчук узняў галаву:

— Ну, чаго стаў, праходзь! Чаго не бачыў?

— Браканьераў...— Вася жахнуўся, пачуўшы свае ціхія словы. Тут жа ён пажадаў, каб іх не пачулі, але было позна: абодва мужчыны ўтаропіліся ў яго.

— Каго, каго? А ну, паўтары! — высокі, у шэрым світэры Іванчук ступіў да хлопчыка, сціскаючы кулакі, налітыя сілай і злосцю.

— Кінь ты, не бачыш: псіх. З бальніцы,— разважыў другі, з шастом.

— А вар'ят, дык няхай сядзіць у сваёй бальніцы! — Іванчук, як кацяня, прыўзняў Васю і паставіў яго далей, за некалькі крокаў, лёганька ткнуўшы яго ў плечы, ад чаго той тырчком паляцеў на мокрую траву.— Халера, яшчэ разважае тут!

Ён пайшоў да сеткі. Прыўзнімаючыся, Вася бачыў, як упэўнена і злосна ходзяць лапаткі пад тоўстай — самаробнай — вязкай. Праглынуўшы горкую, кляістую сліну, ён гучна сказаў у спіну Іванчуку:

— Думаеце, я вас не пазнаў? Во пайду зараз і пазваню, што вы асятроў ловіце!

Вася не ведаў, куды званіць, ды гэта было і не важна: Іванчук падскочыў, шырокі яго, мажны твар пабялеў ад нечаканасці:

— Ды ты што, ашалеў, крапіўнік? Якія асятры?! Пайшоў адсюль, а то зараз на матацыкле закачу ў бальніцу, там табе ў... уклеяць, будзеш ведаць!

— А чаго? Бяры яго, зараз у каляску! — нетаропка папалохаў другі.— Не бачыш — збег з бальніцы! Чый гэта — не Анюты-прыёмшчыцы?

— Яе, здаецца. Якая маці, такі і байструк. Ну, каму сказана — прэч адгэтуль!

Вася скалануўся, пачуўшы пра маці, але супакоіўся, тут жа разважыўшы, што ніхто нікуды яго не павязе: надта мітусяцца Іванчук і яго напарнік, няма ў іх часу на нешта іншае, чым паляванне на рыбін. І было відно: тое, што трапіць у сетку, яны не выпусцяць! Але ж ідзе нераставанне! Значыць, ісці на раку з такой дробнай сеткай нельга.

Ён адчуваў, як дрыжаць ногі, як дробнае трымценне падступае да вуснаў. Як навальваецца на яго прадчуванне непрытомнасці. Сонца ўсё не ўставала, хаця даўно наступіў ягоны час, а чорныя, цяжкія завіткі хмараў усё гусцелі і гусцелі над галавой, выпаўзаючы з-за гарызонта, і гэтак жа гусцеў у галаве пах водарасцей, што ішоў ад вады.

— Я... усім раскажу. Усім!— варочаў ён непаслухмяным языком.— Браканьер вы, а не...

— Во прывязаўся на нашу галаву! — пакачаў галавой напарнік Іванчука.— Можа, далей ад'едземся, сусед? Не хапала, каб людзі пасля боўталі...

— Ну, не! Каму ён раскажа? Ён здохне раней, хіба ты не бачыш?

Тонкі, ледзь чутны стукат маторкі данёсся з-за павароту. Мужчыны трывожна паднялі галовы.

— Ці не рыбнагляд? — прыслухоўваўся Іванчук.— Там малады хлопец, новы.

— Казаў табе — не будзе ў нас сёння ўдачы. Сон дрэнны бачыў, дый жонка папярэджвала...

— Сон, сон! Баба ты сам, ці што? А маторка нейкая незнаёмая. Халера на яе! Можа, і праўду ад'едземся?

Скрозь сінюю смугу, што гусцела ў вачах, Вася глядзеў, як таропка збіралі яны сетку, як, спяшаючыся, кідалі яе ў матацыкл і, закрыўшы брызентам, самі масціліся на матацыкле. Ён маўкліва прасіў іх: «Хутчэй!», таму што сілы ў яго заставалася толькі на тое, каб падысці да вады і развітацца з тым, што напэўна ў апошні раз бачылі вочы: імклівыя струмені вады, вільготныя, цёмна-зялёныя валуны, каля якіх завіваліся шалёныя белыя бурунчыкі, і над усім — грознае, непрыветнае неба і цёмная заслона блізкага дажджу. Працягнуўшы рукі, ён пайшоў да вады, і — ці здалося, ці сапраўды адбылося — у бурлівай, нястомнай плыні мільганулі доўгія сілуэты дзіўных, ніколі не бачаных ім рыбін.

І тады неўтаймоўная, шалёная радасць паднялася ў ім. Нічога ўжо болей не баючыся, ён памкнуўся насустрач блізкай, жывой заслоне дажджу, усім целам убіраючы магутную, велічную сілу стыхіі, што асляпляльным раскатам разарвала насцярожаную ціш зямлі.

Ён не ўтрымаўся на нагах, упаў на цёплую мяккую глебу, паспеўшы адчуць на спіне гарачыя, вар'яцкія струмені дажджу, не ведаючы, што непрытомнасць яго пяройдзе ў глыбокі, непрадбачаны нікім з дактароў сон, і што ён адчайным намаганнем перарваў страшнае, ужо абведзенае вакол яго жыцця кола, і цяпер, атторгнутага, зямля, дождж і вецер прынялі яго нанова ў свой вечны кругаварот, каб мог ён выканаць тое, для чаго прыйшоў на зямлю...

## ПОЗНІ КАНЦЭРТ

«Рафік» з артыстамі спазніўся на дзве гадзіны, і кіраўнік групы Андрэй Курцэвіч, праклінаючы вечныя нязгоды шафёра са сваёй машынай, выскачыў раней за ўсіх: з асветленых дзвярэй клуба ішлі і ішлі людзі, і трэба было іх папярэдзіць, растлумачыць, што канцэрт не сарваўся, што ён адбудзецца, няхай сабе і запознена.

У клубе аставалася яшчэ нямала народу, і тут жа, пачуўшы, што прыехалі артысты, сталі вяртацца і іншыя, так што, пакуль артысты наскора пераапраналіся і рыхтавалі інструменты, клуб нанава быў набіты біткам і ля самых дзвярэй стаялі падлеткі.

У памяшканні было цёпла, пахла яловымі дровамі і свежай фарбай. Сіняя аксамітная заслона, асветленая высокай, пад столлю, лямпачкай, пералівалася палосамі. Новае чорнае фартэпіяна на сцэне прагучала пад Андрэевымі рукамі мякка і ўрачыста, і ў адказ зашумеў народ у зале, прыглушана запляскалі далоні.

— Ну што, пачынаеце? — прыспешыў загадчык клуба.

Андрэй, паклікаўшы акампаніятара, загадаў: — Цягніце заслону!

Заслона папаўзла ўбок, Андрэй — ладны, у чорным касцюме, у прыгожай белай кашулі — выйшаў на сцэну.

— Хлебаробам — гонар і пашана! — пачаў ён глыбокім, поўным голасам. У зале зноў адабральна зааплядзіравалі, пасля прыціхлі, слухаючы вершы.

Акампаніятар іграў «Я люблю цябе жыццё». За кулісамі пазваньвала струнамі цымбалістка Зіна, рыхтуючыся да свайго номера.

«Каторы раз забываюся сказаць ёй, што нядобра так перашкаджаць мне»,— думаў Андрэй, і голас яго аж грымеў у вялікім новым памяшканні.

Зала была прыгожая — з барэльефамі на сценах, з акуратнымі шторамі на вокнах, і прыемна было Андрэю, што іх тут чакалі дзве гадзіны, хаця ён ужо і не спадзяваўся на сённяшняе выступленне...

Закончыўшы верш, Андрэй аб'явіў наступны нумар. Канцэрту быў дадзены звычайны дзелавы зачын, цяпер можна было не хвалявацца: кожны ведаў сваю справу, праграма шмат разоў «абкатвалася», і вядучаму аставалася сядзець на сцэне альбо ціха размаўляць з тымі, хто чакаў свайго выхаду. Па звычцы ён ледзь адсунуў заслону і, перагаворваючыся з Жанай, «прымадонай» групы, пачаў разглядаць людзей. Звычайная сельская аўдыторыя: наперадзе — старыя ў сваіх кажухах, жанчыны ў плюшаўках; далей — маладзіцы ў каляровых шарсцяных хустках, з малымі на руках. Паміж імі, паклаўшы шапкі на калені, сядзелі мужчыны. Моладзь, як звычайна, масцілася ззаду, і з-пад паліто з пышнымі лісінымі каўнярамі тырчалі голыя дзявочыя калені — як усюды, тут панавалі «міні» і ўзбітыя пад гарадскіх модніц «бабеты».

— Добра сталі ў вёсцы апранацца! — уздыхнуў Андрэй.— Вунь у хлопца лакавыя пантофлі, а я ўсе магазіны ў Мінску абабег, не знайшоў.

— Раней бы прыехалі, маглі ў сельмаг зайсці,— з цукеркай у роце прашапялявіла Жана.— Я спецыяльна грошы прыхапіла, тут у раёне імпарт ёсць.— Яна ўгледзелася ў Андрэя, здзівілася: — Ты што, Андрэйка, усё ад лакавых пантофляў адарвацца не можаш? Ці, можа, каго знаёмага ўгледзеў?

Яна зазірнула ў шчыліну над яго галавой і, чмыхнуўшы, са смакам пачала грызці цукерку, насмешліва пазіраючы на застылы твар вядучага.

...Ён неяк не спадзяваўся ўбачыць яе тут, хаця ведаў, што Таня павінна працаваць недзе блізка, у гэтым раёне. Часам, пад час паездак у калгасы, ён успамінаў пра Таню Ліпневіч, адчуваў цьмяны, цяжкі сорам і імкнуўся тут жа забыцца на ўсё, як хоча забыцца чалавек на крыўду, нанесеную іншаму, быццам ён зрабіў якое злачынства,— увогуле на ўсё, што можа патрывожыць чалавечае сумленне.

Але цяпер, гледзячы на строгі, цвёрды твар маладой жанчыны, на валасы яе, сабраныя на патыліцы, на сур'ёзныя яе вочы, што пільна глядзелі на сцэну, ён адчуваў акрамя вострага сораму яшчэ і незразумелую радасць — можа, ад таго, што яна так папрыгажэла, папаўнела і спакойная, роўная годнасць адчуваецца ў ёй. Ці замужам яна? Напэўна. Той чалавек, які сядзіць побач, трымаецца заспакоена і ўладна — так трымаецца муж.

Ну што ж, зусім як у «Яўгеніі Анегіне» — ёсць Таццяна, ёсць муж і ёсць горыч, якая засталася паміж двума маладымі закаханымі — праўда, Яўгеній Таццяну не любіў, а ён, Андрэй, сваю Таццяну некалі моцна кахаў.

Ці пазнала яна Андрэя? Нічога нельга прачытаць на гэтым прыгожым, роўным твары, апроч увагі да таго, што робіцца на сцэне, і ён адчуў, як ад думкі, што яго не пазналі, нейкая незадаволенасць апанавала ім.

А што тут дзіўнага? За апошнія гады ён распаўнеў таксама, але паўната была пульхнай, нездаровай, з'явіліся вялікія залысіны; ад хворай пячонкі памутнелі вочы... Некалі... Калі ён прыйшоў у раённы Дом культуры дырэктарам, яго празвалі «Мілё-

начкам» — таму што дзяўчаты пачалі складаць пра яго розныя ласкавыя прыпеўкі.

Розныя былі прыпеўкі, дзяўчаты таксама былі ўсякія — заваблівыя і няўклюдныя, але ён дырэктарстваваў строга: трэба было адрабляць за дыплом культасветработніка, каб пасля паступаць у тэатральны. У тэатральны ён хацеў паступіць адразу пасля вучылішча, але дакументаў у яго нават не прынялі, і ён зміpыўся, паехаў у раён. Уціхаміpыўся пакуль: марыў аб прафесійнай сцэне, уяўляў сябе трагікам, не іначай, у будучым — вялікім акцёрам... А пакуль даводзілася весці канцэрты, іграць на баяне, акампануючы раённай «прымадоне», а часцей за ўсё — арганізоўваць у калгасных клубах самадзейнасць. Тады з кадрамі было дрэнна, загадчыцамі ў вёсках былі альбо старыя, стомленыя жанчыны, альбо ўчарашнія дзесяцікласніцы. А што маглі яны? Пальцам на клавішу не маглі націснуць, пра нейкія там формы і метады клубнай работы ведаць не ведалі. А трэба ж было хаця некаму адчыняць клуб, хаця б тады, калі «прыязджала кіно», дый на раённы агляд везці самадзейнасць. Яго як маладога спецыяліста адразу назначылі дырэктарам РДК, і працаваць ён стаў заўзята: кожны дзень выбіраўся ў калгас, то з метадычнымі распрацоўкамі, то з канцэртамі. Але і гэтага здавалася мала: задумаў пры Доме культуры заснаваць яшчэ і драматычны гурток.

З гэтага гуртка ўсё і пачалося. Хацелася на першы раз паставіць не што іншае, як «Паўлінку» Купалы. Вясёлая п'еса, цікавая, народ яе павінен глядзець з задавальненнем. Доўга шукаў Паўлінку, але нарэшце спыніўся на тым, каб іграла яе настаўніца літаратуры Наташа Багацька. Праўда, Наташа была намнога слабейшая за яго, крышку бесцырымонная, але ён спадзяваўся, што рэпетыцыі ўсё згладзяць. Што рабіць, тут Ярмолавай не дачакаешся! І вось

ужо прайшла адна рэпетыцыя, другая... а пасля Наташу адхілілі, а на яе месца Андрэй паставіў Таню Ліпневіч, даярку з калгаса «Шлях Ільіча», што ў трох кіламетрах ад райцэнтра, завочніцу сельгасінстытута.

Таня ўсё аднеквалася, але Андрэй быў настойлівы. У тыя хвіліны, калі Таня чытала на раённым аглядзе нейкую байку Крапівы, ён зразумеў, якую Паўлінку трэба для спектакля. Наташа па знешнасці была непараўнальнай з саперніцай: яна высокая, белавалосая, а Таня маленькая худая. У Наташы слава першай раённай модніцы, а ў Тані доўгая барвовая сукенка з крывым белым каўнерыкам, на нагах туфлі нейкія ні то зялёныя, ні то шэрыя, ды яшчэ са збітымі абцасамі. Але тое, што ў Тані ёсць талент, кінулася ў вочы адразу, а ў Наташы былі самалюбства, стараннасць дый, бадай што, закаханасць, ад якой яна так настырна ўрывалася пасля ў кабінет, вымольвала, абяцала, улешчвала...

Цяпер Андрэй зноў нібы бачыў тую сцэну, дзе ён угаворваў Таню прыязджаць на рэпетыцыі ў РДК, а яна хавала свае чырвоныя рукі з абламанымі пазногцямі, баялася глянуць у вочы і толькі адмоўна трэсла галавой.

— Што вы! Ніякая Паўлінка з мяне не атрымаецца!

— Атрымаецца, яшчэ якая! — з гарачнасцю даказваў ён.— Я дамоўлюся ў калгасе, Таня, каб вас падмянялі пад час рэпетыцый!

— Ну што вы, дзяўчаты на мяне будуць крыўдзіцца...

— Ну і што? Затое як вам будуць зайздросціць. Няўжо гэтага так мала — калі табе зайздросцяць?

— Мама мне не дазволіць...— сцвярджала яна ўпарта.

— Я і з ёю пагавару. Як гэта не дазволіць?!

Ён тады ніяк не мог зразумець: ці яна і праўда такая наіўная, ці хітруе з ім, цану сабе набівае?

— Ды няўжо табе, Таня, самой не цікава выступаць на сцэне?

Яна зірнула на яго нявіннымі вачыма і спакойна адказала:

— Не.

Ён не паверыў ёй, таму што паверыць у такое проста не мог, і толькі намнога пазней пераканаўся, што Таня гаварыла праўду: з такім жа непарушным спакоем яна магла гадзінамі сядзець над рэчкай, апусціўшы ў ваду босыя ногі, альбо ляжаць на лузе, закінуўшы галаву, а іграла яна заўсёды без таго напружання нерваў і ўсёй істоты, якое Андрэй лічыў непарушным правілам для артыста. Іграла — як гуляла ў цацкі. Пераўвасаблялася — і сама, можа, толкам не разумела, што пераўвасаблялася, таму што адразу ж яна пераставала быць Таняй і рабілася той, якой патрабавала ад яе быць роля.

Ці не за тую, ненатуральную, крыўдную нават для яго лёгкасць ён пацягнуўся да яе, нібыта спрабуючы разгадаць нейкую таямніцу — спачатку проста пацягнуўся, а пасля, непрыкметна для сябе, і закахаўся.

Пры першых сустрэчах ён усё-такі трымаў лейцы ў сваіх руках: прымусіў Таню прыязджаць на рэпетыцыі, паехаў для таго і да старшыні, і да Танінай маці і прыкрыкваў на яе, калі яна ўпарцілася. Але пасля першага спектакля — самі сабой — пачалі мяняцца іх ролі. Тады, у вечар прэм'еры, Таня была не падобная да сябе ранейшай. У белай вышытай кофце, паласатай спадніцы, з вянком на галаве яна сапраўды была не Таняй, не самадзейнай актрысай, што іграе ролю Паўлінкі — яна была самой Паўлінкай і на сцэне жартавала, спявала і гаварыла так, што яму самому здавалася — няма ні гледачоў, ні

залы, а ёсць сапраўдны пан Быкоўскі і ён, Якім Сарока, якія спаборнічаюць з-за дзяўчыны...

І дзе толькі пасля яны не пабывалі са сваім спектаклем! І ў вобласці, і на тэлебачанні, і па калгасах калясілі. Давялося Таню з даярак пераводзіць у рахункаводы: каб кароў даіць, часу ў яе не заставалася. А тут яшчэ ішоў чацвёрты год яе завочнай вучобы...

...Наступны нумар ён аб'явіў як бы ў нейкім здранцвенні. Адразу стаміўся, адчуваючы, як паколвае сэрца і стаіць пад грудзьмі наспех з'едзены абед. Каб не спазненне, канцэрт быў бы даўно закончаны, усе яны пілі б чай у гасцініцы. Ішла дванаццатая гадзіна ночы, было позна, і ён адчуваў, што плечы яго нямеюць ад нейкага цяжару — ні то пражытых гадоў, ні то цяжару пустэчы, якая навалілася на Андрэя неспадзявана і несправядліва. Несправядліва таму, што чаго-чаго, а пустаты ў сваім жыцці ён не заўважаў ніколі. Заўсёды яно было поўным, кіпучым, тлумным...

...Тады ішло на вясну, паціху мякчэлі марозы, дзень ціха прыбаўляўся, і раніцай дробны, добры ўжо сняжок падбельваў вуліцы. На ўскраіне гарадка, там, дзе сасняк падступаў да хат, чуцен быў перастук дзятлаў. Выходзячы з хаты, Андрэй бачыў рудое шалупінне ад шышак, якімі харчаваліся вавёркі. У тыя дні, калі на рэпетыцыі прыязджала Таццяна, ён рана быў у Доме культуры, а калі ішло на вечар, чаканне ўзвінчвала яго, ён сварыўся з работнікамі, з шафёрам, ведаючы, што той прыдумляе нейкую прычыну, каб знікнуць і не чакаць канца рэпетыцыі. Тады ўжо ішлі паміж ім і Таняй нелады. Розумам ён рыхтаваўся да ростані, а сэрца шчымела і змагалася з тым рашэннем, і ён то цягнуўся да яе,

то рабіўся грубым і няўважлівым. А Таня не магла даўмецца, што здарылася, пыталася бесперастанку аб тым, а ён не мог адказаць, хаця добра ведаў прычыну свайго раздваення.

Пачалося ўсё так.

Да сакавіка гурток ставіў «Каменнага госця». Яму даўно хацелася сыграць Дон Жуана — не вясёлага, бесклапотнага пакарыцеля сэрцаў, а чалавека, што зразумеў усю марнасць зямнога жыцця і адчайна змагаўся з ёю; такім ён бачыў свайго героя, але Дон Жуан не ўдаўся яму. Ад рэпетыцыі да рэпетыцыі ўсё болей выяўлялася дона Анна — Таццяна. І на прэм'еры ён, нарэшце, зразумеў ясна: Таня навечна ўстанавіла яму пры сабе толькі другое месца! Вось яна выходзіць на сцэну разам з ім — і Дон Жуан робіцца проста вартым жалю спакушальнікам, чалавечкам, які бунтуе не ад адчаю — ад баязлівасці перад жыццём. Што дыктавала гэтай дзяўчынцы веліч і высакароднасць жанчыны, што кахае і ненавідзіць? Можа, сапраўды іх каханне было для Тані тым выпрабаваннем, з якога яна выходзіла — няхай сабе на сцэне — пераможцай? На вачах Андрэя ўзнікла цуда, і ён добра разумеў, што яно ўзнікла. Назіраючы за Таняй, ён бачыў: калі, жадаючы адцясніць яе, ён напружваў у спектаклі ўсе сілы, яго намаганне перадавалася дзяўчыне, і яна пачынала іграць яшчэ лепей. І ўсё ж — Таня не зразумела ні тады, ні пасля, што паміж імі пачалася барацьба; і не ведала Таня, што самым небяспечным было для яе пытанне, якое прыйшло ў той вечар да Андрэя: «Хто з нас будзе ў рэшце рэшт першым?» Такога пытання для яе проста не існавала.

А ён, дзень за днём, мучыўся ўсё болей. У чым жа справа? У тым, што яе шчасце недаступнае для іншых? Хацелася дакрануцца да гэтага таямнічага «Таніпага шчасця», адчуць яго. Дзень за днём доб-

рае, светлае пачуццё да дзяўчыны пачало пераўтварацца ў нешта іншае, пякучае, набалелае, вострае, якое адначасна і прыцягвала, і адштурхоўвала хлопца. Дзве сілы сутыкнуліся між сабою, і таму ён то пазбягаў «навасёлкаўскай рахункаводкі», як ужо пачынаў называць Таню, то позна вечарам, калі не ішлі аўтобусы, мерыў кіламетры да Навасёлак, каб пасядзець у яе хаце пад наглядам бабкі Ефрасінні...

— ...Андрэй, ты што гэта? — Жана торгала яго за рукаў. І зноў амаль няўцямна ішоў Андрэй на сцэну, нешта аб'яўляў, жартаваў, а пасля, заціскаючы ў спацелай руцэ аксаміт, прагна сачыў позіркам за жанчынай, што спакойна слухала песні.

Неверагодна, але яна стала болей падобная да бабкі Ефрасінні, чым да маці. Помніцца, што худая, з чоткімі, цвёрдымі рысамі бабуля Ефрасіння вечна сядзела за калаўротам. Ці былі ў хаце госці, ці глядзелі ўсёй сям'ёй тэлевізар, ці позна вечарам, ці раненька — усё цягнула яна бясконцую нітку, выкручвала яе з пушыстага воблака кудзелі. Ніколі не бачыў Андрэй, каб скончылася нітка: калі б ні заходзіў ён у хату, гудзеў калаўрот, і доўгая ніць лілася з-пад жылістых рук старой жанчыны. Першы раз, зайшоўшы ў хату, ён здрыгануўся, сустрэўшы бабчыны вочы: невялікія, выцвілыя, яны ўпіліся ў яго, п'яўкі, так што нейкі час ён не мог адарвацца ад Ефрасінні...

— Ды не бойся ты яе! — колькі разоў упрошвала яго потым Таня.— Яна добрая, толькі вось пасля вайны, як пазабівалі сыноў, маіх дзядзькоў, яна і стала прасці. Прадзе і тчэ. Мама колькі з ёй сварылася: «Ты што,— кажа,— на ўвесь свет палатна хочаш наткаць?» У мяне, ведаеш, два куфры прыданага. Уяві сабе толькі — пасаг! І ўвесь во такі, саматканы. Так надакучыла! Кашулю не купі — бабуля пакрыўдзіцца!

З Андрэем бабуля не размаўляла, не адказвала на пытанні, нібы адразу разгледзела ўсяго, да апошняй жылачкі,— і вынесла нейкі свой прысуд. Яна заўсёды сядзела нерухомая, як выразаная з дрэва, і толькі імклівая нітка варушылася ў яе вёрткіх руках. Маці ж Таніна, наадварот, гаварыла за траіх. Вясёлая, жвавая кабета, яна вечна сыпала жартачкамі, сустракала Таню з выступленняў смехам:

— Матка па дачцэ плача, а дачка па дошцы скача!

— Ды я не скачу там, мамка, а размаўляю.

— Размаўляй, дачушка, размаўляй! Кажуць — гарадское цялятка разумнейшае за вясковае дзіцятка, во ўчыся. Гэта адной пчале ад роду ўся навука дадзеная, а людзям яе унь колькі дазнавацца патрэбна!

— Якую ж мне навуку шукаць у горадзе, мамка?

— Усялякая навука бывае, дачушка. Адно толькі помні: дзе вырасла сасна, там і ясна. Няма чаго ад роднай хаты адбівацца.

Андрэй разумеў яе словы, гаварыліся яны не для Тані — для яго.

— Яна ў вас таленавітая, вучыцца ёй трэба,— сказаў неяк.— Вунь якая з яе артыстка! Няўжо непрыемна было, калі дачку па тэлевізары паказвалі?

— Сёння — у часці, а заўтра — свіней пасці, так у жыцці бывае. Няхай канчае свой інстытут, стоячым дзелам займаецца...

З раздражненнем адчуваў Андрэй, што тут, у гэтай хаце, усё тое, чым займаецца ён, аб чым марыць,— не сапраўднае, што ні маці Таніна, ні сама Таня не думаюць усур'ёз пра сцэну. Наадварот — усе Таніны размовы былі пра тое, што хутка заканчвае яна інстытут і нарэшце возьмецца за сапраўдную, вартую справу. І тое, што Таня з аднолькавай лёгкасцю вось-вось прыдбае далёкую для Андрэя, але

недаступную, як там ні кажы, прафесію, што прафесія тая для яе, можа, важнейшая за сцэну — гэтага ён не мог пераносіць. Як так! Таня не марыць пра тэатр, а ўзнялася над ім, Андрэем, які столькі марыў аб тэатры, спадзяваўся, як на нешта вышэйшае ў сваім жыцці!

Але ён усё цягнуў, гуляў з Таняй, як кошка з мышкай, можа, радуючыся ў думцы таму, што ёсць, ёсць у Таніпым шчасці адна ахілесава пята, і тая пята — ён, Андрэй...

...«Пазнала ці не пазнала?» — задаваў ён зараз сабе пытанне і не мог адказаць, ці хоча ён, каб яго пазналі.

З'явіцца перад Таццянай такім — не пераможцам, не тым, каго яна спадзявалася бачыць! Усяго толькі — вядучы гастрольнай групкі! Усяго толькі аб'яўляе нумары. Вось кім ён стаў! Не Атэла, не Гамлетам, нават не масоўкай у тэатры, а жэўжыкам, які, магчыма, ашукае іншых сваімі поспехамі — усіх, толькі не яе, таму што хто-хто, а Таня, з яе наіўнай, але ўпэўненай інтуіцыяй, добра ведае цану сапраўднаму поспеху... Дык ці пазнала яна Андрэя?

...Таццяна, канешне ж, пазнала яго. Не так моцна ён перамяніўся, толькі ў раманах людзі не пазнаюць адзін аднаго праз якіх дзесяць гадоў розстані. Дый і не ў натоўпе сустрэла Андрэя, а на сцэне. У першы момант яна адчула, што пабляднела, спалохана скасавурылася на мужа, але той сядзеў ціхі і безуважны — тады яна супакоілася. Добра, што ён нічога не заўважыў, навошта было б яму, можа, хвалявацца ці раўнаваць. Усё прайшло, сплыло, быў мілым, стаў пастылым — чаго прасцей?

Але выпакутаванае, шмат разоў перадуманае, перамеранае мінулае абудзілася штуршком сустрэчы. І цяпер у яе ўзнікла адчуванне, што ўнутры яе рака,

падмываючы каменную плаціну, шукала нейкія шчыліны, слабыя месцы, каб вырвацца некуды. Таму жанчына змагалася з плынню і, сціснуўшы вусны, спрабавала забыцца на ўсё і глядзець на сцэну. Спачатку ёй удавалася тое, але ўсё ў зале — і песні, і музыка, і агульны прыўзняты настрой аднавяскоўцаў — вяртала яе да няпоўных двух гадоў, калі яна жыла ў дзівосным свеце. Занадта многа твараў, падзей і часін перажыла яна за той час, але ўсё — і выступленні, і ролі, і поспехі,— усё было для яе толькі фонам, на якім галоўнай асобай, адзінай асобай быў ён, Андрэй...

Відаць усё ж, што па-сапраўднаму шчаслівым было толькі тое лета, калі Андрэй убачыў яе на раённым аглядзе самадзейнасці, запрасіў у гурток і рэпеціраваў «Паўлінку». Як любіла яна кожны дзень, што прыносіў ёй радасць сустрэчы! Вяртаючыся з фермы, яна бегла ў лес, каб да знямогі паўтараць перад якім ядлоўцавым кустом сцэны са спектакля, а пасля ляжаць на нагрэтай пясчанай зямлі і растварацца ў наваколлі...

Дзівосныя, незвычайныя стаялі дні: бялесая спякота расцякалася па зямлі, упартыя тугія галіны ядлоўцу з зеленаватымі яшчэ ягадамі былі цёплымі і сухімі, на асінах, над дробнымі, дрыготкімі лісточкамі, ужо жаўцелі і чэзлі вяршаліны, а захмялелыя чмялі ляніва гудзелі над ліловымі званочкамі, што туліліся ў цень.

І маці радавалася жыццю разам з дачкой: яна сама любіла ўставаць на досвітку, калі шэрае неба павольна ружавее на ўсходзе, у росным садзе гулка падаюць у траву вільготныя яблыкі і звонка праразае цішыню пенны струмень малака, што пырскае ў пустую даёнку. Бабка Ефрасіння толькі маўкліва назірала за імі, не ўмешвалася ў размовы, у вясёлыя жарты. Толькі калі пайшло на восень — тады якраз

падаўжэлі ночы, а ў балоце пачырванелі журавіны,— першыя пайшлі сваркі з Андрэем. Бабуля стала загаворваць з унучкай, і то ўсё нейкімі незразумелымі намёкамі, цьмянымі для Тані сказамі:

— У кожнага чалавека свая горка бывае, у кожнага. Моцны — адолее, слабы абыдзе альбо крыжам на ёй ляжа.

— Ды якая горка, бабуля, якая? — пыталася Таня, таму што ўсё яе гора было ў тым толькі, што не так, як заўсёды, развітаўся Андрэй, не павёз дадому, як заўсёды бывала, пасля спектакля. А другі раз проста крыкнуў шафёру: «Адвязі дамоў Таццяну!», а сам пайшоў сабе насвістваючы, і не хапіла смеласці ні загаварыць, ні хоць спытаць, што здарылася...

— Крывое верацяно не апране, Танюся,— у другі раз сказала бабуля, прыўзняла руку, каб пагладзіць унучку, але ізноў яна вывернулася, не вытрымала, злосна закрычала:

— Усё табе верацёны наўме, бабуля! Пры чым тут верацяно? Што ты да мяне прыстала?

— Не прыстала, а кажу табе: ты, галубка, не здавайся, хаця правым крыльцам, ды адбівайся... Гару перапаўзці трэба...

Пра якую гару казала старая Ефрасіння, зразумела толькі тады, калі ўцяміла: непрыяцелі яны з Андрэем, а чаму так выйшла, не магла зразумець, таму што ўся гарэла па ім, кожнае слоўца лавіна на ляту, сэрцам. Не стала ёй жыцця без Андрэя, і жыць не магла з тым, што перамяніўся ён да яе, адказваў не проста, а з насмешкаю, і таму не раз пасля спаткання або размовы яна рукі сабе грызла пад тымі ж асінамі, якія летам яе бачылі такой лёгкаю ды шчасліваю...

— Ці кінеш дзеля мяне маці? — аднойчы загаварыў Андрэй, калі яны сядзелі за заслонаю, чакалі выхаду. Спытаўся на вуха, так неспадзявана, што

яна адхіснулася, пасля сабралася з сіламі, здзівілася нясмела:

— Навошта ж яе кідаць?

— А дзеля мяне. Калі кахаеш, значыць, павінна забыцца, здрадзіць, зарэзаць — любога, каго я захачу,— Андрэй дапытліва ўзіраўся ў яе вочы.— Вось такім я бачу каханне. Я хачу, каб ты прыйшла сёння дадому і сказала: «Ведаць вас не ведаю». Скажаш?

Не, ён не жартаваў, нешта цёмнае, пагрозлівае лягло на твар, вочы сталі злымі, няўлоўнымі, павеяла ад яго злоснай, ненавіснай сілай — і яна палахліва скурчылася ў сваім халодным марлевым уборы.

— Ну, Танюха? Сягоння ж! Дамовіліся!

— Навошта ты мяне мучыш? Навошта табе ўсё гэта?

— Навошта? Адкуль я ведаю? Я мастак, слухаю свой унутраны голас. Хачу ведаць, ці кахаеш ты мяне... так, як кахаюць іншыя. Ці любіш увогуле.

— Не люблю.

Сказала цвёрда, а на сцэну пайшла паўмёртвая. А дома не вытрымала і трох дзён. Прыйшла да яго — каб выгаварыцца, вырашыць, нарэшце: можа, нечага не зразумелі яны ўдваіх, можа, ён і праўда жартаваў, а яна жарту таго не ўлавіла? Ён не здзівіўся, убачыўшы панурую постаць на ганку. Павёў у хату, лёгка абняў за плечы, пацалаваўшы ў лоб.

Не думалася, што горку тую, пра якую бабуля Ефрасіння гаварыла, давядзецца пераадольваць з такімі намаганнямі... Відаць, недарма ёсць той пагорак, тая вышыня ў кожнага. Не выпадкова сустрэўся ёй Андрэй — хіба іначай даведалася б яна, колькі ў ёй сілы ды бабчынай учэпістасці ў жыццё!..

Тады, як помніцца, вясна прыйшла рана, блакітныя капяжы віселі над дахамі, па рацэ плылі гарбатыя, пацямнелыя льдзіны, а ў высокім небе зві-

нела бясконцая, урачыста-светлая песня жаўрука. Яна, Таня, ішла па вуліцы, сціскаючы сухія вусны, карычневыя боты глуха чмякалі па вадзе, хустка спаўзла з галавы, а на душы была і адрачонасць, і — падсвядомая — радасць ад таго, якім жа, аказваецца, вялікім можа стаць свет! І нейкая горкая мудрасць ад таго, што зразумела яна нарэшце — пяройдзена горка, жывой, жывой, засталася душа! Вырвалася з цёмнага палону...

Скончыўся запознены канцэрт, і нястомны «рафік» гнаў, раскручваючы кіламетры, уперад, да раённай гасцініцы, дзе чакаў артыстаў вялікі пагнуты самавар, каторы раз уключаны ў сетку соннай дзяжурнай. Андрэй сядзеў на сваім месцы, глядзеў у акно і ўсё бачыў перад сабой Таццяну — такой, якая яна нядаўна ішла ў натоўпе, што падпіраў да выхада. Яе гладка прычасаная галава была здалёку падобная да кветкі, футра прыгожа ляжала на плячах.

«Не пазнала, пэўна, не пазнала»,— панура думаў ён, і атупенне, як пасля моцнага, бурнага перапою, навальвалася на плечы мацней і мацней. А ў небе, што праяснілася пасля нядаўняй завірухі, адзінока і непрыкаянна плыў маладзік, ныраючы, якраз як «рафік» у калдобіны, у рухлыя, цвёрдыя аблокі і кожны раз выныраючы з іх...

# ШАКАЛАДКА

Першае вераснёўскае лісце, што сыпануў на шэрую асфальтаваную пляцоўку аўтастанцыі вецер, яшчэ не пацямнела ад дажджоў. Увесь апошні тыдзень запозненая гарачыня стаяла над залацістымі квадратамі палёў, над бляклымі плямамі скошаных сенажацей, і летнія ўборы пераважалі сярод пасажыраў аўтастанцыі, хаця той-сёй дрыготка паводзіў плячыма, выскокваючы з залы чакання і трапляючы пад прахалодны, рэзкаваты вецярок, што непрыкметна наганяў на сіняе яшчэ неба першыя хмаркі. У гэты суботні дзень аўтобусы трашчалі ад клункаў, вёдраў, гладышоў, у якіх везлі ў бліжні абласны горад грыбы, круглякі сыру, познія чарніцы і нявыспелыя яшчэ журавіны.

Маладая жанчына няспешна ішла па гайку. Кволыя таполі і бярозы аддзялялі станцыю ад свежапабеленага, атуленага каржакаватымі дубамі касцёла, дзе, відаць, толькі што закончылася служба. Адтуль шыбавала худзенькая, у чорнай плюшаўцы бабулька. Яна азіралася па баках і, абагнаўшы жанчыну, хуценька ўскочыла на пляцоўку, дзе выхапіла з рук маладой соннай кабеты мяшок і стала спрытна мацаваць яго на спіну.

— Вы б, мама, яшчэ дзесяць хвілін таўкліся ў касцёле, якраз спазніліся б на аўтобус,— буркліва прагаварыла тая і пайшла ад станцыі. Параўняўшыся з жанчынай, яна спыніла яе: — Што, Гэля, зноў у шпіталь? Як там Барыс?

— Прывязу, можа, цяперака. Дні два там пабу-

ду,— азвалася Гэля, перакладаючы чорную напакаваную сумку з адной рукі ў другую.— Не паспею, мабыць, пашыць табе спадніцу. Бачыш, хапае сваёй валачоміцы.

— Пасля, як прыедзеш, закончыш... А дзе ж твой Толік? — азірнулася яна і любоўна падправіла высока ўзбітую прычоску.

— Ды вунь ён, з-за бярозы выглядае... Ты, можа б, Каця, у атэлье забрала б сваю спадніцу?

— Не, што ты! — спалохалася Каця.— Ты ўжо... Я пачакаю! У атэлье, скажаш! Я прыйду праз тыдзень, так, Гэлечка? У нас якраз у магазін добрых селядцоў завезлі. Узяць табе?

— Ладна...— Гэля махнула рукой і пайшла ўперад. Пасля спынілася і ўладна паклікала: — Толік! Сынок! Глядзі, без цябе паеду!

Трохгадовы Толік верхам на лазіне паскакаў да маці, махаючы пукам жоўтых лістоў. Яна адабрала і лазіну, і лісты, абцягнула на ім блакітны шарсцяны касцюмчык і, узяўшы за руку, павяла да аўтобуса, які, ззяючы цёмна-чырвоным лакам і нікелем, стаяў каля паржавелай бляшанай дошчачкі, што жалобна трымцела ўверсе, на абшэрханым слупе. Рослая, упэўненая ў сабе, Гэля прарэзала натоўп, што штурхаўся каля дзвярэй, просячыся ў шафёра, і падышоўшы да свайго месца, паглядам сагнала з яго нейкага студэнціка ў акулярах. Суседкай яе аказалася бабулька ў чорнай кацавейцы, яна неахвотна пасунулася да акна, касавурачыся на Толіка, які адразу ж зашыўся ў фіранкі і кулачком заштурхаў шыбіны. Гэля нетаропка пасунула кабіну.

— Падвейцам нясе,— непрыязна заўважыла бабулька, нерухома гледзячы перад сабой.

— Нічога, мы, як паедзем, зачынім...— Гэля павярнулася да суседкі.— Чаго вы мяне, Герасімаўна, так не любіце, га?

— Я не хлопец табе, каб любіць або не любіць. А толькі адзін бог, ён усё бачыць. Усё-о! Маці за табой сюды пераехала. Дом свой на Толіка перапісала. А ты бабе не даеш унука на каленях патрымаць.

— А гэта ўжо не ваша справа, Герасімаўна. Вам я зла ніякага не рабіла.

— Мне?! Ну, мне б ты...— бабулька спахапілася і, выпрастаўшыся, загаварыла голасам прарочыцы: — Маці сваю пашкадуй! Гэта ж і звяры маюць сэрца...

— Хопіць, бабка, скавытаць! — злосна перабіла яе Гэля.

Пасажыры ў аўтобусе прыціхлі і назіралі за абедзвюма жанчынамі. Твар Гэлі, напачатку прыязны і лагодны, цяпер як скамянеў, празрыстая скура яго запунсавела, шэрыя вочы звузіліся. Толік на яе каленях заварочаўся, пацягнуўся ад акна, амаль захутаны ў пыльную крэмавую штору. Маці рыўком выцягнула яго, не зводзячы вачэй з Герасімаўны, працягвала гучна:

— Чаго вы лезеце да людзей? Сядзіце сабе спакойна і маўчыце.

Бабулька, папраўляючы хустку на рэдкіх сівых валасах, загаварыла сцішана:

— Гадуеш гэтых дзетак, сілы апошнія ім аддаеш... А яны...— Тут зоркія яе вочы ўгледзелі ў акне нешта, што адразу прыдало ёй упэўненасці. Голас яе пазванчэў: — На апошнія грошы нябось... Вось яно, сэрца маці...

Гэля прасачыла за яе позіркам, успыхнула ад нечаканасці: за акном аўтобуса стаяла жанчына, крыху маладзейшая за бабулю, але бледны, пасечаны мелкімі маршчынкамі твар яе рэзка адрозніваўся ад свежага, загарэлага твару вясковай жанчыны. Мужчынскі пінжак пашыраў яе плечы, худыя ногі выглядалі з-пад кароткай сукенкі яшчэ зграбнымі, але

былі няўважна ўціснуты ў гумавыя боцікі. Жоўтыя валасы, сабраныя ў неахайны вузельчык, светлыя, цяпер пачырванелыя вочы — усё гэта імгненна было заўважана Герасімаўнай, але найперш за ўсё злавіла яна позіркам вялікую шакаладку ў яркай, блакітнай абгортцы, якую трымаў у руцэ яўна задаволены Толік, збіраючыся разарваць шыкоўную абгортку. Цяпер заўважыла яе і маці Толіка.

— Дай, сынок, мне,— загаварыла яна ласкава, высунуўшыся ў акно аўтобуса. Не чакаючы, пакуль хлопчык выпусціць з рук ласунак, тарганула шакаладку да сябе. Светлыя, такія ж, як і ў жанчыны ўнізе, валасы яе раскудлаціліся, яна была падобна на фурыю — з пашыранымі ад гневу вачыма, з дрыжачымі вуснамі.— Забярыце,— коратка кінула яна ўніз.— Забярыце, дабром прашу!

Жанчына ўнізе глядзела ў акно не міргаючы, застарэлая пакорлівасць была ў яе паглядзе, якім яна абвяла аўтобус, нібыта просячы аб нечым. Вочы яе міргнулі толькі адзін раз — калі шакаладка пляснулася каля яе ног і лёгкі пылок падняўся над ёй, нібыта над асенняй порхаўкай, на якую наступілі зняцэўку.

Пасажыры заварушыліся, зашапацелі. Мужчына ў паласатай кашулі ціха прагаварыў да суседа: «Не дай бог, трапілася б такая жонка» — і адпіў піва з цёплай бутэлькі. Шафёр ускочыў у аўтобус, яго напарнік, што быў на месцы, завёў матор. Бабулька перахрысцілася, не адводзячы прагных вачэй ад акна. Аўтобус плаўна павярнуў, аб'язджаючы сквер. Пасажыры нейкі час яшчэ глядзелі ў вокны, пасля, калі плошча і станцыя схаваліся з вачэй, заняліся кожны сваімі клопатамі, неадабральна пазіраючы ў бок Толікавай маці.

Яна сядзела ў глыбокім задуменні.

Будзь яна жвавай, бурнай натурай, яна, магчы-

ма б, вінавaціла лёс або шкадавала б сябе, абрушвалася б на абставіны, сварылася б з «навакольнымі». Але яна толькі з гаркотай адчувала, як неўпрыкметку абрушваецца сцяна, якой яна здаўна прывыкла адгароджвацца ад любых жыццёвых праяў: цікаўнасці «навакольных», зайздрасці. Калі пасля рамеснага вучылішча ёй далі накіраванне ў гэты раённы гарадок, яна паехала з задавальненнем, з надзеяй нарэшце наладзіць сваё жыццё так, «як ва ўсіх». Модны цяпер выраз «стабільнасць натуры» быў арганічнай яе рысай, і з якой ціхай радасцю, з якой асалодай яна будавала напачатку сваё гняздо! Напачатку — пакуль, адшукаўшы яе, не прыехала ў гарадок т а я.

Убачыўшы зусім неспадзявана т у ю, Гэля, ашаломленая, ледзь не дазволіла сябе абняць — настолькі пацёртай, бясколернай і няшчаснай здалася ёй жанчына, якую яна прывыкла помніць іншай... зусім іншай! Але ў той момант, калі рукі яе самі сабой пацягнуліся да чорнага паліто з абадранай старой лісой, кінулася ў вочы прычоска — тая ж, хімічная, завіўка на жоўтых валасах,— і ёй стала млосна. Выраставўшыся пасля прыступу нудоты, яна спахапілася.

— ...Хто гэта быў? — здзівіўся Барыс, які ў дзвярах размінуўся з прыезджай.— Ну і пудзіла!

— Ды так...— яна не магла сказаць праўду Барысу, таму што бяскрыўдна зманіла яму некалі, што бацькі яе загінулі на вайне. Адкуль было ведаць, што т а я пачне яе шукаць? Трэба было апраўдвацца перад Барысам, трэба было сказаць яму, што яна — падкідыш. Нават калі б і абмінула яна тое слова, яно магло б выплыць пасля — скажам, у час нейкіх сварак. І таму яна сказала раўнадушна: — Прасіла, каб я пашыла ёй паліто... Бачыў, якое ў яе старое?

— І яна ледзь не акачурылася ад тваёй адмовы! — лёгка пасмяяўся Барыс і тут жа забыў пра

наведвальніцу, а яна адчула, як нешта падкацілася пад сэрца і балюча страпянулася дзіця (яна хадзіла тады на восьмым месяцы), і толькі слаба ўсміхнулася.

...Вуліца, забрукаваная яшчэ да трыццаць дзевятага года, закончылася, і аўтобус вырваўся на шашу. Яна зачыніла акно, пераклаўшы на калені Толікаву галаву, якога хіліла на сон. Бабулька прыадчыніла вочы, звыклым рухам намацала нешта на грудзях — відаць, хусцінку з завязанымі ў ёй грашыма — і зноў закрыла твар хустай.

«Добра цяпер ездзіць у аўтобусах! — міжволі падумалася ёй.— І Толік, дзякуй богу, заснуў».

...Некалі, у першую яе паездку, худзенькая, але даўгалыгая, яна ўпарта не змяшчалася за мяшком і кошыкам, за якімі яна хавалася ад кандуктаркі. Нейкая бабуля кінула на яе кацавейку — такую ж чорную, плюшавую — і клапатліва затуляла яе ногі чорнай паркалёвай спадніцай, але з нейкіх нябачных шчылін упарта дзьмула ў бакі, пад пахі, у спіну, і яна варушылася, дранцвеючы ад жаху, што яе знойдуць, выганяць з аўтобуса або, яшчэ горай, паведамяць у дзетдом, што выкрылі ўцякачку. Кандуктарка і праўда яе выглядзела, але чамусьці пашкадавала безбілетніцу, хаця была з выгляду суровай. Відаць, яна адчула, што ў яе, Гэлі, няма ні капейкі і што вымусіла яе ехаць без білета нейкая важная справа. Для яе ж, трынаццацігадовай тады выхаванкі абласнога дзетдома, гэта справа была самай тэрміновай і самай неадкладнай на свеце: яна ехала да маці. Праўда, упэўненасці ў тым, што маці знойдзецца па адрасе, не было: адрас быў той самай трынаццацігадовай даўнасці, у якую ўмяшчалася ўсё яе жыццё, не лічачы тых двух-трох месяцаў, якія відавочна былі пражыты сумесна з жанчынай, да якой яна ехала.

Гэлі выразна ўспомніўся пах фарбы ў напава ад-

рамантаваным кабінеце дырэктаркі Таццяны Аляксандраўны, аглушальная цішыня высокага, з чыстымі белымі сценамі пакоя. Яна ледзь не асунулася на падлогу без памяці, бо нервы яе былі і так нацягнуты, як струны. Яна прабралася ў кабінет крадком, крадком лезла ў шафу, і галава ў яе кружылася і ад паху зляжалых папер, і ад таго, што ніяк не знаходзілася папка з яе прозвішчам. Папкі ў шафе былі і ружовыя, і новенькія сінія, і зялёныя. Яе ж асабовая справа ляжала чамусьці ў жоўтай, адзінай на ўсю шуфлядку вокладцы. Цяжкая дзверца шафы гайдалася на ржавых петлях, на бліскучых чырвоных масніцах белымі паўкружкамі выдзяляўся ланцужок слядоў, а яна гартала паперкі — чамусьці з адваротнага боку, а пасля, здагадаўшыся, павярнула папку і ўпілася ў самую старую, крыху пажоўклую паперку. Вось «акт аб прыёмцы» — што яна, тара якая, ці што? А вось і заява — замусолены лісток паперы, няўпэўнены, няўстойлівы почырк: «адмаўляюся», «не жадаю», «ніякіх прэтэнзій», а ўнізе — адрас і прозвішча. Так і ёсць: прозвішча незнаёмае, яна, Гелена, носіць іншае. Вось ён, новы акт аб прысваенні ёй іншага прозвішча. Далей яна не глядзела. Далей было нецікава.

Яна паўзла да выхада, сціраючы сляды падалом сукенкі. Фарба яшчэ не ўстаялася, яна мякка ліпла да рук і да каленяў, нікеляваная ручка дзвярэй запацела ад дотыку, і яе таксама давялося выціраць. Калі яна выходзіла, на кірпічную дарожку цокнуўся бліскучы карычневы каштан, і яна апошні раз падскочыла ад страху. Але ніхто нічога не заўважыў.

...Якой дурніцай яна тады была!.. Трэба ж дадумацца — ехаць туды, адкуль цябе ўжо адзін раз выперлі! І на што было спадзявацца? На гады, якія нешта змянілі, якія маглі нешта змяніць? Яна тады

не разважала. Кіраваў ёю нейкі сляпы інстынкт, прага, якая ўзрастала з кожным годам — адкуль яна, хто яна такая, урэшце? «Падкідыш!» — аднойчы ў гневе крыкнула ёй Верка Крылова. Усе абрынуліся на Верку, цэлы тыдзень з ёю не размаўлялі ў групе — але пасля ўрэшце загаварылі, забыліся на сказанае — не забылася толькі яна сама, хаця і памірылася быццам бы з Веркай, асабліва пасля таго, як Верка ўскаламуціла аднойчы ўсю спальню. Прыснілася ёй тады ці што — але яна пасярод начы перабудзіла дзяўчат пранізлівым плачам і крыкам: «Мама! А! Ма-ама!» Нехта падбег да яе супакойваць, нехта заплакаў услед, пасля яшчэ і яшчэ... так што, калі прыбеглі дзяжурныя выхавальніцы, галасілі ўсе запар, перакрыкваючы адна адну.

Праз тыдзень яна і з'ехала, тулячыся за мяшкамі, закрываючыся андаракам спагадлівай бабулькі, у горад, што быў непадалёку ад дзетдома.

Тады была глыбокая восень, каляіны набраклі гразёй, вузкая пратаптаная сцяжынка, перарываючыся, тулілася да пацямнелых гародаў, за якімі то стаялі затуленыя брызентам стажкі, то валяўся асклізлы бульбоўнік. Дом з патрэбным нумарам яна знайшла не адразу, і пачынала цямнець, калі яна ціха ўвайшла ў двор, а адтуль — на заляпаны брудам ганак. Сэрца ў яе калацілася, каленцы стукаліся адна аб адну, рукі азалелі на холадзе, так што яна не адразу намацала ў цемры клямку. На стук ніхто не азваўся, але праз шчыліны прабівалася святло, чуваць было, як гаманілі ў хаце і рохкаў за сценкай парсюк. Яна пастукала ў дзверы, але ніхто не адказваў, мужчынскія галасы перабівалі адзін аднаго, а пасля ў іх гамонку ўплёўся жаночы альт, які зацягнуў: «Ой, хацела ж мяне маці».

Гэты голас нібы сцебануў Гэлю, рука яе сутаргава пацiснула на клямку, і дзверы расчыніліся так

імкліва і нечакана, што яна амаль уляцела ўслед за імі ледзь не на сярэдзіну хаты.

Хата была прасторная, так што святло лямпы не даставала да кутоў, але запушчаная — Гэля ўсвядоміла тое многа пазней. Тады яна агледзелася, але нішто — ні шырокія шэрыя масніцы, там-сям затрухлелыя, ні кіславаты пах аўчыны з іржавага, перакошанага ложка, ні печ з пачарнелым загнетам і прыліплым да яго курыным пер'ем — не запомніліся ёй, а толькі страшна і назаўсёды ўрэзаліся ў свядомасць тры постаці, тры твары — сівога, з агромністымі парэпанымі рукамі і хітрым цэпкім паглядам з-пад шырокага потнага лба мужчыны, другога — маладзейшага, з затуманенымі вачыма і мокрай чорнай пасмай на лбе, з бледным, бязвольным падбародкам, і яе — жанчыны.

Жанчына была тая, якую яна шукала. Нельга было сумнявацца ў гэтым, гледзячы на яе высокую, статную постаць, на вочы, крыху міндалевага разрэзу — Гэля столькі разоў бачыла яго ў люстэрка! — на жоўтыя валасы, што тонкімі кудзеркамі абвісалі на шчокі. Жанчына, шырока раскрываючы рот, яшчэ цягнула хрыплую, доўгую ноту, а Гэля, імгненна абгледзеўшы яе ўсю, чамусьці ўгледзела, як галоўнае, менавіта валасы, менавіта прычоску — хімічную завіўку, неахайную, запушчаную — якраз такая ж была ў п'янай жабрачкі, што ляжала аднойчы каля ганка іхняга дзетдома, бессаромна агаліўшы худыя ногі.

— Што табе? — заўважыўшы яе нарэшце, жанчына перапыніла спевы і, хіснуўшыся, упала на стул. Мужчыны перасталі жаваць і глядзелі на яе — маладзейшы тупа, як бы з цяжкасцю ўсведамляючы, што да чаго, старэйшы — падазрона, недаверліва.

— Я... я прыехала да вас, мама!

Апошняе слова вылецела неяк канвульсіўна, і Гэля не паспела ўтрымаць яго, але, сказаўшы, адчула палёгку, нібыта слова ляжала ў ёй каменем.

П'янаватая, бяздумная зухаватасць паволі сыходзіла з жаночага твару, цьмянелі вочы, і нейкі цёмны, пракаветны жах адбіўся ў іх, нібыта ўбачыла яна перад сабой прывід... І разам з тым — пробліск радасці, няўпэўненасці, пяшчоты. Яна хацела загаварыць, але бязгучна ўздыхнула, каўтнула паветра.

— Ма-ама? — малады мужчына трос галавой, нешта кемячы. Дзіцячая крыўда праступіла на яго няголеным, асалавелым твары.— Ты што, абдурыць мяне задумала, га? Лізавета?

Ён паспрабаваў падняцца, грукнуць кулаком, але рука яго саслізнула са стала, бутэлька ўпала, адтуль забулькацела ванючая вадкасць. Пажылы мужчына коршунам кінуўся да бутэлькі, прабурчаў нешта пагрозлівае. Жанчына як ачуняла.

Гібкім, звярыным скачком вылецела яна з-за стала і, закрываючы сабою маладога, пайшла ўперад, выставіўшы грудзі і працягнуўшы ўперад рукі з тоўстымі сіняватымі жыламі. Голас яе стаў пранізлівым і высокім, звялыя шчокі пабляднелі, і вочы заіскрыліся нянавісцю.

— Ідзі адсюль, прыблуда! Якая я табе мама?! Бач ты яе, прышукалася! Крапіўніца! Няма ў мяне дзяцей! Няма, чуеш?

Гэля павольна адступала, ашаломленая, з пустой галавой, з пустатой пад грудзьмі, не помнячы, як расчыніліся гулкія дзверы і як яна апынулася на вячэрняй вуліцы, перад брамай, за якой звінелі нейкія ланцугі, шчоўкалі засаўкі і доўга чуўся жаночы крык...

...Яна ўся перацялася, успомніўшы ледзяны холад той ночы, калі яна блукала па гарадку, спатыкаючыся аб заледзянелыя грудкі бруду, што пяшчот-

на свяціліся сіняватымі крышталямі пад лімонным серпікам ветаху. Ледзяным было неба, хмары-льдзіны раўнадушна праплывалі ўверсе, празрыста жаўцеючы, а вокны на вуліцах былі затулены драўлянымі застаўкамі, і Гэлі здавалася, што ад кожнай нясе тым жа затхлым, смуродным пахам...

На ружовую Толікаву шчаку ўпала кропля вільгаці, і яна са здзіўленнем адчула, што плача. Як усё гэта недарэчна! Яна выпрастала руку, абцерла ёю шчокі, скоса зірнула на суседку. Бабулька, аказваецца, не спала, яна сачыла за ёй маленькімі, як у мышаня, вочкамі і цяпер муляла сухімі вуснамі, нібыта збіраючыся нешта сказаць.

— Маўчыце лепей.— Гэля шморгнула носам і раззлавалася на сябе за гэта.— Бачыце, дзіця спіць.

— Я... я ціхенька...— бабулька шаптала, сухая, зморшчаная, занадта малая для вялікага аўтобуснага сядзення.— Я, ета, вось што хачу табе сказаць, дзеўка. Кацька мая... ходзіць к табе. Ты б ёй сказала, каб яна матку не надта шпургала... Яна ж у мяне баба бравая...— І тут жа, відавочна спалохаўшыся, бабулька зашамацела проста ў Гэліна вуха: — Я не скарджуся, божа крый! Проста... Я ж хутка на той свет пайду... Хочацца, каб нехта на магілку прыйшоў ды паплакаў па табе, а як жа! Для чаго ж тады на гэтым свеце так мучыцца?! Можа, ты знаеш, га?

— Нічога я не ведаю, Герасімаўна. Нічога я не ведаю...— шаптала Гэля ў адказ, баючыся разбудзіць Толіка, а нейкае, не вядомае і не спадзяванае для яе самой, шкадаванне падступала да вачэй, шчымліва і салодка ныла ў грудзях. А за акном мільгалі пожні, халоднае восеньскае сонца прабівалася скрозь заслону, і сцішана рагаталі над нечым шаферы, можа, успамінаючы, як нязграбна паднімала з пляцоўкі смешная жанчына шыкоўную блакітную шакаладку.

# ХАТА З БЛАКІТНЫМІ АКАНІЦАМІ

Вецер, бязлітасны і ўпэўнены, мёў сухі снег з пагоркаў, шкуматаў парудзелыя сцяблiны быльнiку, што тырчалі на мяжы, слаўся па полі танюткімі шлейфамі снежнага пылу. Над старой ваўкаватай хатай, што моцна ўчапілася ў пагорак, цярпліва рыпела імшыстая бяроза, доўгія, вузлаватыя яе галіны бесперастанку калыхаліся, нібыта адмахваючыся ад нечага, бачнага толькі ёй адной. Каля мяжы, з падветранага боку ўзгорка, дзе з-пад снегу вытыркаліся бітыя цаглiны і абвугленыя бярвенні, на партфеліку, пакладзеным на снег, сядзела худая даўганогая дзяўчынка ў чорным футэрку, калматай вушанцы і валёнках. Футэрка не даставала да каленькаў, і дзяўчынка сядзела, нацягваючы пацёртае крысо чырвонымі ад холаду рукамі. Позірк яе шэрых сур'ёзных вачэй быў па-даросламу цярплівы і абыякавы. Яна сядзела доўга, аж пакуль ад калгаснага свірна не заспяшалася ў гэты бок вёскі высокая жаночая постаць у мужчынскім кажуху, абвязаная ў поясе старой вяроўчынай. Спатыкаючыся на калдобінах, жанчына падыходзіла да дзяўчынкі, а тая, заслухаўшыся роўным, сумным скрыпам бярозы, нічога не чула, апроч яго, і, як спалохаўшыся, раптам ускочыла ад голасу.

— Ты што гэта ў хату не йдзеш? Ці ключа не знайшла? — цяжка пераводзячы дыханне, спыталася жанчына.— Добра, што бабы заўважылі...

— Бабуля, а чым у дзярэўні дзяцей б'юць? — пераводзячы на яе той засяроджаны пагляд, якім яна

аглядала бяскрайняе белае поле, запыталася дзяўчынка.

— А табе гэта нашто ведаць? — Старая здзівілася. Яна, нагнуўшыся, падхапіла партфелік.— Як калі! Што пад руку трапіць!

— А я сёння ў школе двойку атрымала. Мама мяне заўсёды біла рэменем...

У старой сурова сціснуліся вусны. Яна моўчкі пакрочыла наперад, размахваючы партфелем, дзяўчынка спяшалася за ёю, з цяжкасцю трапляючы ў топкія яміны слядоў. Дайшоўшы да хаты, старая азірнулася, загадала:

— Каб болей маткай яе не клікала! Твая маці шосты гадок у сырой зямлі косці парыць... Яе я ніколі не лупцавала, а на цябе няўжо рука паднімецца? Вучыся як можаш — табе жыць. Беды мучаць, ды розуму вучаць.

Ад пабеленай, з чыстай фіранкай перад загнетам печы ішоў цёплы дух, перамешаны з земляной вільгаццю, якой цягнула ад падлогі з гнілаватымі палавіцамі. Хата была акуратна абклеена газетамі, але над тапчаном, над сталом, што ледзь ліпеў, над абразом газеты палопаліся, і сухі шэры мох лез праз дзіркі.

— Лезь наверх, я сама падам кулеш! — загадала бабуля.— Толькі Мурцы не давай, а то мышэй развялося, што гароху. Я яе запесціла, Мурку. Больш нікога ў мяне не засталося, акрамя цябе ды Муркі.

— А што гэта за цагліна на нашым полі, бабуля? — пацікавілася дзяўчынка, паружавелая ад цеплыні, што магутна ішла ад печы.

Старая перастала наліваць у пашчэрбленую драўляную міску гарачы кулеш: чарпак знянацку перавярнула ў руцэ. Яна нетаропка адставіла чыгунок, пачарнелай анучай выцерла задымленыя цагліны, пасля адказала — надта абыякавым голасам:

— Ад нашай былой хаты... Той, што ў вайну спалілі.

— Гэта ў ёй мама жыла?

— У ёй.

— А хто яшчэ там жыў, бабуля?

— Хто? Яшчэ дзед твой. І дзядзька. Чаго гэта ты, Вярунька, за тыдзень упершыню так разышлася? Я ўжо пра сябе думала, што з Муркай мне весялей, чым з табой, а ты, бач, якая быстрая! — Яна падала наверх кулеш і заспяшалася: — Пайду я снапы дамалачваць, а то брыгадзір у нас — не дай божа!

Зашпіліўшы кажух, яна абвязалася вяроўкай і выйшла на вуліцу. Снег пайшоў мацней, цемра завешвала ваколіцу пакуль яшчэ рэдкай смугой, і чуваць было праз віскат і свіст сіверу, як шкраблося аб сцены студні вядро і бразгацеў ланцуг на суседнім двары, а ў другім канцы вёскі рыкала карова.

Выцягваючы ногі з гурбаў, жанчына думала пра тое, што падыходзяць ацёлы і трэба будзе адпаіць сырадоем унучку, якая пакуль не ўзяла ў рот ні кроплі малака ад іх казы; што мачыха Вяруньki, жаўтавокая, злая вяртуха, нябось, скардзіцца Вяруньчынаму бацьку на тое, што свякруха без дазволу забрала дзяўчынку да сябе ў вёску, а сама, пэўна, радуецца — пазбавілася лішняга рота. Думала яна і пра тое, ці прачнецца сумленне ў бацькі Вяруньki, пакуль што добра забытае праз жаўтавокую, пакольki не заўважаў ён ні галодных вачэй дачкі, ні цёмнасініх плямін на яе цельцы; ці стане ён падкідваць якую капейку на дачку, таму што гады ў яе, Ганны, вялікія, зарабляць працадні ўсё цяжэй, а з унучкі памочніца пакуль ніякая, рукі-ногі ў яе танюткія, як пруткі... Не выходзілі з Ганнінай галавы і пытанні ўнучкі, што неспадзявана разварэдзілі ў ёй мінулае, так што вярнулася яна ў свіран са смутным і цяжкім сэрцам. А вечарам, вяртаючыся, усё шукала ней-

кія словы, каб пагаварыць з унучкай, дзеля таго каб не баялася Вярунька яе гэтак, як баялася яна тую, чужую, нядобрую, кабету, а яшчэ дзеля таго каб даведалася ўнучка пра яе, Ганніна, жыццё, пра якое па маўклівасці сваёй яна ні з кім не гаварыла.

Але, калі яна вярнулася, дзяўчынка спала, раскінуўшыся сярод старызны, прапахлай зернем, якое нядаўна прасушвалася на печы. А раніцай унучка забылася пра тое, пра што пыталася ўчора. Прыглядаючыся да яе бліжэй, Ганна бачыла, што дзяўчынку захоплівае нетаропкая, роўная плынь сялянскага жыцця, што яна нібыта ажывае ад недзіцячага свайго задумення і ўсё часцей прападае з дому.

Зіма выдалася суровая, вядро ў пельку даводзілася спушчаць на вяроўцы — такі тоўсты лёд нарастаў на возеры. Неяк, прыйшоўшы дадому, Ганна сказала ўнучцы:

— Давядзецца нам заўтра з табой у лес шыбаваць. Брыгадзір, каб на яго немач, не дае каня, а ў нас толькі драбяза засталася.

Вярунька ўзнялася з падлогі, трымаючы ў руках самаробныя драўляныя канькі, пазычаныя ў некага з аднакласнікаў. Уздыхнуўшы, уціснула іх у партфель і пакорліва адказала, апусціўшы пушыстыя шэрыя вейкі:

— Харашо, бабуля...— у Ганны ад гэтай пакорлівасці зашчаміла сэрца, а ўнучка глянула на яе вострым позіркам і дадала ціха: — Ён... чаму нас так не любіць? Я ішла са школы, ён мяне ўсё стрыг вачамі, а пасля назад абарочваўся і зіркаў. А Пецька ягоны мне, наадварот, у школе аладку даў, яго тут жа ўсе і задражнілі: «Цілі-цілі цеста». А, бабуленька?

Вярунька ўсё часцей гаварыла так, як гаварылі ў вёсцы, і гэта забаўляла і кранала Ганну. Яна пагладзіла ўнучку па галаве, уздыхнула:

— Ён, відаць, усё Соню не можа забыць, мамку тваю. Яны ж разам у адзін клас хадзілі, якраз як вы з Пецькам. Да вайны яшчэ пакойная Агаф'я сватаць яго прыходзіла. А я ведала, што яна нячыстая на руку, значыць, і сынок не будзе чалавекам. Кажуць жа: «Не родзіць сокала сава, а такога ж чорта, як сама». Так яно і сталася: пайшоў Максім у паліцаі.

— Да немцаў?

— Нягож! Да сорак трэцяга года сядзеў у паліцыі, а як запахла гарэлым, дык нейкага чына кінуў у падводу — і да партызан. Целяшом быў той чын, а пасля паглядзелі — дужа важным аказаўся. Даравалі Максіму за яго паліцайства. Ды я хіба магу дараваць, калі Ягор з вайны не вярнуўся і Зміцер пад цягнікам падарваўся?

— Ягор — гэта дзядуля?

— Дзядуля, так... Толькі да ўнучкі не дажыў ён. Хату пабудавалі — вайна. А колькі радасці было, калі ўваходзіны святкавалі! Хіба ж мы ведалі з Ягорам, што ўвесь рубеж ёй — два гадкі? Мы было аканіцы блакітнай фарбай малявалі, а да гэтага Ягор на іх такой разьбы нарабіў — кветкі нейкія, звяры. Адкуль толькі ён набраў такіх?

Ганна не памятала, як яны з унучкаю апынуліся на доўгай лаве перад сталом і як сталася, што дзікаватая Вярунька сядзіць, прыціснуўшыся шчакой да яе андарака. Яна ўся была там, у тым часе, калі сэрца яе яшчэ не высушыла туга і яно нічога не ведала пра мяжу, накананаваную на зямлі мужу і дзецям, і час той запаліў у яе цёмных упартых вачах хісткі вільготны бляск.

— Нам з Ягорам калгас гэту хату зрабіў. Як узнагароду! Да вайны наш калгас харошым быў, крэпкім, мужыкоў было шмат. Уся вёска гэтай хаце зайздросціла, а мне найболей, таму што я з Зоркай

у Маскву ездзіла, на выстаўку. Ягору кашулю чырвоную адтуль прывезла...

— Верка-а-а! — у акно, зацягнутае белымі карунькамі інею, нехта пастукаў, і Вярунька і Ганна ўздрыгнулі, быццам ад штуршка. Вярунька ўскочыла з лавы, заспяшалася.

— Чаго табе? — непрыязна адгукнулася Ганна, але ўбачыла, што ўнучка совае ногі ў валёнкі, а на галаву цягне шапку-аблавушку, і ўстала з лавы.

— Ды ўжо ідзіце, ідзіце! Каго нячысцік у бок віламі не пароў! — махнула яна рукой на запозненую просьбу ўнуччыных вачэй. Вярунька мімаходзь падзівілася, да чаго хутка перамянілася бабуля: неяк адразу пацямнела тварам, паменшала, вусны сурова сціснуліся,— але дзяўчынку ўладна цягнула за парог, і яна толькі вінавата прыкрыла за сабою дзверы, амаль не стукнуўшы клямкай.

Неаднойчы хадзілі той зімой па дровы Ганна з унучкай, і Вярунька ўжо цягнула не адну-дзве алешыны, а набірала што паболей, і Ганна бачыла, што ўнучка набіраецца сілы, з кожным месяцам усё болей цягнецца да работы: сучыць кудзелю, лоўка ўпраўляючыся з верацяном, спрытна доіць бадлівую казу Машку. Сама ж яна адчувала, як душаць галаву нябачныя абручы, і ўсё ўспаміналася чутае яшчэ ад маці: «Што прыпасла душа, то і на той свет панясла». Разважаючы пра Вяруньку, яна баялася, што тую вернуць да бацькі з мачыхай і вочы яе страцяць бляск і нанова стануць даўнейшымі — раўнадушнымі і журботнымі.

— Што ж я пакіну табе? — гаварыла яна вечарамі, намуляўшыся на тапчане і спускаючы ногі на масніцы,— высокая, роўная, падобная ў доўгай белай кашулі на прывід.— Хіба ж гэта хата? Шкілеціна, а не хата. Даў бы бог здароўя, я ізноў бы на ферму пайшла. Можа, бацька твой што-ніштто падкі-

нуў бы. На новую хату. Ты чуеш? Спіць,— гаварыла яна з жалем і, устаючы, хадзіла па хаце, нібыта гнаў яе нейкі неадступны клопат.

Мурка сачыла зе ёй, бліскаючы зялёнымі вачыма, і пачынала церціся аб ногі, варта было Ганне спыніцца на імгненне.

— Вярунь, а, Вярунь! — клікала Ганна ізноў праз гадзіну-другую.— Ты спіш?

— Сплю, бабуленька,— сонна звешвалася з печы Вярунька.— А што?

— Табе б такую хату... з блакітнымі аканіцамі! Прасторна, як у полі! Смалой пахне — якраз як у нас на баравіне. А на аканіцах — кветкі, звяры дзіўныя, васілёчкі! І акно — каб на возера! Памятаю — сяджу з кудзеляй, а Ягор коней поіць ды ўсё сюды, на хату, пазірае. Акно ж было — як тры во гэтых, нашых. Ты сабе гэта бачыш, ну, у вачах хаця прадстаўляеш? Хату, а?

— Нічога, бабулька, я не бачу,— разважліва гаварыла Вярунька.— Кладзіся, а то брыгадзір заўтра зноў будзе лаяцца.

— Не бачыш...— з дакорам уздыхала Ганна. Доўгія яе валасы растрапанымі пасмамі віселі па плячах, і Вярунька, халадзеючы ад боязі, нацягвала на галаву цёплую пасцілку, але тут жа, нібыта дзеля таго каб упэўніцца, што гэта сапраўды бабуля, высоўвалася:

— Бабуленька, а хто тую хату запаліў?

— А эсэсы, хто ж яшчэ! Я пачула, што ўначы машыны гудуць, з печы скочыла — і да лесу! Ведала: калі карнікі — значыць, мяне не абмінуць. У мяне Ягор на фронце, а Змітра ў партызанах. Соня ў Заходняй, ведала, таксама ў партызанах была. Бягу да лесу, а ў руцэ — сякера: ну, думаю, дагоніць хто, дык нездарма жывот свой пакладу, хаця аднаго паспею... А назаўтра прыйшла — толькі адзін комін

абгарэлы. Гэта ад злодзея нешта застанецца. Ад агню ж — адно папялішча.

Яна яшчэ доўга гаварыла, але Вярунька ізноў засынала, заспакоеная, і Мурка, прагнучы цяпла, скакала наверх, на печку — толькі тады Ганна клалася дасыпаць, уздыхаючы і вохкаючы.

...За дзве зімы Вярунька выцягнулася, пабайчэла, усё часцей гаспадырала ў хаце замест Ганны, а летам хадзіла з бабамі палоць моркву і буракі ў калгасе, зарабляючы зададзеныя ім працадні. Увесну ж Ганна зусім занядужала, але калі следам за Вярунькай у двор да іх зайшоў кульгавы Хведар з канём, каб араць соткі, яна не вытрымала: цяжка ўлезла ў кажух, павязала хустку і выйшла з хаты. Вярунька, у старой сваёй футэрцы, у гумавых ботах, засяроджана рвала салому з капца, дзе ляжала бульба.

— Што, Сямёнаўна, будзем бульбу садзіць? — недаверліва гледзячы на яе, пытаўся Хведар і мацаў бліскучае лязо плуга каравым моцным пальцам. Але Ганна, не зважаючы на яго, няцвёрда пайшла па мяжы да капца, адкуль ішоў на яе сыры, застаялы дух вільготнай зямлі і прэлай саломы. Хведар, з прагнай звыкласцю ўзразаючы першы пласт баразны, скоса назіраў за вялікімі жоўтымі яе рукамі, якія спрытна і звыкла набіралі ў вядро бульбіны, сарта-валі іх. Вецер ірваў канцы яе чорнай хусткі, і Хведар, абышоўшы поле і пачынаючы другую баразну, з раптоўным холадам заўважыў, што агонь свядомасці знік у Ганны і рухаецца яна, падпарадкоўваючыся нейкай невядомай сіле, і ён болей не глядзеў у яе бок, толькі таропка і цяжка налягаў на ручкі плуга ды падганяў каня.

Назаўтра раніцай у хату зайшоў брыгадзір. Вярунька, трымаючы ў руцэ цяжкую латунную кружку, піла малако, адным вокам зазіраючы ў кніжку;

Ганна, адвярнуўшыся да сцяны, ляжала на тапчане.

— Што, ізноў свае цагліны не запахалі? А пасля будзеце скардзіцца, сотак не хапае? — закрычаў ён з парога ў спіну Ганны.— Га? — накінуўся ён на Вяруньку, усё ж пазбягаючы яе хмурнага, упартага позірку.— Што, адных вас у вайну спалілі? Га?

Ганна заварушылася, спрабуючы сесці, але не змагла прыўзняцца і каменна перавалілася на левы бок. Цёмныя ліхаманкавыя яе вочы здзіўлена глянулі на брыгадзіра.

— Бо там жа... хата стаіць...

Абое — брыгадзір і Вярунька — адначасна перавялі пагляды на акно, дзе над чорнай зямлёй, над шэрым быльнягом паволі клубіўся туман, а пагорак адзінока і ўпарта тырчаў пасярэдзіне, і з чырвона-чорных яго цаглін цягнулася ўверх, як абрубленая рука, абгарэлая бэлька. У брыгадзіра таргануліся гладка выбрытыя скіўіцы, вочы злосна слізганулі па Ганне, некалькі доўгіх імгненняў углядаліся ў яе паружавелы ад гарачкі твар, нязвыкла малады. Пасля, быццам нешта зразумеўшы, ён адступіў назад. Усмешка, міжвольная і ад таго асабліва жудасная, усё шырылася і шырылася на ягоным твары, збіраючы на худых сіняватых шчоках глыбокія маршчыны і адкрываючы дробныя жоўтыя зубы.

— Ніякай хаты там няма, старая...

— Ты што, Максім? Ты што, ці не бачыш? Вунь яна, хата! — яна выцягнула касцістую руку.— Мы яе з Ягорам для Вярунькі паставілі. Ягор, ён усё можа... Помніш, як ён мяне з Чарнабылак на руках нёс? Я Соньку тады чакала...

— Няма твайго Ягора! Няма яго! І Соньку не дачакаешся! За гарадскога зяцька аддала — дзе цяперака Сонька?! — Яго калаціла, вочы шалёна пашырыліся. Ён равёў дыханне, усхліпнуў: — Нічога там няма... Адзін туман...

— А вот і ёсць,— ціхенька прашаптала Вярунька. Цяжкая кружка ў яе руках дрыжала, гарачыя хвалі ўспыхвалі і гаслі ў лёгенькім, яшчэ дзіцячым целе, і вочы яе, сустрэўшыся з позіркам брыгадзіра, прайшлі праз яго, асветленыя нясцерпным, здзіўленым святлом: — І аканіцы ў яе блакітныя, у хаты...

— Бачыш, Максім? А ты што мне кажаш...— мудра і насмешліва ўсміхнулася Ганна, стомлена закрываючы вочы.— Ідзі ад нас з богам. Ідзі...

Брыгадзір злосна выцер вока кулаком, шырока ступіў за парог, з сілай кінуўшы назад дзверы.

Вохравая гліна цяжка ліпла да яговых ног. Туман цягнуўся ўверх і ўбок, да лесу, падмінаючы вільготныя тлустыя пласты зямлі, калыхаўся над ярам. Халодная, пранізлівая чырвань ляжала на гарызонце вузкай, як меч, лініяй, і чорныя постаці на краі вёскі таропка ішлі ёй насустрач. Брыгадзір не адразу зразумеў: гэта спяшаліся ў школу дзеці...

# НЯВЕСТА

Малады вясёлы дождж скакаў па светлых бетонных квадратах плошчы, бурбалкамі пузырыўся ў газонах з кветкамі, гулка малаціў па дахах новых невысокіх дамоў, што роўнымі шэрагамі адыходзілі ад плошчы ў трох напрамках, губляючыся ўдалечыні між каржакаватых немаладых соснаў. Галоўная ж вуліца, што падыходзіла амаль да самага возера, крута паварочвала направа і ператваралася ў цёмна-сінюю гладкую стужку шашы, якая плаўна агібала возера і вярталася да аўтастрады.

У адным з дамоў на апошнім, трэцім, паверсе гаспадарылі дзве жанчыны, гаспадыні двухпакаёвай кватэркі — санітарка раённай бальніцы цётка Паліна і медсястра гэтай жа бальніцы Алена Аляхновіч. Алена, высокая бландзінка з шырока расстаўленымі, крыху соннымі вачыма, у новым квяцістым халаце, надзетым паверх бліскучай блакітнай сукенкі, часта выглядвала ў акно і, дробненька наразаючы агуркі для салата, апавядала:

— Ён Мішку адцягнуў, узяў мяне за руку, падняў і гаворыць: «Не дам яе ў крыўду». Смешна так, «у клыўду»,— ён картавіў да шостага класа,— «таму што яна — мая нявеста». Так і пайшло — «нявеста» ды «нявеста». Спачатку ў дзетдоме пасміхаліся, пасля прывыклі. Ой, цёця Паліна, бульбы каб малавата не было! Ён жа з такой дарогі! Франкфурт-на-Майне — чулі пра такі горад?

— Ды ўжо ж дзе-небудзь далі яму паесці,— спрытна абіраючы бульбу, гаварыла Паліна, кабета

пад пяцьдзесят, бураваты маршчыністы твар якой рэзка адценьвала белая накрухмаленая хусцінка, што шчыльна абхоплівала яе галаву, хаваючы рэдкія пасмы попельна-сярэбраных валасоў. Алена некаторы час бяздумна глядзела на вялікія, разбітыя доўгай, цяжкай працай рукі санітаркі і пасля зноў пачынала расказваць, можа, у які соты раз:

— Я так плакала, так плакала, калі Генка сабраўся туды ехаць! Усё, думаю! Забудзе ён мяне. Што я — простая медсястра. А ён жа такі здольны! Іх толькі двух з Ляшкевічам пакінулі ў дзесяцігодцы, спецыяльны загад гарана быў. А астатніх — каго куды: у рамеснае, у вучылішчы. Мяне Лідзія Дзмітраўна прывезла ў медыцынскае... Мне яна так сказала: «Ты ніколі не памылішся, хворыя за табой будуць, як за сцяной». А я спачатку не надта хацела гэтай медыцынай займацца...

— Ну і дурніца была! Самы лепшы кавалак хлеба. Што табе — разнось пілюлькі ды тыцкай шпрыцам.— Паўліна асцярожна падабрала са светла-шэрага лінолеуму шалупінне, паклала на газету.

— Цётачка, вы толькі пры Генку не лайцеся, добра? — Алена заружавелася, зноў выглянула ў акно.— Ён усё-ткі ў нас.. іншаземец цяпер. Ой, гляньце, таксі! Сюды кіруецца!

— Не шкада ж яму грошай на таксі! — Паліна дакорліва паківала галавой, сабрала смецце, стала акуратна падціраць кухню, шоргаючы чырвонымі тапачкамі.

— Грошай у яго цяпер хапае...— Алена чамусьці ўздыхнула, правяла левай рукой па прычосцы, укладзенай нядаўна ў цырульні, села на табурэт.— У яго-нага бацькі там цэлая фірма. Нейкія прыборы робіць, тысячамі варочае...

— Ну вось і будзеш там... фрау-мадам...— цётка Паліна чамусьці таксама ўздыхнула.— Ты тут стаў

бульбу, а я пайду ложак у сябе прыбяру. Ён, нябось, тут будзе начаваць, твой фон-барон? Ці, можа, адразу схопіць цябе і ў Маскву пацягне? Колькі не бачыліся — чатыры гадкі? Эх, дзеўка, дзеўка! Сваіх табе не хапае!

— А ён чужы, па-вашаму? — крыкнула Алена ў спіну жанчыне.— Ён — не свой?! Я з ім сем гадоў плячо ў плячо на парце сядзела!

Але Паліна ўжо была ў сваім пакоі, і Алена, седзячы на табурэце пасярод гладкіх кафляных сценак, адчувала незадаволенасць і крыўду. Год яны пражылі з Палінай суседкамі і, здаецца, зжыліся: хадзілі разам у раённы Дом культуры, дзе Паліна пасля кіно адшывала Аленіных кавалераў, па вечарах сядзелі перад старэнькім тэлевізарам і лагодна пілі чай. Негаваркая, замкнёная, Паліна паволі адтавала ў зычлівай атмасферы першай у яе жыцці ўласнай кватэры і Алену ўсё болей успрымала яна не як саўладальніцу гэтай кватэры, а як свайго чалавека, якому і перадавала патроху крупіны нялёгкага свайго жыццёвага вопыту. Яна не стамлялася бясконца слухаць пра ўсе акалічнасці адзінага ў Аленіным жыцці рамана, зычліва аддавала ёй лісты з яркімі замежнымі маркамі і, магчыма, ціха радавалася таму, што маладая яе суседка не спакушаецца ніводным з бліскучых раённых донжуанаў і не мае сябровак, якія б бесцырымонна ўрываліся ў невялікае іх жытло, абклеенае жоўценькімі шпалерамі. Алена разгублена ўспаміпала цяпер, паклаўшы на калені вільготныя, з яркім манікюрам рукі, як слухала Паліна ліст ад Генадзя, у якім ён пісаў, што атрымаў дазвол на шлюб з ёю і хутка прыедзе ў Саюз. Спачатку вусны яе былі недаверліва і гняўліва сціснуты, пасля, зірнуўшы на яе, Алена спалохалася: шэрыя, пачырванелыя вочы хуценька міргалі, ніжняя сківаца дробна дрыжала. «Цёця, што вы?» — яна кінула на стол ліст, падха-

піла Паліну пад пахі і пацягнула яе да ложка. Але Паліна вырвалася, прамармытала: «Нічога, старая кабыла ўжо, вось і занядужала» — і пайшла да ложка сама. Цэлы вечар яна праляжала, адвярнуўшыся да сценкі, і толькі драпала жоўтым ад курыва пазногцем па шпалерах.

Дождж пераставаў. Імкліва святлеў небакрай, хмары акраіліся золатам, і сонца, выскачыўшы з-пад сіняй смугі, што навісла над возерам, сыпнула на гарадок жмені вясёлых зайчыкаў. Цяжкая, тоўстая вясёлка амаль рэльефна выдзялялася на чыстай роўнядзі вады, лёгкая пара закурылася над плошчай, і далёка-далёка на гарызонце бліснула апошняя маланка.

Алена ўскочыла, замітусілася на кухні. Запаліла газ, паставіла гатавацца бульбу і, зноўку глянуўшы ў акно, войкнула: зялёная «Волга» стаяла на самым павароце з аўтастрады і нейкі дзядок, нагнуўшыся да шафёра, тыцкаў рукой у іхні дом.

— Цёця Паліна, гэта ён, пайшлі сустракаць! — закрычала яна на ўвесь дом, і здымаючы халат, ніяк не магла трапіць нагою ў чорную пантофлю, пакуль, кінуўшы халат, абедзвюма рукамі не насадзіла яе на ступню, і кінулася ўніз па лесвіцы, ледзь не збіўшы доктара Рымшу, што выходзіў на прагулку. Машына, уся абсыпаная буйнымі кроплямі дажджу, павольна пасоўвалася да пад'езда, і дзяўчына міжволі нахілялася ўніз, нібы баючыся, што не разгледзіць адзінага пасажыра, што нецярпліва, яшчэ на хаду, адчыняў дзверцы таксі.

...Ці пазнае яна яго, таго Генку, упартага крапака ў жоўтай дзетдомаўскай футболцы, што напаказ ёй ідзе басанож па снезе і смяецца ва ўвесь свой вялікі рот? Генку, які, лежачы на канапе, бессаромна агаляе сцёгны, размаляваныя чырвонай крэйдай: «Вучыся, дзе трэба рабіць уколы», Генку, што нясе

ёй на дзяжурства пярэстую ад тлустых плямаў майку, у якую завязаны торт, спечаны кухаркай для нейкага высокага начальства, якое прыязджае ў дзетдом...

...Яна гатовая да ўсяго, і ўсё ж напачатку гэты новы Генка здаецца ёй незнаёмцам: выфранчаны хлопец з роўным праборам на галаве, у белай, як кіпень, кашулі, у дарагім шэрым касцюме з гальштукам-бабачкай. Але ён усміхаецца, і ўсмешка яго вялікага рота тая ж, што ў даўнішняга Генкі: асіметрычная, правы куток вуснаў вышэйшы за левы з-за шрама, амаль ужо непрыкметнага, а вочы жмурацца, як быццам бы нявінна, але стоена-хітравата, і тады Алена кідаецца насустрач і дранцвее, абхапіўшы Генкавы плечы і ўткнуўшыся тварам у ягоную шыю. Скрозь пах адэкалону, цыгарэт і тонкай шарсцяной тканіны патыхае на яе знаёмым цяплом, і на імгненне ёй здаецца, што не было ніякай разлукі, а проста прыехаў у бальніцу стомлены Генка ў таннай паркалёвай кашулі з адарваным гузікам, які яна пачне прышываць тут жа, на дзяжурстве...

І вось ужо гудзе застолле, палова медыцынскага персаналу раённай бальніцы сядзіць у Аленіным пакоі, сядзіць тут нават дзяжурная акушэрка Ала Іванаўна, строга-настрога наказаўшы шафёру ў выпадку чаго імчацца за ёй па Аленіным адрасе. Ала Іванаўна не п'е. Яна магла б прыйсці і заўтра, ды прагная жаночая цікаўнасць выгнала яе з дзяжурнага пакоя, каб паглядзець на амаль што легендарнага Аленінага жаніха, якога гэтая ціхоня ўсё-ткі дачакалася, усё-ткі завабіла! Ала Іванаўна нічога не мае супраць Алены, яна нават радуецца яе шчасцю, толькі не можа дараваць ёй шыкоўных туфель і касцюмчыкаў, што прысылаў час ад часу Генка, і цяпер яе мучыць раздваенне ўласнай натуры, настолькі мучыць, што яна не заўважае нават таго, што яе сусед

доктар Рымша адпраўляе ў рот пяты бутэрброд з чырвонай ікрой, а жаніх, наадварот, умінае вэнджаных вугроў, якіх ловяць і гатуюць тутэйшыя рыбакі.

Алене ж ежа не лезе ў рот, яна адчувае плячом плячо Генкі і шкадуе, што не пасадзіла яго далей, каб разгледзець як след. Усё-ткі ён перамяніўся: дзве жорсткія складкі залеглі каля вуснаў, пагусцелі роўныя русыя бровы, ледзь улоўна намеціліся залысіны. Пакуль жаніх расказвае нешта пра Франкфурт-на-Майне, яна поркае відэльцам у капусту і зусім не да месца ўспамінае, як, прыязджаючы на канікулы ў дзетдом, яна працавала выхавальніцай, а Генка быў яшчэ вучнем і выпрошваў у яе грошы на цыгарэты.

— Аленькая кветачка,— ныў ён пад акном,— Аленка! Я дам распіску! З першай жа зарплаты куплю табе залаты пярсцёнак! Эх ты, нявеста! Глядзі, я магу і не ажаніцца з табою!

Яна ніколі не магла ўстояць перад ім, і ўсё-ткі, можа, якраз яе спакойны, разважлівы характар, яе ўтульнасць і дамавітасць сталі для яго нейкім вечным прытулкам, рэальным сімвалам устойлівасці, да якога ён вярнуўся, хаця, калі бацька, так нечакана знойдзены, выклікаў яго праз Чырвоны Крыж у ФРГ, ён амаль забыўся на яе, захоплены нечаканым паваротам свайго лёсу. Дакладней, быў знойдзены сам Генка, уроджаны Кляйнміхель, адзіны атожылак дрэва, амаль што выпадкова забуялы на далёкай ад каранёў самога дрэва зямлі. «Мой бацька быў сціплым камерсантам»,— напісаў Генадзь у лісце. Алена верыць у гэта. Хіба аддалі б Генку таму камерсанту, нават дзякуючы самому Чырвонаму Крыжу? «Але навошта аддалі?» — прыходзіць ёй у галаву думка, якая ўсе чатыры гады псавала ёй кроў, і непатрэбная, зусім недарэчная тая думка прымушае яе цясней туліцца да Генчынага пляча, чаго ніколі

з ёй не бывала, непрыкметна прыкладаць руку да сэрца, якое — зноў жа недарэчы — пачынае шчымець і шчымець, асабліва пасля таго, як дзяўчына заўважае гаспадарскі пагляд яе напарніцы Наташы, якім тая абводзіць пакой. «Усё правільна,— суцяшае сябе Алена.— Наташа атрымае мой пакой, яна ўжо два гады на чарзе. Што мне, шкада, ці што? Ужо і разлік атрыманы, ужо прызначана гадзіна шлюбу і ў пасольства запрошаны госці».

Але цвярозыя Аленіны развагі не дапамагаюць: сэрца не перастае ныць, і ёй даводзіцца выйсці з-за стала і ўзяць у тумбачцы цёткі Паліны таблетку валідолу. Яе выхад служыць сігналам, што час разыходзіцца. Ужо даўно наступіла ноч, госці стараюцца ісці ціха, маладыя махаюць ім з балкона, азалелыя ад прахалоды, якая патыхае ад агромністага возера, і Генадзь з захапленнем пазірае на чыстую белую плошчу, шумлівыя таполі за ёй і ўпаўголасу кажа Алене:

— Даўно не дыхаў такім паветрам! Няма часу на курорты. Табе пашанцавала, што накіравалі сюды. І мне пашанцавала — тыдзень адпачываць у такім месцы! Адно возера чаго варта!

Алена заўважае, што гаворыць ён з лёгкім акцэнтам, і туга ахоплівае яе ўсё мацней. Яна стараецца быць вясёлай, але нешта сутаргавае ў яе рухах, і сутаргава вырываецца пытанне, якое зусім не хацела задаваць:

— Ты... у маім пакоі будзеш начаваць?

— Так,— спакойна адказвае Генадзь, нібыта не заўважаючы яе хвалявання.— Вы з Палінай... э... Сцяпанаўнай будзеце ў тым, а я лягу тут.

Алена і ўзрадавана, і разам з тым нейкае цьмянае пачуццё крыўды ахоплівае яе. Няўжо яна разлічвала на нешта іншае? Генка бярэ яе за плечы, касыча вуснамі шчаку:

— Усё будзе як трэба... Я хачу, каб ты была сапраўднай нявестай... Я пачакаю... Так, Ленхен?

Алена не адразу пазнае сваё імя. Вецер прахалодны, шарсцяная хустка на плячах не ратуе. Яшчэ толькі канец красавіка, першым маладым лістам на таполях таксама холадна. Яны ўдваіх з Генадзем ідуць з балкона, а ў вушах яе малаточкамі гучыць «Ленхен», і ёй хочацца ні то плакаць, ні то смяяцца, ні то бегчы зараз да возера і блукаць па яго беразе, чаго ніколі не хацелася ёй рабіць у адзіноце! А больш за ўсё ёй хочацца, толькі яна саромеецца ў тым прызнацца і зараз жа адпрэчвае тую думку, застацца з Генадзем у сваім пакойчыку, абняць яго, туліцца да яго мацней і мацней. Яна апускае вочы, каб ён, крый божа, не прачытаў тых думак, ды нешта, відаць, праступае ў яе твары здрадніцкае, патаемнае, таму што ён беражліва кранаецца вуснамі яе валасоў і суцяшальна гаворыць, нібыта гушкаючы:

— Ну, ну, Ленхен, усё будзе добра, паглядзіш.

Яна ляпеча, стоячы ў дзвярах:

— Мне... я баюся, Геначка! Усяго баюся!

— Мяне ж ты не баішся...— паблажліва-ласкава гаворыць ён, і на твары яго праступае перавага — перавага мужчыны над заўсёднымі жаночымі страхамі і асцярогамі, і яна пакорліва ідзе да цёткі Паўліны.

Цётка Паўліна дзівіцца, бачачы перад сабой Алену, але маўкліва сцеле абедзвюм на канапе, таму што ложак у яе вузкі і жорсткі. Яны ўкладваюцца моўчкі, таму што ў Паўліны такі суровы і непрыступны выраз твару, які бывае ў яе толькі пасля чарговага «наганяю» галоўурача.

Чутно, як Генадзь ідзе ў ванную, як цурчыць вада; праз дзверы прабіваецца чырванаватае святло абажура з суседняга пакоя, а зоркі, што заглядаюць

у шыбіну, такія буйныя і калматыя, што здаецца — яны зараз прадзіравяць акно. Алена некаторы час глядзіць на іх, спустошаная і стомленая ад нематы, а пасля засынае адразу ж і ўжо не чуе, як варочаецца і ўздыхае Паўліна, а Генадзь асцярожна выходзіць на балкон і доўга стаіць там, углядаючыся ў цемру.

Назаўтра прыходзяць новыя госці, Генадзь дастае з чамадана новыя банкі з ласункамі, а Алена абірае бульбу і носіць з балкона капусту і грыбы, насоленыя з восені ў дзвюх тоўстых бочках.

Паўліна прыходзіць з работы позна, калі ў кватэры ўжо прыбрана і пуста, а ў Алены і Генадзя пачырванелыя шчокі і хмельныя вочы, і абое збянтэжана касавурацца адзін на аднаго. Генадзь, аднак, трымаецца малайцом: ён дапамагае Паўліне зняць плашч, праводзіць яе на кухню, дзе стаіць напаўпустая пляшка з нейкай мудронай этыкеткай, і зноў садзіцца за стол. Алена ідзе адпачываць, пасля садзіцца ў кухні на табурэт і моўчкі глядзіць у акно, за якім зноў ідзе дождж — не ўчарашні, вясёлы, а занудлівы, доўгі, ад якога светлая плошча выглядае на дзіва пахмурна і сумна.

— Заўтра радуніца,— паведамляе нібы між іншым Паўліна. Алена робіць выгляд, што не чуе. Затое Генадзь цікавіцца:

— Што гэта такое?

— Вельмі вясёлае свята — дзень, калі Паўліна з раніцы да вечара сядзіць на могілках,— тлумачыць Алена.— Мы пра яго і не чулі ніколі, я сама толькі тут пра яго даведалася. Тут, у Заходняй, у гэты дзень на могілках — як у РДК! Пойдзем заўтра на танцы — паглядзіш: нікога не будзе, культработнікі толькі ў поўным складзе.

— Не смейся, дзеўка,— падае голас Паўліна.— А табе калі цікава, Геня, схадзі на могілкі, схадзі!

Будзе пра што расказаць, калі вернешся... дадому.

— Ой, як я стамі-іласяǃ — цягне Алена і ўстае з табурэта.— Гена, і ты ўжо добранькі. Пайшлі. Табе адпачываць трэба...

...З раніцы свеціць сонца, і прыбітая ўчарашнім дажджом трава пругка выпростваецца, асыпаючы на зямлю бліскучыя дажджынкі. Вільготны пясок абсыпаў бліскучыя Генадзевы камашы, Аленіны боцікі ў твані: яна аступілася з кладкі. Маладыя гуляюць, трымаючыся за рукі, ідуць па шашы ўздоўж возера. Шаша пустая, машыны тут рады ў гады: дачны сезон не пачаўся; вярба яшчэ не скінула пушыстыя каташкі, і пчолы лянiва кружацца над імі, стомленыя пералётам праз шматкіламетровую роўнядзь вады. Пахне прэлым лісцем мінулай восені, водарасцямі і, на прыгорках, цёплай зямлёй, а калі яны праходзяць праз лес — жывіцай. Яны гуляюць доўга, да знямогі, а калі вяртаюць назад, сонца хіліцца на спад і штык на Кургане Славы адкідае доўгі клінападобны цень — яго не было ці проста яны не заўважылі, праходзячы тут раней.

— Назаўтра сюды зноў прыбіральшчыц пашлюць,— заўважае Алена.

— Чаму? — не адразу цікавіцца Генадзь. Выгляд у яго асавелы, ён нібыта разамлеў ад вострага чыстага паветра.

— Кожны раз на радуніцу сюды наносяць яек, чарак. Ведаеш, на могілкі прыходзяць — нясуць крупеню, гасцінцы, так і сюды. Там, у агароджы,— яна паказала рукой наверх,— Невядомаму салдату помнік. Хочаш, пакажу?

Яна хутка спяшаецца наверх. Генадзь неахвотна ідзе за ёю. Курган высокі, яны паспяваюць добра задыхацца, пакуль дабіраюцца да высокай бетоннай агароджы, з супрацьлеглага боку якой прымацаваны штык. Яны спыняюцца глытнуць паветра, і ў той жа

момант абое чуюць ціхі, здушаны плач, асцярожна падыходзяць да ўвахода і зазіраюць усярэдзіну.

Перад барэльефам юнака ў салдацкім шынялі стаіць цётка Паўліна. Унізе, бліжэй да сцяны, ляжаць чырвоныя і жоўтыя яйкі, стаіць чарка, нахіленая падобна Пізанскай вежы, так што невядома, як яна трымаецца на жорсткім асфальце. Цётка Паўліна выцірае вочы белай насоўкай. Белая накрухмаленая хусцінка па-ранейшаму шчыльна ахоплівае яе галаву, ружовы вышыты хвартух надае яе постаці святочны выгляд. Вышыты рушнік выглядае з чорнай гаспадарчай сумкі, што прытулілася да сцяны.

— А мой жа ты міленькі-і,— ціха галосіць цётка Паўліна і зноў выцірае вочы.— А мой жа ты саколік, родненькі! Сыночак ты мо-ой...

Маладым, што стаяць за сценкай, робіцца ніякавата, і яны пачынаюць хуценька спускацца. Ужо ў канцы сцяжынкі Алена спыняецца і задумліва глядзіць уверх:

— Слухай, у яе ж муж у вайну загінуў. Муж! А яна пра сыночка гаворыць.

Генадзь маўчыць, ён спрабуе завесці размову аб нечым іншым, ды Алена занята сваім:

— Гена! Можа, яна па ўсіх плача? Па ўсіх! Па мужу свайму, па дзецях чужых. Па ўсім свеце! Усё людское гора выплаквае, а? Як ты думаеш?

Яна нават радуецца, што ў яе нечакана атрымліваецца так складна, і зазірае ў твар Генадзю. Але твар аддалены, шэрыя вочы глядзяць спакойна і халодна:

— Даўно трэба забыць усё гэта. Колькі можна мусоліць адно і тое ж!

— Дык яно ж не забываецца, Геначка,— проста гаворыць Алена.— Як яго забудзеш? Я на Дзень Перамогі абавязкова сюды прыходжу. Тут столькі людзей. Кожны год артысты прыязджаюць, франтавікі

былыя. Мой бацька таксама недзе загінуў. Як пра гэта забудзеш?

— Вайна ёсць вайна. Ахвяры ў ёй непазбежны. Трэба забываць на гэта, асабліва нам з табой. У нас не любяць успамінаць пра вайну... І прытым, што такое нейкая асобная страта перад ходам гісторыі?

— Што ж, ходу гісторыі абавязкова патрэбна было адабраць ад Паўліны яе мужа, а ад доктара Рымшы — адзінага сына, а ад мяне — бацьку?

— Ленхен, не філасофствуй. Ты — жанчына. Твая справа — не ўмешвацца. Ці ты, можа, за маю адсутнасць так паразумнела? Я, дарэчы, таксама меў ад гэтай вайны, як кажуць, маленькую непрыемнасць. Маю маці забіў снарад, а бацьку кантузіла, так што ён цяпер інвалід. Дарэчы, усё гэта адбывалася тут, каля граніцы. Але ж змог падняцца над сваімі клопатамі, над горам, калі хочаш.

— Я не магу з табой спрачацца. Ты заўсёды мяне перамагаў. Адна толькі просьба, калі ласка. Ты можаш адзін пайсці дадому?

— Навошта? — ён здзіўлена перасмыкнуў плячыма.

— Ну проста... Я прашу цябе. Я хутка прыйду. Пачакаю Паўліну. Яна такая слабая...

Яна ўпрошвала, адводзячы ад Генадзя вочы, ёй хацелася хутчэй выправіць яго... хутчэй, пакуль не выйдзе Паўліна.

Ён сумна ўсміхнуўся, пайшоў па дарозе, насвістваючы марш. Азірнуўся, памахаў ёй рукой. Яна чакала, пакуль ён не схаваецца за прыдарожнымі вербамі, пасля хутка пайшла, ледзь не пабегла ў супрацьлеглы бок.

У ляску было ціха, каржакаватыя сосны толькі пачалі выпускаць новыя светла-зялёныя парасткі, маладыя ландышавыя лісты высока выглядалі з травы, шчыльна згорнутыя ў трубачкі, пахла кволая зе-

ляніна бяроз. У прагале віднелася возера. Мяккая цёплая смуга калыхалася над ім, астужаючы гарачыню ціхага пагорка, на самай вяршыне якога шапацелі калматыя ліловыя званы.

Алена глядзела навокал прагнымі вачыма, нібыта ўпершыню бачыла і лес, і возера, і пагорак. «Няўжо я люблю ўсё гэта? — думалася ёй.— Люблю — гэта, відаць, не тое слова. Проста мне здаецца, што калі я паеду адсюль — я памру. А Генадзь? Няўжо я не люблю Генадзя? Што здарылася, чаму мы ўсе гэтыя дні з ім — нібы чужыя? Што мне рабіць? Што б ні сказала яму, усё — не тое, нібыта я іграю некага, нібыта і перад усімі я іграю нейкую ролю... Нявеста — вось мая роля. А што пасля? Пасля — якую ролю мне давядзецца іграць?!»

Яна легла на ўзгорак, шчакой прыціснулася да шурпатай, гарачай яго паверхні, паспрабавала вырваць кветкі сон-травы. Ліловыя званкі ўпарта хісталіся ў яе пальцах, не паддаючыся; зверху, прабіваючыся праз крону сасны, легла на яе спіну гарачая чырвоная далонь сонца.

# ДВАЦЦАЦЬ ХВІЛІН З НЕМЕЗІДАЙ

Гэты дзень быў такі ж, як і папярэднія. Я ціха прыбрала ў кватэры, выцерла кнігі на паліцы, пасля паехала да краўчыхі. Трэба было б зазірнуць у бібліятэку — я даўно не бачыла навінак, але Вера прызначыла час, а яе час быў абмежаваны: добрых краўчых куды меней, чымся нас, жонак, хатніх гаспадынь. Не паспела зняць паліто — пазваніла Таццяна, таямнічым шэптам падзялілася навіной — у яе завёўся «мілы друг», ёй патрэбен рэцэпт якой-небудзь маскі.

Пакуль пагаварыла з Таццянай, сцямнела, і цяпер заставалася толькі згатаваць вячэру, перамяніць халат на сукенку, уладкавацца на канапе і чакаць Сяргея.

Я чытала новы раман Гессэ, а ў галаве круціліся яшчэ і лянівыя думкі пра дачку, якую на канікулы забрала ў Маскву маці, і пра мужа, якому паспела разы тры пазваніць на тэлестудыю і крышку пасварыцца — з-за нейкай драбязы. Спакойна цікалі два гадзіннікі, дамавік, мабыць, спаў лагодным сном у нейкім сваім гняздзе за шафай, і раптоўны званок трывожна і злавесна ўварваўся ў цішыню. Званілі з бальніцы. Малады дзявочы голас кінуў мне:

— Ваш муж прасіў пазваніць. Ён у аперацыйнай. Не хвалюйцеся!

Я ледзь паспела спытаць у яе нумар бальніцы, і яна гахнула трубкай. Тут жа я атрымала і новую вымову — ад дыспетчара таксі, які не разумеў назвы нашай вуліцы....

І толькі амаль у непрытомнасці апрануўшыся, зачыніўшы кватэру і выбегшы на двор, я здзівілася таму, што тэлефонны званок з бальніцы абрынуўся на мяне, як шматтонны вадаспад, пад які трапляе неасцярожны плывец. Прынамсі, я трымалася на нагах, з гарачкі, не болей хвіліны, а пасля знясілена асунулася на драўляную лаву, дзе вечарамі любяць сядзець пенсіянеркі з нашага пад'езда, нястомна перамываючы костачкі бліжнім.

І ўсё ж горача пякло ў грудзях, падступала да сэрца. Што гэта са мной? Няўжо я так баюся страціць Сяргея?

За Сяргеем я — нібы за каменнай сцяной. Так гавораць мне ўсе знаёмыя, так сцвярджае сам Сяргей. Нарэшце, гэта ведаю я і сама. З якога пункту гледжання ні паглядзі — мой шлюб аказаўся ўдалы. На дзіва ўдалы. Проста на дзіва.

Што гэта так доўга няма таксі? Колькі там ужо прайшло? Тры хвіліны? Не можа быць! Хутчэй бы давесці ўсё да поўнай яснасці. Усё-ткі ёсць жа нейкая небяспека! Удавой я не хачу заставацца. Ні ў якім разе! Б-р-р! Сяброўкі прыводзяць да цябе лысаватых мужыкоў, якія грэбліва п'юць чай і разважаюць пра вершы Ясеніна, абмацваючы цэпкімі вачыма ўсе падрабязнасці тваёй фігуры і прыкідваючы варыянты сумы тваёй і ягонай жыллёвай плошчы. Тыя ж сяброўкі сякуць вачыма кожны твой рух, а таксама і кожны рух сваіх уласных гаспадароў — калі ты па наіўнасці або глупству адгукнешся на іхнія запрашэнні і пойдзеш святкаваць, скажам, Новы год у кампанію жанатых людзей. ...Не! Ні ўдавой, ні разведзенай быць я не хачу — досыць нагледзелася. Жанчыны дабіваюцца самастойнасці ўсімі сваімі сіламі. Пасля гэтыя барацьбіткі абліваюць слязьмі тваё плячо і гадзінамі вісяць на тваім тэлефоне, молячы памірыць іх са сваімі новымі Атэла,

якіх яны ўрэшце кідаюць, каб шукаць чарговую чулую душу. Усе гады свайго шчаслівага сямейнага жыцця я старалася агарадзіць сябе каменнай сцяной: парады вам — калі ласка! Рэцэпты страў, касметыкі, усялякага шытва — калі ласка! Але не хачу я лезці ў вашы душы і не хачу, каб вы лезлі ў маю. Напачатку, праўда, я рабіла такое глупства: мірыла некага, ездзіла, даказвала. Адну чуллівую дамачку з кінастудыі пакідала ў сябе начаваць, суцяшала яе. Халацік свой давала ёй, сарочку начную, супчыкі варыла для яе спецыяльныя — курыныя. Ажно пакуль Светачка не пачала шукаць суцяшэння яшчэ і ў Сярожы. Не, скандалу я не чыніла: не стану ж я даваць хвіліны шчасця цёцям Гашам з лавачкі! Я акуратненька сабрала яе шмоткі — Сярожы дома, дзякуй богу, не было — і далікатна выставіла чамадан за дзверы. Светачка глядзела на мае кіпцюры — і маўчала. Вейкі яе так і трапяталіся, наманікюраныя пальчыкі дрыжалі, а твар збялеў, ад чаго ён выглядаў на дзіва натхнёным. Божа мой, чаму ёй так падабаўся Сяргей?

Я завагалася на імгненне: а раптам тут каханне? Я, можа, так зачарсцвела, што не разумею парыванні кволага сэрца? Пасля я ўспомніла пра Евачку, Яўсцісю і зноў заледзянела, зноў ператварылася ў матрону: Евачку без бацькі не пакінеш. З таго часу сябровак я не заводжу.

Увогуле, жанчын я не люблю. Можа, з таго часу як, стараннямі мамы трапіўшы ў інстытут кінематаграфіі, сутыкнулася з сірэнамі, якія лютавалі не горш, як тыгры. Канечне, я і сама ведала, што апынулася не там, дзе павінна была б апынуцца,— але бяздарнасцей хапала і сярод іх. Мая ўсемагутная мама націскала дзе трэба, і я перапаўзала з курса на курс, а мае інтэлектуальныя, звышразумныя аднакурснікі толькі паціскалі плячыма і хіхікалі, калі

я блытала Эйзенштэйна з Эйнштэйнам. Праўда, на апошніх курсах хіхікаць яны сталі меней: па-першае, я займалася як апантаная, а па-другое, кофтачкі і джынсы атрымалі магутную падтрымку.

Гэта быў Ён.

О! Пачынаецца!! Праклятая тэма! Калі толькі прыедзе гэтае дурацкае таксі? Вечна ў нас такія штучкі: ты просіш прыслаць таксі праз дваццаць хвілін, а яно прыязджае праз дзве гадзіны! А ты сядзі, мерзні на холадзе і ўспамінай усё, што ўзбрыдзе ў галаву! Ажно ногі замлелі. Яшчэ снег пачынаецца нібыта. Не, падалося. Мама — тая б падняла на ногі ўвесь таксапарк. Яна дазванілася б ужо да дырэктара. Хаця часу прайшло не так і багата: дзесяць хвілін усяго... Праўда, для мяне мама не варухнула б і пальцам. Не таму, што не любіць мяне — а адзіна дзеля прынцыпу. Праўда, з ВГІКам яна не ўтрымалася на вышынях сваёй прынцыповасці. Дзецішча як-ніяк. Праўда, і прынцыповасць яе была аднабаковая: ёй хацелася аднаго — каб я была шчаслівай. А дыплом — гэта важкая прыправа для шчасця, цяпер я гэтым пераконваюся ўсё болей і болей. Былі, аднак, часы, калі мне не хацелася ні дыплома, ні шчасця, пра якое марыла для мяне мама. Дарэчы, яна многага так і не ўведала пра той год, калі яе любімая, пяшчотная Стэлачка хадзіла галодная, абшарпаная, таму што ўсе шмоткі, якія мама прысылала з-за мяжы, дзе яны з бацькам пражылі той самы шчаслівы... і горкі для мяне год, і ўсе грошы, якія яны прадбачліва паклалі для мяне на ашчадную кніжку — усе яны пайшлі на дровы для таго агню, які ахоплівае нас, бадай што, адзіны раз у жыцці, калі мы яшчэ падатлівыя для агню, незакарэлыя ні нашы душы, ні нашы крохкія целы...

Ах, Юрка, Юрка Амельчанка, белазубы кучаравы блазень! Адзіная фотакартка, якая засталася ад

цябе,— гэта настолькі не тое, што жыве ўва мне, што я ніколі не дастаю яе з-пад пажоўклай паперы на дне старога скуранога чамадана, з якім мы аб'ездзілі ў той год усю Сярэднюю Азію, і Салавецкія астравы, і Прыбалтыку... Я не хачу ўспамінаць пра цябе, Юрка, таму што пачынаюцца наноў бясконцыя трызненні тым годам, тым цяплом, якое, яднаючы дваіх, запамінаецца як шчодрае, гарачае і светлае сонца жыцця... трызненні тым духам, які перапаўняў нас, духам вышыні і покліч у — некуды ў невядомае, у неабсяжнае...

Я не люблю цябе ўспамінаць, таму што, не будзь таго года, мне, можа, жылося б намнога лягчэй. Я проста не ведала б, што можа быць такое паміж мужчынам і жанчынай, я думала б, што яны, мужчына і жанчына, проста павінны быць саюзнікамі супраць жыцця, каб не даць яму затаптаць цябе, што, нарэшце, дзеці — апраўданне будзённай аднастайнасці нашага існавання. Я, можа б, стала дастойным дзецішчам сваёй мамы — якая, дарэчы, так і лічыць па сённяшні дзень і самазадаволена хваліцца маім сямейным шчасцем перад сваімі старымі сяброўкамі. Сапраўды, чаму б ёй не хваліцца: у нас з Сяргеем за ўсе гэтыя дзесяць гадоў не было ніводнай сваркі — буйнай сваркі; дробязі, яны заўсёды бываюць, іх ніхто не абміне, яны не лічацца. Сяргей на студыі, бадай што, самы выпрасаваны, задаволены — нездарма ж я амаль заўсёды сяджу дома. Кіназнаўчыя мае артыкулы, як я даўно сама сабе прызналася,— гэта помесь дамскага шчэбету і кіназнаўчай тэрміналогіі, але мама пра гэта не ведае, яна збірае мае артыкулы і зачытваецца імі, нібы «Адкравеннямі Іаанна». Юрка, відаць, адзіны, хто першым сказаў мне пра гэта, сказаў так, як толькі ён мог сказаць — не пакрыўдзіўшы, а, наадварот, як бы робячы прыемны сюрпрыз:

— Сірэна, кідай ВГІК! Не абяздольвай жаночыя галоўкі — ты ж прыроджаная фея прычосак! Такі талент — і такая ракавая памылка!

Мы сядзелі тады ў вільнюскай «Нерынзе», і грошай у нас заставалася толькі на дзве порцыі салата і два кубачкі кавы, і Юрка, смеючыся, сціраў мезенцам маршчынку, што, відаць, увесь час збіралася ў мяне паміж брывамі, і гаварыў, што мая эфірная прычоска і маршчынка — рэчы несумяшчальныя. Быў дажджысты, няўтульны вечар ранняй вясны, голыя галіны каштана хісталіся пад ветрам, і па сцяне над Юркам слізгацелі цёмна-зялёныя і жоўтыя цені, а я думала пра тое, што сёння канчаецца мой «ліпавы» бюлетэнь і заўтра трэба быць на занятках (Юрку ў той час ізноў выгналі з інстытута, але ён не надта гараваў, бо не першы раз яго выганялі за ляноту і прымалі зноў, таму што «такія таленты, як Амельчанка, трэба беражна выхоўваць», гаварыў ягоны прафесар, вядомы ўсяму свету рэжысёр, пасля таго як чарговы раз выгнаў яго з майстэрні).

— Ну, усміхніся ж, мая галубка, мая Суламіта, не думай пра «презренный металл», сёння вечарам на тэлеграфе нам абавязкова адсыплюць звонкую манету, іначай я ўспару жывот, як самурай, Лешчанку! Я яго выручаў, калі ён у Прымор'і ледзь не ажаніўся на афіцыянтцы, якая з-за нейкіх ста рублёў уявіла, што трымае Ляшча на вудзільне! Ён не падвядзе, паглядзіш!

Тады мы першы раз апынуліся без грошай, я жахалася з Юркавага легкадумства і шкадавала, што ўцягнулася ў яго авантуры (мама прывучала мяне строга разлічваць кожны рубель, выціскаць з яго ўсё, што можна), і таму я капрызіла, хаця ўжо ведала: пацягні мяне зараз гэты авантурыст у пекла — пайду і, седзячы ў смаляным катле, буду шчаслівая, калі з суседняга варыва будзе выглядаць ягоная кучара-

вая галава! Хаця, я думаю, Юрка і там бы спакусіў якога-небудзь наглядчыка, так што ўрэшце яны рэзаліся б у карты, а я, «па блату», ціхутка вымятала б з памяшкання смецце або гатавала для іх вячэру. Я адкінула ягоную руку:

— Ты хочаш, каб я кінула інстытут? Мама мяне пракляне, і цябе ў першую чаргу. Мне засталося паўтара года, калі, канешне, ты мне не дапаможаш вылецець.

Я ведала, што, калі я пачну яшчэ і прапускаць заняткі, мне не дапамогуць ніякія заступнікі, хаця па ўсіх «нятворчых» прадметах у мяне былі пяцёркі. Праўда, апошнія мае артыкулы пахвальвалі на семінарах, але курс, відаць, падазраваў, што тут не абышлося без гэтага агульнага любімчыка, без будучага свяцілы кіно, які ў гэты момант, схіліўшыся нада мною, як квактуха над куранём, як ні ў чым не бывала разгладжваў мой лоб сваёй кашчавай рукой з чорнымі пазногцямі, стараючыся, каб сіні зашмальцаваны рукаў яго джынсавай курткі не засланяў вочы. На ўказальным пальцы яго была смешная янтарная жуковіна, такі псеўдазалаты пярсцёнак, які быў цесны нават для ягонага кашчэевага пальца, і зараз ён стараўся не закрануць мяне пальцам. Ад рукі моцна пахла табаком і крышку — канцэлярскім клеем (мы прыйшлі з паштамта), і мне страшэнна хацелася дакрануцца да яе вуснамі, але я саромелася і, па-другое, не жадала паказаць Юрку, наколькі ён дарагі для мяне. (Навошта баялася? Ці не з-за такой недарэчнай боязі мы атрымліваем на гэтай зямлі не ўсё цяпло і дабрыню, якія нам наканаваны, ці не з-за яе пазбаўляем адно аднаго лепшага, што адпушчана ў жыцці чалавеку?) Прынамсі, я пазбавіла, таму што ён ніколі не баяўся паказацца смешным, не ўмеў разлічыць усё наперад, каб не прагадаць пасля. З самай першай нашай сустрэчы і

да свайго апошняга імгнення ён быў самім сабой, такім, якім яму хацелася быць; рабіў тое, што казала яму сэрца... ці не таму жыццё адпусціла яму так мала часу, што такія каралеўскія падарункі нікому не даюцца дарма — а ў Юркі яшчэ быў і талент, вялікі, пагрозлівы талент неймавернага ўздзеяння на чалавечую душу, які даецца толькі мастацтву? Таму, відаць, любому мастаку, акцёру, пісьменніку зайздросцяць куды болей, чым палітыку або філосафу: палітыка і філасофія маюць уплыў на абмежаваную колькасць разумаў, магчымасці ж мастацтва неабмежаваныя. Дзе б я ні слухала Юрку — у рабочых, на студэнцкім вечары ці на вечарынцы — я адчувала — наноў,— як разам з прысутнымі мяне ўздымае агромністая хваля, і пачынае не хапаць паветра, і глыбіні чалавечага духу адкрываюцца перада мною так шырока і неабдымна, як адчыняліся яны перад самімі творцамі... Юрка любіў Шэкспіра і Пушкіна, Дантэ і Гётэ — я дзівілася падчас, адкуль у яго, учарашняга сельскага культработніка, такое — не, не скажу «захапленне», таму што то было не захапленне, нават не любоў — зноў — банальныя, бяссільныя словы! — не, то было пакутлівае зліццё, падобнае неразрыўнай сувязі геніяльнай музыкі і арганіста са сваім інструментам. Юрка і быў такім інструментам, такім арганістам, арганам, я б сказала, калі б не баялася ўпасці ў красамоўства, сусветнай гармоніі прыроды. Я не надта разбіраюся ў мастацтве, хаця, як-ніяк, пяць гадоў была неяк саўдзельная з ім, і таму думаю, што талент — гэта нібы нейкае акенца, праз якое прырода дыктуе нам свае таямніцы і адкрыцці. Прырода... або нейкая іншая, магутная, пакуль што не вядомая нам, сіла. Ну, няўжо не яна вадзіла рукой семнаццацігадовай Надзі Рушавай, калі дзяўчынка рабіла ілюстрацыі да «Майстра і Маргарыты» Булгакава, ілюстрацыі, ад якіх мароз

прабягае па скуры і патрэскваюць валасы? Або, калі ўсё вырашае толькі праца, адкуль у другой Надзі, балерыны Паўлавай, у шаснаццаць гэтая неверагодная пластыка цела? Не, не! Смейцеся нада мною, але гэта яна, прырода, дражніць нас, смяротных людзей, бессмяротнай дасканаласцю сваіх тварэнняў...

...Божа мой, пра што я гавару, пра што думаю, калі мой муж ляжыць у непрытомнасці, і невядома, што з ім такое, і невядома, ці прыйдзе гэтая калымага, ці бегчы на вуліцу і кідацца пад першую ж машыну, бо не надта яны цяпер спыняюцца, гэтыя прыватныя машыны, хаця б ты памірала тут жа, на вуліцы. Асабліва цяпер, позним вечарам. Добры вечар, суседзі! Не, вам падалося. Проста чакаю таксі...

Сняжынкі плавяцца, падаючы на шчокі. Снегапад, які ён белы і святочны ў іскрыстым святле ліхтароў! Прырода святкуе нейкае сваё свята, і справы няма ёй да нашых радасцей і нягод. Ёсць жа шчаслівыя людзі, якія знаходзяць сябе ў еднасці з ёю! Я — дзіця горада, і мне, магчыма, ніколі не адчуць сябе сам-насам з навакольным, я губляюся, калі не адчуваю вакол выратавальнай цеснаты, а калі я аднойчы апынулася ў полі адна, то ледзь не памерла ад страху. Можа, таму помсціць нам прырода: нашы мускулы сталі нягоднымі, мы развучыліся нармальна раджаць і, каб не дактары... Што да мяне, то я часамі зайздрошчу вольнай, імклівай жаночай паходцы, не сцесненай высачэзнымі абцасамі — так рэдка бачыш яе цяпер! Мая Яўсціся бярэ з мяне прыклад: яна ўжо цікавіцца маркамі духоў і дзеяннем «Ландатону» і пераймае сакрэты жаночай абаяльнасці... Іменна такія «сакрэты» і робяць мяне такой удалай парай (на думку нашых сяброў) гэткаму чалавеку, як Сяргей...

Першыя гады знаёмыя дамы ўсё распытвалі, чым трымаю Сяргея: не піток, па жанчынах не хадок,

і іншае, і іншае... Мужчыны ж меркавалі, што ведаюць, у чым сакрэт: «Ды вы на яе самую паглядзіце! Трэба быць дурнем, каб бегаць ад такой жанчыны!» Але ісціна, мне здаецца, была ў іншым: Сяргей ішоў угору, ішоў імкліва і настойліва, і дзеля гэтага «ўгору» ахвяраваў бы ўсімі жанчынамі свету... Мною ахвяроўваць было не трэба: я была якраз той самы «антураж», які адзіна і мог падысці прыстойнаму (проста да жаху прыстойнаму, я б сказала) ягонаму сямейнаму жыццю.

Няўжо ён усё разлічыў, перш чым падысці да мяне на студыі тэлебачання, там, на Шабалаўцы, у Маскве? Марыя мне гаварыла пасля, што ў яе ён наводзіў даведкі і пачаў так: «Хто тая шыкоўная дзяўчына ў куце, якая не падымае вачэй на прысутных, а трэцюю гадзіну запар сядзіць над лістом паперы і толькі глядзіць на яго?» Марыя — з тых добрых душ, якія не робяць сакрэтаў з таямніц сваіх бліжніх ні для каго, і таму яна аказала давер навічку-стажору: за пяць хвілін пераказала ўсе асноўныя этапы майго жыцця, і першае, з чаго яна, канешне ж, пачала, быў рамантычны флёр: «У яе тры гады таму назад разбіўся жаніх».

Тры гады вернасці загінуўшаму жаніху — гэта, канешне, аргумент, які ў тыя гады надаваў мне залатое ззянне німбу над галавой. Дый мамачка не давала мне ісці на дно: яна пільна сачыла, каб я не выйшла з дому ў адной камбінацыі або не выпіла замест вады стакан воцатнай эсенцыі. Яна апранала мяне ў такое ж шыкоўнае шмаццё, што і раней, да яе замежнай паездкі, у час якой ад усяго гардэробу засталася толькі спадніца і кофтачка, што былі на мне, і то толькі таму, што без іх мяне не пусцілі б на заняткі.

Мамачка прыехала ўжо тады, калі ад Юркі застаўся толькі попел — жменька попелу, якую выда-

лі ў простай драўлянай шкатулцы ягонай цётцы. На адваротным баку шкатулкі быў прылеплены нумар і прозвішча, і калі я ўзяла яе ў рукі, ледзь не выпусціла — каробка пахла тым самым канцэлярскім клеем, якім пахла Юркава рука са смешным пярсцёнкам там, у кафэ «Нерынга», калі я так хацела пацалаваць і руку, і пярсцёнак, ды пасаромелася таго жадання... На абшарпанай зялёнай лавачцы, дзе мы селі ўдзвюх з цёткай і куды яна асцярожна паставіла шкатулку (адчувалася, што яна не ведае, як трымаць яе і што з ёй рабіць), я сказала, засмяяўшыся: «А можа, варта развеяць попел па ветры, таму што яшчэ невядома, ці ягоны гэта попел, гэтая жменька?!» Цётка, жахнуўшыся, уставілася на мяне пачырванелымі старэчымі вачыма, а са мной тварылася нешта дзікае: несліся, круціліся ў свядомасці дзень за днём, хвіліна за хвілінай, і кожная з іх крычала і папракала мяне нясказаным добрым словам, асцярожнасцю, бояззю... Вось Хіва — прапаленая сонцам гліна мячэці, і востры пах райхану, і прахалода блакітных узорных кафляў,— а мы з Юркам спрачаемся.

— У нас жа білеты на заўтра. Яшчэ трэба дабірацца да Ташкента!

— Паспеем, гэта я табе кажу! Няўжо ты мне не верыш? Як жа мы паедзем дадому без Самарканда? Я дам тэлеграму... цётцы!

— Мы і так яе абабралі! (Голас у мяне робіцца нейкім істэрычным, дзяўчаты, што праходзяць міма гаманлівай чародкай, змаўкаюць і косяцца ў наш бок.) Паспеем яшчэ ў Самарканд! За жыццё яшчэ сто разоў там будзем! І дзе мы возьмем трыццаць рублёў на білеты?!

У Юркі перайначваецца твар, ён хітры і даверлівы. Ён выхоплівае з сумкі адзінае, што там знаходзіцца, апроч тэрмаса: новенькую махеравую кофту,

крык моды, якім толькі што азвалася з-за мяжы мама (дзевяноста рублёў), і ўжо бяжыць з ёю за дзяўчатамі:

— Дзяўчаты, карыстайцеся выпадкам! Трыццаць рублёў — і ўся Хіва будзе ля ног уладальніцы!

Я скамянела гляджу, як нейкі таўстун перабягае дарогу, і, адной рукой учапіўшыся ў пушысты ружовы махер, пачынае таропка адлічваць другой грошы, відавочна баючыся, каб Юрка не перадумаў. Я гляджу — а пасля пла́чу і кідаю ў худы, чорны твар свайго каханага ўсё, што можа падказаць распаленая сонцам і шкадаваннем фантазія:

— Авантурыст! Прахадзімец! Забыўся на сукенку і яшчэ японскі ліфчык — можа, таксама прапануеш, гэта ж таксама дэфіцыт?!

Юрка моўчкі цягне мяне ў бок аўтавакзала — за білетамі, але пры апошніх словах ён ажыўляецца, у стомленых сонцам зрэнках скачуць чарцяняты:

— А што?! На д'ябла табе ліфчык?

...Цёткавы рукі дрыжалі, яна працягнула іх да шкатулкі — да попелу, да жменькі попелу, што застаўся ад Юркавай усмешкі, ад яго касалапай, нейкай развінчанай паходкі, ад кашачых, доўгіх, чуйных пальцаў, ад тоненькага рубчыка, які пакінула на жоўтай ягонай шыі аперацыя горла! Ад хрыплаватага голасу, якім ён іграў у маёй душы, як на паслухмянай скрыпцы! Ад чорных пазногцяў, якія ён грыз, калі нешта абдумваў! Жменька попелу! Позна апраўдвацца за злыя словы, я не змяню той поўхі ў Хіве, я не ў сілах перайначыць ніводнай хвіліны!

— Адкуль вы ведаеце, што нам падсунулі ў гэтай скрыні?! І навошта мне — гэта?!

Жанчына схапіла шкатулку, а я смяялася далей і далей, нейкімі чэргамі смеху, усё даўжэйшымі і даўжэйшымі, ажно пакуль барвовае сонца на гарызонце не расплылося на ўсё неба і не кінулася на

мяне. Я адбівалася ад сонца, а яно трымала мяне за рукі, пераварочвала, трэсла...

З «Хуткай» мяне выпусцілі раніцай, добра нашпігаваўшы нейкімі ўколамі, ад якіх я стала тупой і вялай, і ўціснулі ў сумку бюлетэнь на цэлы тыдзень. Я ішла па знаёмых вуліцах. Была такая ж ранняя вясна, гэтак жа калаціліся ад холаду голыя галіны каштанаў, зляжалае карычневае лісце ўмерзла ў ранішнія лужыны ў скверыках, і толькі сонца было новым у ружовых, блакітных і шэрых хмарках — яно было бляклым, нейкім нібыта пачарнелым і стомленым, і мне падалося, што яму, сонцу, надакучыла вось так — тысячагоддзе за тысячагоддзем — моўчкі назіраць за пакутамі людзей, за іх надзеямі і шаленствам, за іх дарэмнымі спробамі падпарадкаваць сабе час і абставіны. Каму і навошта было патрэбна, каб загінуў Юрка, а жыць засталася я? Калі ж гэта выпадкова, калі няма лёсу і яму не было наканавана загінуць так рана — то для чаго ўсе нашы парыванні, усё магутнае кіпенне жыцця?!

Юрка разбіўся, улазячы з пажарнай лесвіцы ў акно інтэрнатаўскага пакоя, ключ ад якога згубіла ягоная аднакурсніца, бяздарная травесці Ірэна Славуціч, якую я і цяпер час ад часу бачу па тэлебачанні, калі яна ва ўскалмачаным парыку і хлапчукоўскіх штанах іграе рамантычных юнгаў. Ёй і тады падалося рамантычным, што ў яе закураны, запылены рай амаль што з неба спусціцца анёл — з ясенінскімі кольцамі валасоў, з белазубай усмешкай чорціка, у квяцістай сацінавай кашулі, напрасаванай спецыяльна для паходу ў «Сучаснік», куды мы сабраліся на нейкія кантрабандныя кантрамаркі. Аднаго не ўлічыла гэтая рамантычная асоба — заледзянелага бляшанага падаконніка, за які не ўтрымалася чэпкая Юркава рука з жоўтай жуковінай на пракураным указальным пальцы.

Гэты пярсцёнак страшэнна раздражняў мяне спачатку. Юрка адсмейваўся, калі я патрабавала зняць яго, бо цвёрдае кольца мела прывычку ўпівацца мне ў костачку, калі Юрка размашыста крочыў, а я подбегам спяшалася за ім, трымаючыся за руку. Але аднойчы ноччу, калі шалёна выла за акном, і непагадзь абрушвала на сцяну прыступы дажджу і ветру, і мы туліліся ў цёмнай кватэры адно да аднаго, як кацяняты, ён расказаў пра тое, як іх, ленінградскіх дзяцей, вывезлі ў блакаду праз Ладажскае возера і бомба трапіла ў грузавік. Ён сядзеў каля выхавацельніцы, трымаючыся за яе рукі, і жанчына паспела прыкрыць сваім целам яго і дзяўчынку ўперадзе. Калі Юрку выцягнулі з-пад выхавацельніцы, ён ніяк не хацеў выпусціць мёртвую руку, гэта зрабілі сілком, і ў цэпкіх Юркавых пальцах застаўся смешны псеўдазалаты пярсцёнак. Тады мне было дзіўна, што Юрка расказаў мне пра тое толькі ў хвіліну вялікай душэўнай блізкасці — ён, такі адкрыты і шчодры на сяброў! Пасля я зразумела: сапраўднае пачуццё не выносіць ні сведкаў, ні суддзяў; зразумела, калі бліжэйшыя ягоныя сябры пачалі дзівіцца, чаму гэта ціхманы, добры хлопец пачынае шалець, калі нешта скажуць пра мяне. Ён не выносіў, каб пра мяне гаварылі, ён не жадаў ні хвалы, ні хулы чужых. Сам суддзя і падсудны, ён выносіў прыгавор або прасіў літасці — і ўсё ж у нашым маленькім каралеўстве быў уладаром ён, а я пакорліва ішла і была шчаслівай, што магу трымацца за яго, што паступова ён робіцца апорай майго існавання, што ён — той камень, без якога не можа трымацца хата.

Жанчыны пасмяяліся б нада мной — божа мой, такія разважанні ў век суцэльнай, незваротнай эмансіпацыі! Ахоўніцы строгай маралі жахнуліся б, падслухаўшы такую размову (можа, яны і жахаліся ў свой час, толькі я не ведала пра гэта, таму што ні-

чога і нікога не існавала для мяне ў тыя часы, апроч Юркі):

Я: — Ты толькі паглядзі, якая прычоска ў гэтай дамы — брудны венік вакол твару, дый толькі! Ёй бы ледзь-ледзь падкруціць пасму налева.

Ён: — Слухай, я сур'ёзна табе кажу: не хавай у зямлю сваё прызванне! Ну, хочаш, паступай на курсы, на вячэрнія. Я якраз знайшоў гурток, буду таксама заняты па вечарах...

Я: — Я табе сказала — мама мне не дазволіць! Ды і сама не хачу, каб твая жонка была цырульніцай...

Ён: — А хто табе сказаў, што я вазьму цябе за жонку?

Я: — А чаму б табе і не жаніцца са мною?

Ён: — Ты сексуальна не падыходзіш мне. Я хачу, каб жанчына дрыжала ад страсці, калі я падыходжу да яе, каб яна разрывала мяне кіпцюрамі. А ты — мяшчанка, ты вечна хінешся ў кашулі і прасціны, табе не хапае натуральнасці здаровага, не сапсаванага цывілізацыяй чалавека.

Я: — Распуснік!

Ён: — Гэта ты распусніца, таму што сама добра ведаеш: напаўзакрытае цела прываблівае куды больш, чым адкрытае. Фрына не саромелася Праксіцеля! Яна ведала: няма ў цела нічога нячыстага.

Я: — Я табе не гетэра, не Фрына і, дзякуй богу, не твая жонка! Голай усё роўна не буду хадзіць перад табой, не спадзявайся!

Ён: — Нібыта ты ўжо зараз не ходзіш голая? Паглядзі на свае міні, на кофтачкі, з якіх ты проста вывальваешся! Мяне ты саромеешся болей, чым усяго свету? Дык хто распуснік, кажы! Паглядзі, якімі вачыма зыркаюць на цябе вунь тыя хлопцы!

І хаця Юрка, як заўсёды, у канцы даказваў адваротнае таму, з чаго пачынаў, ён дабіваўся свайго:

спадніца рабілася даўжэйшай, выразы кофтачак меншымі, і ён з палёгкай уздыхаў, што сустрэчных больш не асляпляюць мае дэкальтэ.

Неяк (ізноў была ноч, і тонкі, пяшчотны маладзік зазірнуў у акно, а сіняватыя праменьчыкі зорак, як бы прабіваючы шкло, бліШчалі на зломах, а мы моўчкі ляжалі на канапе каторую гадзіну без сну) ён загаварыў, а я баялася паварухнуцца, таму што ўжо ведала цану хвіліне, калі другая душа гаворыць з табой так, нібы пераліваецца ў тваю, гаворыць, раскрываючыся сама перад сабой,— гэта хвіліна адкрыцця, ісціны, якую іншыя, можа, адкрылі ўжо сто разоў, але ты пазнаеш яе для сябе ўпершыню, дык вось Юрка сказаў мне:

— Думаеш, я Саванарола або раўнівы ўладальнік скарбу, які не хоча, каб нехта бачыў ягоныя таямніцы? Можа быць, я не змагу табе растлумачыць усё поўнасцю, але зразумей, тваё дэкальтэ — гэта твая добраахвотная капітуляцыя. Перад чым? Перад тым, што табе самой не ўласціва. Ты з наіўнай бессаромнасцю, сама над тым не думаючы, падкрэсліваеш усё самае выгаднае ў сваёй фігуры: абцягваеш клубы, выстаўляеш калені. Не перабівай, дрэннае тут тое, што ты хочаш прывабліваць, але сапраўдная, духоўная, прывабнасць жанчыны табе пакуль што не даступна, хаця яна ёсць у табе — не ў прыгожую ж ляльку я закахаўся! Твая ўяўная свабода ад умоўнасці — гэта не свабода раскаванага, прыгожага і, гаворачы мовай царкоўніка, бязгрэшнага цела (якое дазваляе любавацца сваёй дасканаласцю, як часткай прыгожага), а рабства. У табе няма велічы элінак, якія прыходзілі на стадыёны непрыкрытымі, у цябе няма нават прастаты спартсменак трыццатых гадоў, якія горда ішлі па вуліцах у спартыўным маршы. Не перабівай, я ведаю, не ты ў гэтым павінна! Цяпер для вас, жанчыны, можна сказаць, залаты век. Хадзі

ў чым хочаш і як хочаш. Але гэтую свабоду вы выкарыстоўваеце дзеля таго, каб стаць яшчэ горшымі рабынямі, чым некалі адаліскі. Паглядзі на вуліцу вечарам: там палкі, батальёны манекенаў. «Сасоны» на кожнай галаве! Аднолькавыя раскосыя вочы! А ты — адзіная! Зразумей нарэшце: ты — адзі-на-я! І прывабнасць твая ў тым, што іншай такой няма на зямлі: калі ў яе падобныя рысы твару, то няма тваёй усмешкі, калі ж і ўсмешка ў яе падобная да тваёй, то яна не будзе так разгублена азірацца на семінары, як азіраешся ты, не падрыхтаваўшыся да заняткаў...

— Ты ўжо жартуеш, так? Ты — жахлівы індывідуаліст, Юрка...

— Правільна, я індывідуаліст. Прычым сапраўды жахлівы. Я ненавіджу батальён экскурсантаў, які паслухмяна паварочвае галаву да Веласкеса да Гойі і назад. Я ненавіджу на вакзале пустыя акенцы кас для калектыўных заявак і атупелыя шэрагі адзінак каля кас звычайных. Я не выношу прывітанняў, калі дзеці мілымі галасамі шчабечуць абяцанні добра вучыцца і быць прыстойнымі, абяцанні, напісаныя для іх дарослымі. Я не хачу, каб ты, ты была вытворчасцю «масавай культуры» — крышку Пушкіна, крышку Гогаля, ах, Маркес, ах, Пікасо, фі Дзюма! І не хачу, каб ты выраджалася ў эстэтку, якая нічога не разумее ў Джойсе, але міла шапоча пра яго на вечарынцы, выстаўляючы мэрылінманроўскі бюст! Мілая, прашу цябе, малю цябе, разумееш, малю: слухайся свайго сэрца, не забівай сама ў сабе чалавека! Ведаеш — найвялікшая каштоўнасць — гэта мы самі! Калі чалавек вырасціць у сабе сапраўднага дасканалага чалавека, калі ён нарэшце зразумее, што ўся праўда жыцця — у ім самім, ён створыць на зямлі сапраўдную чалавечую еднасць. Ты думала калі-небудзь, не так, не мімаходзь, а па-сапраўднаму,

якая недарэчнасць у кожнай мяжы, якая аддзяляе, аддаляе людзей адно ад аднаго! Я люблю, калі чалавек працягвае другому руку, паказваючы, што ў ёй няма зброі,— мы забыліся на гэты жэст, мы ж можам працягваць руку і ворагу, прынамсі, працягваць руку ды не давяраючы. Знак даверу — зусім не давяраючы!

...Стэла, ты не задумалася, што ты — паланянка? Што ты жывеш не так, як патрэбна табе? Як ты можаш жыць?

Думаеш, мой капрыз, мая жорсткасць — паўтараць табе, што прафесія, якую ты выбрала, шыкоўная толькі для тваёй мамы і ўсіх тых, хто прымае чалавека па знешняй вартасці, што гэтая прафесія — не твая? Ты не любіш кіно, роздум над яго магчымасцямі напаўняе тваю галоўку адчаем прымусу — ты хочаш несці такі крыж усё жыццё? Ты можаш выхоўваць свой густ і выхаваць яго, але любоў да сваёй справы — гэтай справы — у цябе адсутнічае. Любоў розуму? Я не веру ў каханне толькі да «высокіх маральных якасцей», каханне або ёсць, або яго няма, і ніхто табе не растлумачыць, адкуль яно ўзялося і куды знікла.

...Упершыню Юрка гаварыў так доўга, а я... я слухала, але пад канец, непрыкметна для сябе, паддаючыся пяшчоце, пачала ціхенька цалаваць яго — спачатку ў скронь, пасля вусны мае натрапілі на калючую шчаку, і ён, нібы спатыкнуўшыся на паўслове, змоўк. У пакоі было светла ад маладзіка, неба ледзь пачало ружавець — пачыналася ранне, і калі я, нахіліўшыся, зірнула ў Юркаў твар — ён быў журботна-насмешлівы, ліловыя цені ночы густа ляжалі ў яго пад вачыма, і я, выгнуўшыся, саслізнула з канапы і пацягнула Юрку за руку:

— Ты, канешне, думаеш, што шпурляў бісер... Гэта не так, я ўсё запомніла! Ты маеш рацыю, але

давай пап'ём чаю, у мяне перасохла ў роце ад тваіх прамоў!

Ён неахвотна вылез з-пад коўдры, зрабіў крок. Узяў маю руку, якая ўчапілася ў яго, памацаў пазногці (я якраз толькі што зрабіла цудоўны манікюр) і нечакана сказаў — вельмі сур'ёзна, нібы гаварыў нешта зусім звычайнае:

— Стэла, абяцай мне... абяцай, што... ты не станеш драпежніцай.

— Кі-ім?! — я так здзівілася, што, выпусціўшы Юркаву руку, павярнулася і схапіла яго за плечы, углядаючыся ў твар.— Драпежніцай? Што гэта за прафесія такая, Юраська? Што ты зноў блазнуеш?

Ніводзін прапаведнік не стаяў перад сваёй паствай у тым выглядзе, у якім стаяў зараз ён — худыя валасатыя ногі, сінія штаны, што ледзь не даходзілі да каленяў,— і я рассмяялася, калі ён паўтарыў тым жа голасам, засяроджаным і журботным, нібы ён пільна прыслухоўваўся да нечага, чутнага толькі яму аднаму:

— Стэла, не рабіся драпежніцай!

А я ўжо цягнула яго, не слухаючы, на кухню, запаліла канфорку, гатавала чай, дурэла:

— Не спадзявайся, я буду тыгрыцай для ўсіх тых, хто будзе на цябе квапіцца. Я разарву іх на кавалкі. Я цябе нікому не аддам, хаця ты і не хочаш са мной жаніцца! Ты будзеш маім да самай сваёй смерці!

...Няўжо гэта лёс гаворыць часам нашымі вуснамі, а душа, калі яна чуйная, слухае і разумее? Я нічога не слухала — і нічога не зразумела. Юрка адставіў кубак з чаем і гэтак жа, засяроджана (ліловыя цені з ягонага твару, бляклага ад электрычнасці, не сыходзілі), адгукнуўся:

— Я думаю, што так і будзе.

Божа мой, якая я была дурніца! Нешта невядо-

мае, вялікае, як незваротнасць, дыктавала нам словы прыгавору, а мы пілі чай, кідаліся тымі словамі, як шклянымі пацеркамі, і яны патанулі, забыліся, закалыхаліся днямі і месяцамі. Усе тры гады жалобы, у час якіх я была як параненая жывёліна і страціла здольнасць разважаць, толькі ўспамінала — заўсёды малюнкамі, эпізодамі — кожную хвіліну, пражытую з Юркам, я не падумала пра сэнс таго, аб чым мы гаварылі ў той вечар. Я бачыла ліловыя цені на ягоным непаголеным твары, карычневую чаінку ў кутку мяккага цёплага рота, якую я зняла пацалункам, пачырванелы кружок скуры каля калена, куды ён паставіў кубак з чаем... Я бачыла, як ён пакутліва закусвае ніжнюю губу і каля белых вострых зубоў скура таксама бялее,— але словы, якія я, аказваецца, запомніла, як запамінае папугай, не ўнікаючы ў іх сэнс, яны ніколі за ўсе гэтыя гады не гучалі ва мне, я іх не разумела — чаму ж яны прыходзяць толькі цяпер, разам з гэтым снегам, які мякка зацярушвае, нібы размываючы напластаванні часу, што абкружылі мяне, замуравалі ўсё былое? Драпежніца... Гэтае слова ўжыла аднойчы і мая паважаная свякроў, Антаніна Дзмітрыеўна, калі гаварыла з Сяргеем, але, перададзенае праз Сяргея, яно выклікала толькі ўсмешку. Я падумала тады: смешна, што Антаніна Дзмітрыеўна можа сказаць мне такое, і недарэчна, таму што ў маіх вачах яна, Антаніна Дзмітрыеўна, была накшталт людаеда, нягледзячы на ўсе яе пяшчотна-рамантычныя ролі, якія яна так любіла іграць у апошнія гады. Я не верыла ёй — ніколі не верыла, таму што Сяргей усё ж расказаў мне гісторыю пра тое, як яна, пяшчотная мамачка, выгнала — ці дапамагла выгнаць, гэта адно і тое ж — жанчыну, якую Сяргей, мяркуючы па ягоных паводзінах, усё-ткі любіў, якая спадзявалася ў другі раз перарабіць сваё жыццё і з-за Сяргея не

змагла зрабіць гэтага. Аб'ектыўна я павінна была б дзякаваць свякроў — Сяргей аказаўся «добрай партыяй», паводле слоў маёй мамы...

Я часта думаю пра так званую «святую» мацярынскую любоў. Мне не пашанцавала: самаахвярнасць і маёй мамы, і Антаніны Дзмітрыеўны была, як мне здаецца, накшталт любові Габсэка да сваёй ашчаднай кніжкі, куды ён паклаў бы ўсё да апошняй капейкі. Цікава, як бы паводзіў сябе Габсэк, калі б ягонай ашчаднай кніжцы пагражала небяспека? Ці не так ціха і прыстойна аплёў бы ён павуціннем інтрыгі наіўную правінцыялку, як гэта зрабіла Антаніна Дзмітрыеўна? Ці не з такой бы палёгкай мармытаў эпітафію над прахам Гулякі і Прайдзісвета, якую сачыніла мама, стоячы на агромністых італьянскіх «платформах» перад пустой шафай; яны былі такія трывалыя, тыя платформы, што не толькі нейкая там пустая шафа, але і землятрус у дзесяць балаў не збіў бы з ног іхнюю ўладальніцу... Як цяпер бачу: ёй было ў той час... дванаццаць гадоў назад... ёй было сорак шэсць, але яна абхітрыла прыроду па крайняй меры гадоў на дзесяць, а можа, і болей, таму што і на той час у мамы быў жалезны страўнік, нервы, як сталёвыя канаты, а фігура, як у выкладчыцы танцаў, і яна цвёрда стаяла на сваіх платформах, а бялявая капа парыка разлічана спадала ёй на вочы, умела маскіруючы лоб, залішне пукаты для маленькага твару. Я сядзела на канапе, аглушаная і голасам, і грудай чамаданаў, якія завалілі ледзь не палову пакоя, і атупела адчувала, як з кожным раскатам бляшанага фальцэту выціскаецца з пакоя, з канапы, з кухні, дзе мы так любілі піць чай, прывід у пацёртых сініх джынсах, з жоўтымі пракуранымі пальцамі. «Можа, так лепей»,— стукнула ў скронях. Я думала пра тое, што дарэмна ўтрымліваць Юркаў прывід у нашай кватэры, ён не

зможа існаваць тут, з намі ўсімі; тата, які ляжыць зараз у спальні на адным з ложкаў, выціснуў яго са спальні, а ў сталовай мы амаль што не бывалі: там стаяў сапраўдны гаспадар — гарнітур са светлай карэльскай бярозы, калі мама не прамяняла на навамодныя паліроўкі. Цяпер кватэра пераставала быць музеем, маім маўклівым музеем, які я аберагала пасля Юркавай смерці як сваё апошняе прыстанішча, не дапушчаючы сюды нікога ні з суседзяў, ні з аднакурсніц і сяброўак.

— Я проста геній,— казала тым часам мама, і яе ружовыя шчокі ўздрыгвалі, а чырвань гневу і задаволенасці прабівалася скрозь тонкі грым.— Я паслухала сваёй галавы, а сэрцу, беднаму свайму сэрцу, загадала маўчаць. І не пісала табе, як быццам не ведала пра яго, гэтага... (Тут яна спахапілася і ўсё ж апусціла вейкі.) Пра твайго...

— Мамачка, не трэба.

Я сядзела, і мне бачылася грубая драўляная шкатулка, а прывід быў у дзвярах, і я баялася сустрэцца з ягоным позіркам, таму апушчала позірк, а мамін голас біў і біў па галаве:

— І так і здарылася, ён такі не жаніўся. Абышлося без крапіўніку, ты можаш спакойна думаць пра будучае. Хаця ты і хавалася ад усіх, я даведалася... Як мне шкада, што я паддалася спакусе і паехала за тваім бацькам на цэлы год! Я вінна ва ўсім, цябе нельга было пакідаць, бо на такіх, як ты, мая дзяўчынка, на такіх і вешаюцца розныя прахадзімцы... О божа, даруй мне грэх, я такі не ўтрымала язык! Ну, гэты, твой, Смактуноўскі твой, ад якога засталася пустая шафа...

Юркі ўжо не было ў кватэры, а ў мяне не было сіл супрацівіцца бурнай мамінай пяшчоце. Я ўсё маўчала, а яна, пагаварыўшы гадзіны дзве і знямогшыся, усё ж рассцяліла канапу, распранула мяне,

а мне здавалася, што я пустая знутры, як егіпецкая мумія, а мама песціць і трасе толькі «брэнную абалонку». Яна было спрабавала апеляваць да таты, але ён нешта прамармытаў, паклаў мне на лоб руку і зноў пайшоў да сваіх газет і да сваіх адказных думак, настолькі адказных, што пра іх ніхто з нас не ведаў, і мама засталася сам-насам з нялёгкімі мацярынскімі абавязкамі, тым больш нялёгкімі, што я тупела ад іх усё болей і болей, пакуль стома не адолела мяне канчаткова, і я заснула ўпершыню за многа дзён. Мамін прыезд сапраўды мяне выратаваў: яе клопаты былі такімі магутнымі, што гіпнатызавалі мяне, нібы труса, і я пакорліва глытала нейкія таблеткі, і здавала экзамены, і адпачывала ў Сочы, а праз пяць месяцаў пасля заканчэння інстытута прыйшла працаваць на студыю тэлебачання на Шабалаўку, таму што на кінастудыях хапала геніяў і без мяне. Выпадак звёў нас з Сярожам, але выпадак таксама ходзіць там, дзе яго чакаюць, а муж мой тады чакаў ад Масквы дзівосаў — не казачных, а рэальных: канешне, хіба магла параўнацца са мной, масквічкай, нейкая там правінцыялка, хіба магла кватэра і прапіска ў Маскве (добра, што ў апошні момант у ім перасіліла развага, у Маскве ён не дабіўся б таго, што ў рэспубліцы) не спакусіць такога чалавека, як Сяргей?

...А можа быць, я грашу на яго, можа, яму проста спадабалася я сама, але калі з'яўляюцца ў жонкі такія здагадкі, то, відаць, вісяць здагадкі не ў пустым паветры, не ў вакууме, а абапіраюцца на рэальны вопыт... А ў жанчыны, якая сядзіць у хаце і служыць сямейнаму цяплу, такі вопыт назірання за ўласным мужам! І ёсць час думаць — калі толькі ахвота думаць, таму што думаць — цяжкая, няўдзячная работа, а, апроч таго, і небяспека (ці не таму многія проста баяцца думаць!). Думаць — гэта зна-

чыць пакутліва шукаць, параўноўваць сябе і свае ўчынкі з ідэалам, які жыве ўнутры кожнага — прынамсі, кожны ведае, што такое ідэал, і мучыцца, таму што хіба можа чалавек атаясамліваць сябе з тым жа ідэалам? Я таксама баялася думаць — таму што думкі тыя ледзь не завялі мяне ў вар'яцкі дом, мама нездарма баялася хвілін, калі я застывала над кніжкай, нездарма яна так узрадавалася Сяргею, калі ён з'явіўся на гарызонце... Божа мой, атрымліваецца, што і нам Сяргей быў патрэбны, мы заключылі шлюб па ўзаемнай выгодзе і спрабавалі чэсна выконваць узятыя на сябе абавязацельствы! Канешне, я заўсёды ведала ў глыбіні душы, што за сваім мужам у пекла пайду толькі тады, калі не будзе ніякага іншага выхаду... Якім бы хворым ні быў Сяргей, у якім бы цяжкім стане ён ні знаходзіўся — я нічога не магу зрабіць для яго, хіба што аддаць яму сваю кроў, дый тое немагчыма: у яго кроў другой групы, у мяне — трэцяй. Смешна, але Сяргей бы якраз мяне выратаваў, я ж яго — не змагла б, нават калі б і хацела.

Выпадак ходзіць там, дзе яго чакаюць,— калі гэта не так, то чаму я, падсвядома, заўсёды чакала ад жыцця нейкага такога ж падвоху, які адбыўся аднойчы? Які адбыўся зараз? Сяргея, майго асцярожнага, прадбачлівага Сяргея збілі на горкі яблык нейкія хуліганы, ад якіх ён заўсёды трымаўся далей, чым ад якой метагалактыкі. Што гэта — выпадковасць? А калі — расплата?

Але ў чым я вінаватая, у чым?! Крык — «за што?» — гэта сляпы, атавістычны крык, які чалавек кідае ночы і цьмянаму жаху, які гняздзіцца ў ягонай крыві. Заўсёды ёсць — «за што?». Заўсёды за віной ідзе расплата.

Мае мілыя, утульныя, нявінныя іпастасі — добрай жонкі, дабрачыннай маці, прыстойнай жанчыны,— чаму вы знікаеце ад мяне з такой маланкавай

хуткасцю і вашы бляклыя абрысы здалёку глядзяць на мяне дакорліва і крыўдліва, як пакінутыя дзеці? Вы адступаеце перад магутнай хадой — чаго? Вочы, вочы сочаць за мной адусюль: вочы маёй дарагой мамачкі, вочы Антаніны Дзмітрыеўны, а самае галоўнае — блішчаць у белай цемры першага снегападу Юркавы зрэнкі.

— «Стэла, не рабіся драпежніцай!» Ты што ж, прарокам быў, Юраська, га? Таму што драпежніца — не абавязкова тая, што рве мяса на бліжнім. Драпежніца — яшчэ і тая, якая дазваляе гэта рабіць, якая жыве за кошт таго, чужога мяса — няхай сабе ёй прыносяць мяса на прыгожай талерцы...

Калі Юркава смерць была ягонай расплатай за тое, што жыў ён згодна са сваім сэрцам — як я ўжо казала, жыў па-каралеўску — бо Ікар сам сабе дазволіў узляцець, і ўзляцеў, і бачыў сонца зблізку, а такое могуць дазволіць сабе нямногія... то другі раз падыходзіць да мяне расплата. За што? За тое, што я не магу ўзляцець да сонца?

Не, я нядольная на подзвігі — я не з тых, каму ляцець да сонца...

Але ёсць жа ў кожнага свая вышыня — ці ўзнімалася я на яе? Ці с п р а б а в а л а падняцца?

Не помню.

Здаецца, н е с п р а б а в а л а.

Калісьці ў інстытуце я здавала залік па антычнаму мастацтву. Трапілася мне тады, як цяпер помню, Немезіда — багіня пакарання. О, як яна карала смельчакоў, якія спрабавалі змагацца з рокам! Праметэй, Сізіф, які спрабаваў перахітрыць смерць, шчаслівец лёсу — Палікрат... А Крэз? А брат Сізіфа Салманей, які хацеў быць богам?

Ці не караеш ты, Немезіда, таксама і тых, хто н е з а х а ц е ў быць богам?!

Ішла па лесе, па лесе цёмным і спакойным, як

балота,— і ўперадзе зачырванелася полымя, такое гарачае і зыркае, што здалёку апякала гарачыня.

Юрка быў тым полымем — цяпер разумею.

Нашто дадзены агромністы, магутны свет, і кожны дзень у ім — як раскошны, казачны падарунак, якім мы не ўмеем, не можам распарадзіцца, і баімся падарунка, і хаваемся ад яго, і не хочам апякаць сабе крылы!

...Як позна ты прыязджаеш, таксі, так позна, каб засталося толькі зразумець, што ўсё ранейшае, наладжанае і спакуслівае для іншых, ляціць, узрываючыся, ва ўсе бакі, як, кажуць, ляціць ва ўсе бакі наш Сусвет, глытаючы шалёныя кіламетры!

...А можа, і не ляціць? Колькі я чакала цябе, таксі? Няўжо ўсяго толькі дваццаць хвілін? Сапраўды, дваццаць. Ажно не верыцца, здаецца, прайшла вечнасць!

Але ж не кожнаму ўдаецца, нават за ўсё сваё жыццё, сам-насам пабыць хаця дваццаць хвілін з Немезідай!

# ЗМЕСТ

ВУЗЯЛОК СВЯТАГОРА Аповесць . . . . . . . . . . 3

АПАВЯДАННІ

Цана . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 90
Апоўначы, калі б'юць куранты... . . . . . . . . . 109
Спасціжэнне . . . . . . . . . . . . . . . . . 133
Авантура . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 148
Фарфоравая маладая . . . . . . . . . . . . . . 162
Перакат . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 176
Позні канцэрт . . . . . . . . . . . . . . . . 196
Шакаладка . . . . . . . . . . . . . . . . . . 211
Хата з блакітнымі аканіцамі . . . . . . . . . . 222
Нявеста . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 232
Дваццаць хвілін з Немезідай . . . . . . . . . . 245

**Іпатава В.**

I 76 Дваццаць хвілін з Немезідай: Аповесць, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 271 с. іл.

У пер.: 1 р.

Наколькі моцна мы звязаны з роднай зямлёй, з народам? Ці ўсё робім для яго, што можам? Ці так мы жывём, як трэба? Гэтыя і многія іншыя пытанні сталі лейтматывам новай кнігі Вольгі Іпатавай — кнігі, якая закранае вострыя маральна-этычныя тэмы. Героі яе — нашы сучаснікі, маладыя хлопцы і дзяўчаты, праз дзіцячыя гады якіх прайшла вайна.

I $\frac{70303-111}{M\,302(05)-81}$ 6—81

ББК 84 Бел 7

Бел 2

**Ольга Михайловна Ипатова**

**ДВАДЦАТЬ МИНУТ С НЕМЕЗИДОЙ**

Повесть, рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар М. М. Ваданосаў. Мастак Л. І. Зяневіч. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 891

Здадзена ў набор 12.01.81. Падп. да друку 13.07.81. АТ 05169. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,96. Ум. фарб.-адб. 10,96. Ул.-выд. арк. 11,66. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1307. Цана 1 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

